# НА ХУТКІХ КРЫЛЬЛЯХ



# ВОЛЬНАГА ПЭГАСА

# НА ХУТКІХ КРЫЛЬЛЯХ ВОЛЬНАГА ПЭГАСА

## ПРЫСЬВЯЧЭНЬНЕ

Мінаюць двацца́ць першыя угодкі
майго жыцьця. Пакуль яшчэ ня стар —
усё, што я набыў за час кароткі,
што маю — пакладу на свой аўта́р.
Для вас, сябры мае́ і аднагодкі,
народзе мой, крывіцкі мой абшар,
нашчадкі прышлага, былога продкі,
я прысьвячаю слоў сардэчных дар.
Дармо, што вас ня бачу гэтым часам,
дармо, што есьць мяне чужыны золь,
грызе душу цяжкой разлукі моль, —
зьнясу усё — і зло, і перагасы,
да вас прымчу слоў гэтых хлеб і соль
на хуткіх крыльлях вольнага Пэгаса.

1

Калі ўзварушаць росных траваў бліскі
вятры паўдня — там край, мая зямля, —
здаецца мне, што чую голас блізкі,
дармо, што ён даносіцца здаля.
Яго страчаю я з паклонам нізкім,
яму шляхі дале́й шчэ значу я, —
гайдае ён майго чуцьця калыскі
і неспакой сьцішае спакваля.
Калі-ж дыхне наўсуперак калючы
паўночны вецер — клёк з радзімы ён
гняце назад; шлю покліч наўздагон —
а голас разьбіваецца аб кручы.
На грудзі камень-жоран цісьне, млён
сьвідруе сэрца жорстка і балюча.

2

Ня ма́е боль граніц і берагоў.
Я клічу ўсемагутнага Зэвэса:
о, мой Зэвэс, о слаўны бог багоў,
зьмяці, скрышы нягодныя злавесы;
ня дай паўночным скогатам шляхоў,
захутай іх суцьмежнаю завесай;
вярні назад паўдзённы ўздых вятроў
і прагані навалу хмараў зьвесых.
Так просіць помачы найвышшай той,
хто стрэнецца зь няўхільнаю бядою,
калі яна і цягнець за сабою,
і вязьніць у жахлівы горан свой —
з апошніх сіл ён дужаецца зь ёю,
нібы плывак, што топіцца, — з вадой.

3

О, мой Зэвэс!.. Здаецца, у эфіры
мяне пачуў ён — шле сваіх бажкоў:
ляцяць яны, імклівыя Зэфіры,
з усходу й захаду — з усіх бакоў.
Лагодны подых шлюць на ўлоньне шыры,
даюць жыцьцю, што мерзьне, цёплы схоў.
І гэткі ла́скавы, і гэткі шчыры
павеў паўдня вяртаецца ізноў.
Хоць я на яве гэтага ня бачу,
затое ў мроях пешчу і нашу,
бо толькі можа ў іх уняць душу
адзін паэта — больш ніхто, няйначай.
Тады нястрыманасьць болесьцяў глушу
наплывам новых хваль крыві гарачай.

4

Тады прыходзіць Муза. Мне яна —
сяброўка дум узьнёслых і натхненьня.
Ніхто апроч яе — яна адна
вядзе мяне да спраў і лятуценьняў.
Туды вядзець, дзе творчасьці вясна,
становіцца на шлях маіх імкненьняў,
гатовая ў няпомыс адагнаць
натоўпы чорныя свавольных сьценяў.
Я зь ёй заўжды. І нас не разлучыць.

Так над калыскай хворага дзіцяці
сьхінаецца і ўдзень і ўночы маці,
яна глядзіць яго, яна ня сьпіць,
гатова нат жыцьцё сваё аддаці,
каб ейнае магло дзіцятка жыць.

5

У звоне рыфмаў і у іхным рэі
сьпявае Муза мне ўвесь час, заўжды,
і кажны раз прытуліць і сагрэе —
крылатай думка робіцца тады:
нясець мяне і ў край, што ў ранах млее,
нясець мяне і ў прышласьць праз гады,
дзе новы ўсход пурпураю зарэе,
дзе вольнага жыцьця цьвітуць сады.
Даруй, чытач мой, мне за гэткі раньні
і без пары, бяз часу сьмелы лёт.
Але-ж, казаў той, думкі ломяць лёд
замінаў. І у творчым парываньні
чаму-ж парой ня ўзьняцца да высот?..
. . . . . . . . . . . . . . . . . .

6

Нікому дум маіх ня ўзяць на за́саў,
пакуль жывуць — усякі змогуць час.
Пакуль жыцьцё у сэрцы не пагасла,
хачу радзіму ўбачыць шчэ хоць раз.
Маё жыцьцё і я — нястрымна, за́саб
ірвёмся ўвысь, на родных ніў Парна́с...
На хуткіх крыльлях вольнага Пэгаса
ляту, мой Край, сябры мае́, да вас.
. . . . . . . . . . . . . . . . . .
. . . . . . . . . . . . . . . . . .
. . . . . . . . . . . . . . . . . .
. . . . . . . . . . . . . . . . . .
. . . . . . . . . . . . . . . . . .
. . . . . . . . . . . . . . . . . .

7

Ляту, ляту з далёкае чужыны —
ля зораў неба торнага мой шлях.
Вітаньне вам, знаёмыя мясьціны,
табе, зямлі сялянскае прасьцяг!

Я быў і ёсьць і буду вашым сынам,
бацькамі — вы. Ня спаў я па начох —
жылі ў маіх вы думках неадхлынна,
а засынаў — былі ў маіх вы снох.
Даўно ня бачыў вас. У дальнай зморы
мне кажны месяц быў даўгім, як год.
Праз сотні вёрстаў, сотні перашкод,
празь немарач лясоў, праз стромы гораў
сягаў да вас, радзіма і народ,
сягаў да вас, крывіцкія прасторы.

8

Вось і яны, мурожныя лугі,
што харáством нязгасным вабяць вока.
Ля іх, у сьценях лозаў, — берагі
ракі-Вусы — дзе плыткай, дзе глыбокай.
Бягуць да берагоў тых праз лагі
крыніцы, поўныя зямнога клёку.
А зь неба ў люстры водаў, як багі,
адсьвечваюцца белыя аблокі.
Вусá, Вусá! Ці помніш, як вясной
тваім я захапляўся ледаходам?
А ўлетку у вабдымкі плынных водаў
ныраў і дна кранаўся галавой?
Ці помніш, як па коўзкай гладзі лёду
на спрытных коўзьнях бегаў я зімой?

9

Ці помніш?... Ад ракі ідуць прысады
на ўсход. Там бáчна Шылава гарá.
Туды калісь я бегаў на агляды
высокіх хвояў, што пастáлі ў рад.
Чуў іхны звон, і быў бясконца рады,
калі ўзабраўшыся на хвою, пазіраў
на шыр палёў, на пышнасьць даляглядаў,
дзе перад гэтым краскі я зьбіраў.
Тут восеняй, вясной, зімою, летам
па два-тры тыдні я бываў штагод.
Да дзеда ў госьці прыяжджаў. Турбот
улетку больш за ўсё было — палетак
карцела кажны абыйсьці; і от —
мне сталася найлюбым месца гэта.

10

Тут, трэ сказаць, я гадаваўся, рос,
дармо, што змалку строга і няміла
мяне кідáў па іншых месцах лёс.
Бо толькі тут мяне зямля ўпаіла
жывой вадой; багацьцяў ейных плёс
уліў у грудзі моцы плынь і сілы,
маю душу да самых зор узьнёс,
ёй даў узьлёт і даў Пэгаса крылы.
З маленства сэрца толькі тут маё
любоў да краю роднага адчула.
За вёскай зь дзедам быў парой; кранула
мяне — ён вéдаў — ніваў тхнень, гаёў.
"Унучку, глянь, — казаў дзядунька чула, —
усё, што бачыш, — наша, ўсё сваё",.

11

І я праходзіў праз палі, празь нівы —
сем год было мне. (Хутка дні ішлі!).
Купаўся ў моры збажыны шумлівай
і прыпадаў грудзямі да зямлі.
Прыкладваў вуха да яе — чульліва
я адчуваў, як сокі там цяклі,
як выплывалі напавéрх імкліва,
як травы ў гуках, чутных мне, расьлі.
І думаў я аб тым, каб тыя гукі
сабраць і у вадзін зьвязаць клубок,
напоўніць імі любы мой куток —
тады ня бачыў-бы ні зла, ні мукі.
(Такі зь мяне маленькі быў прарок,
які ня знаў ніякай шчэ навукі).

12

Суладнасьць сьвету — бы увесну сад
была ў маіх вачох у тыя годы.
І ейная прывабная краса
мяне запаланіла назаўсёды.
І я — драбочак сьвету — скмеціў сам,
што кажны ейны пэрл — то дар прыроды,
што кажны ейны чар — жыцьцю пасаг
і лек духовы ў жоўцьныя нягоды.
Мне люба ўсё было: і лес, і луг,
і шапаценьне тхненнае расьцінкі,

і мігаценьне срэбнае расінкі.
Быў велічным сусьвету кажны рух —
і згодныя жывой істоты ўчынкі,
і сонца ўсходзячага зыркі круг.

13

Любіў вясной глядзець у сінь нябёсаў,
раскошай дыхаць іхнаю, калі
па ціхім моры вышыні дзівоснай
хмурынкі лёгкія, як пух, плылі;
калі ў мой край на крыльлях веснаносных
ляцелі стройным клінам жураўлі...
. . . . . . . . . . . . . .
. . . . . . . . . . . . . .
Вясна прайшла. А восень стрэла сумна.
Урэзаліся ў пáмяць тыя дні:
з тужлівым крыкам птушкі ў вышыні
ляцелі ў вырай над пустэчай гумнаў.
“Нядобрае прарочаць штось яны”, —
казалі людзі, глядзя ўвысь задумна.

14

А потым?.. Пачалося і пайшло...
Зямлю ўшчалá разбойніцкая зруха.
Бы град, людзкія галавы далоў
крывавая сыпнула завіруха.
Нямала ейны меч злажыў галоў,
і чалавек ёй кажны быў — што муха.
Муку жуды сьмяротны млін малоў,
драпежная крышыла косьці скруха.
Нясьцерпным пеклам стаўся белы сьвет,
яго зямля — суцэльнай дамавінай.
На кажным кроку — гнеў, разбой злачынны,
за імі — поцемкі, крывавы сьлед;
куды ні ступіш — сьлёзы, кроў бязьвінных
і сыты чорным груганом абед.

15

Тады я страціў бацьку, страціў маці.
Я быў зь дзяцей старэйшым — меў тады
пятнаццаць год. Са мной — шчэ трое ў хаце —
сястра, браты... Ні хлеба, ні вады...
Ну, вось і ўсё... Да гэтага няшчасьце,

і холад грызкі — дзень не безь бяды,
і недавер вакольны, і пракляцьце
бяз дай прычыны — на усе лады.
Мо гэта шмат каму не да спадобы,
але з маленства лгаць я ня прывык —
абману скрух мой голаў не панік.
Хто стрэў мой кон, той знае — дні жалобы
меў гэным часам селянін-мужык
і ўнук дасконны дзеда-земляроба.

16

На собскім целе ра́наў зьнёс нямала.
Штадня дурманіў розум дымны чад
і злыбяда ў слату, у гразь таптала;
сягаў няраз і мне крывавы кат
адсекчы голаў. Мой узрост нясталы
расправу адхіляў — дык быў нагляд.
Так сілаў шмат згубіў. Наканавала
мне доля жыць, як бачна ўжо, няшмат.
Пяклі агнём мяне пакутаў шчымы,
з грудзей юнацкую смакталі кроў,
забралі моц, што я ў жыцьці знайшоў,
але-ж ні ў летні вар, ні ў холад зімаў
ім не аддаў нязрадную любоў
да роднага людзтва і да радзімы.

17

Цяпер ні да́леч, ні сыры туман
ні шэрых вечароў, ні мутных раньняў,
ні хараства чужога хітры зман
любові тэй ня ўзяў і ўзяць ня ў стане.
Крывіч — радзімаю назоў мне дан!
Я рад, я ганаруся гэтым званьнем,
усім сабой людзтву свайму аддан,
такім я быў і буду да скананьня.
Заўжды — ці я за працаю цяжкой,
ці між сяброў, пры радасьці удзеле,
або хваробай кінуты ў пасьцелю —
успамінаю кут каханы свой.
Заўжды — пакуль пачуцьці не зьнямелі —
жыву і дыхаю, мой Край, табой.

18

Мой дарагі! Тваіх глыбінь крыніцы
гаілі раны ў сэрцы мне нярaз.
Каб ня было цябе, даўно я ніцма
зваліўся-б долу ў завірушны час.
Калі-б ня ты — калючая кастрыца
нягодаў выела-б мне вочы ўраз.
І там, дзе ты, я лекаў змог напіцца
і моцы іхнае агонь ня згас.
Цяпер ці мала болесьцяў сьцішае
мне аб табе нат добры успамін.
Заўсёды ты зы мной — я не адзін.
Які шчасьлівы той, хто адчувае,
што ён адданы Краю свайго сын —
яму жыцьцё і сілы прысьвячае!

19

Якой-жа бачу я зямлю тваю
цяпер, мой Край? Яна — уся на ранах.
Паблекла, веліч страціўшы сваю,
і хараство, што так было каханым.
Манголец, акрываваўшы зямлю,
нікім, нікім ня прошаны, ня званы,
айчыну найдарожшую маю
злачынна нішчыць гвалтам нястрыманым.
Жадае ён крыві, вязьніцаў, крат,
ня можа жыць ён без агню, бяз войнаў,
стварыў закон нялюдзкасьці разбойны.
Чаму-ж, чаму маўчыш, мой родны брат?
Хібá хапае сіл глядзець спакойна,
як рэжа цела Краю твайго кат?

20

Рухомы моцных прáдзедаў крывёю,
ня йдзі зь нядужасьцяй ляной ступой,
ты-ж у руках трымаеш моцна зброю.
Бо ты жывеш, валодаеш сабой.
Хай дні твае ня хмурацца тугою,
а з высака узьнятай галавой —
зь нястрымнаю крывіцкаю сям'ёю
адважным будзь — ідзі ў вапошні бой.
Сама сабой да нас ня прыйдзе воля,
сама сабою зь неба не зьляціць.

Калі зьняволеным ня хочаш быць,
а хочаш жыць — выходзь на бітвы поле!
І волю толькі зможам мы здабыць
змаганьнем збройным, моцным, як ніколі.

21

Ня лёгкім будзе бой. З крыві, з агня
ня кажны выйдзе цэл. Шмат з нас паляжа.
Магчыма, там складу і голаў я,
але ня трусам — войнікам адважным.
Мы зброяй — родам да́ўнага кап'я —
перад сусьветам сьцьвердзім і дакажам,
што слаўная крывіцкая сям'я
сіл досыць ма́е на загубу ўражжу.
І не дарма́ сваю мы кроў пральлём,
і не дарма складзём свае ахвяры.
Усё, аб чым з нас кажны сьніў і ма́рыў,
калі ня нам — нашчадкам прынясём!
І неба Крыўі не зацемраць хмары,
і тор жыцьця не зарасьце быльлём.

22

Заціхне бой. За намі — перамога!
І новы дзень усходняя зара́
народзіць. Дзень той абяцае многа...
Цяпер і ў прышласьць зазірнуць пара́.
Для Крывіча, а не для трутня злога
нясець яна і моц і плён дабра,
к сабе і кліча й вабіць маладога
прарока і паэту-змагара.
Як сымбаль вечнага жыцьця, зазьзяе
над Крыўяй вольнай сьветланосны зьніч.
Зямля на Пяруна ўладарны кліч
адкажа спорнай працай і ўраджаем.
І бяз чужое ласкі — сам Крывіч
гаспадаром здалее быць над Краем.

23

Каб чэрпаць веду і навукі дар,
сваіх дзяцей пашле ў свае ён школы,
а кажны вучань — будучы змагар,
што не аддасьць мангольскім гордам волі.
Ня зломіць больш яго варожы ўдар.

Абыйдзе ён лясы, абыйдзе долы,
усё — нат дзіўных таямніцаў чар —
ён падпарадкуе сабе наўкола.
Узьняўшы бел-чырвона-белы сьцяг,
ён з войскам собскім, дружным і адзіным,
на варту стане любае айчыны.
І сьціхамірыцца Маскаль і Лях,
і не кране́ нас ліхадзей злачынны.
. . . . . . . . . . . . . . . .

24

І ён, той сьветлай прышласьці усход,
перад вачмі маймі гарыць нязгасна.
Магуты, славы, вольнасьці прыход
нязломнай Крыўі — сонечны і ясны.
Яго ў баёх здабудзе мой народ.
Шлях будзе вольны — і на ўзьлёце часу
прыймчыцца ён у Край безь перашкод
на хуткіх крыльлях вольнага Пэгаса.
Заўсёды бачыць прышлы дзень найперш
натхнёны Музаю юнак-паэта.
Хоць ён юнак, а ў Край, вясной сагрэты,
праносіць веру над усім наўзьверш.
І толькі з думкаю і зь верай гэтай
я сьведама пушчаю ў сьвет свой верш.

Рыга, 2. 5. — 29. 10. 1943



Алесь Салавей, Вільня, 1944.

# ЗЬВІНЯЦЬ ЗВАНЫ СЬВЯТОЙ САФІІ

Юрку Віцьбічу.

1.

Вітаньне, космасу прастор!
Нішто мне нейкі перавал там!
Ad astra * слынных лётаў створ
узьнёс мяне на зайздрасьць Альпам;
шугнуў удаль, як мэтэор,
з найноўшай зброі пальнуў залпам...
Ты ня мінеш сьмяротных ран,
пантэра хіжая, тыран!

2.

І папярхнуўся сьпеў застольны,
і чорнай сьцёк упыр крывёй;
зьмярцьвеў гармідар беспатольны,
прад сконам гаркнуўшы савой.
А над Дзьвіною горад стольны **
сьхіліўся думнай галавой,
і ўскалыхнуўшыся ў стыхіі,
загуў змагарны звон Сафіі.

3.

З канцоў паўстала даўніна,
з аддаляў выйшаў год за годам;
і адпаўзла ў нябыт мана,
і вечны скон прыйшоў нягодам.
А непакорная Дзьвіна
плыве з былым і з новым згодам,
і новым днём гудзе здавён
сьвятой Сафіі грымны звон.

---

* Ad astra (лац.) — даслоўна — да зораў, пераносна — да вялікага, да найвышэйшага ідэалу. (аўт.)

** (Маецца наўвеце) Полацак. (аўт.)

4.

Сьвятляр жыцьця, цямняр агоній
і няўміручасьці сымптом —
няўціхны звон. Гудзьбе ягонай
званы астатнія гуртом
утораць згодай неўгамоннай:
Дзын-дум! Бам-бом! Дзын-дум! Бам-бом!
Сваё паўторнае сьвітаньне
спаткаць выходзьце, Крывічане!

5.

Зьвініць Сьвятой Сафіі дар,
ня моўкне збытая надзея.
Займай пасад свой, валадар,
нашчадак слаўны Чарадзея!
Паслухай: звону кажны ўдар —
жыцьця вялікшая падзея.
Хай зрада б'ецца ў цьвердзь ілбом...
Дзын-дум! Бам-бом! Дзын-дум! Бам-бом!

6.

Зьвіняць званы Сьвятой Сафіі —
гамоніць збуджаная даль,
ірвуцца путы векавыя,
і ломіцца кайданаў сталь.
Нясуць законы вечавыя
сумленьня чыстага крышталь
людзтву, зямлі, сьвятлом спавітай,
крывёю праўднаю здабытай.

7.

Званы зьвіняць. Шумяць на ўтор
лясы Крывіччыны блакітнай;
вітае іх Птушыны тор *
сузор'ем, поле — песьняй жытняй,
валвой ** — вазёраў буд-гутор,
узьбераж — казкаю ракітнай...
Вялікі край, шматсьпеўны край,
легендаў вечных мудры бай!

---

* Птушыны тор — Малочны («Млечны») шлях. (аўт.)

** Валва — хваля на возеры або моры, якая падымаецца ў часе ветру сьцяной. (аўт.)

8.

Зьвіняць званы. А па далёкай
зямлі (там — ноч, сьвятла — нідзе)
яшчэ ўсё мучыць катаў лёкай
выгнанца ў зморы і нудзе.
Ды краты нішчацца. Шырокай
далінай шлях-зварот вядзе
у сёлы ўсіх дароў на нівах,
у месты ўсіх званоў гульлівых.

9.

Званы зьвіняць. І гэн — зь нямой
чужыны, горнай і бяздомнай,
ідзе мой брат і сябра мой —
змагар краіны зычназвоннай.
Заміны — бачыць ён — гурмой
над прорвай рухнулі прадоннай;
ён чуе — кліча вольны дом:
"Да-дому! Бом! Дзын-дум! Бам-бом!"

10.

Зьвіняць званы Сьвятой Сафіі,
Дзьвіной імчыцца бурны стром.
Грымяць паходы баявыя,
сусьвет узрушыўшы суздром.
Зямля пяскі зьмяла сухія,
вазёры стрэсьлі лёд-паздром.
. . . . . . . . . . . .
. . . . . . . . . . . .

11.

Няма табе канца і краю,
абшар, прамудрасьці сабор!
Я выйду з кола небакраю —
я няўтрыманасьці сябёр!
Мяне да дум маіх — да краю
прыймчыць найноўшых лётаў створ
туды, дзе ў велічнай стыхіі
зьвіняць званы Сьвятой Сафіі.

1946




Вокладка зборніка “Сіла гневу”, 1948.
Рыс. Рыгор Леўчук.

Я толькі зь ёй пайшоў у сьвет,
апроч яе — усё забралі...
Дзяды вялікай сілай звалі
яе — аб сіле запавет:
"Яна, як гнеўны меч, — зы сталі,
яна сатрэ свавольле бед,
што праўду Божую расьпялі..."
Я толькі зь ёй пайшоў у сьвет.

Заву вялікай сілай гневу
вячыстасьць колішніх сьлядоў —
нязломны дух маіх дзядоў,
спакой нябёс, дажджоў улеву,
красу і смутак ніў, садоў,
тугу прыдушанага сьпеву
у раньнім росквіце гадоў
заву вялікай сілай гневу.

Яна вядзе мяне у сьвет —
туды, дзе йшчэ аб ёй ня зналі.
"Яна, як воя меч, — зы сталі,
яна сатрэ свавольле бед,
што Беларусь тваю расьпялі" —
гучыць за мною запавет.
Праз сон, дзе сьпяць, дзе доўга спалі,
яна вядзе мяне у сьвет.

1944

# ГАМОНІЦЬ ДАЎНАЙ ПРАЎДЫ ЗВОН

## ТЫ

І лясы, і лугі, і блакітныя нівы,
неба — вечная сінь, дол — зяленіва шоўк.
Гэта — Ты. І чаму я з Табой нешчасьлівы?
І чаму я жыцьця безь Цябе не знайшоў?

За любоў да Цябе ■ пакутаваць мушу,
а ў разлуцы з Табой — існаваць, а ня жыць,
і за слова сваё дзесь у негадзь, ці ў сушу,
як за слова Тваё — галавой налажыць...

І ў глыбінях душы нараджаецца сіла,
гнеў — тэй сіле імя, і прарочыць яна:
за любоў да Цябе — непакорнаму — крылы,
за разлуку з Табой — вінавайцу — труна.

Непакорнаму — Ты і блакітныя гоні,
вінавайцу з труны — галавы ня ўздымаць.
На шырокіх шляхох старадаўнай Пагоні
парываньняў Тваіх "ні разьбіць, ні стрымаць!"

1937 - 1942

* *
*

Ніхто ў цішы нямой
ня скажа мне: — Паглянь:
на дне пары былой —
шчасьлівая талань. —

Я сам, я сам пайду
насустрач ёй зь цішы.
Я ейны дар знайду
у глыбіні душы.

Краса пары былой
зь цямна ў сьвятло вядзе.
Не заблудзіць мне зь ёй
нідзе, нідзе, нідзе.

1937

* *
*

Мінулы дзень,
далёкі час!
Жыцьця струмень
імкне да вас.

З глушы, дзе ймгла,
вы вядзіцё
у край сьвятла,
той край — жыцьцё.

О ўскалыхне
яно свой звон!
Маёй вясьне —
сугон-пагон

праз ноч, празь цень
да вас, да вас,
далёкі дзень,
мінулы час!

1937

## РАДЗІМА

Пакідаю я сталіцу,
горад хмуры пакідаю,
ад'яжджаю у раздольле
хлебных піваў і палёў.
Добрай раніцы, гушчары,
хмызьнякі лясоў дрымотных,
луг і ты, Вуса-рака!
Добры дзень, палёў абшары,
добры дзень, браты і сёстры,
вёска Крысава мая!

Тут на белы сьвет зьявіўся,
тут я першы раз паветра
удыхнуў, і першых крокаў
моц я толькі тут адчуў.
І цяпер, цяпер заўсёды
я адвітваю увесну,
я адведваю улетку,
я аглядваю увосень,
я наведваю узімку
вёску Крысава сваю.

І увесну, і улетку
я найлепшы сябра сонцу,
я камрат зьвяром і птушкам,
брат бліжэйшы чалавеку
і прыроды верны сын.
І увосень, і узімку
я прыроды верны сын!
Я увесну бласлаўляю
маладыя збожжа ўсходы,
іх вітаю ўлетку я!

Я увосень бласлаўляю
плён багаты рупнай працы,
хлеб штадзённы і спажытак.
Іх вітаю ўзімку я!

Не хацеў-бы жыць ніколі
у пяскох сухіх пустыняў.
У марозных сьнежных стэпах,
зьледзянелых і бязьлюдных,
жыць ніколі не хачу.
У пяскох сухіх пустыняў
я загіну ад сьпякоты,
у марозных сьнежных стэпах,
зьледзянелых і бязьлюдных,
я ад холаду памру.

Ня было й няма нічога
шчасьлівейшага радзімы,
раскашнейшага радзімы,
прыгажэйшага радзімы —
ня было й няма нідзе.
Хай жыве мая радзіма!

Багацей, палі і нівы,
і паўней, засекі й сьвірны!
Шчасьлівей, браты і сёстры,
вёска Крысава мая!

1938

...«сьцелюць галовы, як снапы,
малоцяць цапамі сталёвымі, на
таку жыцьцё кладуць, веюць
душу ад цела».
«Слова аб палку Ігравым».

Там, на пякельным таку, дзе цапамі малоцяць галовы,
веюць ад цела душу, поле ўсьцілаюць касьцьмі,
моцна трымаюць свой сьцяг непакорныя ўнукі Усяслава,
падае зьбіты адзін — іншы зьмяняе яго.

Думаеш, воража, змыць непахісную славу крывёю?
Высям бязьмежным раўню ейнай крывёй замуціць?
Колькі жыцьцё ні тапчы — не ўзьнясешся да ясных
сузор'яў,
колькі ўгару ні сягай — высяў табе не таптаць.

1939

* *
*

Выйдзі, паслухай — гучаць галасьлівыя медныя трубы:
зь цемры былога выходзь наперад да яснага сонца!
Б'юць барабаны, грымяць цуды пад небам высокім:
радуйся, песьні сьпявай — не ўваскроснуць былога
аковы.
Прадзедам думна скажы — багаты і самы шчасьлівы,
і весялейшы за ўсіх ты чалавек на ўсім сьвеце.

Я і ня слухаю вас, галасьлівыя медныя трубы!
Верны самому сабе, у думках раблюся паўдзікім,
зброю з каменьня чашу — крочу ў часы нэаліту,
волі запраўднае сын, я палюю на хіжага зьвера,
прышлым стагодзьдзям кажу: багаты і самы шчасьлівы,
і весялейшы за ўсіх я чалавек на ўсім сьвеце.

1939

## ГУМАНІЗМ

Прыемна нам сталецьцяў пыл страхнуць...
М. Багдановіч.

### 1. Франьцішак Скарына

У месьце Вільні, у цішы ад бруку,
у шэрым замку, думна-самавітым,
ў пакоі сьціплым, даўніной спавітым,
я зь ім спаткаўся без размоў, бяз гуку.

Стагодзьдзі пылу я страсаю з друку,
між літар бачу зрокам прагавітым,
як людзям простым, людзям паспалітым
зы словам нёс ён праўду і навуку.

Зь бязьмежнай прорвы тхленнага зьмярканьня
падняў радзіму дух яго глыбінны...
Гартай балонкі мудрага выданьня:

радкоў чырвоных краскі і галіны,
паўмесяц, сонца — як вянок адзіны,
як непагаснасьць вечнага сьвітаньня!

### 2. Васіль Цяпінскі.

Дзьвіны шырокай бурныя глыбіны
плывуць імкліва, крышаць перашкоду
і праз парогі — цьвёрдую пароду —
нясуць у далі свой наплыў няспынны...

Зямляк вялікі слаўнага Скарыны —
зь зямель Наддзьвіньня, з полацкага роду —
душы парывы прысьвячаў народу,
стаяў на службе праўды і айчыны.

“Шануй — вучыў ён — над сябе самога
свой родны звычай, не зраджай чужому,
вучы нашчадкаў, школа — іх дарога

да дому продкаў, праведнага дому...”
Дзьвіна сьпявае вечны гімн былому —
стагодзьдзі пылу не зьмялі нічога.

### 3. Сымон Будны

Ад зыркіх промняў — першых іскраў раньня —
агні ўзьняліся, і было іх многа.
А ён прыходзіў зьнішчыць духа злога
туды, дзе цемры йшчэ было ўладаньне.

Ішоў зы словам праўды і пазнаньня,
і з гэным словам, дадзеным ад Бога,
была для люду дзіўная спамога:
душы вялікай буйнае паланьне!..

Я сяньня бачу: зноў зладумаў змова
над славай краю сьпеліць плян імглісты,
бражджыць над ёю катняя акова.

А ён ня гасьне — сьвеціць дух вячысты,
няхай пад пылам — ды заўсёды чысты,
і зь ім ня моўкне даўнай праўды слова!

1943

## ЛЯ ВОЙСТРАЙ БРАМЫ

І прашчуры сьхілялі тут галовы...
Мінаю п праход Яе сьвяты,
а вусны шэпчуць дабравесьця словы:
— Сьвятая Ты!

За Ёй — і старадаўная сталіца
мае радзімы ў чарах пекнаты.
Ізноў Табе прыехаў пакланіцца —
— Сьвятая Ты!

Вільня, 5. 3. 1944

## ВІЛЬНЯ

Пазалаціў сутункі зьзяньнем зь неба месяц — медны звон.
Прыціхла Вільня. Змоўклі, сьцятыя струшлівым часам, вулкі.

У небе — іхны гаспадар. Здалося, скалыхнуўся ён,
наўкольле зварухнуў ягоны гоман валадарны й гулкі.

Сьвятыні Вільні ўзрушылі спакой. Загаманіла ціш.
У кажным хораме — мне чутна — водгук векапомны
звоніць.
І тупат конскіх ног ад брукаў места думна ўзьняўся
ў выш,
гул неўгамонны ажывіў сьляды сугоннае Пагоні.

Найдаўны сьлед ня сплыў з улеваю часоў і ня сплыве,
і не зацьміць яго руіны дым — цяперішчыны аблічча.
Дзе ні ступні, куды ні глянь — яна, мінуўшчына, жыве,
сугоднай прозьвесьцяй званоў і вабіць да сябе, і кліча.

Вільня, 12. 4. 1944

## МАЯ СТАЛІЦА

З халоднай поўначы прыймі
свайго гасьця, мая сталіца!
Я жыў імкненьнямі тваймі,
цябе ніяк ня мог забыцца.

Няхай ты страціла красу
і стан твой скрухаю ўзараны, —
табе прызнанасьць я нясу,
бо ў маім сэрцы — тыя-ж раны.

Таму і ты, і я — радня,
якой і боль не спакарае.
Зара ўзыходзячага дня
у думках нашых не згарае.

Няўжо ізноў павінен я
разлуцы змушанай скарыцца?
Сталіца любая мая,
цябе ніколі не забыцца!

Менск, 1944

## ВІТАНЬНЕ СЛУЧЧЫНЕ

. . . . . . . . . . . . . .
. . . . . . . — Слуцак блізка... —
Я прыўзьняўся, шапку зьняў,
паслаў паклон прасторам нізкі.

Цябе я, Случчына, як змог
сустрэў. Прабач, што лепш ня здолеў.
Ты ажывіла ад зьнямог
мяне гасьцінным хлебам-соляй.

Не утаю — мне келіх твой
паўным-паўнюткім быў — да краю.
Пад слуцкім небам — сінявой
я чуўся, бы ў палацах раю.

І час пабыту у гасьцях
маленькай здаўся мне часінай.
А сяньня — зноў далёкі шлях
у Менск, а потым — на чужыну.

Раскруціць шлях даўгі рулён
шашы. Пасьля — чыгункі рэйкі...
Сваё вітаньне і паклон
пакіну Случчыне навекі.

Цьвіці вяргіннаю зарой,
буяй і жытам і пшаніцай!
Калыбка спраў маіх сяброў,
натхненьня іхнага крыніца!

Слуцак, 1944

## ГЭРОЯМ БАЦЬКАЎШЧЫНЫ

Прыйшоў у край чужы — і за гарою
дзень дагарэў. І ноч, і ноч усьцяж.
Няўжо не змагаром і ня гэроем
пакінуў Беларусь нашчадак ваш?

Няўжо мінуўшчыну, бацькоў магілы
таптаць чужому боту ён аддаў?
Хіба перад агнём варожай сілы
схіліўся, адступаючы ў аддаль?

Няўжо ня споўніў запавету вояў —
не адступай нідзе, лепш паўшым ляж?!
Няўжо не змагаром і не гэроем
пакінуў Беларусь нашчадак ваш?

Няўжо? Мо ён яе і не пакінуў,
а выйшаў ейную знайсьці сьвіталь?..
Яго зьбівае з ног жарства чужыны,
а ён... ідзе і йдзе ад краю ўдаль.

І ўсё шукае сонца за гарою.
І не знаходзіць... Ноч і ноч усьцяж...
Няўжо не змагаром і ня гэроем
пакінуў Беларусь нашчадак ваш?

Бэрлін, 6. 12. 1944

## КРЫЖОВЫ ШЛЯХ

Нарадзіўся Ты — з Табою
быў Ісус Хрыстос.
Змыць Цябе валвой прыбою
прагнуў бураў стос.

Дзень мінаў — разбою хвалі
большалі ўтрая.
У разьюшанай навале
стаў на ногі я.

Несьлі разам крыж пакуты —
Ты і я з Табой,
і цяглі няволю й путы
зморанай ступой.

Чорт вязаў нас ланцугамі,
нашы душы трос.
Мы цярпелі — разам з намі
быў Ісус Хрыстос.

А пасьля... Твой твар пахмуры...
Ты ў вагні гарыш...
Разлучылі нас віхуры —
стаў цяжэйшым крыж.

Ня міну з тупой гурбою
ні аднэй вярсты.
Там, дзе Ты — і я з Табою,
а дзе я — там Ты.

Да ўваскросу ў сьвет нязнамы
дойдзе — хто ўсё зьнёс.
Мы ідзём, і разам з намі —
Сам Ісус Хрыстос.

Кірхгайм, Аўстрыя, 1945

## МАЛІТВА

Як боль свой выказаць хачу і —
Твой боль з грудзей маіх імкне.
Хто безь Цябе мяне пачуе?
Цябе хто ўчуе безь мяне?

З табой разлучаны, і страціў
сябе самога; ён адзін —
супольны смутак сына й Маці,
глыбокай болесьці зацін.

Да надзямнога Валадара —
у зьле разлукі — Ты ці я
маліцца будзем: гушчу хмараў
мальба ня ўзбурыць нічыя.

Яна ня зрушыць засьць начную
і беспрасьвецьця ня міне.
Ён безь Цябе мяне ня чуе,
Цябе ня чуе безь мяне.

Вялікі цуд жыцьця, збавеньне —
далёка ад Цябе ў глушы
адчуць Твайго багаславеньня
на сэрцы хрэст, цяпло ў душы;

пачаць малітвай — і ня дарам,
няхай у думках, нам, дваім,
размову з вышнім Валадарам —
маім Вызбаўцам і Тваім.

Малітва зрушыць засьць начную,
сустрэчы нашай днём блісьне.
Зы мною Ён Цябе пачуе,
з Табой пачуе Ён мяне.

1945

## СМУТЛІВАЯ МАЦІ

Адарвалі, схапілі, сілком павялі.
Зьледзянелыя хмары. І водгульле грому.
Ці жыве на далёкай зямлі?
І ці прыйдзе дадому?

І начамі, і днямі — зь відна да цямна —
чорны жах у свавольлі нявінных лякае...
І смутлівая ходзіць Яна —
сына, сына шукае.

А па промені сонца — па нітцы даўгой —
аганькамі сьцякае аблокаў ільдзіна.
— Як знайсьці? Як пабачыць Яго?
Дзе зьняволілі сына? —

— Замолчать! — ... І на твары маршчыны зьляглі.
Горыч сьлёзаў... Пра болесьць — нідзе і нікому?
Ці жыве на далёкай зямлі?
І ці прыйдзе дадому?

І здаецца стагодзьдзем часіна адна.
Без канца павучыну правосень сукае...
У свавольлі крывавым Яна
плача— сына шукае.

1945

## ПРОШЧА

1.

Ня ўзыйшла зараніца —
толькі морак імгліцца.
А душа не сьмяецца —
птушкай раненай б'ецца.
Богу й памалюся —
лёгкай мрояй зраблюся.
Паляціць мая мроя,
далячынь перакрое;
праз узгоркі, праз гаці
паляціць аж да Маці,
да бярозкі танклявай
з пахмурнелаю славай.
Пад бярозкай бруіцца,
прагне волі крыніца —
там, закуты заўчасьне,
ейны водбліск ня гасьне.
У пакутах, у страце,
там праходзіла Маці,
ля крыніцы стаяла,
свайго сына гукала.
А срабрыстыя воды
вобраз той назаўсёды,
як у люстры, адбілі,
сьледу мукаў ня змылі...
А душа не сьмяецца —
птушкай раненай б'ецца.

2.

Ня спыняйся, пануры, —
не спакорышся буры,
зь непаўстрымнасьцю ўпары
выйдзеш, выйдзеш за хмары.
Станеш з думкаю яснай
пад вясёлкай нязгаснай.
За вясёлкавай брамай —
ты ля прошчы ля самай:
ля абвеянай славай,
ля бярозкі танклявай.
Пад бярозкай бруіцца,
звоніць, срэбрам крыніца,

і — заўсёды жывая —
як вясёлка, зіяе.
Па дарозе цярпеньня —
тэй дарозе збавеньня —
там праходзіла ў шаце
Маці — Божая Маці,
ля крыніцы стаяла
і Ісуса шукала.
Дабрадайныя воды
вобраз той назаўсёды,
як у люстры, адбілі,
сілы духу ня змылі.
Там ратунку амбона —
там твая абарона,
там пазбава ад буры,
ня спыняйся-ж, пануры!

1946

## ГАМОНІЦЬ ДАЎНАЙ ПРАЎДЫ ЗВОН

Гамоніць даўнай праўды звон,
гудзе — ня мае зморы.
І моўкне ціхі, мірны сон
за горамі, за морам.

За морам, горамі — спакой,
і людзі сьпяць спакойна...
А над калыбкай дум і мрой
узьняты меч разбойны.

Няверцаў душы, як слата,
на люд, на край напалі.
І сына Божага — Хрыста,
зьняславіўшы, расьпялі.

Хрыстовых праўднейшых сыноў
аддалі на зьгіноту.
А звон — той слаўны звон вякоў —
укінулі ў балота.

Спалілі хаты, а людзей
па сьвеце разагналі,

аддалі прышласьць злыбядзе,
былое патапталі.
— — — — — — — — — — — — — — —
Здалося, зьнішчылі жыцьцё
няверннікі бяшчэсьне,
здалося, ўсё у нябыцьцё
пайшло і не ўваскрэсьне.

Здалося, змоўк навекі звон,
пайшоўшы на скананьне.
Ніхто ня чуў, як плакаў ён
у топкай вечнай твані.

Ніхто ня знаў, як звону гнеў
зьбіраўся ў дужны гоман...
Звон страпянуўся, зазьвінеў,
над сьветам грымнуў громам.

Зь сівых глыбіняў даўніны
і з ланцугоў палону
пачулі вольнасьці сыны
кліч праўды і праклёну.

Праклён — няверцам сьмерць і страх,
а праўда — золак дзіўны.
Я на выгнаньніцкіх шляхах
пачуў той кліч прызыўны:

“Выходзь, мой сыне! Уставай,
зірні — вакол прадвесьне.
Ідзі за праўду ў бой! Твой край
бяз праўды не ўваскрэсьне”.

І з даляў сьвету усяго —
і ён, і я — мільлёны —
ідзём — і ведаем чаго —
ідзём на покліч звону!

Хай з даляў блізкім будзе край,
хай зьніч мільгне з-за долаў!
... Журба палёў, маркотны гай,
айчыны сумны голас...

1946

## ALEA JACTA EST! *

Alea jacta est! —
вырвецца зычна з грудзей.
Багаславеньня хрэст
дасьць мне зычлівасьць людзей.

Пераступлю Рубікон
спраглых чужынных шляхоў.
Як усьміхнецца мне кон?
Дзе ад залогі дасьць схоў?

Поўнач схавае мяне,
цемрадзі поцем густы;
досьвітку промень мільгне —
ветла прытуляць кусты.

Рушу далей — і мурог
змые расою сьляды.
Збочу з пагрозы дарог,
траплю ў хмызьняк малады.

Стрэне з прыхільнасьцяй лес,
будзе высьпельваць мне плян,
каб неўспадзеўкі пралез
я аж да ворага ў стан.

Станаў парадак і лад
шчэ не трапляў пад напасьць.
Сыты нягоднік і кат —
злодыр той — будзе йшчэ спаць.

Будзе ён сон залаты
бачыць у царсьцьве бярлог...
Перасягну праз драты
і праз апошні парог.

---

* Alea jacta est (лац.) — «жэрабе (або лёс, літаральна — «костка») — кінута.» Гэтак быццам-бы сказаў Юлі Цэзар, пераступаючы раку Рубікон (што адлучала Рым ад Галіі) ды парушыўшы гэтым забарону рымскага сэнату. Адсюль і ведамы выраз «пераступіць Рубікон» у сэнсе ўжыць нейкі важны крок, прыняўшы, па даўгім ваганьні, пастанову зрабіць гэта. (рэд.)

Ворагу крыкну ўсупор:
alea jacta est!
Гневу няўтрымны супор —
помсты апошні гэст.

Вобзем тырана шпурну —
зваліцца туша, як сноп;
скокну, як рысь, на сьпіну, —
каб у вабоймы ня згроб.

Кіпцямі горла здушу,
рэбры патрушчу, хрыбет
скомсаю, вырву душу —
гідкі антыхрыстаў сьлед.

Неба маланкай мільгнець,
змые ўсю пораш дажджом.
З бліскаўкай — цемры канец! —
гулка пракоціцца гром.

Выйдуць і зь местаў, і зь сёл
тыя, каго ня суняць,
славы сваёй аўрэол —
сьцяг перамогі узьняць.

Вольнасьць і дух даўніны —
іхных імкненьняў зьмест.
Чуеце? Крочаць Яны!
Alea jacta est!

1946

## У ГЭТЫ ДЗЕНЬ

У гэты дзень, мой любы сын,
празь неўглядзь зла, несупакой,
праз хмур няўцешлівых часін
загляне воля ў наш пакой.

Заўжды чаканая, Яна
вялікай госьцяй будзе ў нас.
Успомнім зь Ёй... Была вясна.
Зырчэла сонца. Дзень ня гас.

Ішла Яна. І сіла рэк
крышыла лёд, змывала бруд.
І сьцяг, праслаўлены навек,
сьцяг волі ўзьняў над краем люд.

І клікаў вечнай славы звон:
"Паўстань зь няволі, Беларус!
Ськідай з плячэй сваіх прыгон,
зьмятай навалу і прымус!"

Мой бацька тым зычлівым днём,
паўнюткім шчасьця і сунег,
у хату дзедаву кулём
зь няўтрымнай радасьцяй прыбег.

"Татуля! Зь места пасланец
прынёс навіны у сяло.
На волі мы! Турме канец!
Над намі сонца узыйшло!

"Ці чуеш, тата? Кліча звон:
— Выходзь-жа з хаты, Беларус!
Ты ськінеш зругу і прыгон,
зьмяцеш навалу і прымус!"

І бацька — сына, бацьку — сын
абняў (а сонца — у вакне!),
і кроплі радасных сьлязін
бліснулі ў промневым прадне...

Вятры — ліхія ўчынцы бед —
ірвалі сьветлых промняў ніць,
а хмары-злосьніцы — усьлед
сягалі сонца засланіць.

Ніхто нячыстаму тады
душы свае не запрадаў...
Мой бацька ў струшні злыбяды
за волю зьлёг — жыцьцё адаў.

А я — нявольнік-сірата
ішоў па бацькавых сьлядох.
Душылі немарач, слата,
склізота ўсьцяж зьбівала з ног.

Адна-аднюткая — Яна
мяне адведвала у сьне, —
сама жывая, як вясна,
напамінала аб вясьне.

I на няведамай зямлі
я над магілаю-капцом,
нібы пры дрэве — пры камлі —
казаў, аж лез у дол жыўцом:

"Устань, татуля! Кінь капец!
Ліхое з водамі сплыло!
На волі мы! Турме канец!
Над намі сонца узыйшло!

"Ці чуеш, тата? Кліча звон:
— Зірні на край свой, Беларус!
Ты ськінуў зругу і прыгон,
ты зьмёў навалу і прымус!.."

I сны, і ява... Я цяпер —
сучаснасьці жывы шкілет.
Руйнуе край драпежны зьвер,
стаўляе волю пад штылет.

Няхай! Крутых шляхоў адхін
Яе ня здолее стрымаць.
Ты зможаш, веру, любы сын,
мяне на яве прывітаць.

"Татуля! — скажаш. — На шчырэц
паглянь — ральлёй прыбіта зло.
На волі мы! Турме канец!
Над намі сонца узыйшло!

"Ці чуеш, тата? Кліча звон:
— Скажы ўсясьвету, Беларус, —
навекі зьнішчаны прыгон!
Навекі зьмецены прымус!"

1947

## КОНАДЗЕНЬ

In hoc signo vinces! *

Над зямлёю зьбіраюцца хмары —
грымна ймкне навальніца.
Празь кілімы палёў, праз амшары
хуткі коньнік імчыцца.

Высь раскоцістым громам гуркоча
над прасторам жытнёвым.
Паланеюць адвагаю вочы
пад шаломам сталёвым.

Разам з воем, у панцыр закутым, —
моц і сіла ліхая.
На ягоным шчыце вайстракутым
крыж Ярылаў мігае.

Серабрыстая збруя, астрогі
сьвігавіцамі зьзяюць.
Меч у воя — і гойстры, і строгі.
Хмары ўзад адпаўзаюць.

Рвіся, коньнік, наперад ірвіся!
Над бацькоўскім парогам
твая слава ўздымаецца ў высі
з крыжам, дадзеным Богам.

І з абвіслым крылом пад зьнямогай
рыне ўніз навальніца.
Празь кілімы палёў зь перамогай
хуткі коньнік імчыцца.

1947

---

* In hoc signo vinces (лац.) — «пад гэтым знаком пераможаш». Канстантын Вялікі, які зрабіў хрысьціянства дзяржаўнай рэлігіяй у Рымскай імпэрыі, казаў, што гэтыя словы разам із знаком крыжа ён бачыў на небе пры сваім паходзе на Рым. Пасьля перамогі над сваім супраціўнікам Максэнтыем у біцьве ля Сакса Руба, блізка Рыму, 27 кастрычніка 312 г. Канстантын загадаў напісаць гэтыя словы на рымскім штандары. (рэд.)

(На матыў Г. Гайнэ)

Пад змрокам жутлых перагас
твой дзень пагас.
Але ня зьгінуць у глухмені
сьвятла збуджальнага праменьні.

Зладум, я ведаю, стакрат
пашкодзіць рад,
каб зачыніць навекі дзьверы
з пустэльні цемры і зьняверы.

О, ня пушчай ягоных ног
на свой парог!
Тваё жыцьцё, тваё цярпеньне —
да вёснаў сонечных імкненьне.

1947

## НАВЕКІ

Штандар цярпеньня ўзьняў ты над жыцьцём —
і кане ў змрок нячыстага спакуса...
І ў сэрцы, і ў душы — зь імём
Ісуса.

Зьдзяйсьняецца і сьвеціць прыйсьце кроз,
падбітым пошугам дарue лекі.
Ён уваскрос! Ён уваскрос
навекі!

Наругу зла ты зьнёс. Ці аднаго
яна гняла, падкошвала заўчасна...
І сьвеціць зьніч імя Яго
нязгасна.

Няхай на тле зьнішчэньняў, на вуглях,
ізноў цябе ў рабы цікуе змуса, —
ты не пакінеш зорны шлях
Ісуса.

І вер: ні змора і ні шал пагроз
жыцьця ня ўнімуць — лёд страсаюць рэкі.
Ён уваскрос! Ён уваскрос
навекі!

1947

## ДА НАШАЙ ЯВЫ БЕРАГОЎ

### ШЫЛАВА ГАРА

І сем гадоў таму назад
прыходзіў я сюды.
Паблізу быў маленькі сад.
Цяпер вакол — сады.

Тады мне восем год было,
цяпер — пятнаццаць мне.
Тады глядзеў з гары ў ваблонь —
расінкай мо мільгне?

Аблонь, аблонь! Дзе-ж ніва, дзе-ж,
якую дзед гараў?
Мо гэта ты, ды йнакш цьвіцеш?
А Шылава гара? —

Як і раней — прытулак хвой.
Гляджу зь яе ў спазор
палёў. Мігцяць перада мной
яны мільлёнам зор.

А зорка кажная — твой плод,
што нівы і сады
сьпяляць. Міне яшчэ сем год —
ізноў прыйду сюды.

Усе агенчыкі ўсіх зор
у верш, свой верш зьбяру.
Праз найчароўнейшы вузор
услаўлю дзён зару.

1937

* *
*

Малітвы небу на паперы
я запішу, аддам пяру
імкненьняў пал, а ў неба дзьверы
усё-ж ніяк не адапру.

Шкада, — чуў я, — а там бязь меры
красы — дабра ўсяму дабру...
Найбольш за ўсё і ў тое веру,
чаго рукамі не бяру.

1937

## ВУСА

Хотя и судьбой на заре моих дней...
М. Лермонтов.

Вуса... Успамінаў здавольны усьміх...
Далёка, далёка цяпер ад мяне
хаваеш спакой мой глыбока на дне.
Успомню, — заўсёды у думках маіх
твой вобраз мільгне.

Далёка, далёка... А ўся — прада мной:
між траваў зялёных ільсьніцца раса,
між водаў блакітных зіяе краса.
Успомню — і сэрца гамоніць вясной
з табою, Вуса!

1938

## БУКЕТ

У раскошы цьвіцеў, а ў маркоце завяў,
пахаваўшы пагудку...
Пры ўспамінах вясны ля ўзварушлівых зьяў
мне балюча бяз смутку.

І пялёсткаў сухіх, нібы золата дрэў,
ня ўтрымаў ён у жмутку.
А за ім на душы мой агонь дагарэў —
не пакіну [redacted] смутку!

1941

## БЭЗ

Там, за сьцяною, прывітаў заранку,
разам зь дзяньніцай зацьвіцеў агніста...
Я лятуцею: усьміхнуўся ранку,
з росаў празрыстых нанізаў маніста.

Бэз адзінокі! Мы ў мурох — чужынцы,
ды панад імі наш парыў узьняўся.
Бачу праз шыбы: на аднэй галінцы,
зроку даступнай — ажыла вясна ўся.

1943

* *
*

Мінаю заміны. Нічога,
што зь цемрай ня ладжу йдучы, —
знаёмаю змалку дарогай
я выйду на золак з начы.

Пайду я да тых сенажацяў,
да гоняў сьціруюся тых,
дзе сьцені раздольля ня засьцяць,
дзе ў цьвеце прасьцяг залаты.

Дакучных замінаў парогі
пакіну у цемры густой.
Прысяду — спачынуць хай ногі —
і вочы абмыю расой.

Сусьвет прада мною вялікі
паўстане ў шматхварбнай красе,
зямля мнагасьпеўныя зыкі
да слыху майго данясе.

З пакланам жыцьцю, прывітаю
раскошны сусьвет хараства.
— Жыву я! — гукну, і зазьзяе
мой зірк, бы расою ліства.

І небу, і сонцу ўсьміхнуся —
вялікшым у час наш і век.
Да скарбаў сусьвету імкнуся,
і іхны, мне ймя — чалавек!

1944



Даволі спаць. Адчыніш вейкі —
вачэй ня змочыць сьлёз раса.
Сягоньня песьню салавейкі
пачула нівы паласа.

Туды з пахмурнага пругменьня
праз гай цьвяцісты мы ідзём.
Дарунак сонечны — праменьне
у поўных прыгаршчах нясём.

Зярняты сонца сеем. Глеба
усходы згодныя дае:
растуць яны, імкнуцца ў неба,
сьпяляць пад ім плады свае.

І пад прасьвядным ураджаем
цьвіцее ўцехаю прастор.
Прылівам сілаў адчуваем:
вядзе ў жыцьцё няхісткі тор!

5. 5. 1944

Масею Сяднёву.

Сустрэча, першая сустрэча —
маё імкненьне, думкаў рой;
я крочыў зь імі, сябра мой,
праз дым цяпершчыны зларэчай.
І вось — чатыры дні падрад
з Табой жыву і размаўляю.
Мой дружа! Ты мой родны брат,

Цябе інакшым не ўяўляю.
Няма пачатку і канца
жаданьням, звабленым размовай...
Вось да ідыліі вясковай
сягаем думкамі.
Ныца
мы з галавой даём у мора
валвістых ніў — красы палёў.
Яно кунежыць нас, гавора
у мове блізкіх сэрцу слоў:
"Мае вы, я — сваё, сваё вам:
маім сыном не раздружыць!"
Чалом зямлі, даром жытнёвым!
Жывём і хочам вамі жыць!
Душа, як птушка з клеткі, рвецца
на ваш прастор.
І нам здаецца —
пад хараством палёў, лугоў,
пад неабсягам зор высокіх
плывём на хвалях дзён глыбокіх
да нашай явы берагоў.

Беласток, 7. 7. 1944

* *
*

Я прыйшоў ад зямлі, ад людзей
у сусьвет — час плыў хваляю хуткай.
Ад жыцьця не ўцякаў анідзе
у пагоню за таннай пагудкай.

О, зямля! Гэта ты, толькі ты
жыцьцядайнаю казкай шумела;
ты адна майго зла нераты
разрывала, кукобіла цела.

Людзі, людзі! Вы — сіла зямлі,
розум ейны і ўзьлёту імкненьне,
як-жа так вы яе давялі
да руіны — сьлядоў спусташэньня?

Як-жа так?.. І калі мільгане
сьмерці меч — падарожны ёй посах, —

да жыцьця ўся істота імкне,
а спакой для душы — у нябёсах.

Як вяртаецца зь іх — і зямля
зноў кунежная; людзі з дагодай
засяваюць, надзеі сьпяляць,
дні ўсьцяшаюць зямной насалодай.

Толькі, толькі тады і жыву,
і твару, і душой спачываю,
і у сьне, і ня ў сьне — наяву —
пра зямлю і людзей я сьпяваю.

1944

* *
*

Не сагрэе сонца майго твару,
ня ўсьміхнецца ў вочы мне блакіт,
калі неба засьцяць змроку хмары
і жухнее долу малахіт.

Не, жыцьцё ня ў тым, што чуеш, бачыш,
не ўва ўсьмешках сонца, не ў цяпле,
і жыцьцё ня ў горы, і ня ў плачы,
ня ў гібеньні блізкага у тле.

А ня ведаць сну, ня знаць спакою —
і ня сьмерць, таксама й ня жыцьцё.
Ліха жыць з напасьцяю цяжкою,
блага йсьці з напасьці ў нябыцьцё.

Дрэнна знаць раскошу і багацьце —
гэта зьгіне, марна прабяжыць.
Жыць — быць роўным з роўным і змагацца
за сваё прызначаньне, каб жыць.

1944

* *
*

Аблокаў плач — мая туга,
мая няўцешная панурасьць.
Вясёлкі радульнай дуга —
усьміх, — пад сонцам сьлепне хмурасьць.

Рассыплюць хмары сьлёзны сум,
зірне блакіт, луджоны сонцам, —
і я — ягоны аднадум —
такі-ж ажыўлены, як ён сам.

Блакіт, вясёлкавай дугой
падпеража маркоты хмары!
А плачу плач з нудой, з тугой
расплюхні ў сонечным пажары!

Спалі маланкавым агнём,
раструшчы горы гора громам!
Ня цёмнай ночай будзь, і днём,
гасьціннасьць дай сваім харомам!

1944



Нябёсы ранкавым абмыліся дажджом,
зялёным хмелем набрынелі травы...
А я пакінуў Менск, а я пакінуў дом
без павярхоўнае раскошы й славы.

Трывога дзён маіх, па добрай волі я
сюды, у край пануры, не паехаў.
Такая, мабыць, доля ўжо мая —
маё няшчасьце і мая уцеха.

Зы мною толькі, толькі ты цяпер.
Я чуў ад хлопцаў — ты мне мала верыш.
А я нашу ў сабе самім цябе,
з табой іду ў часоў наступных дзьверы.

А з намі крочыць і вясна. З дажджом
нябёсы дар жыцьця на дол паслалі.
Вясна, вясна і там, дзе Менск, дзе дом
без павярхоўнае раскошы й славы.

Такі ён сьціплы, просты ён такі,
ён даражэйшы мне за ўсе палацы.
Там людзі ў час бяздольны і цяжкі
умеюць жыць і з гневам дзён змагацца.

Ты там жывеш, міжвольная віна,
маіх штодзённых крозаў і ўспамінаў.
Куды-ж, куды, скажы, пайшла вясна?
Чаму-ж цябе у Менску я пакінуў?

Самотны зноў. Дзьвіной сплылі зь ільдом
адсьветы ў водах — воблакаў купавы.
Вярнуся я, вярнуся ў Менск, у дом
без павярхоўнае раскошы й славы!

Рыга, 1944

## СПОВЕДЗЬ

У ўпал, калі вецер ледзь дыша,
я ніву сваю гараў.
Падвечар прылёг у зацішша
руцьвяных траў.

І сонца — пабачыў санліва —
паволі ішло на сьхіл.
Марнела няўзоранай ніва —
ня стала сіл.

Ці сьмеў я пакінуць работу —
няўтомнага дзеда ўнук?
Спалохаўся ўпалу і поту,
і болю рук?

Падбіта нязломных імклівасьць.
Ня моцна ты плуг трымаў!
Бясслаўна прылёг у санлівасьць
руцьвяных траў.

Няўжо не здалееш, араты,
страхнуць свае зморы пыл?..
Няшмат — я ў вадным вінаваты:
ня стала сіл.

1945

## GLORIA MUNDI *

Вялікі ён, праўдзівы й няпраўдзівы,
спагадлівы і хмуры — шырны сьвет.
Вядуць яго нябачаныя дзівы
і ў нурны змрок, і ў сонечны прасьвет.

Ягоны я і валадар, і мучань,
адыстар ён — і семянін, і госьць...
Як дойлід, стой над ім, пад ім — як вучань,
не пакідай яго такім, як ёсьць!

І станецца: абыйдзеш тлум зьнікомы,
дакорны зман з пагардай абмінеш —
паўстане ён, шматзорны, вялікомы,
хвала яму ня мецьме спыну й меж.

І чуцьмеш голс няверства: ці-ж магчыма
пабачыць сьвет бязь цемры, бяз руін?
І ціснуцьме яно ў гурме плячыма,
асуджвацьме... Адчуеш: ты — адзін.

Адным і будзь! У мносьцьве — глум бяшчынны.
Свае душы зьняменьню не аддам!
Зы мною ўсьцяж і ўсюды — дар глыбінны:
"Той дужы, хто ня ў гурце йдзе, а сам!" **

1945

---

* Gloria mundi (лац.) — «слава сьвету», словы з выслоўя «sic transit gloria mundi» — «гэтак прамінае слава сьвету» — якое прагалошваюць пры інтранізацыі новага Папы Рымскага, спальваючы пры гэтым каслаўку лёну.

** Парафраза ведамых словаў Вільгельма Тэля з аднайменнае драмы Фрыдрыха Шылера (у нямецкім арыгінале «Der Starke ist am mächtigsten allein», «Хто дужы — найдужэйшы той адзін» — у беларускім перакладзе Алеся Дудара, ведамым у Менску ў дваццатых гадох; перад гэтымі словамі ў тым перакладзе было: «У гурце падужэюць і слабыя»; відаць, Алесь Салавей карыстаўся гэтым перакладам). (рэд.)

## УЗЬНЯЎСЯ СОКАЛ У БЛАКІТ

Узьняўся сокал у блакіт,
здалеўшы ўзьлёту шлях цярністы.
А дзень шматхварбны, прамяністы
зы скарбаў вышніх тчэ свой міт
і расьсьцілае аксаміт,
нікім ня сплямлены і чысты...
Узьняўся сокал у блакіт,
здалеўшы ўзьлёту шлях цярністы.

Застою — цемень, хмуры дол,
імкненьню — высь, харомы Фэба.
Наймізарнейшая амэба —
і тая шле пратэст вакол:
хто птаху даў на ўзьлёт дазвол?
Адказ грыміць з вышыняў неба:
бяскрылым — ніз, пахмуры дол,
крылатым — высь, харомы Фэба.

Трусьлівым — гнібель. Мужным — лёт,
перад нікчэмствам — непакора.
А зла і зайздрасьці дакоры —
кусьлівай жоўці марны плод;
ніколі ім з гнілых балот
ня ўзьняцца ў сьвет нязгасных зораў,
у сьвет, дзе думкам праўдным — лёт,
дзе дух імкненьня — непакора.

1945

* * *

У сузор'і зазьзяе Колас * —
а трывогу хіба ўтаю?
Чую сэрцам Цябе, Твой голас,
бачу ў думках красу Тваю.

І душою да сьветаў зорных
я імкнуся — ня ўняць ляты,

* Колас — найзырчэйшая зорка ў нябёсным сузор'і Дзевы. (рэд.)

а між імі — вянок спазорны;
мне здаецца, што гэта — Ты.

Прывітаньне, мая Астрэя! *
Над зямлёю сьвяці, сьвяці!
Заранiцай хай даль жаўрэе
у бязьдзёньні — маім жыцьці;

хай у хмурай чужой краіне
не згасае яно ў журбе.
Ці Ты помніш аб верным сыне?
Не забудзе Твой сын Цябе.

Ня тускней-жа! Сьвятло разьвее
цемру пусткі, пяскоў сувой.
Прывітаньне, мая надзея, —
непагасны правобраз Твой!

1945

## ЯЛІНКА

"Наш Божа, татку нам вярні,
нядобра нам адным..."
Ялінка. Дзеці. І агні,
і дым, сінявы дым.

А я, дарослы, поўны ўяў, —
бы прывід нябыцьця.
Чаму ня дым сінявы я?
Чаму я ня дзіця?

Чаму? Ці здолеў-бы дзіцём,
ці змог-бы дымам быць?
Пакутным змучаны жыцьцём,
мой дух юнацкі сьпіць...

Як загудзе калядны звон, —
ад таткі мо прывет? —

* Астрэя — у антычнай міталёгіі багавіца справядлівасьці, якая, паводля паданьня, пераказанага рымскім паэтам Авідам, пакінула зямлю ды зазьзяла на небе як сузор'е Дзевы. (рэд.)

прачнецца дух той, возьме ён
мяне ў прывабны сьвет,

у гэны дзіўны сьвет, куды
на крылах сны ляцяць,
дзе вёсны, вечныя сады,
дзе росы зігацяць...

Ялінка. Дзеці. І агні,
і дым, сінявы дым.
"Наш Божа, татку нам вярні,
нядобра нам адным..."

На чужыне, 1945

## ЧАКАЙ

Чакай, чакай,
юнацкіх дзён парыў імклівы,
да новых вёснаў шчэ — зарана, не ўцякай!
Я не дасяг мяжы твайго прыліву,
чакай, чакай!

Калі, калі
ты змог мяне мінуць употай?
Мільгнуў здалёк і зьнік — і астры расьцьвілі...
Хто-ж хутка так спахмурыў іх маркотай?
Калі, калі?

Няўжо, няўжо
[illegible] не вяшчун твайго прастору?
А безь цябе ўваччу — імгла, журба крыжоў...
Няўжо твой крок — слухмянасьць непаўтору,
няўжо, няўжо?

Чакай, чакай,
юнацкіх дзён парыў імклівы,
пакуль вясна цьвіце — ёй зьмены ня шукай,
не пакідай дацьвітваць сіратліва,
чакай, чакай!

1945

## ШВАЙЦАРЫЯ

Думкі сьледам — як рой.
Выгінаецца троп, як зьмяя.
А за стромай гарой —
ты, Швайцарыя, казка мая!

Мне казала яна,
гэта казка: "Я сонечны дол
залатога руна,
я высокіх узвышшаў анёл.

"Пад паглядам маім
думкі сьмелыя лынуць ракой,
зь імі — праўда, ня дым,
зь імі — воля, сугодны спакой".

...На яе паглядзець
я хачу хоць з высокай гары.
Пачынае хмурнець.
Палыскуе маланка ўгары.

Вецер скалы скрабе,
дождж бубніць, як удары кап'я...
Не пабачыў цябе
праз нахмуранасьць, казка мая!

**Форарльбэрг, 1946**

## СЬНЕЖАНЬ

Ты прыйшоў... Хто, няласкавы,
нястрыманасьць зьвязаў?..
У прастор, у сьвет казкавы
ты свой шлях паказаў.

Зашумеў шугавеяю,
разаслаўся радном...
І няўжо ня сумею я
быць зы сьнежанскім днём?

Ці адчую, як шчыплецца
Дзед Мароз (колькі ўцех!)?..
І лятае, і сыплецца,
і мітусіцца сьнег;

шлях іскрысты ў сьвет казкавы
разаслаў, паказаў.
Хто, суровы, няласкавы,
нястрыманасьць зьвязаў?

І хіба ў непасталасьці
маладыя гады?
І няўжо я зы сталасьцяй
падружыў назаўжды?

Сталасьць, сталасьць хаморную
абыйду, абміну,
і маленства задорнае
здаганю я, вярну.

Перарэжу сьцяжынкамі
поле сьнежнае, гаць,
з пухавымі сьняжынкамі
я пайду танцаваць.

Панясуся ў сьвет казкавы —
дзень там сьветлы зазьзяў...
Хто, суровы, няласкавы,
нястрыманасьць зьвязаў?

1946

## МАЛЕНСТВА

Пад бельлю дрэвы маўчаць прароча,
ля хаты ходзіць мароз дзябёлы...
А ён праз шыбы пабачыць хоча
сьнягоў сувоі — такі вясёлы.

На сьцежцы ежу знайшла сініца,
працяглым ветрам зіма ўздыхае.
Глядзіць, глядзіць ён, не наглядзіцца,
сьмяецца, ручкай, як птах, махае.

Мой сынку, сынку! І я з табою
такім пацешным, як ты, раблюся;
ваюю сьмела зы злой зімою,
імчуся ў звабнасьць на сьнежным пусе.

І за сініцай, за госьцяй з гаю —
хачу ўвагнацца — няўціхны, жвавы,
халодны вецер з двара ганяю,
у снох вітаю ўсясьвет цікавы.

Адплюшчу вочы... О дайце змогу
мінуць няспогадзь — пары шаленства! —
І я знаходжу сваю дарогу
у хорам сьветлы майго маленства.

1946

## СЬПІ...

Ты адзін — усё-усенькае:
радасьць, мукаў забыцьцё.
Немаўлё маё маленькае,
найсьвятлейшае жыцьцё.

Сьпі, мой сынку... Аргентынаю
не зьлякае сябра-сон,
нешчасьліваю гадзінаю
над табой ня дзынкне ён.

Гаварыць пачнеш — часінкай той
зможаш праўду сна ўяўляць.
Кажны рух твой новы, сынку мой,
будзе родным прамаўляць;

ня ўсьміхнецца ні Бразыліі,
ні Алясцы, ні Канго...
Станьце-ж, станьце, сны, ідыліяй
непадкупнага, свайго.

Не крануць хай слыху ценькага
словы: Пэру, Парагвай,
і няхай у снох маленькага
ажыве бацькоўскі край.

На чужыне, 1946

* *
*

Пачні з Гамэра, ці пачні з Сакрата:
паэтаў — безьліч, філязофаў — цьма.
А хто нячутых зыкаў струны кратаў?
Няўжо такіх шчэ ня было й няма?

Былі — іх слова ў сьвеце не прапала
і не лягло ў зьгібеньні на таку.
І несьмяротны будучы Купала
Гамэру цісьне — бачу я — руку.

Музыкі вечнага ня змоўкне лера.
Хто йдзе ў вякі — той не памрэ зусім.
Вітае двух — Сакрата і Гамэра
разважны й сьпеўны будучы Максім.

А дзе-ж нашчадкаў дружная кагорта,
і як "у перашкодах дух расьце"?.. *
Пражытае даўно кійком падпёрта,
а новае пляцецца у хвасьце.

Як мала толькі быць адным паэтам,
каб з мудрасьцяй вялікшай падружыць.
Як цяжка, цяжка ў зьбітым, перапетым
пад атамнай насупленасьцяй жыць!

Хто шлях зь цяжкой стагнацыі пакажа?
Хто думку ўздыме вышай устакрат?
Калі-ж яшчэ нясказанае скажа
цяпершчыны Гамэр або Сакрат?

26. 9. 1946

---

* «У перашкодах дух расьце» — словы Уладзімера Дубоўкі. (аўт.)



З мройнай задумай моўкне бор.
Мату пад ногі сьцеле сад.
З дрэваў ськідае лістапад
найраскашнейшы іхны ўбор,
жорсткім іржышчам, як сілом,
ловіць ён лісьце за сялом.

Смутак тапаляў і бяроз,
змрочнасьць каштанаў, хмурнасьць ліп.
Зорыш наўкола... Жальны ўсхліп?
Сьлёзы, што вецер зь лісьцем строс?
Радасьць і ўсьмешкі, ці наслань?
Гмур і маркота, ці талань?..

Гэтак нядаўна высь вітаў,
сяньня ў развазе долу рад;
заўтра шукацьме твой пагляд
сьцішы, спакою, мяккіх траў.
Але ці ўздымеш ты спад ног
тое, што ўбачыць шчэ ня змог?

Найраскашнейшы чар-убор
з дрэваў ськідае лістапад...
Знаеш узьлёты, іхны спад,
ломіш дуб-волат, мал-чабор:
папараць бачыш, [illegible] ня цьвет:
зрокам няўлоўны панадсьвет.

1946

## ВАМ

Прастую праз жыцьцё,
і не хачу скарыцца трутню.
О не, вы не дасьцё
спамогі мне асіліць скрутню.

Ваш гонар — над усё,
а слова — ледзь ня голас Бога.

Як без касы — касьсё,
ніхто бяз вас ня варт нічога.

А я? Я толькі сам —
пакорны раб свайго натхненьня.
Што значыць нейкі грам
сьвятла і чыстага сумленьня?

Што значыць? А бяз вас
іду, кідаю скрутню ззаду,
хоць вамі — і ці раз? —
даўно павешаны за зраду.

Сумленьня чысты грам
вартнейшы тоны тла гнілога —
няхай я толькі сам
і за маёй сьпіной — нікога.

1947

(Паводля Г. Гайнэ)

Зазьзяла неба, дол змаўкае ў сьне.
Ня гасьне зорка, шчасьце зычыць мне,
прарочыць новы дзень з высі —
о, ня хлусі!

Як месяц — мору, так душы маёй
ты шэпчаш словы казкі залатой
і кажаш — лёт увысь дасі —
о, ня хлусі!

1947

ЖЫВОМУ ЖЫЦЬ,



ЗЬНІШЧЭНЬНЮ = СЬМЕРЦЬ

## ЖЫВОМУ — ЖЫЦЬ, ЗЬНІШЧЭНЬНЮ — СЬМЕРЦЬ

* * *

Чорны крук закракаў на ўсё горла,
звонкасьпеўных птахаў пошчак змоўк.
Шэры конь зь віхрастай цёмнай грывай
па дарозе з тупатам прабег.
Прагрымеў падковамі, прагрукаў,
выкрасіў на бруку сноп агню.

Хмара змрочная ўспаўзла на неба,
захаморыўся блакітны дзень.
Пырснулі нажамі сьвігавіцаў,
неба перакроіўшы, агні.
Купы хмараў з грукатам грымотным
лынулі улеваю на дол.

Разьліліся ўсьпененыя рэкі,
пазатоньвалі лугі, палі;
трэснула зямля, і на аськепкі
пашчапалася над ёю высь.
Ой, з благім насоўваюцца хмары,
не на добрае іх трушчыць гром!

1941

* * *

...А неба
на долківае пальцам, як сто год
таму назад. І сотні год усьцяж
зямлю ажыўчай сілай неба поіць

і сварыцца за грэшныя праступкі —
яна-ж ня хоча слухацца, ня хоча...
А я сябе пацешу звабнай казкай:
каўром зялёным слалася пад небам
зямля, і гэткаю была заўсёды,
як сялета, вясна; у тых-жа хварбах
шырокім шляхам лета праставала
на сьветлы і здавольны адпачынак;
і восень ува ўсіх сваіх калёрах
сьхілялася з паклонам над зямлёю;
зіма на шугавейных белых крылах
шумела ўзмахамі, на дол сядала,
адпачывала з важнаю задумай,
няраз ізноў узьняцца спрабавала,
махала крыламі — ізноў на дол
у стоме падала, а потым сонца
яе тапіла ў рэках нястрыманых
і параю ўздымала да нябёсаў;
ізноў ішла раскутая вясна...
Калыша казка, спаць мяне ўкладае,
сьпяшаецца сказаць, пакуль ня позна:
яшчэ ніхто, ніхто, яшчэ ніколі
ня змог пад сонцам і пад небам бачыць
красы тае ў вясновых зыркіх хварбах,
у тых усьмешках летніх — у раскошы,
у тых васеньніх смутках маляўнічых,
у тэй зімовай белай сумятні —
тае красы, што ёсьць і што існуе —
няўлоўленай паглядам чалавека,
ня дадзенай яму яе ўлавіць.
І непабачанай яна загіне,
і непабачанай ідзе на зьгін.
Ідзе на зьгін. Заўжды ажыўчай сілай
паіла неба дол, але цяпер —
на дол зыходзіць зь неба д'ябал сьмерці,
народжаны зямным непаслухмянствам...

1942

(Паводля Дантэ)

О не, ня цёмным воблакам шпакі
лятуць, калі зіма ў марозных путах
ідзе насустрач — а на ўсе бакі

нясуць вятры плямя навалаў лютых;
надзеі лепшага ў нябыт пайшлі —
і ня ўсьміхаецца жыцьцё ў пакутах!

О не, ня жальным крыкам жураўлі
трывожаць супакой высі празорнай, —
а ўзьнятыя вятрамі ад зямлі

натоўпы хмар. Штадня — ўсё горай, горай...

1943

## КАБ СКАЗАЛІ...

Узыйшоў на прастор
шэры мораку сьцень.
Дзень за згусткам ягоным
схаваўся.

Каб сказалі мне:
гэткі апошні ўжо дзень, —
я ня плакаў-бы,
толькі-б
сьмяяўся.

Менск, 10. 6. 1943

* *
*

Толькі выгляне сонца з-за хмараў, —
зьнікне зноў. Скуль бяруцца яны?
Можа гэта жутлівасьць пажараў?
Можа гэта суцьмежа вайны?..

І марнее жытнёвы палетак,
і чакае касца сенажаць.
Кажуць людзі: настала ўжо лета,
ды чамусьці яго ня відаць.

20. 7. 1943

## ЗЯМЛЯ Ў ВАГНІ

Зямля ў вагні. Гарачыня.
Сусьвету — ня дыхнуць.
Пякельнай лявы ня суняць,
крыві струменіць муць.

Зямлі, зямлі гаспадары —
на дзьвюх, на дзьвюх нагах —
сусьвету скарбы і дары
у пекла топчуць. Жах.

"Хадзі сюды, хадзі сюды!" —
мне кажуць. — "У паход
мы рушым. Вывядзем зь бяды
радзіму і народ!"

Адзін: "Вазьмі, вазьмі — ці меў? —
вінтоўку — новы стыль..."
Я ўзяў. Я ўвесь акамянеў —
гнілы, крывы кастыль.

Другі: "Вось келіх у мяне —
пітво ў ім змагароў.
Вазьмі!" — Я ўзяў, зірнуў: на дне —
людзкія сьлёзы, кроў.

А трэйці: "Змогся? Супачынь!
Прыляж на ложак наш".
Я лёг. Прачнуўся уначы —
ня ложак, а труна.

І ля мяне, і ля труны —
і века, і цьвікі...
Ідуць яны, ідуць яны —
шкілеты... мерцьвякі...

Менск, 27. 6. 1944



Крыніцы звонкае струмень
замоўк — ня піць вады з прыгорстаў...
Ізноў наперадзе сухмень
дарогаў нудных, прыкрых вёрстаў.

Як і раней, ізноў, ізноў
мяне чакае жах нязнаны.
Мо гэта звада трызных сноў,
мо імі я ў палон забраны?

Чаму так цяжка, цяжка мне?
Жывых ня бачу і ня чую.
На голых дошках у труне
жыву — і днюю і начую.

"Цярпі!" — мне кажуць. Я цярплю.
"Накрыем — зноў мне кажуць — векам,
пасьля... апусьцім у зямлю,
і там ты станеш чалавекам..."

5. 7. 1944



Пусьціня... пусьціня... пусьціня...
і на сэрцы, і ў думках, і ў целе.
Струны ліры аб сьмерці зьвіняць.
Ці даўно аб жыцьці мне зьвінелі?

Так нядаўна... Чаму-ж, для чаго
самі людзі жыцьцё растапталі?
Згас жыцьцёвых імкненьняў агонь,
ліра змоўкла у скогаце сталі.

Рыга, 6. 8. 1944

* * *

Дваццаты век. А ён... Хіба маўчыць паэт?
Чаму ня будзіць вершаў век дваццаты?..
Грымяць і абяскрыльваюць гарматы
жыцьця імпэт.

Руйнуюць і нясуць раскошу ўцехі ім —
двуногім падабенствам чалавеку.
Нялюдзтву ўсё, прыдбанае спрадвеку,
было чужым.

О не, сусьвет! Ня ты бурхлівы шквал, ня ты.
А ў шквале сам гарыш, і я згараю.
Крывавы акіян. Агонь бяз краю.
І дым густы.

Ня ты, — зьнішчэньняў жах, зь мянушкаю — сусьвет,
клыкоча, супакой з плянэты сьцершы:
— Калі я гавару — нямеюць вершы,
маўчыць паэт. —

Пуйкуле, Лацьвія, 9. 8. 1944

## ПАКЛОН

Ізноў крануўся эшалён,
ізноў за поручні бяруся.
Паклон, Эстонія, паклон
табе ад сына Беларусі!

Густы імшарнік. Хмызьнякі.
Ялінкі. Кволыя бярозкі.
Бягуць чыгункай цягнікі,
смуткуюць сьцежкі і дарожкі.

Пакіну я цягнік. Да вас,
да вас пайду, зямлі сьцяжынкі!
Скажэце, дзе хоць посны квас,
хоць хлеба чэрствага скарынка?

Скажэце, як мне абыйсьці
напасьце сьмерці ашалелай?
Скажэце, як і дзе знайсьці
спачынак для душы збалелай?

Пакіну змрочны эшалён
і ад чыгункі адракуся.
Паклон, Эстонія, паклон
Табе ад сына Беларусі!

Масяру, Эстонія, 13. 8. 1944

* *
*

Ужо тры дні, ужо тры дні
ня меў скарынкі хлеба ў роце.
Ня кормяць вершы больш ані,
няма й граша ў папернай псоце.

Дзівак паэта, ну й дзівак,
хацеў насыціцца ён вершам!
Пісаў, пісаў, цяпер — жабрак,
сярод галодных — самы першы.

Чаму, навошта, для каго
глуміў паперу, чэрняй мазаў?
Сам ні ў ваду і ні ў вагонь,
ні ў муляры, ні ў вадалазы.

Няўжо такі жыцьця закон,
о Муза, строгая багіня? —
Спрытнейшы — хай бяздарны ён —
жыве, менш спрытны — здольны — гіне.

Гэдэмэстэ, Эстонія, 16. 8. 1944

* *
*

Лясы. Узгоркі. Паплавы.
Блакіт нябёсаў. Сінь вазёраў...
Далёка вы, далёка вы,
радзімы блізкія прасторы!

А дні сярод палёў чужых
сьпяляць пасевы залатыя.
Пайдзі, прыслухайся да іх:
шумяць пасевы, ды ня тыя.

Шумяць. У даль палёў зірні:
яшчэ далей — палі радзімы.
Плывуць крывёй над імі дні
і плыць сягаюць над чужымі.

Зьнішчэньне там, дзе іхны сьлед.
Сваім, чужым — адно. Дзе-ж дзецца?
Куды ні глянь — вялікі сьвет,
а чалавек ня мае месца.

Гэдэмэстэ, Эстонія, 6. 9. 1944

* *
*

Плыве вадаплаў і плыве
ад сьмерці да сьмерці у госьці.
Пагібель маёй галаве
прарочыць бязьлітасна хтосьці.

І кажа мне, кажа: "Глыне
цябе ненажэры прадоньне.
А морскія камні на дне
спакой табе вечны адзвоняць".

"Пакіньце! — пракаў прашу —
нялёгка ад вашага мору
спакойна хаваць мне душу
на дне неспакойнага мора".

І цяжка маёй галаве.
Прароцтвы — калючыя восьці.
Плыве вадаплаў і плыве
ад сьмерці да сьмерці у госьці.

Балтыцкае мора, 15. 9. 1944

* *
*

Нідзе не адступае,
за мной — усьлед, усьлед.
Пакінь мяне, сухі шкілет —
твая каса даўно тупая!

На зруйнаваньне готык
ідзі яе вастрыць!
Няхай агнём яна гарыць —
пякучым будзе ейны дотык!

І павядзе дарога
па звалавым гарбе —
да тых, што вывелі цябе
падкошваць плод жыцьця зямнога.

Перадсьмяротным духам
іх цешыць Сатана;
гарбаты троп да іх яна
даўно паслала мяккім пухам.

Ступай па ім — зьнямога
няласкай не кране.
Пакінь мяне, пакінь мяне —
чакаеш ты сябе самога!

Бэрлін 7. 11. 1944

## FROHLICHE WEIHNACHTEN *

Так, Fröhliche Weihnachten! Так, паны,
з грубой душой пад знакам павучыны.
Што-ж маеце, вандалавы сыны,
да тэй жанчыны?

Яна з малой дзяўчынкаю — дачкой,
асіліўшы пакуты і зьнямогу,
вязе ў касьцёл праз ваш несупакой
малітвы Богу.

* Fröhliche Weihnachten! (ням.) — «Вясёлых Калядаў!»

Дзяўчынка ўся сьсінела, як той "Ost" *
на сьвітцы ў маці. Ost'аўка — ня пані,
ёй месца і ні ў сьвята, і ні ў пост
няма ў S—Bahn'e. **

Арыйскі дух з вагону гоніць прэч
жанчыну-маці і дачку жанчыны...
...Карае вас, карае Божы меч
ліхіх, бяшчынных.

І зьнікне чорны прывід Сатаны,
і зьгіне зьверства сьлед на хіжым твары.
Так, Fröhliche Weihnachten! Так, паны,
людзтва пачвары!

Бэрлін, 24. 12. 1944

## СЛУЧАНКА

Вочы твае — васількі. Я ня бачу
радасьці ў іх. Хто пакрыўдзіў случанку?
Многа няўцехі, балючага плачу
ля негасьціннага ганку.

А за сьпіною — суровыя дзьверы;
іх зачыніла твая валадарка,
носьбітка расы — чысьцейшай бязь меры;
ты, беларуска, — татарка...

Зараз няшчасьце вялікае ў пані
(зь ім-жа і гнеў — на цябе, небарака):
здох пры паданым табою сьняданьні
ейны ўлюблёны сабака.

---

* Ost (ням.) — «Усход, усходні» — літары гэтага слова, белыя на сінім, мусілі насіць на налепцы на грудзях работнікі й работніцы — «остаўцы, остаўкі» — прымусова прывезеныя ў Нямеччыну з акупаваных гітлерцамі ўсходніх земляў, у тым ліку й зь Беларусі.

** S-Bahn (поўнасьцяй Stadt Bahn) — звалася гарадзкая чыгунка ў Бэрліне.

Пані ў распачы ліхой, у трывозе
рэчы твае ў калідор паўкідала,
аж да цямна — ля дзьвярэй на марозе —
кару адбыць загадала.

...Белую шаць асыпаюць таполі,
зь імі прыгадвае дом свой случанка.
Плачуць мае васількі у няволі —
цяжка табе, паланянка.

Вена, 16. 2. 1945

* *
*

З агню вар'яцкага, зь пякельнай цямрыні,
ад дзён, што начамі зрабіў пажараў дым,
уцёк [illegible] да палёў. Зірні, зямля, зірні,
ці-ж быў раней такім сухім я і блядым?

Як жыў табой, тады ня ведаў цемры я.
І быў тады, як ты, прыбраная вясной.
Цяпер-жа? Кажаш мне — цяпер я не твая.
А ты? Ты месяца жыхар, чужынец мой.

Вена, Швадорф, 25. 3. 1945

## СУСТРЭЧА

Не забыўся я насуплівай міліцыі —
пагражалі вы дручынаю гумовай:
— Выбью, выбью вам отсталые традиции! —
гаварылі мне абурліваю мовай.

А чаму-ж цяпер зь нясьмелаю гаворкаю,
быццам вы мяне, забытага, пазналі,
падыйшлі бліжэй: — Богаты ль вы махоркою?
На один дымок рассчитывать нельзя ли? —

Адыйшло ў нябыт уладнае калішняе.
Вы абдзёрты ўвесь — усьцешанасьць ня ў жмені...
Пры маёй душы спустошанасьць ня лішняя,
мо яшчэ што ёсьць — вытрушваю кішэні.

Што магу — даю. Мізэрнае здаволечы
"на дымок" стае — хай сэрца ў вас ня ные:
мо патрапяць лепш аддзячыцца дзе-колечы
на шляхох крутых "традиции иные".

1945

...у дзявочыя вочы, як зоры,
мне цяпер, як глядзеў, не глядзець.
М. Сяднёў.

Да жыцьця ад пагібелі крочу,
а ратунку ня бачу нідзе.
Мне на вас, непаўторныя вочы,
як глядзеў я раней, — не глядзець.

Давядзецца мне долу зваліцца,
патрабуе пагібелі лёс.
Будуць гэтыя вочы журыцца
і ніколі ня выплачуць сьлёз.

Хай яны не гавораць аб гэтым, —
уяўляю такімі я іх.
Каб ня быў я у сэрцы паэтам,
дык сьпяваў-бы цяпер аб другіх.

Вочы шчырыя, вочы бяз жалю
я журботнымі змог уяўляць.
Мне яны ўсю душу ўсхвалявалі —
так ніхто йшчэ ня ўмеў хваляваць.

І цяпер ім я смутак прарочу,
не даю ім на радасьць надзей, —
мне на вас, непаўторныя вочы,
як глядзеў я раней, — не глядзець.

8. 4. 1945

## ДВАЦЦАЦЬ ТРЫ

Мне сяньня роўна, роўна дваццаць тры.
Жарства мне ногі рэжа, плечы — клунак.
Асьнежных Альпаў гайсуны-вятры
мяне загналі на спачын у клуню.

Паблізу — цёплы дом... І я прылёг.
Ды сэрцы — лёд... Адчуў сябе, як дома.
Аб днёх спакою, вельмі рэдкіх днёх
мне прыгадала пахкая салома.

Такі, знаёмы змалку, тхненны пах.
Ідзе хтось... "Дзеду?.." "Блуд, унук, шмат блуду..."
Стаіць з даўжэзнай люлькаю ў зубах
двуногі вырадак, тупы адлюдак.

"Weg! — кажа ён. — Ты бачыш — keine Platz,*
тут працаваць мне трэба, ты — заміна".
Як быццам я ня ў клуню, а ў палац
зайшоў — ягоная так цьвердзіць міна.

І я пайшоў. І ўпарта па шляхох
чужых, няласкавых, праношу ўпотай
усё, чым я жыву і што зьбярог
у сэрцы, не падужаным Гальготай.

Імкненьне, сьлед нялюдзкасьці зытры!
Няхай яна ў нябыце люльку сьлюніць...
Мне сяньня роўна, роўна дваццаць тры.
Жарства мне ногі рэжа, плечы — клунак.

1. 5. 1945

* *
*

А ўсё-ж мы вернемся дахаты, у вайчыну,
і не заблудзімся ў шляхох чужой зямлі.
А я вярнуся не адзін, а з сынам —
нашчадкам Крывічоў і іх сям'і.

Скажу, укленчыўшы: Крывіччына сьвятая!
Хай Ты насьмерць была расьпятай, а жывеш.
Тваіх дзяцей ні даль і ні імгла густая
не абясплодзілі ў чарсьцьве пустэльных меж.

---

* Weg (ням.) — вон, keine Platz (ням.) — няма месца.

Жывому — жыць. Зьнішчэньню — сьмерць. Жывое
кідае па сабе жыцьцё. Жывому — плод.
Ты не памрэш, Крывіччына! З Табою
ніколі не памрэ крывіцкі род.

12. 5. 1946

## ЖЫЦЬ

На ейнае зьяўленьне — яскравую зарніцу —
глядзеў, нібы на шчасьце, і быў и не адзін:
з усклікам: "ляля! ляля!" — спаткаў сваю сястрыцу
грыбок падгадаваны — усьцешаны мой сын.

Смутлівы позірк маці... Распачнае будзёньне...
Ці праўда — я шчасьлівы? Ці шчасьце — сны
прыкрас?
Малыя пташаняты! Вы радыя сягоньня.
А як-жа, як-жа заўтра? Ці радавацьме вас?

Цяпер вам у калыбцы — раздольле, шмат прастору,
а станеце на ногі — і цесным будзе сьвет:
прыгоды сноў разьвее, як дробную атору,
па вёснах не пакіне ні знаку, ні прыкмет.

Ці праўда — я шчасьлівы?.. Дзіцячы сподум сына,
ягоных адчуваньняў, здавольля разам зь ім...
Чакае вас няўцеха, трывожная часіна.
Што скажаце на радасьць тады бацьком сваім?

Ці скажаце?.. Хай віснуць няўмольныя пагрозы —
а несьмяротнасьць грымне: жыцьця не заглушыць!
Махне крылом узьлёт ваш праз мужнасьць, не праз
сьлёзы:
и зь цясьніны ірвуся, каб жыць, каб жыць, каб
жыць!

1947



Партрэт А. Салаўя. Мал. П. Мірановіч, алей, 1943.

Вянкі, табе вянкі,
аздобная краса!
Буйней, ідзі ў вякі,
зь няволі ўваскрасай!

Табе нязгасна жыць
у сэрцах у людзкіх.
З табой не засушыць
вянкоў, вянкоў маіх.

1945

I

— "Дзяўчынка! Хіба я іначай
кахаю? Паслухай мяне:
пяшчота ня дружыць з распачай..." —
А ты у вадказ:
— "Ды не!
Ня гэта цікава...
Такой нам
размовы ня трэ... Таракан
ты йшчэ... А такі неспакойны
і волю даеш рукам". —
— "Дзяўчынка!
Парыў мой узьнёслы!
Кахаю вось так!.." —
— "Бяз прыгод!" —
— "Вось гэтак! Вось так!
Я дарослы,
мне сяньня — пятнаццаць год!"

Койданава, 1. 5. 1937



Ці-ж ня новае шчасьце мне зьнічыць?..
Ледзь здалёку махнеш мне рукой:
нешта, нешта у сэрцы крынічыць,
нешта ў грудзі ліецца ракой.

Усхвалёванасьць рухаў і цела,
б'ецца ў жылах гарачы струмень...
Гэта толькі трава шапацела,
гэта толькі ўсьміхаўся мне дзень.

1937



Пачакай, пабудзь зы мной часінку.
Дома — добра нам. А на двары
цёмна ўжо. Настрашыць ноч дзяўчынку.
Аб адыйсьці нат не гавары.

Выйдзеш ты на досьвітку на ганак —
зацьвіце зарою небакрай.
Сонца ўстане — усьміхнецца ранак.
Пачакай, пабудзь, не пакідай.

1937

* *
*

Такі лагодны, як тая ласьвіца,
твой поціск рук.
Душа галубкай з кунегай ласьціцца
пад сэрца стук.

Салодыч думкаў так міла песьціцца
з табой адной.
Уся пяшчотнасьць у сэрцы зьмесьціцца —
пабудзь зы мной!

1938

* *
*

Змоўклі вясёлыя песьні застольныя,
сьціхлі за імі званчыкі-бомы...
— "Вам не пара яшчэ, дзеткі свавольныя,
вам шчэ далёка край невядомы!" —

Сьвет не зачынены любаму зь любкаю,
любаму — хата, любцы падушкі.
Разам у доміку — голуб з галубкаю...
Мы йшчэ далёка — навет ня птушкі.

1938

* *
*

Сумнаю згадкаю
сталася ты.
Дзіўнай загадкаю
шэпчуць кусты.

Квола і нехаця
звоняць ліствой...
Не, у тым шэпаце
голас ня твой.

Сьвяне, блукаючы,
восенскі сум.
Жоўкне, сьціхаючы,
змучаны шум.

1939

* *
*

Мяне не ўспамінаеш — сяньня и далёкі.
У вас, у інстытутах, — шмат сяброў.
Але ці адчуваеш — не адны-ж "вурокі"! —
Няцечкі нашай смутак, жаль дуброў?

Ільды сплылі зь Няцечкі. Шумныя дубровы —
пад новаю намёткай... Шлюць прывет...
Альтанка і парэчкі... Бэзу цьвет лілёвы.
Пад ім расьце блакіткай твой-жа сьлед.

1942

* *
*

У хату поўнач плыве ракой,
глядзіцца месяц у мой пакой.
Ля ганку ходзяць, паўзуць у сені,
нібыта здані, даўгія сьцені.

Мая галубка, шчасьлівы час!
Яны нітрошкі ня страшаць нас.
З твае хусьцінкі зрабіць хвіранку —
і месяц пойдзе вітаць заранку.

1942

* *
*

Шляхі маладосьці! Бяз суму
пястуйце узьлётную думу,
выходзьце зь пяскоў Кара-Куму,
жыцьця не прадаўшы мане.
Мае непаўторныя вёсны
і позірк да высяў зайздросны,
і ранак сярэбрана-росны
нідзе ня мінайце мяне!

А той пацалунак салодкі.
Час доўгай сустрэчы — кароткі,
мураваў той шолах дрыготкі —
на іх не забыцца ані.
Імклiва хадой неляною
ідзеце заўсёды зы мною,
цьвіцейце нязьвяннай вясною,
мае непаўторныя дні!

1942

* *
*

Мне і ў цемру не забыцца
сьветлых сноў.
Прада мною ты, як быццам,
зноў.

Гляну ўвысь, а ейны прозірк —
сінявой.
І здаецца зоркай позірк
твой.

Ў небе месяц, я на доле —
як браты.
Наша ўсё, усё раздольле —
ты.

1942



Ён салодкі цяпер, але першы быў шмат саладзейшы.
А мой шлях да цябе, хоць і першы, ды быў карацейшы.
І нязмрочны мой шлях не абходжаны гэтак нікім.
Я ніколі яго ня міну ў падарожжы цяжкім.

Ён узносіць, вядзе, уздымае ўгару — да сьвітаньня.
Ён салодкі цяпер — пацалунак узьлётаў каханьня.
Але першы — няма параўнаньняў і словаў яму:
ён зрывае ільды і зганяе з пацёмкаў зіму.

1943



Клён шапацеў на сьцямнелым двары,
поўніўся радасьцяй весьняй.
Сьветла-пяшчотнаю казкай нябеснай
вабілі зоры з гары.

— "З нашаю зоркай сустрэцца-б... Няма... —
вусны твае мне шапталі. —
Разам сустрэцца-б..." — Ды ў зорныя далі
ты паляцела сама.

— "Стрэнемся! Тут я ня буду адзін!" —
голас імкне за табою.
...Кожнае раніцы з клёну журбою
капаюць кроплі сьлязін.

1943



Сьнег ідзе... Вецер гульлівы да ліпаў — сясьцёр
сіратлівых —
лёгка пабег, прывітаўся, махнуў белабрысай чупрынай...
Гэткім бываю і я, калі стрэнуся зь любай дзяўчынай.

1944

* *
*

Дзе-ж тая радасьць — той дар адзіны
маіх узьлётаў, той вечны рай?
Зь мясьцінаў цёмных, з глухой краіны
яна прыводзіць у сьветлы край.

Вячорны захад тугой жаўрыцца,
усход заранны цьвіце вясной.
Замкну павекі — яна мне сьніцца,
адплюшчу вочы — яна зы мной.

На лёгкіх крыльлях імчыць да высяў,
за стромы гораў — туды, дзе ўзьлёт.
Заўсёды бачся, штаночы сьніся,
радзі аздобу, сьпялі ўмалот!

1944

* *
*

Ты плывеш, ты змагаешся з хваляй
колькі сілы стае.
Усё далей ад берагу, далей
рук узмахі твае.

Пеннай бельлю ўзьбярэжныя глыбы
серабрацца вакол.
Прыплываеш крыштальная нібы
і выходзіш на дол.

І ня ступіш нагамі ў сандалі,
і ня ўп'ешся цяплом —
неспакойная чайка у хвалі
зноў пакліча крылом.

Маёры, Рыская затока, 27. 5. 1944

* *
*

Скажаш мне — і пайду
празь лясы, праз узгоркі.
Хай далёка знайду
хлеб няўцешны ды горкі.

Але будзе той хлеб
за цябе маёй мукай;
горны край, дальны стэп —
не даўгою разлукай.

І цярпеньне маё,
і мой шлях у нязнанасьць —
прабуджэньне тваё,
нябыцьцю непадданасьць.

1945

* *
*

Хай ня стукаецца ў дзьверы
глухата часін засмучаных.
Ня ідзі на скрып асьвера
да крыніц, зьмяёй атручаных.

У вабдымках іхных тоне
подлы зман і здрада чорная:
назаўсёды свае тоні
замуціла сінь вазёрная.

1945

* *
*

Што ўчора мінула — ніколі
ня пройдзе шляхамі наўкольля.
А сяньня — да крозаў посьпех.
А заўтра — збытога посьміх.

Зьяўляйся-ж і станься красою,
разьліся блакітнай плюсою —
і яснай усьмешкай раньня
вянок твой мне ў вочы гляне.

1945

* *
*

А прайшоў я ці мала дарог у сьвеце —
мне было не да стомы ног.

Дзе вы, золку агні? Па начох ня сьпеце:
за сьпіной — вялікомы лёх.

Асьляпляйце яго — і, як сон, з далінаў
злыне чорная сажа дзён.
А блакіт?.. — "Воч маіх ты ў палон ня кінуў" —
пра цябе так хай кажа ён.

1945

* *
*

Дабрыдзень, мая зарніца!
Дасьпела твая пшаніца.
Прынось-жа свой серп хутчэй,
і ніве — цяжар з плячэй.

І сноп ты, зажаўшы, зьвяжаш,
пры працы мне шмат ня скажаш.
А вечар дыхне з лагчын —
пачую: — "цяпер спачын".

1945

* *
*

Найпершы парыў абяскрылены
штормам імгненным.
І досьвітку ўсьмешкі ахінены
дымам ваенным.

А даль, як і ўчора, тумаціцца
тропам цярністым...
Ідзе не барвоваю раніцай —
змрокам імглістым.

Так рана ў дарослась-ць канодныя
кінула косьці.
Мінае княі непраходныя
без маладосьці.

Ды як перад ёй ні туманіцца
шлях непаўторны —
вяшчуе наступную раніцу
промень вячорны.



1945



Далёка няўцеха разьвітаньня,
ня блізка сустрэчы новай дзень.
Ды сілаў аднэй табе ці стане
падужаць суцьмежную глухмень?

Ня думаць — ня быць табой сугрэтым...
Хай неба — у засьціле нямой, —
на волю імкнуцца перад летам
струмені, закутыя зімой.

Пшаніца расьце аж пад аблокі,
і сонца сьвятлее па сяўбе.
Даўжэйшы мой шлях у сьвет далёкі —
бліжэйшы зварот мой да цябе.

1945



З табою разам быў. Гайна... Крозы...
Ніколі забыцьцю не аддам.
А пацалунак твой... Дзьве бярозы,
і ўсхваляваны шум — зайздрасьць нам.

Я многа бачыў іх. Сьвет бяскрайны
на ўзьмежкі долаў-гор іх занёс.
Ды не забыцца мне водаў Гайны
і сьветкаў цёплых стрэч — дзьвюх бяроз.

І спатыкаю зноў. Быццам тыя.
Ці-ж быў далёкім я і чужым?
Ды мне цяпер яны — як сьвятыя,
і сумны мой пагляд — зайздрасьць ім.

1945



Ой-жа хітруньніца якая —
выгляд маленькае дзяўчынкі...
Ланяй нявінная ўцякае —
дзе-ж там шчасьлівыя абдымкі?!

Цяжка — ня ўгонішся за ёю.
Як-жа няўлоўную спаймаю?
Раптам павольнаю ступою
бег свой суцішвае ля гаю.

Блізка — далёкая так блізка.
Ой-жа і хітрасьць у дзяўчынкі!
Гасьне сукленнае агніска.
Будуць шчасьлівыя абдымкі.

1945

* *
*

Мінаюць дні. Прайшла вясна. Адзьзяць і лету.
А з дня на дзень чакаеш ты — яго няма.
Загінуў мо далёка дзесь у злыднях сьвету?
Забыўся мо — і неспакой трымціць дарма?

А бэз адцьвіў. І сенажаць зграбае травы.
Растуць жыты. Ім ня мінуць сярпа й вязьма.
Хмурнее твой пагляд вачэй — такі яскравы.
Чакаеш ты і тужыш ты — яго няма.

1945

* *
*

"Будзе дачушка у нас" — ціха шаптала.
"Можа" — падумаў і я... Раптам замоўк.
Помню: вакно адчыніў. Побач стаяла
яблына сьпелых пладоў. Травы, як шоўк.

Мякка зваліўся на іх плод сакавіты.
Вецер балонку хіснуў — шыба ў ёй: "Дзын..."
Штосьці ў тым звоне пачуў, думай спавіты,
і нечакана сказаў: — "Можа і сын". —

1946



Сьхіляешся над самаю калыскай —
ня дрэмле позірк маці.
А сонейка ўжо нізка, нізка, нізка —
спакойны сон дзіцяці.

І птушкі замаўкаюць каля ганку —
ня дрэмле позірк маці.
А ты яшчэ сьпяваеш калыханку —
спакойны сон дзіцяці.

1946



Клубочак-брацік бегае зь лётачкай-сястрычкаю,
і зьзяюць вочкі іхныя радаснаю зьнічкаю.
Ці раз, ці два аббеганы сьцежкі і дарожкі,
а на спачын ня просяцца кволенькія ножкі.

Высока звоняць жаўранкі — песьні ў іх панадныя.
Ня вабяць цацкі-звончыкі — вочкі больш прывабныя.
І ўявы ў неба ўзносяцца з клубікам на нітцы —
цікавы сьвет адчынены брацiку й сястрычцы.

1946



Да шчасьця шлях ня быў адчынены —
і рэдка твар зіяў усьмешкаю.
А ты цьвіцеш — твой стан ня сьхілены,
а ты ідзеш нязманнай сьцежкаю.

І нарадзіла ў дні гароцкія —
і боль, і мукі ня прыгнобілі.
І рысы ўсе твае жаноцкія
красу дзявочую аздобілі.

Краса цьвіце, і за дзяньніцаю —
ёй сталым днём да яснай волі йсьці.
Імкні, жыцьцё, жывой крыніцаю,
ня сьпі, жыцьцё, у стомнай кволасьці.

1946

* *
*

Аб табе успамін — найвышэйшая ўцеха,
неўтаймованы боль і надзеяў прачын.
І заўсёды ўва мне адгукнецца, як рэха,
аб табе успамін.

І ня гасьне зы мной, і пад сонцам праводзіць
да наступнага дня — да прасьвяды зямной,
а як ноч праміне — па зараньні ўзыходзіць
і ня гасьне зы мной.

1947

* *
*

Хочацца плакаць — стрымваю сьлёзы,
болю ня ўсьцішаць яны.
Стромкія хвоі. Ніцыя лозы.
Грэчкі. Пшаніцы. Ільны.

Зь імі, над імі стройная постаць
вёснаў ня йдзе спатыкаць:
цяжка ў няволі стан ёй выпростваць,
цяжка мяне прычакаць.

Толькі пабачыць — сьлёз ня стрымаю
(хто іх тады не пральле?).
Зь імі на заўтра радасьць хаваю —
я не праплакаў яе.

1947

* *
*

Ці-ж ты і не спаткаеш ніколі
тае, нідзе нязгаснай, зары?
Няўжо сьляпні бязмоўнай ня коле
зьяўленьне ейнай зьнічнай іскры?

Яна зырчэе ў праўдных — у сэрцы,
яна пералятае скрозьдонь...
Ратунку не знаходзяць няверцы —
гарыць сьветлапрадвесны агонь.

1947

* *
*

Нязмоўкная слава
імкненьням і ўзьлётам высокім!
Усходам, як сьпель, паўнасокім —
расіцца яскрава!

На мужным узьлёце
пагляд свой пястуе дзяньніца...
Ня ўспыхнуць — навекі спыніцца
у марнай сукроце.

Там сьветласьць ня ясьне,
дзе прысак тускнее ў нягодзе.
Хай зьнічыць, хай сонцам усходзе —
ніколі ня згасьне!

1947

II

## ВЯНОК САНЭТАЎ *

Мае найлепшыя дары — вянкі
Табе, праваобраз хараства адзіны,
хвалюеш Ты таёмныя глыбіны
душы людзтва, узьнёслай у вякі.

Ад лёгкасьці натхнёнае рукі
вузорнай казкай сьцелюцца тканіны.
Да сьветаў лёт збуджаюць сакаліны
на залатых палотнах мастакі.

Пад зорамі прарочымі заўсёды
змаўкаюць завірушныя нягоды,
сьпявае дол у хмелі веснавым.

Не памірае ў велічным тварэньні
крылаты дух пры бліску надзямным.
Як сонца йдзе ў прыцін — зьнікаюць сьцені.

---

* Друкаваўся ў часапісе «Конадні» (№ 5-6, 1958 г.) пад загалоўкам «Вянок першы», бо меўся быць першым у нізцы з трох вянкоў санэтаў. Як сьветчыць удава паэты, былі напісаныя таксама «Вянок другі» й «Вянок трэйці», але рукапісы іх загінулі ў вадным няшчасным выпадку. Паэта меўся аднавіць іх, казаў, што мае іх «усе ў галаве», але так і не зрабіў гэтага. (рэд.)

1.

**Мае найлепшыя дары — вянкі**
цьвітуць і сьвецяцца Табой, далёкай.
Зьвініш Ты ў думках песьняй сінявокай,
палонячы нясьціхныя радкі.

Ад водгуку шматцечнае ракі,
ад возера маўклівасьці глыбокай
Ты выплываеш над бясхатняй склокай,
у косах — сымбаль дому — васількі.

О Бэатрычэ Ты, о Ты, Прадзева!
Дажджамі зьнічак — зорных слоў улева
хвалу красе з вышыняў шле на дол.

Гамоняць ёю горы і нізіны.
Чалом ад неба і зямлі вакол —
**Табе, правобраз хараства адзіны.**

2.

**Табе, правобраз хараства адзіны,**
з малітвамі сьхіляю галаву.
Празь дзень і ноч адно Табой жыву...
Запальваецца ў небе Шлях Птушыны.

Зь яго, як дар, цурыцца неадхлынны
струмень сьвятла. Пад ім я наяву:
бывай, нязваблівы прыпын, — плыву
да берагоў каханае айчыны.

У ўскалыханым ветрам акіяне
цірах у вочы прывід сьмерці гляне,
спаткае час няўцешны і благі.

Усё адужае мой плаў няспынны,
бо Ты зы мною — радасьці й тугі
**хвалюеш Ты таёмныя глыбіны.**

3.

**Хвалюеш Ты таёмныя глыбіны.**
Маіх надзеяў, веры і быцьця,
вітай, прыймай асельца — не гасьця,
— шляхі ня вернуць да нямой чужыны.

О, выслухай: няма нідзе краіны,
цябе аддалай крыўдзе забыцьця,
і толькі ён адзін — тыран жыцьця
нявольнікам сваім зьгінае сьпіны.

З табою поплеч [illegible] — змагчы цяжар,
разьдзьмухаць да агню прыгаслы жар.
Ідзе вясна. І на зямлі адталай

пускаюць дрэвы сьвежыя лісткі.
Не абяскрыліць катаргаў навала
**душы людзтва, узьнёслай у вякі.**

4.

**Душы людзтва, узьнёслай у вякі,**
не закуе атрутная Гальгота.
Растопяцца ільды, замрэ сьпякота,
сьвятла ня сьцемраць горныя крукі.

Манахі духу, волі ваякі,
вам несьмяротнай вышыні яснота!
На нівах сьпее сонца пазалота,
крышталем неба звоняць жаўрукі.

Твой голас чутны. Ім сьпявае сьвет —
і колераў, і гукаў агняцьвет.
Лунае ён — вяшчун высокалётны.

Вакольля скарбы — зьнічы-маякі:
там ткуцца чарадзейныя палотны
**ад лёгкасьці натхнёнае рукі.**

5.

**Ад лёгкасьці натхнёнае рукі —**
крыла недасягальнага анёла —
цьвяцістасьці букет зігціць вясёла
з узьлесься шумнага, зь ціхой лукі.

Зьбірала краскі ты ў жмуты, пукі —
прывабу гарадоў, уборы сёлаў,
каб імі цешыць, радаваць наўкола,
атульваць яснасьцяй твой шлях цяжкі.

Красуе на абрусах беласьнежных,
на ручніках і покрыўках сунежных
старэнна вышыты расьцьвіт вясны.

У ім і велічнасьць — спазор вышынны:
як зьдзейсны сон, як чары даўніны,
**вузорнай казкай сьцелюцца тканіны.**

6.

**Вузорнай казкай сьцелюцца тканіны —**
зямлі, вышыняў пышны далягляд
з тваіх красён... Ізноў цьвіцее сад.
Пялёсткаў бель. Акацыі, зясьміны

так міла пахнуць. Рой гудзе пчаліны.
Як паланее ў звабе твой пагляд!
Вялікі Дом Красы — жывы прыклад,
у ўлевах навальнічных незагінны.

І будзе вечным працы плён трывалы —
над ім Сам Дойлід, зь веку ў векі дбалы.
Пачуцьці поўняцца агнём сьвятым.

З дарог зьнікаюць змрочныя заміны.
Нязьгіну парываньне, духу ўздым
**да сьветаў лёт збуджаюць сакаліны.**

## 7.

**Да сьветаў лёт збуджаюць сакаліны**
імкненьні думак сьветлых і надзей.
Юнацкі ўздых на паўніню грудзей —
ня кволасьці зьвядальныя адхіны.

І пад устрыбам чэзьне сык зьмяіны,
бо сіла ў пошугу, а ў поўзі — зьмей.
Хто ўзьнёсься над будзёньнем найвышэй,
багаславёныя той мае чыны.

Чар прыгаства — ня толькі красаў дань,
але і мужнасьць — рыцарства талань.
Яму шукаюць шчасьця і спакою

і напярэймы крочаць нацянькі —
на тых, зытканых вольнаю рукою,
**на залатых палотнах мастакі.**

## 8.

**На залатых палотнах мастакі —**
майстры малярства, музыкі і слова
Твой славяць вобраз велічна і нова.
Увысь, удалеч неба летакі —

імчаць у сьвет, якбы чараўнікі,
яго спад Вільні, Менску, Магілёва...
Ты чутна ўсьцяж — найсьпеўных скарбаў мова,
і бачна Ты — стан гнуткі і стрункі.

І дні, маўляў узмахі белых крылаў,
стаюцца лёгкімі ў бязьмежжы сілаў.
Перада мной — краіна дабраты.

Усходзіць сонца раньняй насалоды.
Плывуць у прыстань ціхую плыты
**пад зорамі прарочымі заўсёды.**

9.

**Пад зорамі прарочымі заўсёды**
адпачывае задуменны ніз.
А месяц у вадбліску хмарных рыз
на завані сутрыму лудзіць воды.

Ён добра ведае прыплываў ходы,
да блізкіх земляў. Глянь: зары карніз
на бор зубчасты палыменна зьвіс,
на вольхі за ракой, на азяроды.

Хай палыскуюць з даляў сьвігавіцы
адойшлай і зваротнай навальніцы —
адхіліць іх сьвітаньняў глыбіня,

яе засьлепяць сонечныя ўсходы.
У нараджэньні радаснага дня
**змаўкаюць завірушныя нягоды.**

10.

**Змаўкаюць завірушныя нягоды,**
падужаныя гартам і сьвятлом.
Засьвечвае сусьвету мудры дом
мільлённых зыркіх вокнаў карагоды,

глядзіцца нязьмігутна ў падысподы,
махаючы праменьневым вяслом.
Наўкола зорыць ласкай і цяплом
Спадар Найвышні зы Свае Гасподы.

Маўляў пасьля прыпару ў перасуш,
зямля празору высі піцьме ўсю-ж.
Заб'юцца найсьвяжэйшыя крыніцы

у ейных нетрах токам бруявым.
Адно зь нясну глыбіннае дзяньніцы
**сьпявае дол у хмелі веснавым.**

11.

**Сьпявае дол у хмелі веснавым,**
і мы ідзём, як і раней, нясьхільна,
заўжды трымаючыся ўпоруч шчыльна,
як войнікі ў зароку баявым.

Нязломны дуб здаецца векавым,
вакол сябе ўзіраючыся пільна,
з магутных рук расьсейваючы ўмільна
брыльлянты жалудоў дажджом густым.

Карэньне новае сьвідруе глебу,
галінкі жвавыя сьмяюцца небу,
расьце асёлкаў нязьлічоны ём,

іх пояць сокаў моцныя струмені —
прыроды сьветлазорлівы харом
**не памірае ў велічным тварэньні.**

12

**Не памірае ў велічным тварэньні**
Твае чароўнасьці сьвяты абраз.
... да-Вінчы, Рафаэль праз даль і час —
цяпершчыны з адвечнай славай гені

стае перад Табою на калені.
Ад зьгіну сьвету да ўваскросу — праз
аднетласьць і збавеньне — пераказ;
у няўміручасьці — Твае цярпеньні.

З Табой слабы — нязможны палядын,
асілак безь Цябе — бястроп'е ў зьвін.
Грукоча шквал сукрухаў і бядоты,

нявечыць, топча да жыцьця нястрым,
ня траціць, не заломлевае ўзьлёты
**крылаты дух пры бліску надзямным.**

13

**Крылаты дух пры бліску надзямным**
з узбуду ўзносіць да нязнаных сьветаў.
Там больш няма таёмнасьці сакрэтаў,
неразгаданасьці зьнікае дым.

Расьсейваецца ў пыле агнявым
шалёны гнеў распаленых камэтаў.
Ня ные сэрца — звонкі сьпеў плянэтаў
шугае ўсьцяж у віхры маладым.

Недасягальнае, будзь сябрам шчырым!
У жылах б'ецца кроў салодкім вірам,
плады ўпіваюцца тваім віном,

бальзамам глыбаў — дужыя карэньні.
Пад сінявою вышняй не засьнём —
**як сонца йдзе ў прыцін — зьнікаюць сьцені.**

14

**Як сонца йдзе ў прыцін — зьнікаюць сьцені,**
нішто ня засьціць велічы зачын.
Няхай гарчэе злыбедаў палын
ды йзноў шалеюць лютыя нішчэньні —

не разбурыць магутныя скляпеньні
нязломных сіл, не пакарыць нязьвін
непераможнасьці ў вуглёх руін!
Зь нясьхільнасьці яго твае багаславеньні.

Гарыць, нягаснучы, агонь праз дні,
праз ночы, сьвеціць з даляў, з блізіні,
з учора ў сяньня й заўтрае. У згодзе

яго пяроймуць прыйсьця юнакі.
Ім на ўспамін у шчасьці і прыгодзе —
**мае найлепшыя дары — вянкі.**



А. Салавей (у зборніку "Мае песьні", 1944).

## ДОМІК У МЕНСКУ

паэма

1

Цьвіці, вясна мая, цьвіці!
З табой парываў пошуг поруч.
Няхай зьнікае ў нябыцьці
глухіх часін туга і горыч.

Бязьмежжа нівай калыхай,
пашлі ім весьлівыя сокі —
зямлі і неба дар — няхай
узносіць іх узрост высокі.

З тваёй ацьвеценай красой
насіцьму ўсьцешаную мрою:
на луг, аздоблены расой,
ступлю з праддзёнаю зарою.

Прайду па ім гаспадаром,
паклон пашлю багацьцю ніваў,
сустрэну песьняю свой дом —
вяшчуняй спору й плённых жніваў.

Цяпер-жа — немань, ноч над ім,
тугой засмучаным харомам,
ахутаў далі зманны дым,
спакой трывожаць высі громам.

Жуда над вокнамі брыдзе,
круччо сядзіць на шэрых стрэхах...
Ты засталася у бядзе,
мая пакіненая ўцеха!

2

А з тым харомам-домам я
маленькі дом успамінаю:
над самай Сьвіслачай стаяў,
ці сяньня ён стаіць — ня знаю.

Я ў ім пражыў аднюткі дзе́нь
і ёй у ім глядзеў у вочы.
З вакна зайздросьціў нам прамень,
як мы, на розьвіт неахвочы.

Я голас ейны ў доме чуў —
той звон крыніц, нібы срабрысты.
Я з насалодаю адчуў
ягоны сьпеў крыштальна-чысты.

Пабачыў працу ейных рук
на ўзорах, ёю вышываных.
Я чуў — на вулцы голскі брук
змаўкаў, нібы зачараваны.

Мне помніць доўга дзень у тым
у доме простым, а раскошным.
Я мілым быў і дарагім
ягоным госьцем — мо й апошнім.

Бязьмежна ўдзячны дому й дню —
няўтоме рук і сьціплай працы:
пазнаў я зь імі прасьціню
пышнейшай над усе палацы.

3

Мы нарадзіліся наўзбоч
здавольлем выпешчаных сьцежак.
Сьляпіла вочы цемра-ноч,
сьвятлом нам быў маленькі ўзьмежак.

Мы працярэбвалі шляхі
да межаў дзён, заўсёды ясных, —
ды адшпурляў віхор ліхі
да ночаў вечных і заўчасных.

Ня песьціў зваблены пагляд
зарніцаў раньніх і вячорных —
хмурнеў суровы гул гармат
сьцяной дымоў — густых і чорных.

Нязгаснасьць радасьці здалёк,
як зьніца, клікала, будзіла —

ды прыбліжальны мужны крок
гняла антыхрыстава сіла.

Мы ня спыняліся, яе
вось-вось імкліва дасягалі...
Нястомна зло ланцуг куе
і ня сьціхаюць штормаў хвалі.

Куды ні глянь — на растанёх
прапекла крыж пакут прыгнула.
І тое, чым-бы жыць я мог, —
адным-аднюткім днём мільгнула.

4

Пакінуў з болесьцяй яго —
ізноў паклікалі дарогі.
А дому йшчэ ні аднаго
я не знайшоў — так сьвет убогі.

Як шоўк — ля дому на двары
краса мураваў аксамітных.
Як жвір — заморскія каўры
маіх прытулкаў нявыбітных.

Ля дому ў пуні моцны сон,
як пух — і сена, і салома.
Як грант — чужы начлег-прыгон,
не адпачынак — толькі ўтома.

Ці-ж у маёй бядзе цяжкой
магільны холад камяніцы
замене сьціплы мой пакой
у вокнах з позіркам дзяньніцы?

Ці-ж у мужчынскіх споднях твар
пад голс эпохі маляваны,
заменіць мне яе — той чар,
ні зь кім у сьвеце незраўнаны?

І той, хто страціў дом-харом,
пазнаў ля сьцен чужых і ўпартых:
палац з раскошай і дабром
яго, найбеднага, няварты.

5

І з росным ранкам, зь ясным днём,
і на зары, і на паўдзёньні,
"адзіны дом, каханы дом" —
няўціхна сэрца б'ецца-звоне.

Граніц мінаючы драты,
брыдзе мой лёс гарбатым дзедам.
"Каханы ты, адзіны ты" —
утораць сэрцу думкі сьледам.

Званочкі-краскі, васількі.
Ці-ж то яны? Яны-ж — далёчы.
Між іх мільгаюць матылькі.
А ў думках — толькі дом і вочы.

Рамонкі — безьліч, безьліч іх!
Адна краса — палі і ўзьмежкі.
А мне здаецца — вочаў тых
глыбокі смутак і... усьмешкі.

Маркотны шлях. І пад ступой
скрыпяць пяскі, бы сьнег аб полаз.
Я не спаткаюся з табой
і больш ня чуцьму ейны голас.

Ізноў палі. І бялізна
садоў-гаёў; на сэрцы — склока:
вакол вясна, цьвіце вясна,
а вы... ня блізка — так далёка...

6

"Драўляны дом, блакітны дом!
Маіх найлепшых мар прытулак.
Ці так-жа ўсё сваім вакном
глядзіш на вузенькі завулак?

"Ці шчасьцем ты сваім багат,
ці шашаль сьцены твае губіць?
Ці так-жа ўсё зялёны сад
тваю ідылію галубіць?

“Скажы ты мне, скажы ты мне,
дзе зараз тая, што начамі
малілася сваёй вясьне —
такая... зь сінімі вачамі?

“Ці ёй цяпер, як і тады,
ад нечага ўсё сумна, цяжка?
Як пражывае малады
свой век прыгожая манашка?

“Што зь ёй цяпер? Свой ціхі сум
яна ў вачох па мне ці носіць?
Гаротнасьць цяжкіх яе дум
каго разьвеяць яна просіць?

“Драўляны дом, пястуй свой сон,
гадуй у садзе свой спачынак.
Ты мар найлепшых пантэон,
адзіны дум маіх прыпынак”.

7

О, незабыўныя радкі
майго калегі М. Сяднёва!
Вы дум цьвяцістыя вянкі,
цытую вас я слова ў слова.

Я з вашым аўтарам пра вас
успамінаў у Беластоку,
і з вамі я тужыў ці раз
ля водаў Рыскае затокі;

і праз далейшыя шляхі
былі вы песьняю адзінай;
ступаў я з вамі празь імхі
лясоў Эстоніі гасьціннай;

і пры наслані — дымных днёх —
былі вы зьнічкай успаміну,
жылі ўва мне ў трывожных снох
і ў бамбасховішчах Бэрліну.

Ды Reich'у зьгін не пахіснуў
і не паставіў на калены;

мяне ад вас не адхіснуў
і стогн руін агністай Вены.

Як з вамі я, вы ідзяцё
за мной па скалах Альпаў хмурых.
І вы, як дом, — маё жыцьцё,
мая нясьхільнасьць у віхурах.

8

Як дом над Сьвіслачай-ракой —
найсьціплы скарб мае сталіцы,
так згадка — плач тугі, якой
цяпер трымцяць і вёснаў гліцы.

Адпорны сіберным вятром —
ён частка цэлага харому,
ды мне цяпер — бы сам харом,
нібы мой дом самога дому.

Яна-ж у ім — яна жыла,
мо й сяньня зносе ў ім няўцеху,
і пад крывавым пеклам зла
ня знае радасьці і сьмеху.

Мо ў тундрах, мо сярод пяскоў
нясе пакрыўдны зьдзек сваволі —
і па сьлядох яе бацькоў
далей грыміць ланцуг няволі...

Туга салодкая мая
даўно зы мною не сябруе,
а ў сэрцы джгаліць, як зьмяя,
і ў ёй, нібы ў вагні, гару я.

І дакарае мне: — "Чаму-ж
і дом, і ў ім яе пакінуў?
Няхай-бы ты — і сьмел, і дуж —
харобрым рыцарам загінуў". —

9

Ты дакарай мне, дакарай,
мая туга — неўтаймаванасьць!

Бясслаўна я пакінуў край.
А дзе-ж ахвярная адданасьць?..

На дол, сьцякаючы крывёй,
спадала чэрапная каска.
Ішла-паўзла на зьмену ёй
чырвонасплюшчаная маска.

Адна прад сконам: — "O, mein Gott!" * —
і сьмерць на месцы спатыкала.
— "Даешь! Дави его, вперед!" —
другая побач не змаўкала.

А дом... Яна — ці-ж гэта сон? —
сказала ветліва і цьвёрда:
— "Ідзі!" — бы грайкіх струнаў звон
прагуў распачлівым акордам.

— "На край і неба, і зямлі
ідзі, а злыбядам ня дайся.
Адтуль, дзе толькі ў снох былі,
неператоможаным вяртайся". —

Яна сказала ў доме мне —
і я паслухаўся наказу.
...Была вясна. Маёй вясьне —
заўсёды жыць, бы казцы-сказу.

10

А беларуская вясна —
я не знайшоў нідзе ёй роўных.
Краса на ўсёй зямлі — адна,
ды шмат у ёй аздоб чароўных.

І розьнасьць іхная ў вясьне —
і ў тэй вясьне харому-дому...
Як першы цёплы дзень блісьне,
марозу весьцячы утому, —

гарыць крыштальны, чысты сьнег,
і дзень, як сонца, — прамяністы.

* «O, mein Gott!» (ням.) — «О, мой Божа!» (рэд.)

Ледзь кропля звонкая зы стрэх
спадзе, маўляў змарагд агністы, —

і ажывае сьвет красы:
і дол, і неба — зоры й зоры;
і прачынаюцца лясы,
гамоняць рэкі і вазёры;

сьнягі струменямі вады
да іх імкнуцца нястрымліва,
плывуць і крышацца ільды,
пад сонцам таюць зігатліва.

Яшчэ руцьвянаю травой
ня ўскрыты ўзрэччы і пралескі,
а пад нябёснай сінявой
цьвітуць блакітныя пралескі.

11

Пяшчоту весьніх абыймоў
зямля ўдыхае шырай-шырай.
Шпакі вяртаюцца дамоў —
ня вабіць іх далёкі вырай;

лятуць у свой харом — у ім
найбольш, як дзе, цяпла й раздольля...
І з днём праменна-залатым
п'юць дрэвы сок сьвятла й здавольля.

Цьвіце, адцьвітвае гарэх.
Сьнягі зыйшлі. А дол — пад беляй:
Сё пух асінавы, бы сьнег,
кладзецца лёгкаю пасьцеляй.

Дымнее пахкая ральля —
ёй сейбіт зерне дорыць-сее.
Пчала сьпяшае да вульля.
Блакіт насупліва хмурнее.

Разважна крочыць першы гром
за хмарна-змрочнымі дзьвярыма.
Зямля, абмытая дажджом,
буяе пышнасьцяй кілімаў.

Зноў адчыняе дзьверы выш,
рвучы суцэльле хмар на болкі, —
зіяе зь іх праменны сьпіж
дугой шматколернай вясёлкі...

12

Вясна праводзіла ў шляхі,
дзяліла смутак разьвітаньня.
Над ёй глуміліся штыхі —
зьняслаўцы ейнага сьвітаньня.

І прэч, губляючы сяброў,
сьпяшалі захаду вандалы.
І зноўку несьлі зьдзек і кроў
сыны усходняе навалы.

Агнём пяклі адны адных
і агрызаліся агнямі.
Распачы крык, апошні ўздых —
нат ночы зблыталіся з днямі.

Як лістапад, спадала з дрэў
вясна, адцьвілая заўчасна;
і сам харом шугаў гарэў,
гарэў, здавалася, нязгасна;

схаваўся ў дыме і агні
і дом зруйнаванай сталіцы...
І доўга йшчэ ў далячыні
займаўся полыск палавіцы.

Жаўрэў крывёю небакрай —
куды ні йшоў я і ні ехаў...
Вялік шырокі сьвет-бяскрай —
бясконцы шлях пакут-няўцехаў.

13

За дом, за пышную вясну
ішоў і йду, і ня спынюся.
Павекаў стомных ня зымкну
у нясьціханай завірусе.

Мае цярністыя шляхі
вядуць да дзён, заўсёды ясных, —

не адшпурне віхор ліхі
да ночаў цёмных і заўчасных.

Шукае спрагнены пагляд
зарніцаў раньніх і вячорных.
Сьціхае строгі гул гармат
і кане дым — густы і чорны.

О, нездарма зара здалёк
мяне і клікала й будзіла:
пад прыбліжальны мужны крок
трасецца злыдніцкая сіла.

Само сабе ланцуг куе
прапекла й зло пад штормаў хвалі.
Я ня згубіў зары — зь яе
вачэй ня зводзіў у навале.

І на апошніх растанёх
хай ня зымкаюцца павекі,
каб тое, чым н жыць ня змог,
было маім — было навекі.

14

І з росным ранкам, зь ясным днём —
і на зары, і на паўдзёньні —
цябе я помніў, дом-харом,
цябе я помню і сягоньня.

Твая аздоба пекнаты —
і панад полем, і на полі.
Каханы ты, адзіны ты,
ты мне ня быў чужым ніколі!

Ішоў праз далеч нацянькі,
ступаў апоўдні, апаўночы,
у жыце бачыў васількі,
мне ў іх яе зіялі вочы.

Стаптаў ці мала мурагоў,
пераступаў, мінаў узьмежкі —
да незабыўных берагоў
мяне вялі яе усьмешкі.

І верыў: ёй ня быць рабой!
І прыйсьце блізкае вяшчую:
няўхільна ўбачуся з табой
і голас ейны зноў пачую.

Сустрэне цьвецень-бялізна
усіх садоў, адыйдзе склока.
Вакол вясна, цьвіце вясна —
і вы так блізка, недалёка.

15

Цьвіці, вясна мая, цьвіці!
З табой парываў пошуг поруч.
Няхай зьнікае ў нябыцьці
глухіх часін туга і горыч.

Бязьмежжа ніваў калыхай,
пашлі ім весьлівыя сокі —
зямлі і неба дар — няхай
узносіць іх узрост высокі.

З тваёй ацьвеценай красой
зьдзяйсьняю ўсьцешаную мрою:
на луг, аздоблены расой,
іду з праддзённаю зарою.

Прастую ў даль гаспадаром,
паклон нясу багацьцю ніваў.
Цябе вітаю песьняй, дом —
вяшчуняй спору й плённых жніваў.

Пад сонцам сьветла-маладым
і нада мной, табой — харомам —
ня засьціць неба трутны дым,
блакіт разьвеяў хмары громам.

А поруч нас яна ідзе,
аб ёй і водгалас — як рэха...
Цябе ня кінуў у бядзе,
мая нястрачаная ўцеха!

1944 - 1945



Алесь Салавей у 1936 г., у веку 15 гадоў.

## СЫН

паэма

1

Бядой прыгноблены твой стан,
мая пакутная айчына.
Красу растурзвае злачынна
працемрай шчорнены гаман.
Здабыць сьвятло, разьвеяць зман
ты здому выправіла сына...
Нясьцерпны боль, пахілы стан
і сьлёзы, мора сьлёз, айчына!

2

Яны, закулі што цябе,
шукаюць троп твайго дзіцяці.
Нясплямнасьць ганьбяць у пракляцьці —
у зацямрушанай кляцьбе.
Ці-ж у няроўнай барацьбе
устоіць сын — спадзея маці?
Ці сьмерць асочвае цябе
заўчаснай сьмерцяю дзіцяці?

3

А ў сэрцы голас: — "Хай няма
людзей з табой, а толькі горы,
няхай прытулак твой — у горы
бяз варты змрочная турма, —
цябе ня згнібе ціхама
няўхільнасьці memento mori. *
Мужней, будзь гартным, хай няма
цяпла, а толькі лёд і горы". —

4

І нястрыманы кліч: — Дармо
імгла ўсясьветваруша зманам,
не замаўчаць балючым ранам —
ня зьнеміць іх акоў ярмо!

---

* Memento mori (лац.) — «памятай, што памрэш» (Рэд.)

А гарт — зараньня пераймо:
ня будзе дом красы забраным!
Нарузе — небыт, і дармо
прытулак твой хмурнее зманам.” —

5

І словы ласкі: — “Чую, сын,
на сьвет ідзе-імкне нашчадак.
Няхай ня мірсьціцца на спадак
шчарсьцьвелы грунт чужых краін;
нясі-ж, каб род ня йшоў на зьгін,
у дом, свой дом сьвятло й парадак;
мой сын-дзіцё і бацька-сын *,
на сьвет ідзе-імкне нашчадак!” —

6

На сьвет насуплівы імкне,
як я, выношваны ў трывозе.
Ды на бязвыйсьцевай дарозе
у неспагаднай старане
у вокны радасьць ня зірне —
нядоля стогне на парозе...
А нястрыманае імкне —
і не закуць яго ў трывозе!

7

Ці над зямлёю дождж, ці град,
ці ня сьціхае навальніца,
ці сонца ўсьцешана іскрыцца,
ці тужыць месяц-сьветласпрат —
на шыр жыцьця зь нявольных крат
нястомна шлях куе крыніца,
і не саб’е зь яго ні град,
ні зімаў лёд, ні навальніца...

8

Душы трывожнай неспакой —
уся і ўцеха, і багацьце...

* Прыгадай словы Уладзімера Жылкі: «І зблытаў я, мой краю-войча, хто бацька быў, а хто быў сын...» (Аўт.)

Я горка плакаў, як пры ўтраце,
за наш, айчына, хлеб з вадой,
за болесьці дачкі тваёй
і за твае — за мукі маці.
Няўжо трывожны неспакой —
адзіны скарб наш і багацьце?

9

...Ледзь толькі дрэвы за вакном
у маладой лісьцьве-убраньні
спаткалі дзень, а промень раньні
праз шыбы кпіў над вашым сном,
здалося мне, збудзіўся дом:
— "Радзіўся сын!" — і прывітаньні...
— "Радзіўся сын!" — і за вакном
цьвілі сады ў красе-убраньні.

10

І я адчуў: шляхі мае
мінулі засьцьлівую хмару.
А сын пад мужным лётам чару
вырослым поруч паўстае,
рукам спачыну не дае,
перамагаючы прымару,
шляхі ягоныя й мае
выводзяць нас на шыр за хмару.

11

А там, дзе быў утульны дом,
і там, дзе скарб сьпяліла жыта, —
руінаў шчэрбы, і прыбіта
зямля ўраджайная дажджом.
Мой сын зь нязгасным сьветлым днём
кладзе цагліны працавіта —
і вырастае новы дом,
і ў полі скарбы сьпеле жыта.

12

Зьнікае мор ярэмных мук,
жыцьцё плыве на хвалях славы.

Будуе моцны мур дзяржавы
цьвярозы розум, сіла рук.
А сьледам зьмена — дужы ўнук
прастуе ў сьвет шляхамі явы...
Каб ты ня знаў ярэмных мук,
мой род, мацуй здабыткі славы!..

13

Прарочу: выпрастаеш стан,
мая цярплівая айчына.
З плячэй тваіх спадзе руіна —
нямы цяжар балючых ран.
Ня зломіць бураў акіян
будаўнікоў — і бацьку й сына.
Для іх ня сплямлены твой стан
і ты — жыцьцё для іх, айчына.

14

Табе-ж адданага жыцьця
ня знае хай memento mori.
Ягоны крок — ня шуст у зморы,
ня траваў шэпт, ня шам трысьця:
а бацька-сын і сын-дзіця
ідуць здалець злыбед хаморы!
І пад нясьхільнясьцяй жыцьця
сьхіляецца memento mori.

1947



Алесь Салавей з унукамі.
Мэльбурн, 1977 г.

## I

### ЯШЧЭ НЯ МОЎКНУЦЬ...

Яшчэ ня моўкнуць стройныя санэты...
І супіць бровы хісткі век атому,
і ў нашы рукі хаасную ўтому
упарта сунуць модныя паэты.

Ды ў снох ня сьвянуць збожжавыя леты,
куток праўдзівы продкавага дому,
паклон удзячны спогаду зямному,
малітвы шчырай пошуг у сусьветы.

А вы жадалі-б зь векапомных стромаў,
культураў даўных зьмесьці веліч томаў?..
Пайду няўхільна сумны, адзінокі

(у суме — праўда, ў вадзіноцтве — сіла)
туды, дзе думка клікала, будзіла,
дзе вам зьгібеньне прараклі прарокі.

1947

### ЯК ВАС...

Як вас прысыпле глейкі груд магілы,
ці хто стрывае ў сьвеце завіруху?
Душа — ня цела — абмінацьме скруху
аж там, дзе яснуць зьзяйныя сьвяцілы.

Над пусткай долі йшчэ разгорне крылы,
як ён спачыне ад п'янога руху.

Абдорыць глебу чыстым зернем духу —
жывым насеньнем несьмяротнай сілы.

Яно ў тваім-жа неспакойным сэрцы
расло, буйнела, каб ня сьцерлі гэрцы, —
ты сам кунежыў, не аддаўшы звадам.

На месцы прышлых папялоў плянэты
зь яго пад сонцам зноў узыйдуць кветы —
пышнецьмуць буйна выпешчаным садам.

1947

## ЦЕМРА

Сьвятлу пагібель прагрыміць імгненна,
мана спапеліць вашыя аблоні.
А вас цікавяць рук маіх далоні?
Мазоль свой жорсткі я здабыў сумленна...

І мора дужым рада бурапенна,
імклівай хваляй у нязнанасьць гоне.
І гінуць людзі — іх зьмяняюць коні.
і цёмнай сілай дыхае гэенна.

А недасьпелым ападае колас,
а непачуты замаўкае голас.
Паўзе аблуда іхны сьлед зацерці.

Ты іх мінаеш — ня шукай збавеньня,
ты іх абходзіш — спатыкай зьгібеньне,
мацуй на скон свой валадарства сьмерці.

1947

## РАСТВО

На беспрасьветным нашым бездарожжы
няўзнак абыйдзем плач жабрачай леры,
сям'ёю дружнай пры Сьвятой Вячэры
згадаем дом свой — сумны і прыгожы.

Палынуць думкі па Дзьвіне, па Сожы,
па Нёмне, — ўсюды — праз пацёмак шэры:
—"Настала радасьць" — стукацьмуцца ў дзьверы —
"Радзіўся, людзі, збаўца Вам — Сын Божы!" —

Спавіты змрокам лятуценьні нашы,
п'ём сьлёзы мукаў зь недапітай чашы.
Сьвятла шукаем — не знайшлі нічога.

О дзе-ж вы, дзе-ж вы, што цяпер ня з намі?
На кручах сьвету не спачынем снамі,
спаткаем разам прыйсьце дня сьвятога!
1947

## НЕСЬМЯРОТНАСЬЦЬ

Ня я — вы самі здраднікі народу:
прадалі д'яблу і душу, і цела.
Ці-ж вам, асьлеплым, сонца зігацела?
Нібыта яснасьць спавіне нягоду.

На кліч аблудны — нязычлівы зроду —
аторай клумнай паўзяцё зьдзічэла,
каб сьцяг бясплямны, што трымаю сьмела,
падбіць, зьбяшчэсьціць, як маю свабоду.

Сё вам — зьняслава. Мне-ж няўспомірс мукі:
уздымуць волю іншых вояў рукі,
натхнёных раньнем, непадданых змусе...

Таўпе прадсконнай я жывым ня дамся,
і пад нязломнасьць — голас небу: — "Станься!" —
Сваёю сьмерцяй зьгіну, не скаруся.
1948

## АРДЭНАНОСЦАМ

Вам прышпілілі ордэн той-жа самы:
пышлівы гонар адмысловым катам.
Нясе нядрэмнасьць варту вашым хатам,
для сьмерцяў новых выкапаўшы ямы.

На ўяўнай цноце нат ня змыты плямы
крыві, пралітай закаваным братам.

Ну што-ж, тварэце неўгамонным сьвятам
і т а т у — бацьку гучныя рэклямы!

Рука у путах — "Слава!" — піша — "Слава!"
А розум цьвердзіць — "Зьгінь, прысуд крывавы!"
Не, гэна бляшка таннае мэдалі

душы ня сьмеціць, з думкай не начуе,
і вусны шэпчуць — толькі Бог вас чуе —
збавеньня словы — іх вы не прадалі.

1948

## КРЫВІЧЫ

Старэтных вечаў водгалас пасьцежны,
твая йшчэ слава штормамі ня сьцята.
Гудзе званамі вольная Палата,
Дзьвіною рушыць на прастор бязьмежны.

Прабудны покліч — гоман прыбярэжны —
далёка чутны — навакольле ўзьнята:
— "Хай зьгіне цемра! Час табе, адплата!" —
— "Хай сонца ўзыйдзе! Прэч, набег драпежны!" —

А чольны шэраг вой вядзе адважны,
мячом падступным грозна-недасяжны.
З гадоў паходных і зь вякоў суровых

ня сьцемяць змрокі раніцы краменнай.
Над ёй лунаюць сьветласьцяй праменнай
нашчадкаў сьцягі ў далях пурпуровых.

1948

## НЯХАЙ

Няхай да скону будзеш ты бяздомны
бяз хатняй ласкі, радасьці айчыстай —
акроплюй потам на зямлі агністай
нямыя шахты і глухія домны;

куй на кавадле водгук даўгапомны
сталёвай сілы, моцнасьці вячыстай —
застанься зь верай і душою чыстай
заўсёды дужы і нідзе нязломны.

Ды помні: прышласьць сьвеціцца ў зары ўся,
і ты аблуднай цемры не скарыўся.
Цяжар чужыны зь віхрам волі дружны.

А пошуг мрояў — зы збыцьцём суладны.
У край жаданы, праўдзе падуладны,
ідзе нясьхільна толькі той, хто мужны.

1948

## ЗАРАНКА ЎСХОДУ

Ці адчуваеш? Вёсны адшумелі
з пары, калі мы вольнымі арламі
шугалі ў высі... З хвалямі-кругамі
пакінуў човен долы, травы, мелі.

Да іх з праводзін чайкі адляцелі.
Ці новых стрэнеш перад берагамі
нязнаных сьветаў? Дзесьці за марамі
ці ты спачынеш? На якой пасьцелі?

Тускнее захад. І заранка ўсходу
на ўзьлётных крылах будзіць насалоду —
у ёй сьвітальна-велічнае штосьці:

жыцьцё няўхільна хіліцца да сьхілу,
але ня зьляжа ў цёмную магілу
жывы адвеку подых маладосьці.

1949

## З А

За цёмна-сінім, за Чырвоным Морам
спатканы будзеш акіянам хмурым.
Ды ты ня з долаў, сьхіленых віхурам,
не з узьбярэжжаў, падуладных зморам.

Хай загамоняць зьюшаваным хорам
ліхія хвалі, хай з глыбіняў мурам
твой шлях загацяць, — не, ня быў панурым —
не паддасіся зрадлівым спакорам.

Што паўстрымае з волі і навагі
імклівасьць дужых? Глянь на шчоглаў сьцягі:
яны палошчуць пад вятрамі, бурай

у шызым змроку свой узьвіў сьвітальны —
праз шэрань хмараў у блакіт крыштальны
узносяць пошуг над вадою бурай.

1949

## ПРАЗЬ НЕСПАГАДУ

Да сонцаў ясных, як сваім вяслом-бы
ні гнаў ты човен — лятуценьне-мару, —
не завітаеш да Мадагаскару
і не закінуць хвалі да Калёмбы.

Ці-ж то адзіны у шляхох залом быў?
Празь неспагаду ты пайшоў на кару,
не прамяняўшы дубу, ясакару
на чырвань вежаў, на шаблёны-плёмбы.

Няхай Гвінэя, ці няхай Гаваі —
і найдалейшы кут не пахавае
дум неразьменных і аб ліпе гойнай,

і аб бярозе, і аб думным клёне —
аб тэй прывабнай пекнаце-аблоні —
бязь іх ня зьлечыш болі нявыгойнай.

1949

## УЗЬВІЎ

Бунтуе воды акіян грымотны —
прадонна-жадны і дабру і ліху.
Гамоняць хвалі — ім няма суціху.
Чаму-ж ты, дружа, хмуры і журботны?

У стомным шэпце ветразяў узьлётных
узьвіў слабее, просіцца аддыху.
На блізкі ўзьбераж дзень прыляжа крыху,
пасьцеле зь пены белыя палотны.

Над сном спачыну ўзыйдзе месяц нізкі,
сыпнуўшы ў завадзь агнявыя бліскі.
Як дол пяшчаны ўтульнага кунежжа,

ён агартае залатым спакоем...
Ледзь золак, — зноўку збуджаны прыбоем,
вітацьмеш далеч бурнага бязьмежжа.

1949

## НАДОЙСЬЦЕ

Старчма прыўстане вадаплаў на грудзе
шалёнай хвалі акіяну-гневу.
І зноў удалеч празь вятры і ўлеву
шляхі ськіруе — непакорны зблудзе.

Далёкі бераг-Конадзень. Ён будзе
прадвесьцем зыркім збытага спадзеву.
Раджайнай глебе-пешчы — дар засеву,
пустэльнай зьлечы — зьгібель у вагудзе.

О, не скарайся навальніцам грымным,
плыві да спыну сьмелым, непаўстрымным!
У віхрах пенных не паддайся звадзе.

О, ненаўвеце золата якойсьці
нязнанай выспы, а тваё Надойсьце
шуканай волі ў славе і прасьвядзе.

1949

## НА ЦІХІ БЕРАГ

На ціхі бераг ступіш асьцярожна,
каб не нарушыць даўнага спакою.
Чароды-ж думаў хлынуць талакою —
за далягляды палятуць трывожна.

То-ж бо ў ваддалях жыць ім толькі можна,
дзе круг жыцьцёвы вірыцца ракою,
дзе над палянай, сонечнай лукою
нябёсаў веліч зігаціць пабожна.

Дзень учарашні кануў за марамі.
Яго хацеў-бы ацьвяціць дарамі —
пярлістым скарбам знойдзенае волі.

Калі-ж сустрэне заўтрашняе зь сяньня,
збудзіўшы ў росах раньняе сьвітаньне —
ён не адыйдзе ў незварот ніколі.

1949

## ВОДДАЛЬ

Прачнесься воддаль зь першым "ку-ка-рэ-ку",
яшчэ сампоўнач. Досьвітак ня блізка.
Спакой сялібы. Раньняя адбліска
зары далёкай не замжыць павеку.

І адчуваеш вейную бясьпеку:
высока зьзяе празаранкі рыска,
і песьціць долу зыбкая калыска
шляхі ў нябёсы птаху-чалавеку.

Ляце празорнай за гарой крутою
купацца ў сонцы, сябраваць з хадою —
абы да траваў дакрануцца босым,

па дабравесьці — громе пяруновым
як і ў маленсьцьве, усьміхацца новым
ліпнёвым краскам і купальскім росам.

1952

## СЛОВА

Яно паўстала на тваім пачатку,
было цяплейшым, найласкавым: — “ма-ма”...
Сьціскала сэрца ўтратных зыкаў гама,
калі забралі і яго і татку.

Зрывала восень з дрэў, з палёў апратку.
Ступаў у безьведзь — стрэла школы брама,
за ёй пабачыў: слова — цемры яма.
Сьвятло блізкога зьзяла толькі ўкрадку.

Пад перагасай штормаў, бураў, ветраў
расхрыстаў грудзі найглыбейшых нетраў —
жыцьцё пульсуе рытмам незмаўканым:

ад нівы хілай, стромага узвышша
шырэй гамоніць, больш узьнёсла піша,
папеліць жахі вольных дум вульканам.

1952

## НЯ З ВАМІ

З трыбунных высяў прамаўлялі ўчора:
— “Калі ня з намі, першы ўчынак — зрада!”
А сяньня ў засьці заўтрашняя ўлада,
і нявыразна весьцяць гойнасьць зоры.

Вы гэтак хутка падаліся ў норы —
і млоснай сыці думка ваша рада.
Разьменных пешчаў танная прынада
душу прапасьціць у прадажнай зморы.

Часы мінаюць. Тыя, што ня з вамі,
крыштальнасьць духу ўзносяць над вякамі,
яны — надойсьця чолы-авангарды.

Але ў прадоньне заламаным крокам,
найсьвятшых скарбаў зманлівым вырокам,
цяжкія цэглы ганьбы і пагарды.

1952

## ЗМАГАРОМ НАРОДУ

Хай ваша слова вечна расьцьвітае
і будзе клічам да жыцьця народу.
Яго гнялі ўсе — з захаду і ўсходу —
зьнішчалі поступ рупнага ратая.

Як поўнач зыйдзе — новы дзень сьвітае,
узыйсьцем сонца весьцячы пагоду.
Знаходзіць шчасьце, дзіўную прыгоду
уцехаў зыркіх раніца сьвятая.

Ваяўнікі вы лепшай, шчаснай долі!
Ваш дух крылаты негадзі адолеў,
аздобіў праўду пышнымі вянкамі.

Бязьмежна ўзьнёслых, вольных лётаў птахі
высока ўзьнесьлі духу краю гмахі —
пазамінулых і перад вякамі.

1952

## НАД СЛУЦКАМ ДНЕЕ

Над Слуцкам днее. Гасьне ноч на зорах.
І зь першым сьнегам вецер дзьме калючы.
Прастуе ўперад рыцар няўміручы,
за ім — нядрэмнасьць вояў у дазорах.

Ён бачыць золак, чуе кажны шорах,
вітае ў думках сон прабудны Случы...
Абшар бязьмежны і прастор нясплючы,
у вас ня мае месца хіжы вораг.

Агні жывыя, іскры лістападу,
узьлётнасьць ваша не зазнала спаду.
За вас у муках рыцарскай дарогай

крывёй сьцякалі, гінулі і мерлі,
каб вас навекі злыбеды ня сьцерлі,
каб вы сьвяцілі прыйшлай перамогай.


1952

## НЯ СЬПІШ СПАКОЙНА

Ня сьпіш спакойна, мой далёкі браце,
як сполах ночаў, дні твае насталі.
Пад звон зялеза і пад скрыгат сталі
імкненьняў пошуг прападае ў страце.

Бяз спыну ў доме, без начлегу ў хаце
капаеш долы, засяваеш далі.
Пад імі злыдні праўду пахавалі —
куеш навекі ім сваё пракляцьце.

Непакананы жорсткаю пакутай,
перамагаеш зьмея мукі лютай.
І шлях паўторны да жыцьця зь цярпеньня

няволі злуду паліць пярунамі.
З табой, зы мною — крочыць поплеч з намі
паўтору-кругу зьмена-пакаленьне.

1952

## ЛІСТ

На сьнежных землях поўначы халоднай,
сярод абтокаў, званых Салаўкамі,
дзе дні здаюцца доўгімі вякамі,
пад сэрцам носіш ліст ад маці роднай.

— "Ратуй нас, Божа... У бядзе заўсёднай
ня дай нядолю зносіць жабракамі...
Вярні мне сына..." — Злоснымі ваўкамі
жахаюць вочы варты падкалоднай.

Пайшоў на мукі, цемраю караны,
за словы праўды — покліч няўстрыманы,
за водгук славы, сьцертай ланцугамі.

Драбок найменшы ад крыві ахвярнай
ня гіне кропляй, згубленай і марнай —
плыве раскутай волі берагамі.

1952

## ЛЁС

Ні над вазёрнай гладзяй ціхай, пляскай,
ні над марскою ўстрыбнай хваляй-лявай
ты ня ўсплываеш з бліскавічнай славай,
ня поўніш сэрца радасьцяй і ляскай.

Твой лёс няўмольны: у далоні пляскай,
зь бядоты цешся над прысуднай лавай...
І ўзьлётай мрояй і жывою явай,
і дзіўнай песьняй, і чароўнай казкай.

Узносіш крыльле, а шугаць ня можаш,
будуеш месты — ды бяздомных множыш,
кіруеш аўты ў водбліск магістраляў...

Прыблуда едзе, селіцца, лятае,
і там, дзе слова, і краса сьвятая —
балюе, топча крыўду сьлёз-караляў.

1952

## ЗГОДА

Салодкіх песьняў аб свабодзе, міры
ты чуў ці мала — іхнаму паўтору
няма і краю. Глянь спад гаю-бору —
на нівы лезуць жудасныя ўпыры.

Нібы ягняты, у жыцьцёвым віры
лісьліва ўторацць шуму жыта-хору:
— "Жыве між намі згода без дакору,
як вы, наш голас непадкупны, шчыры".

Сваймі вачыма з думкаю прадбачнай
ня зычыш полю долі небарачнай.
Але расьціна падпадае, сьвяне —

цішком спакусьнік смокча зь яе сокі.
А на трыбуне радыя прарокі
ёй весьцяць шчасьце, радасьць, красаваньне.

1952

МАЛА

Спытаюцца ў цябе трыбуны масаў:
чаму маўчыш так шмат і творыш мала?..
У сьвеце хварбаў радасных і красаў

кальчэе з холаду зямная гала.
Ствары мэлёдыю вясны, музыка,
яшчэ й зыграй, каб маса не праспала

сьвітаньня прыйсьцьнага. Ды пальцы — смыка
і струн іскрыпкі не кранałі здаўна.
Ня вобразы ў суладнасьці вялікай,

а зьлітыя ў вадно — і флёра й фаўна
твой зрок заслоньвалі. Цягнуў ты лямку
кавалка хлеба дзённага бясслаўна,

і біўся ў пазачыненую клямку
кавадла й молата, рыдлёўкі й кіркі.
Ты меў адну прызначаную рамку —

ублізь і ўдалеч, удаўжкі і ўшыркі —
мятлу, мяшкі з пшаніцаю ці соляй.
Зьгінаўся горб — і неба водбліск зыркі

ня мог, пануры, ты разгледзець болей.
...Прыгноблены і стомай, і зьмярка领ньнем,
ня цешаны дабром, хвалёнай воляй,

сядаў тварыць, іграць. Ды парываньнем
цябе натхняла Муза неахвотна.
О, лепш было маўчаць з убогім граньнем,

бязь сябры доўга плачучы маркотна,
бяз Бацькаўшчыны плачучы заўсёды...
Душа няўстрым пакутвала гаротна,

сузорны шлях да вышняй насалоды
шукаючы ў празьмерлівым гарэньні.
Натуга сіл падужвала нягоды —

і захлыналася чуцьцё ў натхненьні.
Ты йзноў сядаў. Сугучны хор бязьлікі
гучэў у дыямэнтавым тварэньні.

Тады ў вакрыленых руках музыкі
іскрыпка валадарна, думна грала.
Луналі з крышталёвых тонаў зыкі —

скупыя зыкі — іх было так мала...

1952

## II

### НА ЧЫСТЫМ АРКУШЫ

Александрыйскі верш! Ты пад рукой Максіма
гучнеў і ажываў — з табой жыла радзіма:
і ейны колішні, і ейны прыйшлы дзень,
нятускная краса і сіл зямных струмень.
І зь імі ты ня змоўк. А думка рвецца птахам
сягаць,ісьці з табой праведна-зьнічным шляхам —
туды, дзе йшлі бацькі, куды йшчэ не дайшлі.
Ня зьбіся-ж, верны сын, — шмат зблытаў на зямлі.
Дык будзь, мой чуйны верш, прасьвядай і спамогай.
Дарэмна не скажы і пра мяне самога:
"На чыстым аркушы, прад вузенькім вакном
прыгожа літары выводзіць ён пяром...".

1947

### АДЗІНОЦТВА

Пазбаўлены ўсяго, цярпеньнем сум падпершы,
знаходжу супакой — яго прыносяць вершы.
Глядзіцца сьлепа ў ноч халодных шыбаў шкло.
Мітужны каганец — і ўцеха, і сьвятло.
Ды цемры акіян ня можа кроплю гэту
майго агню ўтапіць. Чужы і вам, і сьвету,
ня гасну я ў нудзе, у сьценях нябыцьця —
наслань зьнямеласьці ня стне майго чуцьця!
Яно знайшло ў сабе і дол, і шлях уласны —
над імі зазігцеў дзяньніцы позірк ясны.
Разьвейваецца змрок. Займаецца зара.
Ідзі-ж насустрач ёй — пара табе, пара!

1947

### НОВЫ ГОД

Штагоду — Новы Год. Надзей вякі наўкола.
Між іх твайго жыцьця ўсё звужваецца кола.
Збыцьцё надзей за ім? О не — сьляды няўдач!
А ў ім, як у вузьле, — і боль, і сум, і плач;

і сыплюць шаць злыбед яны табе на скроні,
а ты — усёй душой — на водгульныя гоні,
дзе быў на золку дзён сьвет вечнасьці, як дом,
і ў ім, нібы сам Бог, ты быў гаспадаром.
Цяпер ён — зроку даль. А для душы — бліжэйшы
парыў назад у сьвет — праўдзівы, найвышэйшы.
Яшчэ адзін парог — СузорныНовы Год, —
Яшчэ адзін твой крок — да вечнасьці зварот.

1947

## МАКСІМ БАГДАНОВІЧ

Далёка ад зямлі прадзедавых загонаў
ён песьціў у душы гармонію паўтонаў.
Ды сэрца рвалася на волю, на прастор —
туды, дзе гуў лясун, шумеў спрадвечны бор,
і сон вадзяніка, і зорных ночаў лоні,
мінуўшчыны сьляды, і коньнікі Пагоні,
мадонаў вобразы, случанкаў паясы.
О, васільковы край бязьмежнае красы!
Адведаў шыр тваю — ды ёю дыхаў мала...
А вечнасьць разам зь ім цябе не пакідала,
і памятаць заўжды — апошні быў зарок,
а зь ім — нясьвяны дар — ацьвецены в я н о к.

1948

## І СОНЦУ, І ВЯСЬНЕ

Ня зрада гэта, не, і гэта — не каханьне.
Чаму-ж чакаем так натхнёнага спатканьня
з табой, адданаю ня мне, мной — не табе?
Калі-ж той радасны, жаданы час праб'е,
мы падуладныя вышэйшым чулым тэмам
сьпяшаемся хутчэй у сьпеўны Mozarteum.
Там гімны йскрыпка шле і сонцу, і вясьне.
Нялюдзкі скача смык па ўзбуджанай струне.
Так Паганіні йграў. З Флёрэнцыі азванай
плыве ягоны сьпеў валвою ўсхваляванай.
Ён ня мінае нас і знойдзенай зямлі
спад Сожу і Дняпра, спад Нёману і Вяльлі.

1948

## СЯРОД ЧАРОЎНЫХ НІЎ

Спаткаўся я з табой, вясёлай і ўрачыстай,
сярод чароўных ніў Лямбардыі цьвяцістай.
" — Твая адзіная — ты цешыла — зы мной:
пад вышняй сьветласьцяй, над пышнасьцяй зямной.
Я зь ёй, як ты, прыйшла спад неба — яснай сіні,
табой асьпеванай, да йскрыпак Паганіні.
З валошкавых шнуроў, з пралескавых палян
прынесьлі мы свой дар і ў песенны Мілян.
Лунаў там наш — твой сьпеў — нязмоўкны голас
краю.
Зь ім слаўныя шляхі да зьнічнага бяскраю:
да водаў буйных тых, якімі ўсе плыты
вядуць да берагоў, адкуль і мы, і ты".

1949

## ЗІРНІ

Я не хачу сустрэць за цёмным акіянам
вачэй заморскіх юр ды іхным быць каханым.
Зірні, як пеніцца абшараў водных шквал,
слупамі ўзносячы пад неба грозны шал.
Нягода праміне — і студзенем падлёдным
утаймаваны гнеў замрэ у сьне халодным.
І ня ўзбудзіць яму прытоеных віроў
бяз буры лютае — хаўрусьніцы вятроў.
А смутак вечны твой — той ціхі позірк зорны,
далёка ад цябе, згасаньню непакорны,
у звабным харасьцьве ўзыходзіць над парой,
лагодзіць пешчамі і сьвеціцца зарой.

1949

## СЬВЯТАЯ

(На матыў Р. М. Рылькэ)

У полымі вайны народ марнеў ад спрагі,
сьцюдзёнае вады нат з падарожнай плягі
ён і глынка ня меў. Дзяўчына — стройны стан —
пайшла шукаць ваду, лячыць народ ад ран.

Празь сьпёку, едкі дым малітвы несла Богу,
і стому зносячы, прасіла ўсім спамогу.
Ды вось пагляд застыг на юнаку адным —
ён быў паранены. На твары маладым —
васкова-жоўты сьцень, бясьсільля выраз цьмяны.
Сьхілілася яна, перавязала раны,
прынесла ў прыгаршчах крынічнае вады.
Яшчэ вам доўга жыць, юнацкія гады.

1949

## І ХМУРНЫ ПАС РАДЗЕЕ

На Schafberg узыйдзі. Зубчастаю калеяй
маленькі паравік паўзе ўгару далей — і
ужо ў вышынях ты. Пад шэрай ватай хмур
суседніх гор сьцяна — нібы халодны мур.
Пад сьхіламі — вясна, і хмурны пас радзее, —
ты бачыш дол, прастор, блакітнае Mondsee
іскрыцца і блішчыць. А хвалі... Ці-ж яны
ня тыя блізкія журботныя ільны?
І вось, каб толькі знаў, і вось, каб толькі ведаў
каротшы лёту шлях — адразу-б іх адведаў.
Цяпер-жа йзноў — уніз. Зубчасты тор ізноў.
Маленькі паравік разбудзіць з мройных сноў.

1948

## ЗВОН

Пад сьпёкай сонца дзень пры вечары растаяў.
А ты йшчэ не даплыў да ўцехі — да Гаваяў.
Ці ўгледзіш песьняў дол, ці ўчуеш небны звон
зямное цішыні? Прываблены здавён
гамонкамі палёў і казкамі лясными,
твой позірк зігаціць абтокамі адныміі:
там травы — зык зямлі, ды рэкі — вадаграй,
там дрэвы — струнаў звон, ды краскі — сьпеўны рай.
Там родзіцца, расьце і там цьвіцее тое,
што блізкае табе і песьні маладое,
так знанае, як даў уцяміць Сам Спадар, —
нідзе няўтратнага жыцьця твайго аўтар.

 1949

## ПАЛЯДЫН

Зь дзядоў і прадзедаў — гады ў вякі наніжам —
спыніліся шляхі аж пад Паўдзённым Крыжам.
Зь ім верных пяць сяброў. А ты — зусім адзін.
Куды-ж цяпер ідзеш, нясьхільны Палядын?
Спакой вакол цябе. Ня хочаш ты спакою.
Хто вольны — дужы той. Сьцяжынаю цяжкою
ты прагнеш праставаць імкненьню наўздагон —
туды, дзе йшчэ жыве драпежны мастадонт.
Пад стомаю ў руках ня сьхіліш галябарду.
Ты зь ёй нясеш любоў, нянавісьць і пагарду.
Нянавісьць — жорсткі скон ап'яненым крывёй,
любоў — для спрагненых бальзам вады жывой.

1950

## НАДЗЯМНЫМ

Ніяк няўсьцешаны нязвыклым новым сьветам,
яшчэ ты не чаўрэў у сутарэньні гэтым,
дзе за халоднаю цаглянаю сьцяной
папугу і кату, чымся табе зы мной,
больш выгады й цяпла. Нямудрыя стварэньні
крычаць, пішчаць, няма спакою ў сутарэньні.
Газэты і лісты адхінены. Ты сьпіш.
І гасьне каганец. Міргкі Паўдзённы Крыж
празь цёмнае вакно, закутае у краты,
твой запалоніць сон. Ня зьведаеш ты страты:
тугі адлыне боль у забыцьці адным —
яе Паўдзённы Крыж атуліць надзямным.

1951

## РАЗЬВІТАНЬНЕ

Паставіла на стол букет вясновых кветак
і адыйшла. А я — твайго адойсьця сьветак —
застаўся з горкаю, журботнаю думой;
ты бязь мяне, яна-ж — дума — усьцяж зы мной:
навошта ты прыйшла у мой гасьцінны хорам

ня ўцехаю спавіць, а сьціснуць грудзі горам?
Бяз сэрца і душы агнём сваіх вачэй
запаланіць змагла. Куды было-б лягчэй
ня ведаць цяпліні, што застаецца лёдам,
ня песьціць пустыша, што вырасьце бясплодам;
ня быць прывабленым адойшлым ад вясны,
ня бачыць той букет — ня польны, не лясны.

1952

## У ВАКІЯН

Ступіўшы на зямлю, імкнешся да ўзьбярэжжа.
Ізноў у вакіян твой плаў дарогу рэжа,
нібы спакон вякоў прапрадзедаў нарог
імкнецца супачыць у пушчах, у барох.
У ўзбуджаным бары, ля шматгаліннай гушчы,
пад гоманам вятроў у ўсхваляванай пушчы
табе сам Архітэкт там дом пабудаваў —
цудоўны дом зь імхоў, з кашлатых дрэў і траў.
Пад домам тым бруяць крыніцы надзямныя,
зь зямлёй злучыўшы высь у сокі наліўныя.
Пры гэным доме — дуб, таполя, важны клён —
старая Грэцыя, найдаўны Бабілён.

1951

## СУМ

Агні ўзьбярэжныя пагасьлі за вадою.
На моры вусьцішна. З маркотай і бядою
ты лепш мяне, зямля, навекі пахавай.
Маё апошняе, распачнае: бывай,
бывай, нязжытае буйное ўцехі ніва!
І ў струнах горычы збуджаецца шчасьліва
яшчэ нястрачаны дзівосных зыкаў час.
Ты бачыш: твой маяк у цемры не пагас.
Як соладка ўва ўсім, чаго няма, знаходзіць
здавольле, хоць яно ўсуполь з нудой ня ходзіць.
На моры — хваль віры. Між іх знайшоў спакой
нязнаны спыну сум — адзіны сябра мой.

1951

## ПРЫПЫНАК

Сардэчная хвала гасьціннаму прыпынку!
Пабуду тут яшчэ прыемную часінку...
Прабачыш, ведаю, за мой даўгі пабыт.
Усьцяж мне роіцца: ты ўцехаю спавіт.
У хораме тваім, у сонечнай сьвятліцы
и ў рукі браў тамы з утульнае паліцы.
Чытаў, забыўшыся аб поўных зморы днёх
і аб усім благім, аб чым забыцца мог.
Зь зяленіваў зямных, з вышынных сіняў, беляў
тут гутарыў зы мной разважлівы Longfellow.
Я зь ім шчасьлівы быў. І ў дзіўным сьвеце ўяў
пад сонцам Індыі душой супачываў.

1952

## У СЬВЕТЛЫ ДЗЕНЬ

У сьветлы дзень Пятра — у дзень твайго анёла
цьвілі — прыгадваеш? — лугоў шнуры вясёла.
І песьцілі палі спацехі мройнай сны,
намірг забыўшыся пра сполахі вайны.
Яна-ж, няўмольная, падкошвала, таптала
вясёласьць пешчаў-мрой. Цябе ў нязнанасьць гнала.
Блакітныя ільны, мядзяныя жыты
усьцяж пыталіся: — "Нас не пакінеш ты?" —
Ізноў той час. Туды, дзе дні спацеху сьнілі,
імчаць, нясуць душу твайго сьвятога крыльлі.
А зь імі ўзносішся на ўзьлёце лёгкім сам.
Ці адчуваеш ты? — ты там, ты толькі там.

1952

## СЬВЯТЛЯРНЫЯ АГНІ

Той вечар памятны — і ці-ж ільга забыцца? —
у сэрцы і душы, сьвятлеючы, агніцца.
Па бліскных клявішах узмахі рук стрункіх —
празьвесьцівы акорд пачуцьцяў парыўкіх.
Праменны рой высі — сузор'яў пераліvы.
Удумлівы Шапэн, Рахманінаў чульлівы,
Бэтовэн, Вагнэр, Бах, Чайкоўскі, Барадын —

сягаў шматструнны зык да сонечных гадзін.
Гучацьме вечна ён над лёдам анямелым,
будзіцьме дрэму сну праменьнем дзённа-сьмелым.
Ільды цямнярныя, сьвятлярныя агні.
Руку сваю сьвятлу, ажыўчасьць, прасьцягні.

1952

## У ІМ І ПАНАД ІМ

Як люстра, магістраль. І аўты, і палацы.
Наўзбоч праходзіш ты бяз хаты і бяз працы.
І ня спыняешся ля полыскных вітрын,
мінаеш засень дрэў, жывы зялёны тын.
Аркестра. Музыка. Трамбоны, трубы, флейты.
Зь кішэннай пусьцінёй ад іх імкнеш далей ты —
у мройлівы прасьцяг прывабных змалку зор,
ільсьністы ад расы, блакітны ад вазёр.
У ім і панад ім — свой Моцарт і Сальеры,
свой Дантэ, свой Шэксьпір. Да іх табе ўсе дзьверы
у ім адчынены... Далёкі бераг, порт
і блізкі сэрцу зык — найчулых струн акорд.

1952

## ЗАРА

Nature gives to every Time and Season
Some beauties of its own. (Dickens) *

Дабрывечар, Зара́! З каляднае ялінкі
цярушацца на дол пухнатыя сьняжынкі.
Успыхваюць агні праменьнем сьвечак-зор —
і гіне зь цемраю нязгода і дакор.
З агнямі цёплымі Зары Сьвятой Вячэры
узносімся і мы да тэй надземнай веры,
дзе неба, і зямля, і ён, і ты, і я —
пад Вышнім Спозіркам сугодная сям'я.
Душы злагодненай усьцешаньняў глыбокіх
стаюцца блізкімі пачуцьці ўсіх далёкіх.
Апошняя сьвяча гарыць, як Прыйсьце Дня, —
нявіннасьць сьветлая, любоў і цяпліня.

1952

---

* Прырода дае кажнаму часу й пары году некаторыя іхныя собскія прыгажосьці. (Дыкенс).

## ВОСЕНЬ

(Р. М. Рылькэ)

Спадару Божа, час настаў: пара
сукрыцца ў сьценях сонечным гадзінам,
пусьціць вятры ў палі красы й дабра.
Дазволь-жа йшчэ ў садох дасьпець пладом,
двума цяплейшымі даруй іх днямі:
няхай нап'юцца вышнімі дарамі —
салодка-цьмяным і густым віном.
Хто страціў дом — таму яго ня мець.
Хто сам — самому й знаць тугі абладу:
пісаць лісты, ня зводзіць з кніг пагляду,
ня спаць, блукаць праз гай, адзеты ў медзь,
пад неспакойным віхрам лістападу.

1948 - 1952

## III

### ЧАЛОМ, ЧАЛОМ...

Чалом, чалом, слухмяныя актавы,
і рыфмаў звон, і сьпеў радкоў, чалом.
Скасіў мадэрн ажыўчых сокаў травы,
а кветкі іх назваў вялікшым злом.
Я з вамі йду пад полагам няславы,
дваццаты век вас выціснуў на злом
і на жанчын мужчынскія ўсклаў споднi
і пасадзіў саву на храм Господні.

1947

### НУ, ШТО...

Ну, што яшчэ? Зноў ліра засьпявала?
Цяпер ня сьпеў, а гром — судзьдзя й рашай!
Ты мёртвых строф — іх слова заняпала —
зь імглы вякоў на сьмех не ўваскрашай.
І я маўчу. Спрачацца тоўху мала.
На ўсім жывым ліпіць сухі лішай:
людзкая порсьць нікчэмства і звыродзьдзя —
апошні крык бязбожнага стагодзьдзя.

1947

### ПАКІНУЎ Я...

Пакінуў я шаблённы сьвет уплываў,
здалося мне — абшар цьвіцеў зарой.
Да заваёў свайго гэроя вывеў —
змагаўся ён, стаяў за чын гарой.
Але пад клум прыліваў і адліваў
ён спарахнеў, аброс імхом, карой,
паставіў дом ня з цэглы, а з картуны,
падзьмуў віхор — і ўвесь канец фартуны.

1947

### НЕ ЎСПАМІНАЙ

Маўчы, мой верш! Не ўспамінай эпохі.
Яна —патоп, і над табою — глум.
Ды як мінуць вось тыя ахі й охі,

той самы чын і той-жа шум-бурум?
І як знайсьці на ток зямлі хоць трохі
жывых сьлядоў, цьвярозых вечна дум?
Няўжо чало пад тэй зялезнай каскай
больш ня жыве ні яваю, ні казкай?

1947

## СЛУПЫ

Дарэмна вы на глыбах крыгалому
сваіх ідэй паставілі слупы.
Наплыў ільдоў саб'е іх, як салому
б'юць на таку зухвалыя цапы.
Хай з вас ніхто ня рад учынку злому,
ваш грымны чын — бяздарны і тупы.
Самым сабе ня знойдзеце вы броду.
Ну, чым яшчэ паслужыце народу?

1947

## НІШЧЫМ

Зусім нішчым. Сухі пясок пустыні
ваш ідэал. Мякіна — мозаг, кроў.
Пабачыў вас — на коўзкай лёднай строні
бязродны гурт скапычаных кароў.
Апошні раз у высь нябёснай сіні
ваш правадыр — ваш бык на скон зароў.
На баўтунох вы селі за квактуху,
курчат няма — вось ваша сіла духу.

1947

## АЛЬПЫ

З усіх бакоў пасталі вы, як сьцены.
Ня долу гладзь — граніт з усіх бакоў.
Гурмой гарбоў пад бельлю сьнежнай пены
застылі вы, бы ў сівізьне вякоў.
І ня стрымаць — мой пошуг лятуценны,
нібы арол — крылаты птах, з акоў
на волю ймкне, — устрыбны ўздым пракуды! —
а вам стаяць, ня рушыцца нікуды.

1947

## СПАКОЙ

Хачу цяпер ад клуму й каламесы
спакой знайсьці для сэрца і душы.
А мой спакой — бы ветразь той бялесы:
ірвіся ў сьвет, ня знай сьляпой цішы;
пакінь зямлю — рубеж глухі, кумесы,
хвальшывы цьвет на зраду ня сушы,
і ня гнібей на зваленай калодзе,
а гімн сьпявай жыцьцёвай насалодзе!

1947

## АД ШУМНЫХ РЭК

Denn was der Mensch in seinen Erdeschranken
Von hohem Glück mit Götternamen nennt... (Goethe) *

Ад шумных рэк і ад вазёраў поўных,
нязнаная з магільна-зімным сном,
яна — узьлёт у вобразах чароўных,
узьнёсласьць дум, акрыленых чуцьцём.
Бяз вас, бяз вас, астыглых і бяскроўных,
займаецца абуджаным агнём.
Я толькі зь ёй. І ейнымі шляхамі
іду, яны — прызначаны ня вамі.

1948

## СЬЦЮЖА

Зьбівае з ног разьюшаная сьцюжа.
У чоўне сноў і сонца ня ўсплыло.
Цяпер ня сьпіш, усё імкнешся дужа
ступіць на дол, ухутаны ў цяпло.
Навошта-ж ты пра заўтра дбаеш, дружа,
калі ў цябе і сяньня ня было?
Надыйдзе змрок — якраз, калі сьвітае, —
і дагарыць надзея залатая.

1948

---

* Бо быў чалавек у ягоных зямных абмежжах
высокім шчасьцем Боскім імём названы... (Гэтэ)

## SILENTIUM! *

Молчи, скрывайся и таи
И чувства и мечты свои.
(Ф. Тютчев) *

Каму сказаць пра ўцеху, ці пра мукі
празь неўгамон, праз тупат ідучы?
Не западуць тваіх пачуцьцяў гукі
у немы гул прадоннае начы.
Ня знай яго — ня зьведаеш прынукі,
ня зь ім ідзі на зьніч свой — і маўчы.
Гаворыць той, хто моўчкі ў сьвет прастуе,
хто не маўчыць, адстаўшы, той — статуя.

1948

## ІДЗЕШ, ПЛЫВЕШ

Зы сьвету ў сьвет ідзеш, плывеш і едзеш,
ступаючы ці ў першы новы сьвет.
А паза ім у горы стогне недзе-ж
той кут, дзе быў гаспадаром твой дзед.
Над шэраняй шляхоў бясконцых згледзіш
хаморны змрок і сонца ўсплеск — прасьвет —
ты думаеш: вакно — ці мо яшчэ не? —
у дзедаў сьвет — канец твайго мучэньня.

1948

## ЗА ПОРТ САІД

За Порт Саід ты вырушыў мяльчастай
істужкай вод у далягляд руды.
На пострапе сьцягой, даўно пачатай,
бітмо людзей вязе пакут сьляды
"Цветов и льда" няма. А "арапчата"?
"Не кинул им ты на ходу плоды?"
О не, о не! З ласункамі ня борздкі
бяздомны шлях бязьлітасны і жорсткі.

1949

---

* Silentium (лац.) — «Маўчаньне» — загаловак вершу расейскага паэта Тютчава, першыя радкі якога ўзятыя тут за эпіграф («Маўчы, хавайся ды таі і пачуцьці і лятуценьні свае»). (Рэд.)

## ПЕРАД ВЯСНОЙ

О, Афрыка! Крывіччынай была-б ты,
каб Нёман быў твой паўнаводны Ніл,
і над табой спыніў-бы лёт крылаты,
далей у сьвет сягаць ня меў-бы сіл.
Прабач за сум з мае далёкай хаты —
шчарнелы жаль бусьліных пругкіх крыл.
Перад вясной узьнёслага адлёту
дай лёгкасьць ім прасьвяднага звароту.

1949

## НАДОЙСЬЦЕ ДНЯ

Калі мінеш сьцямнелы ў сьпёцы Адэн,
надойсьце дня спрадвесьціць далячынь.
Бяскраю шыр задыміцца, як ладан,
і з водамі зыльлецца небасінь.
А там і сьвет, ніколі не разгадан, —
ружовы ўсход — пачатку сонца плынь.
І як ня край зямлі за акіянам,
так не канец нязнанаму ў пазнаным.

1949

## УЗБУДАМ ХВАЛЬ

Узбудам хваль віраццa гнеўна воды
і пеняцца з распачай пад карном.
Куды плывеш? Начас, ці назаўсёды?
Каму, скажы, пакінуў сумны дом?
Нязнаных зор ты бачыш карагоды,
знаёмыя — пад акіянскім дном.
За Афрыкай зь пяскамі залатымі
яны ў душы зігцяць тваймі сьвятымі.

1949

## АКІЯН

Шуми, шуми, послушное ветрило...
(А. Пушкин)

Roll on, thou deep and
dark blue Ocean — roll... (Byron) *

Шумі, шумі, мой ветразь паслухмяны,
хвалюйся ўсьцяж, пануры акіян.
Залечыш мо на сэрцы болесьць — раны —
па тэй зямлі, што завалок туман?
Я ёю быў, як ты, ускалыханы
і ўспоены. Навекі ёю п'ян.
Маўляў ты сам, неўсьціхамір заўсёдны,
я зь ёй цяпер і дружны, і нязгодны.

1949

## ЗА ГОДАМ ГОД

Адыйдзе ноч. І акіяну хвалі
расступяцца — пабачыш сонца ўсход.
Пад ім гады, на дне што векавалі,
гады надзей плывуць — за годам год.
Перад табой — няведамыя далі,
нязьнёслыя дакучлівых нягод.
Яны ў чуцьці акордаў волеграйных,
спатканых тут — на хвалях вод бяскрайных.

1949

## ПАЎДЗЁННЫ КРЫЖ

Цябе ніяк ня надзіць сон суседаў.
Выходзіш зноў на пострап. Зноў глядзіш:
адылі там — цікавасьць Бог табе даў —
над позіркам гарыць, ня гасьне ўзвыш.

---

* Шумі, шумі, паслухмяны ветразь...
(А. Пушкін)

Каціся, ты, глыбокі й цёмны акіян — каціся...
(Байран)

Сярод агнёў, якіх яшчэ ня ведаў,
праменіцца і сам Паўдзённы Крыж.
Пад роўнікам шукай тае плянэты,
дзе зноў над ім апынішся ўва сьне ты.

1949

## У НОВЫ СЬВЕТ

У новы сьвет пад зорным небам новым
на хвалях дзён гады жыцьця плылі.
І ветразі пад подыхам вясновым
спыніліся надвечар ля зямлі.
Пабачыў ты: над захадам барвовым
жаданыя сьвяцілы ня ўзыйшлі...
Запальвай іх хоць у душы прачулай,
каб цемра-ноч навек не агарнула.

1951

## ЧАЎНЫ

М. С. і А. К.

Пры берагох Вяльлі блакітнаводнай
спыніліся самотныя чаўны.
Мае сябры, за ўцехаю прыгоднай
бяз нас цяпер не паплывуць яны.
Калышуць іх пад зоркаю праводнай
успдескі хваль. А нашы мроі-сны —
ледзь толькі мы павекі прызачынім —
усё лятуць да іх прасторам сінім.

1950

## ЯК АКІЯН

Няўхільнага ты просішся зьгібеньня,
о сьвет, сабе ня можаш рады даць.
Як акіян у ўсхваляванай пене,
ня бачыш дня яскравую пастаць.
А паза днём на сон у мяккім сене
ты прамяняў саломы жорсьць, каб спаць.
А людзі? Ці-ж на брыж прадоньня людзі
збавеньня мур паставяць у заблудзе?

1951

## ЗОРЫ

Прыслухайся: да высяў клічуць зоры,
між іх і ў іх — і новы сьвет, і ты.
Пад імі — дол няўцешны, і суворы,
над імі — край сьвятлярна-залаты.
І паўтары — ня быў душою хворы
той пілігрым, што ня спыніў ляты
да воддаляў, яшчэ нікім нязнаных,
да зьдзейсьненьняў, бяздушшам не тапганых.

## У ЦІШЫНІ

У цішыні, на ўскраі ночы цёмнай
ты думаў шмат аб сяньняшнім сваім.
Твая вясна пад жальбаю бяздомнай
і адцьвіла, і зьнікла, быццам дым.
А ты з душой юнацкай і нястомнай
ідзеш у дні заўсёды маладым.
І ажыве — хай толькі сілаў стане —
вячорны змрок у заўтрашнім сьвітаньні.
1951

## ВАМ ХОЧАЦЦА

Вам хочацца раскошаў, выгад сьвежых
і цёплых вод, і зыркага сьвятла.
Маўляў, няма няслаўнае суцьмежы,
пара бядот у небыт адплыла.
Але ці з вас перасягнуў хто межы
узьлётам дум — ад пня і да стала?
Імкнёны сьвет? Ці да яго ўзьняліся?
Ці дарасьлі да ясназорнай высі?

## БЕЛЫ СЬНЕГ

Пётру Мікулічу.

Ты зьнёс вайну — суровую сяброўку
твае вясны, нязналай шмат уцех.
Гнаў ворага. Ды ён вярнуўся зноўку
бурыць спакой братоў і мірных стрэх...
Ідуць шляхі на Вязынь і Раёўку.
Прысыпаў іх пухнаты белы сьнег.
Калі-ж вясна разгорне сьнегу шаты —
твае сьляды паклічуць да адплаты.
1950

## У ДОБРЫ ЧАС

У добры час — сустрэчаў сьвет цікавы —
адведаў я нясконччаны ваш дом.
Няхай у ім былі ўсяго дзьве лавы,
і лава ў ім няхай была сталом, —
я ад душы вам зычыў шчасьця, славы
і келіх піў за вас, сябры, нагбом:
за ваш узьлёт, уцехаю спавіты,
за кут бацькоў, у сьвеце незабыты.

1952

## ЗЬНІЧЫ

Малым дзічком ты быў у маладосьці
і жыў між дрэў, між траў. Плыла рака.
Зігцела высь. Бязьмежжа весялосьці
гушкала сьвет на крылах ветрака.
Ці-б не хацеў паўтору тэй любосьці?..
Стырчма тырчыць шчаціньне ў вяпрука.
Ні сонца йшчэ, ні зоры йзноў, ні зьнічы
ня вернуць больш нявіннай раньняй дзічы.

1952

## ШЛЯХ

...Green in Summer, white in Winter,
Ever singing, ever singing.
(H. W. Longfellow) *

Усё ўздыхай і мучыся, і енч аж —
адчуеш там садоў і ніваў сьпель.
Красой вясны зяленівасьцьц увенчыш,
зыгрэеш ёй зімы сьцюдзёнай бель.
Адзіны сьпеў — пабожна нізка ўкленчыш
жыцьцю свайму, усім — нязьгіну хмель:
у гушчарох — у лесе і за лесам —
нязблудны шлях нясьхільным Гэркулесам.

1952

---

* Зялёны ўлетку, белы ўзімку,
вечна сьпеўны, вечна сьпеўны.
(Г. У. Лянгфэлаў.)

## КІТАЙ

Далёка жаль і "плач твой аб старонцы"...
Падзеяў том у неабмін лістай —
спыні пагляд на заўтрашняй балонцы:
стаіць, як мур, абуджаны Кітай.
Зноў сьвежы ліст — цяжэе том бясконцы.
І бачыш ты, спадар зямлі — ратай,
як паўстае з глыбіняў вірных мелеч,
а з сэрц малых, няскорных духам, — веліч.

1952

## НАЯВЕ

Я толькі йзноў цябе наяве ўбачу,
калі ўзьляціш у высьненую ўзвыш,
дзе больш няма ні жалю і ні плачу,
іскрыстым дзе агнём навек гарыш.
Перад сьвятлом цямнейшую няўдачу
ня ўваж канцом, хай зь ёй — прадоньня брыж:
твой навет лёс у Калыму й Камчатку
займанай быў зарой твайго пачатку.

1952

## НАЎВЕЦЕ

Найноўшае напамяці, наўвеце:
і цішыня, і валадарны гром.
І балазе яно ў вадойшлым леце
сьвяжыла дол ня спрышам, а вядром.
А ты? Няўжо пазнаў усё на сьвеце?
Ягоным ты ці быў гаспадаром?
У ім, старым, пры новым не рабі ты
замкнёны круг зь ягонае арбіты.

1952

## КОЛА

І круціцца гісторыі ўсё кола,
у ім — адзін і той-жа самы дзень:
узмах крыла вышыннага сакола,
за небасьхіл прадонная карцень.
Высокі ўстрыб і нізкі звал. Наўкола

пазнай жыцьця няўрымсьлівы струмень:
адведаць высь, вярнуцца ўдол — ня спасьці,
крылатым зноў радзіцца, не прапасьці.

1952

## ІМКНІСЯ ЎСЬЦЯЖ

Імкніся ўсьцяж на зьніч нязгаснай веры
у ясны дзень, у твой сьвітальны край.
Учора хай былі эпохі, эры,
ды сяньня ім бяз заўтра быць ня дай.
У век шляхоў за межы стратасфэры
твая душа узносіцца няхай
далей і прэч ад стоптаных надзеяў
да надзямных, нязьгіну годных дзеяў.

1952

## ЖАДАЮ ВАМ

Дарагому Дзядзьку Антону
ў шасьцідзесяцігодзьдзе жыцьця —

Жадаю Вам зьдзяйсьненьня яснай мэты,
нязьгіну ўсіх высоказьзяйных дум.
Мы дажылі да ўзьлётаў у плянэты —
сьвятла жыцьця ня сьцемрыць горкі сум.
Дасяглага спрадвечныя прыкметы
ня здолее зьняволіць зьдзек і глум.
Хай сьвецяцца ў зары нязмрочнай веры
сьвятой красы адчыненыя дзьверы.

13. 6. 1969

Мая сталіца

З халоднай поўначы прыймі
свайго гасьця, мая сталіца!
Я жыў імкненьнямі твайімі,
цябе ніяк ня мог забыцца.

Няхай ты страціла красу
і стан твой скрухаю ўзараны, —
табе [redacted] прызнавацца ў нясу,
бо ў маім сэрцы — тая-ж раны.

Таму і ты, і я — радня,
якой і боль не спакарае.
Зара ўзыходзячага дня
у думках нашых не згарае.

Няўжо із ноў павінен я
разлуцы злушанай скарыцца?
Сталіца любая мая,
цябе ніколі не забыцца!

Мінск, 1944.

Аўтограф вершу "Мая сталіца".

## НА СЕНАЖАЦІ

Не ўставай так рана
сонца залатое,
ня сушы вадзіцу —
срэбную расу.
Бо касцы у поле
выйшлі грамадою,
навайстрыў зь іх кажны
звонкую касу.
Падаць сталі росы —
зазьвінелі косы,
загучэлі песьні,
паляцелі ўдаль.
Роўнымі шнурамі
сьцелюцца пракосы,
траву-руту косіць
дружна грамада.

1937 *

## З НОВЫМ ГОДАМ!

З Новым Годам, браты-Крывічане!
З Новым Годам, Радзіма мая!
На адвечных руінах паўстане
наша дружба і наша сям'я.

Новы Год сустракае сягоньня
селянін у хаціне сваёй,
што стагнаў на уласным загоне
пад маскоўскай і панскай пятой.

Гляньце — ходзяць па·сьвеце калекі,
і нямала няшчасных сірот...
Мы цярпелі і голад і зьдзекі —
усё вынес наш слаўны народ!

* Першы друкаваны верш паэта.

Брацьце й сёстры! Часіна цяжкая,
але кіньма, даволі тужыць!
Сьмела ўперад — нас шчасьце спаткае,
і мы будзем свабоднымі жыць.

Вецер зімні, парой наваготнай
ты над сьветам штандарам разьвей
песьню волі і дружбы народнай
на улоньні крывавых падзей.

1942

## РАДАСЬЦЬ ЖЫЦЬЦЯ

Беларусь, дарагая краіна,
цябе сяньня ніяк не пазнаць...
Навакола руіны, руіны, —
кроў і боль незагоеных ран.

Гэта сьветкі навалы вялікай,
што табой валадарна прайшла,
што ўсе жахі мінуўшчыны дзікай
спапяліла дашчэнту, зьмяла.

Жахі тыя ня прыйдуць ніколі!
Перажытаму — ганьба, праклён!
Беларус ад мінулай няволі
шлях прастуе да сонечных дзён.

Прыйдзе час — і загояцца раны,
зажыве, што балела няраз...
Я выходжу, днём новым спатканы,
прывітаць гэты радасны час.

Бачу — ў кажным зьнясіленым кроку
разьняволеных нашых людзей,
у застыглым пакутаю зроку
абуджаецца сонечны дзень.

Знаю я: па лясох, па балотах
бой няўпынны праходзіць наўсьцяж;

у вагні, у крыві, у грымотах
нараджаецца радасьць жыцьця.

1942

## ЛЁС ПАЭТА

Эх, ну й жыцьцё... Ну й мітусьня...
А найгорш за ўсё — паэту.
Ня будзе-ж вершаў ён мяняць
на хлеб, а рыфмаў на катлеты.

Той — на Сураскі прэ грыбы,
той — цягне порткі, той — камашы.
Глядзіш, цяляціны здабыў,
мукі... ну, вось табе і паша.

А як паэт не спэкулянт,
і на "сядзеньні" мае латы, —
дык і зыйшоў зусім "на кант",
куды ні пойдзе — страшаць "матам".

У "Самапомач" прывяло
яго няшчасьце па абеды...
Ну, й не дастаў, бо як на злосьць
расейскай мовы ён ня ведаў.

Зайшоў у краму — не даюць,
каб ім паскручвала галовы,
сто грамаў хлеба ў дзень жуюць
адны работнікі ўстановы!

Ў тэатр панёс бяду сваю
паэт (вядома, бязь білета).
Ой, нешта-ж тонка й там пяюць
ад бэнээсаўскіх "паштэтаў".

Відаць, ад вельмі мяккіх страў
(накшталт штадзённае заціркі)
актор ня вымаўляе "ра",
а "ря" і "ре" упёрся тыркаць...

А мо... Ды што зашмат хацець
ад іх, актораў... Ўсюды гэтак...
Усюды, кажучы прасьцей,
пах дзегцю верне нос, ня кветак.

Але да справы... так паэт
нічога з поўнага карыта
й не сербануў... такі ўжо сьвет,
дзе ў сьвеце ёсьць паэта сыты?

За што ня ўляпіцца — "цюйга",
"вон", "кыш"! Знаць, сыць не для паэтаў,
наперад можным забягаць
не палітычна, ведай гэта.

Што-ж, вось і піша вершы ён —
жабрак-паэт аб сінім небе
і ноч, і дзень — ды марны плён,
ці-ж гэткіх вершаў сяньня трэба?

Калі-ж газэтка й прыйме верш —
за ганарар паэт наш купіць
адну цыбулю, бульбы дзьве,
ці у сталоўцы лыжку супу.

Ўсяго на ўсё... і па бядзе!
А колькі крытыкі! Глядзеце!
Так, людзкі суд — "Энкавэдэ",
бадай, найгоршае на сьвеце.

— Мест працаваць, чаму ён шыр
нябёс вясёлкай апаясаў?
Навошта зораў накрышыў
мест крышаноў якога мяса?

Чаму ў яго сінее даль,
калі папраўдзе даль сівая?
Нашто ў верш пылу ён паддаў,
калі яго і ў месьце маем?

Чаму "бляюць" яго званы?
А восень "грыпай захварэла"?
Ці-ж ён здурнеў аб вёснах ныць,
калі на сьвеце гэткі рэйвах?!

Такі прысуд сланя ці йльва,
здаецца, зьбіў-бы з панталыку,
а пра паэта — што й сьпяваць...
Шалей, крычы — ўсё робіш крыкам...

А колькі-б сіні ні ляпіў
ты ў верш, і золата ні пэцкаў —
дарэмна, брат, не замуціш
жыцьця ні ў Менску, ні у Клецку.

Не, трэ паэтам уцякаць
зь зямлі няўдзячнай і крыклівай.
Паэтам — вольны Млечны Шлях...
Дык, гэй! гарацьь Космасу нівы!

Ляцець, ці не? Шкада людзей
сваіх, хоць ты — чужы ім, ясна...
Эх, паляту, мо стрэну дзе
замест хлусьні і сваркаў — шчасьце?

Так, страсянуўшы пыл зямны
з гумовых стоптаных падмёткаў —
паэт ад крыўды і маны
ў эфір нырца дасьць срэбнай плоткай.

Ніхто ня будзе пераймаць...
На моцы сілы цэнтрабежнай
ён куляй трапіць нат ня ў Марс,
а у Галяктыкі бязьмежжы.

Мо Вэга ці Альдэбаран
прыгорнуць горкага паэту.
І ўвойдзе ён (даўно пара)
ў сытэму стройную сусьветаў.

Там наш паэт забудзе, гад,
баі з-за месцаў і аб'едкаў...
І ўжо ня вернецца назад,
нат не падсудным, толькі сьветкам!

1942

# СЬПІ, МОЙ РОДНЫ

Заміж вянка на няведамую магілу майго бацькі,
які загінуў на далёкай поўначы ў ссылцы.

Дрэвы лісьце да сонейка туляць,
хмелем сьцелецца подых вясны.
Як шкада, дарагі мой татуля,
што ня бачыш ты гэтай вясны.

Паглядзець-бы было так цікава
на палеткі, лясы й на лугі,
люба сэрцам адчуць было-б славу,
што ня зьгінуў наш край дарагі.

Што знайшоў ён сабе пуцявіну,
не заблытаўся ў цемры начы,
што цяпер ён імкліва, няспынна,
сьмела крочыць у шлях-далячынь.

Паглядзеў-бы, як сонца праменіць,
як прывабна цяперака ў нас.
Гэта-ж Краю прыйшло Прабуджэньне,
гэта-ж першая наша вясна!

Ды ніколі ня ўбачу цябе я...
... О, няхай ім маё пракляцьцё —
Маскалі, чужнікі-ліхадзеі
загубілі тваё жыцьцё.

На чужынскіх прасторах ты мусіў
без пары даканаць... дагарэць...
Па старонцы сваёй Беларусі
неразьвейную думаньку грэць...

Сьпі, мой родны, на дальнай чужыне,
пасьля зьдзекаў і крыўдаў спачынь.
На тваёй занядбанай айчыне
не зазнае больш гора твой сын.

10. 6. 1942

## МАЦІ СЫНА ЧАКАЕ З ВАЙНЫ

Маці сына чакае з вайны
у пакрыўленай хатцы-вязьніцы.
Бяз сыночка ёй доўгія дні,
прыйдзе ночка — матулі ня сьпіцца.

Уецца думак дакучлівы рой,
без пары галава пасівела.
"Сынку родны, саколік ты мой,
што за доля цябе там сустрэла?

"Быццам колас забыты, адна
век старэчы ужо дажываю.
Людзі сеюць (прыйшла ўжо вясна).
Ну, а я — балазе, што жывая...

"Хто мне вестку пра сына падасьць?
Мо хіба толькі пушча ці зоры?
Я пыталася ў іх, ды ціраз,
толькі мне яны штось не гавораць...

"Ты прыйдзі, дарагі мой сынок,
паглядзі, як мне цяжка жывецца.
Не надоўга — то хоць на дзянёк,
мо суцішыцца боль майго сэрца".

Безнадзейна, матуля, яго
клічаш ты на дзянёк хоць у госьці:
ты ня вернеш сыночка свайго,
як ня вернеш свае маладосьці.

На прасторах далёкіх, чужых,
пад зялёнай пахілай ракітай,
на траве няжывы ён ляжыць
там, палаткай паходнай накрыты.

А як сьмерці вянок над ім зьвіс,
і ў жыцьці ня было больш патрэбы —
раз астатні зірнуў ён увысь,
у бяздоньне блакітнага неба.

Зігацела чырвоным агнём
брыльляньціста-ружовае сонца.
Гэтак некалі сонечным днём
зігацела на роднай старонцы.

І прыпомніў, бядак, Беларусь,
дарагія палі, сенажаці,
траўяністы луговы абрус...
І прыпомніў гаротную маці...

Дык ня кліч-жа, матуля, яго,
да цябе ён ня прыйдзе у госьці:
ты ня вернеш сыночка свайго,
як ня вернеш свае маладосьці...

12. 6. 1942

## БЕЛАРУСІ

Тут нядаўна йшчэ гора шалела,
тут нядаўна йшчэ знялі прымус...
За цябе маё сэрца балела,
дарагая мая Беларусь.

Нам жыцьцё было цяжкім прыгонам,
і канца ня было тэй бядзе.
Чуў Сьвяцейшы з высокага трону
горкі плач і літаньні людзей.

Па шырокіх прасторах раздольных
беларускіх лугоў і палёў
гаравалі грамады бяздольных
паднявольных калгасных рабоў.

Час мінуў той. Цяпер будзе йначай.
Досыць крыўды нясьці на гарбе!
Я цяпер не такую прадбачу,
дарагая Радзіма, Цябе.

Веру: нашы палеткі расквеціць
залаты ураджай каласься,
і пяшчотнае сонца засьвеціць
на руінах старога жыцьця.

1942

## ПАД ШЭЛЕСТЫ ЛІСЬЦЯ

Пад шэлесты лісьця, пад ліпавы шум
прылёг і спачынуць душою.
Віхрацца, нітуюцца прывіды дум,
і сэрца ня знае спакою.

Лятуць мае думкі ў бязьмежную даль,
бы хвалямі гнаныя чоўны.
То ў сэрца закрадзецца кволая жаль,
то крыўдаю злосьць яго пройме.

Здаецца, ляцеў-бы магутным арлом,
каб толькі арліныя крылы,
імкнуўся-б, маячыў туды напралом,
дзе жыцьці кладуцца ў магілы.

Я кінуў-бы гнеўны праўдзівы свой кліч
пакрыўджаным злыднямі людзям:
"Даволі прад ворагам гнуцца нам ніц,
змагацца за іх больш ня будзем!"

Ды сілаў няма, каб узьняцца увысь,
і голас мой там не пачуюць...
Ліецца на долы крывавая сьлізь,
і вораны сьмерць там вяшчуюць.

У бой выступае нагальнікаў тлум,
адплату прыносіць крывёю.
Пад шэлесты лісьця, пад ліпавы шум
ня ведае сэрца спакою.

1942

## ЗА СЛАВУ РАДЗІМЫ

(Да арганізацыі Беларускага корпусу Самаахові)

Наш край рабавалі разбойнікі-каты,
душылі, таптали чужацкай пятой,
прабіла часіна рашучай расплаты, —
браты-Крывічане, ўставайце на бой!
Даволі цярпелі бяду, ліхалецьце,
даволі рабунку і крыўды зьнясьлі.
Ніхто такой долі ня зьведаў у сьвеце,
як мы, Беларусы, на собскай зямлі.
На бойні нас гналі, у турмы саджалі,
загоны скрозь нашай паліты крывёй.
За кроў мы адплацім вам сьмерцяй, шакалы!
Браты-Крывічане, ўставайце на бой!
За сьветлае заўтра, за шчасьце для дзетак,
ўставайце сьцяною усе, як адзін,
ад водаў Дзьвіны да Украінскіх палеткаў,
ад Віленскай Брамы да Бранскіх мясьцін.
Нас дваццаць мільлёнаў! Сябе не дадзім мы
у крыўду навале бандыцкай ліхой.
За прадзедаў славу, за славу Радзімы,
браты-Крывічане, ўставайце на бой!
Сягоньня краіна нас кліча да зброі,
да новых нябачаных шчэ перамог,
каб права сьвятога, здабытага боем,
ніхто адабраць нам ніколі ня ўзмог!
Вясеньняе, яснае сонца сягоньня
шугае-палае над нашай зямлёй.
Пад сьцягам імклівай крывіцкай Пагоні,
браты-Крывічане, уперад на бой!

1942

## КІНЬ СВАВОЛІЦЬ ПАД ВОКНАМІ, ВЕЦЕР...

(Прысьвячаю роднаму брату)

Ноч разьвесіла сінія шаты,
сьвежы водыр прынесла ў пакой.
Ходзіць вецер на цыпках ля хаты,
зрэдку стукнець у шыбы рукой.
Што сваволіш пад вокнамі, вецер?

Хіба вестку з сабою прынёс?
Можа ты, як бывалы па сьвеце,
брата роднага ведаеш лёс?
Супыніся, крылаты, скажы мне,
и паслухаць цябе буду рад...
Доля брата палямі чужымі
нейдзе блудзіць пад стогны гармат.
Можа блудзіць, а можа навекі
у пасьцелю зьлягла супачыць.
Можа ён, зачыніўшы павекі,
пад сасонкай сны доўгія сьніць.
Дык ляці ты тады на магілу,
смутак-жальбу маю перадай...
... — Каб зірнуў ты хоць раз, братка мілы,
хоць разок на адроджаны край!
На пажарах, руінах крывавых
кветку шчасьця Радзіма знайшла.
За каго ты змагаўся — бяз славы
тых сырая зямля прыняла.
Да жыцьця іх ніхто ўжо ня верне,
ім — на карку людзкім не сядзець...
Беларускае важкае зерне,
каласіцца, аж люба глядзець!

1942

## Да зборніка МАЕ ПЕСЬНІ

### НЕ ПАКІНУ

Цяжка тут безь цябе на чужыне,
о, Матуля, старонка мая!
Як дзіця, я цябе не пакіну,
на цябе не забудуся я.

Панясуся птушыным узьлётам
на кілімы зямлі дарагой.
Не, нідзе няма лепшых пяшчотаў
за тваю пад радзімай страхой!

1942

## ЁН ІДЗЕ

О, год стары! Ты ў вырай адлятаеш,
як журавель — ну што-ж, прыйшла пара!
Нібы сьняжынка лёгкая, спадае
апошні ліст з майго календара.

Насустрач новы йдзе. Вайны смугою
абвіўся ён — яму зь ёй балазе.
Так, ён ідзе. Што-ж добрае й благое
на гэты раз з сабою прынясе?

1943

## ЭПІГРАМЫ

Сягаць ня раю аж пад неба,
калі йшчэ трошкі не дарос —
ня сунься з носам, дзе ня трэба,
бо гэтак хутка страціш нос.

—

Быў гэткі ён: усіх дурнымі
лічыў, сябе-ж за зуха меў,
хацеў быць мудрым над усімі,
і сам ад гэтага здурэў.

1943

## ТРЫЯЛЕТ

Мой бел-чырвона-белы сьцяг —
зямлі мае краса і слава!
Імкненьне ейная і справа,
мой бел-чырвона-белы сьцяг.
Барвовы шляк зары крывавай,
нябёсаў гладзь, палёў прасьцяг —
мой бел-чырвона-белы сьцяг,
зямлі мае краса і слава!

1943

## ПЕСЬНІ

(Прысьвячаецца М. Забэйду-Суміцкаму)

Песьні гэтыя чуў и ад маці,
калі быў дзіцянём шчэ малым,
а падрос — чуў і ў полі, і ў хаце,
чуў усюдых, аддаўшыся ім.

Чуў у шолаху кажнай сьцяблінкі,
чуў у шэпаце жытніх палёў,
у цьвіліканьні ўзьнёслай птушынкі,
у сярэбраным звоне раўчкоў.

І цяпер мне ўспаміны ушчуліў
сьпеў, зыбраны із гукаў зямных,
і зь нябёсаў, і з вуснаў матулі,
так далёкіх і так дарагіх.

Скарбы гукаў мастак ў вадзіных
шчырых песьнях сардэчна прапеў,
і ў маркоце халоднай чужыны
мне й сябром маім сэрцы сагрэў.

Рыга, 28. 9. 1943

* *
*

Нямала меў, нямала маю я сяброў.
Бадай усім на памяць добрую пакінуў
ці верш, ці фота, спадзяюся, успаміны
у кажнага паўстануць пра мяне ізноў,
калі пабачыць фота, верш мой прачытае...

Так не згасае ні сяброўства, ні любоў,
так блізкіх у жыцьці і даль не разлучае!

30. 12. 1943

Уладзімеру Глыбіннаму

Культура — азнака вышэй усяго,
мастацтва — красою яе надарыла;

ніколі ня блекне тварэньне таго,
хто ім ахвяруе і веду, і сілы.

Рыга. 6. 2. 1944

* *
*

У Койданаве жыў Радзюк Альфрэд
і ня было там Салаўя Алеся,
цяпер ён ёсьць і, кажуць, ён — паэт,
але... жыве далёка, ў Рызе
дзесьці.
І кажуць, што забыўся ён пра ўсіх
сяброў, пра брата меншага й сястрыцу;
штось піша... а ў паэзіях сваіх
хоць раз ня можа ім ён пакланіцца.
Відаць, ня хоча прызнавацца ён,
што ён — Радзюк, для землякоў вядомы.
Паэтам стаў Алесем Салаўём —
дык і ня хоча зазірнуць да дому...
Сястрыца родная! Мой родны брат!
Каб зналі вы, як мне бяз вас балюча!
Каб зналі вы, як быць я з вамі рад,
як дзень і ноч мяне разлука муча!
Я ў Менску быў, так блізка быў ад вас,
але ніяк ня ўзмог да вас прыехаць.
Усім, адданым краю, хмуры час
загарадзіў шляхі да блізкіх стрэхаў.
І я паехаў з болем у грудзёх
назад, у край чужы, чужую Рыгу,
дзе, будучы ў самоце, па начох
пісаў, і дзе цяпер друкую кнігу.
Друкую, так... І вершы зноў пішу,
і, родныя, пра вас и ўспамінаю,
сагрэць хачу ўспамінамі душу —
яна яшчэ жыве, йшчэ не канае.
Я рад зноў быць Альфрэдам Радзюком,
ня знацца век з чужымі гарадамі,
каб быць у Койданаве, мець пакой,
і жыць, мае няшчасныя, там з вамі.
Тады мо й вершы-б іншымі былі:
пра Радзюкоў, што шчасьця век ня мелі,

пра іх няшчасны лёс, пра стогн
зямлі,
а не пра песьняў салаўіных трэлі.

Рыга, 30. 4. 1944

## Да зборніка СІЛА ГНЕВУ:
## — разьдзел ГАМОНІЦЬ ДАЎНАЙ ПРАЎДЫ ЗВОН

### МАЯ БЕЛАРУСЬ

І лясы, і лугі, і блакітныя нівы;
неба — вечная сінь, дол — зяленівы шоўк.
О, мая Беларусь! Хто з Табой, той — шчасьлівы,
краю лепшага той, хто шукаў — не знайшоў.

Той, хто з ганьбай Цябе бястурботна пакінуў,
хто забыўся, што ўскормлены быў ён Табой —
як грудное дзіця, без апекі загінуў,
дол ягоны праклёнам зарос, як травой.

О, мая Беларусь! Я з Табой, я — шчасьлівы.
Не пакіну Цябе, покуль буду я жыць!
Гнеў мой тым, што Цябе адракліся й лісьліва
перад сконам спрабуюць чужынцам служыць!

Гнеў мой грозны табе, вораг мой, чужаніца!
не адзін я, такіх — міліёны! Зірні:
выйшлі мы, каб стрымаць твайго зла навальніцу,
каб зацемрыць ягонай няпраўды агні.

Сіла гневу майго навальніцу адгоніць,
міліёны такіх: сіле — межаў няма.
Нас, маўляў "старадаўнай крывіцкай Пагоні",
у баёх "ні разьбіць, ні спыніць, ні стрымаць!"

Бэрлін, 7. 1 1945

* *
*

Добры дзень табе, сонечны Слуцак!
Стрэў з табою тваю і вясну...
Зь месцаў, холаду воды дзе льлюцца,
я у госьці к табе зазірнуў.

Я пад небам тваім, пад блакітам
апынуўся такім, як стаю...
Я прывёз табе вершы і рытмы,
я прывёз табе ліру сваю.

Слуцак, 3. 4 1944

## РАДАСЛАВУ АСТРОЎСКАМУ

У час пахмурнай непагоды,
у шэры, немарачны час
на кліч крывіцкага народу
ішоў Ты з намі, вёў Ты нас.
Каб ськінуць з плеч ярмо пакуты,
каб край ня быў навалай скуты,
павёў нас, вояў, за сабой.
Празь перашкоды нэндзы й гора,
празь цемру змрочных касагораў
змагарна мы ішлі у бой.

Шлях слаўся нам балотам топкім,
быў лесам цёмным і густым.
Мы ня сьцішалі цьвёрдых крокаў
ні праз агонь і ні праз дым.
А ўсход заліты быў чырвонай
крывёй зары — крывёй мільлёнаў,
насіўся сьмерці зрадны цень.
Плылі густыя ўраньні хмары,
шугалі вогненным пажарам,
агністы сыпалі струмень.

Мы ня спынілі цьвёрдых крокаў,
мы ня сьхілілі голаў ніц.
Гаілі болесьць ран глыбокіх
ажыўчай сьвежасьцяй крыніц.

Хай перавага грэшных сілаў
атаку першую адбіла, —
нам зьнічыць слава новых дзён!
Каб ськівуць з краю зло пакуты,
каб ён ня быў навалай скуты,
у бой, у новы бой ідзём!

Мы ня спыняем цьвёрдых крокаў,
мы ня сьхіляем голаў ніц.
Сабе цярэбім шлях шырокі
праз хмары дыму, праз агні.
Той перавагу й сілу мае,
хто веры ў прышласьць ня губляе —
яе народзіць новы бой!
Таму вянкі нязгаснай славы,
хто нас праз гром віхурнай лявы
вядзе змагарна за сабой.

1944

## МАЛІТВА

Божа Вялікі, паслухай маленьне,
вызвалі зь цёмнай няволі наш край.
З рабскага зьдзеку, зь цяжкога мучэньня,
Божа, пазбавіцца змогу нам дай.

Глянь, Усявышні, як край зруйнаваны,
цэрквы, сьвятыні панішчаны ўсім.
Люд беларускі у морак загнаны,
веру зацемрыў няверніцкі дым.

Там, дзе былі дарагія сьвятыні,
баль свой спраўляе няверства зы злом.
Божа, Ты нам памажы — і з айчыны
морак няпраўды разьвеем сьвятлом.

Божа Вялікі, здымі з нас кайданы,
вызвалі зь цёмнай няволі наш край,
сілу і долю шчасьлівую дай нам,
нашай Крывіччыне волю падай!

1946

— да разьдзелу ДА НАШАЙ ЯВЫ БЕРАГОЎ

## ЛІСТЫ НА ВЕТРЫ

Пустыя выгукі — лісты на ветры,
рыторыка — спажытак для нуды.
Мне бяз душы — што птушцы без паветра,
бяз сэрца мне — што рыбе без вады.

"Дазволь памерці за цябе, айчына!" —
"У бой
у бой!
Да заваёў!
Да чынаў!" —
ня кратае ні зблізку, ні здалёк.

Яно ня жывіць ні душы, ні сэрца,
яно — сухі пясок глухіх дарог —
ні да жыцьця ня кліча, ні да сьмерці —
ахвярнасьці у славу перамог.

Бо і расьціна на пяску завяне,
застыгне кроў яе — жывільны сок,
калі крыніцаў сьвежасьць перастане
паіць ажыўчай волагай пясок.

1944

— да разьдзелу
ЖЫВОМУ — ЖЫЦЬ, ЗЬНІШЧЭНЬНЮ — СЬМЕРЦЬ

* *
*

У жылах шчах крыві струмень
і скута сэрца болем войстрым.
Ізноў наперадзе сухмень
дарогаў нудных, прыкрых вёрстаў.

Як і раней, ізноў, ізноў
мяне чакае жах, нязнанасьць.
Мо гэта звада трызных сноў,
мо імі я ў палон забраны?

Чаму так цяжка, цяжка мне?
Жывых ня бачу і ня чую.
На голых дошках у труне
жыву — і днюю, і начую.

“Цярпі!” — Мне кажуць. Я цярплю.
“Накрыем, — зноў мне кажуць, — векам,
пасьля... апусьцім у зямлю,
і там ты станеш чалавекам.”

Беласток, 5. 7. 1944

* *
*

Трамвай — даўжэзная, танклявая труна —
напханы трупамі людзей, бы селядцамі.
А зь мяккай шэрані паднебнага руна
спадае долу дождж і ў шыбы б’е дубцамі.

Дол адчыняецца. Дарога ў цемру. Спрут
дратоў трамвайных, пэўна, шлях мой перапутаў.
Няўжо і я, як іншыя, халодны труп?
Няўжо ня вырвацца мне з тагасьветных путаў?

Кэнігсбэрг, 9. 7. 1944

* *
*

Ахвяраў прагне сьмерць. Язык
ад прагі ёй апух — нямая.
У сьвет, дзе змоўк жывога зык,
крывёю сьцёклых нат прыймае.

Мяне цягнула — я уцёк
і да цябе прыйшоў, мой дружа.
Ты бачыш — я крывёй ня сьцёк,
на мне ня раны — кветкі ружаў.

З табою колькі ўжо гадзін —
і асалоду п’ю жывую.
Зы мною ты — я не адзін,
з табою я — жыву, жыву я!

Ты бачыш сам — шчасьлівы той,
каму пацісьне сябра рукі.
Навошта-ж гнеўнаю пятой
нас хоча зноў таптаць разлука?

Навошта-ж так, ты мне скажы,
мяне агортвае чужыннасьць?
Быць аднаму — быць на мяжы
прадоньня з брыжам на спружынах.

Тады і радасьць ня прыльне.
Сярод чужых быць — сьмерць нямая.
Я ня жыву, няма мяне,
калі я блізкага ня маю.

13. 7. 1944

* *
*

Вароты ў няведамы сьвет. У дазоры
з касою стаіць чалавечы шкілет.
Зубамі ляскоча, як прагны пражора,
пытае: —“ Ты йдзеш у няведамы сьвет?

Ці маеш мандат на адведзіны сьвету?
Ня маеш? Дык шляху у сьвет наш няма.
І я быў калісьці таксама паэтам,
ды зьнішчыла фах мой Кастуся сама.

Відаць, да Кастусі зыбраўся ты ў госьці?
Мо ёй захапіўся, як некалі я?
Дарэмна! Шкілетам тут станеш, а косьці
расьцягне галодная зграя зьвяр’я.

Цяпер так, як я, ты ня трапіш у ласку,
ня станеш на зьмену Кастусі ў дазор.
Ня прыйдзецца навет зубамі паляскаць,
ня толькі сягаць у нябёсы да зор.

Вяртайся назад! Калі дома і зьгінеш,
дык там пахаваюць палюдзку цябе;
там навет уславіць і Муза-багіня
таго, хто жыцьцё прысьвяціў барацьбе.

Увесну цябе адвітаюць дзяўчаты,
вянкі ускладуць на магілу тваю...
А тут ня сустрэць іх табе — азіяты
вакол, і шкілеты вакол — не ўтаю.

Высмоктвалі кроў з нас, выцягвалі жылы,
і годнасьць людзкую таптталі, а мы,
як белыя нэгры, на белых служылі...
Ня йдзі у сьвет гэты — ён горай турмы."

Мо сплю я? Не, пэўна, ня сплю. У дазоры
з касою стаіць чалавечы шкілет.
Як блізкаму сябру, ён шчыра гаворыць:
— "Ня йдзі лепш, ня йдзі у няведамы сьвет!"

Кротынгэн, 23. 7. 1944

## КАЗКА Й СОН

Што Азія мне і Эўропа?
Ня казка мая і ня сон.
Я еду ў Эўропу на....
тры тыдні і гэтулькі-ж дзён.

І як мне ад Азіі зьехаць?
Хоць еду, а шляху няма.
Усіх — ці з грахом, ці бяз грэху —
мангольская косіць чума.

Капáе суцьмежныя лёхі,
крывавіць зьнішчэньня зару.
Ў канцлягеры ў Азіі здохну,
бяз хлеба ў Эўропе памру.

Таму й пасадзіў я на...
і лёс свой сабачы, і кон.
Вось Азія, вось і Эўропа —
і казка мая і мой сон.

7. 8. 1944

## З ТАГО СЬВЕТУ

О, людзі! Паглядзеце на мяне,
хіба я назусім памёр, скажэце?
Правін ваш, як нябыт, не праміне,
чакае цемра й вас на вашым сьвеце.

Вы мне мячом адсеклі галаву
і гойстрым штыхам пракалолі грудзі,
зямлёй засыпалі. А и — жыву,
сьцігуючы цяпер вас, людзі, людзі!

Ад вас, ад вас я сьвету сьмерці — дань.
Цяпер мой зірк — прадоньне вашай згубы.
Я ўдзень — шкілет жывы, уночы — здань.
Скрыгічуць, просячы расплаты, зубы.

Гукаю ўдалеч: — Чэрці й ведзьмары,
даволі вам сядзець у нетрах крукам!
Прачнецеся, вы мне цяпер — сябры.
О, дайце, дайце мне касу у рукі!

Расплаты час прыйшоў. Шырэй пракос!
Скакаць на скошаных галовах будзем.
Пад ветру стогн, пад сьвіст і сковыт кос
нявінных мерцьвякоў ад сну разбудзім!

Прыйшла, прыйшла чарга скакаць і мне
у княсьцьве сьмерці, у пякельным сьвеце.
... Расплата вінавайцаў ня міне,
сьмяротны танец у мяне наўвеце.

Руйена, 12. 8. 1944



Расцалаваў я алавік,
як той паэта — сакратаршу.
Хай я галодны — ён прывык
пісаць... А кішкі граюць марша.

Нясьмела суну за парог,
а ў думках: — Мо і не прагоняць?
— Какраз спеклі мы вам пирог! —
ламана кажа мне Эстонец.

— Идите прочь! Мои сыны
на фронте бьются, вы... вы что-же?..
... О, дзе-ж вы, дзе вы, тыя дні,
калі я йшоў на стан варожы?

У лятуценьнях [redacted] ішоў
у бой за волю, за айчыну.
На яве йду... за Латышоў?
Мо за Эстонцаў? Не! —
Лепш зьгіну

у чыстым полі пад кустом
бяз лусты хлеба, без табакі.
Абмые неба хай дажджом
і пахаваюць хай... сабакі.

18. 8. 1944
Гэдэмэстэ, Эстонія

* *
*

Бывай, Гэдэмэстэ, бывай,
апошні суворы прытулак!
Паеду, памчуся ў свой край —
ніхто так, як ён, ня прытуліць.
Скарыся, шляхоў далячынь!
— Нязваныя, — чую [redacted] — госьці
у доме тваім. Супачын
рыхтуюць табе... на пагосьце. —
— Ня едзь! — мне скуголяць вятры.
— Сабакам і сукіным сынам
назваў цябе дом твой. Утры
сьлязу, — па табе там асіны
льлюць сьлёзы. —
Ізноў хтось: — Чакай!
У доме — злачынец і вораг... —
Бывай, Гэдэмэстэ, бывай,
апошні прытулак суворы!

Хай шлях нявыразны — пара́
ступіць на яго.
                    Падзямельле
грукоча: — Што-ж, майстра пяра,
хістаешся, сеўшы на мелі?
Прабач! За табою — штыхі,
зірні — сьцень пагібелі блеклы.
Забудзься на дом — і шляхі
пабачыш ты выйсьцьныя зь пекла.
А потым — і рай. —
                    Што мне рай?
Мне ўсё, што ня дом, — ня прытулак.
Сьцякае крывёю мой край —
цяпер нат і ён ня прытуліць...
Бывай, Гэдэмэстэ, бывай!

Гэдэмэстэ, Эстонія, 1944

* *
*

Сьмерць цэліла ў грудзі кап'ём,
і людзі ў магілу таптали...
Дабрыдзень, збавеньне маё,
дабрыдзень, прыветлівы Тальлін!

Я йшоў у зьнямозе і бег
далей ад крыві, ад змаганьня.
— Ці варта табе ў барацьбе
імя чалавечае ганьбіць? —

пытаў [redacted] ў кагосьці. Нідзе
ня чуў у вадказ я нічога.
І як чалавек, да людзей
прыйшоў папрасіць дапамогі.

А сэрцы людзей, бы куп'ё,
мне мох на душы пластавалі...
Дабрыдзень, збавеньне маё,
дабрыдзень, прыветлівы Тальлін!

Ад пекла хачу супачыць,
да раю — дарога цяжкая.

Дай, Божа, спакой! Уначы
хай белая здань ня блукае!

Хай чорнаю хмараю ўдзень
пагібель мяне ня трывожа.
Ратуй ад нядобрых людзей,
вялікі, магутны мой Божа!

Успомніў імя я Тваё —
і сьмерці пагрозаў нястала.
Дабрыдзень, збавеньне маё,
дабрыдзень, прыветлівы Тальлін!

Тальлін, 1944

## СТАЎСЯ ЎСЮДЫ ГОСЬЦЕМ ВЫПАДКОВЫМ

Стаўся ўсюды госьцем выпадковым.
Дзе ня ступіш — ля чужых варот.
На дарозе ўбачыў я падкову,
а ляжыць яна наадварот.

У Эўропу з Азіі зыбраўся,
не даехаў — выгналі назад.
Пэўна, сьпераду яшчэ бяда ўся,
бо падкова — перадам у зад.

Што мяне спаткае — невядома.
Непамысныя вакол сьляды.
Ці назад, ці ўперад — ты ня дома.
Словам — ні туды і ні сюды.

Лібава, 1944

## У МОРЫ

І вецер скавыча, і б'ецца вада,
а з пострапу я ня зыходжу.
Тры дні і тры ночы зямлі ня відаць —
вачэй зь небасьхілу ня зводжу.
Прыбой не змаўкае. І грукат, і гром
суздромны абшар спакарылі.

Крыклівыя чайкі нясуць над карном
маркоты шчарнелыя крылы.
Тры дні і тры ночы плыве вадаплаў
праз бурнасьць разьюшаных водаў.
... Чырвонай зарою суклон запалаў.
Вачэй зь небасьхілу ня зводжу.
Здаецца мне, бачу я бераг глухі,
над ім — і вагонь, і пажары.
Крывёю набракнуў нябёсаў блакіт,
ахутаны цемрадзяй хмараў.
Ня сполаху зьвіс над прасторамі сьцень,
ня вецер над пусткай гуляе, —
над горамі трупаў людзкіх і касьцей
гулянку Кастуся спраўляе...
Далей-жа ад сьмерці, далей! Над карном
хай чайкі выпростваюць крылы!
Я сам капітан, я кірую стырном
вялікае моцы і сілы.
Мяне не спалохае буры прастор,
ня ўтопіць нязломную веру.
Падужаю ўсьпененасьць водаў і шторм,
на сонечны выплыву бераг.
Ня той, дзе крыві непатрэбны выліў,
ня той меў я бераг наўвеце,
а бераг праўдзівай і мірнай зямлі —
ён Крывіяй вольнай завецца!
Далей-жа ад грэшнай зямлі! За карном
хай пеняцца гнеўныя воды!
Я сам капітан, я кірую стырном.
Да праўды плыву і да згоды.

Балтыцкае мора, 16. 9. 1944

* *
*

Ізноў я нарадзінаў дзень спаткаў.
Мне сяньня дваццаць два гады мінула.
Час не малы... Але ён ня гушкаў
мяне ў сваёй калысцы з ласкай чулай.
Мяне ён выкінуў зь яе. Аддаў
на зьдзек пары цяжкой і злому
ветру;
хоць шмат куды нявятліва кідаў —

Радзіма мне заўжды была прыветлай.
Я ўспамінаю Койданаў сівы;
а потым — Менск, Лагойск з прыгожай
Гайнай;
зноў Менск, пасьля — Ільля і паплавы
паблізу ў прыгажосьці нязвычайнай.
А сяньня Рыга — горад хараства;
прыгледзішся — пануры і халодны:
зь людзьмі сустрэнешся — няпрыязьні
жарства,
зірнеш на сьвет — сыры і непагодны.
Тут мякка сьцелюць, але жорстка
спаць,
а ў нас — хоць жорстка, але мякка
целу.
Ну як радзіму мне не ўспамінаць,
калі душа спагады тут ня стрэла?

Ну як, ну як, калі тут золь адна?
Калі мне вочы колець у вадчаі...
Я келіх адзіноты п'ю да дна
і дваццаць трэйці год жыцьця
страчаю.

Рыга, 1. 5. 1944

## У ДЗЕНЬ НАРАДЗІНАЎ

Ідзе насустрач дваццаць пяты год,
а за сьпіною — дваццаць і чатыры.
Сьпявай, сьпявай пра край мой і народ,
яшчэ гучней сьпявай, надзеяў ліра!

Зьвіні зычней і неўгамонна грай.
Няхай-жа з граньнем збудуцца надзеі!
Грымі, што я вярнуся ў вольны край,
што не загіну, не пamру нідзе я.

Міну тлумлівасьць, "суету сует"
і абыйду наўкол "тамленьне духу"...
Мой край! Зірні праз мур няволі ў сьвет,
прыўстань і насьцярожся, і паслухай.

Ці бачыш безьліч войнікаў-сыноў?
Ці чуеш іхны гулкі, вольны гоман?
Жывеш адзіны Ты ў мільярдах слоў,
і даўніна, і славы дух ня зломан.

Яны асілкі — войнікі-сыны.
Мінае ім дваццаты, дваццаць пяты,
і больш, і менш. Усе, усе яны —
Твае, Тваімі й вернуцца дахаты.

Зварот ня будзе "суетой сует",
ня будзе ён цяжкім "тамленьнем духу".
Пабачыць волі сьвет і праўды сьвет,
як пад зваротам тым сьвет цемры рухне.

І мне міне тады больш сталы год,
і я скажу ізноў, як сяньня, шчыра:
— Пра няўміручы край мой і народ
яшчэ гучней грымі, збытога ліра!

1. 5. 1946

* *
*

Так і сталася: тую, другую,
пра якую так марыў, знайшоў.
Сам за тое сабе не дарую,
што да тэй ад цябе я пайшоў.

І ня ты, і ня ты, а — другая,
зь ёй інакшым зрабіўся другім.
Быў табе дарагім, дарагая,
і ў другой... і ня стаў дарагім.

Меў цябе і пагляд твой цікавы —
ён агенчыкам зьнічным гарэў,
і пры шклянцы халоднае кавы
ім я сэрца сьцюдзёнае грэў.

А ў другой... няпрывабная ўсьмешка,
твар, бы месяц, маўклівы ў другой.
Ні мяжы новай дружбы, ні ўзьмежка
не адчуў пад сваёю нагой.

Я ня ведаў другой. I другая
ня зы мною была, [illegible] з другім.
Зноў прыйду да цябе, дарагая,
дай-жа Божа зноў быць дарагім.

Бэрлін, люты 1945

## Да зборніка ВЯНКІ

### АКРАСТЫХІ

**Н**яхай чужыны хмурай ветры
**I** шэрань поўначы сырой
**Н**яласкава і няпрыветна
**А**хутваюць дзень ясны мой, —
**Ч**акай: ад іх [illegible] няпрыкметна
**К** табе ўцяку вясною сьветлай.
**А** мо й раней —перад вясной.

* *
*

**Л**істы пішу табе — сьлед лучнасьці ня гіне.
**Ю**нацтва цьвет, о не — тугу сустрэла ты.
**С**вой нарадзінаў дзень спраўляеш на чужыне,
**I** я... з чужыны шлю вітальныя лісты.

Студзень, 1944

* *
*

Мой сьціплы ложак! Прытульны спынак
інтымных думак! Жыцьця спачын!
Як лягу спаць я — і пра дзяўчыну
успамінаю, калі — адзін.

Падушка й коўдра у кажнай нітцы
хаваюць думкі — аб ёй, аб ёй!
Заплюшчу вочы — яна мне сьніцца,
як толькі ўстану — няма зы мной.

Ізноў я лягу — ізноў я ў мроях,
віна́ ўсіх думак — з табой, з табой!
Няма спачыну, няма спакою...
О сьцішлы спынак! О ложак мой!

14. 11. 1944

Памяці Ліды Н.

Любіла красы паўніню,
ішла напярэймы дню.
Хто дыхаў нязгаснай красой,
той вечна жыць будзе, бо зь ёй.

23. 10. 1973

## Да зборніка НЕСЬМЯРОТНАСЬЦЬ

### НАДЗЕЯ

Уступ да паэмы

На высьпе пустэльнай згарае шчасьце
табе адданых — помніш іх ты.
Б'ецца аб камень жорсткае засьці
сокалам падбітым агонь сьвяты.

Сохне, зьбягае спацехі крупінка
між скалаў горных, траваў рудых.
Зрэдку праб'ецца жывая расьцінка —
сардэчных пачуцьцяў гарачы ўздых.

У імкненьні да сонца жыцьцё не мадзее.
Узыйшлай расьціне набрацца сіл.
Разгортвае крылы ўзьлётаў надзея,
рвецца надзея за небасьхіл.

Ёй шлях ня лёгкі — з хмараў сьцякае
улеваю чорнаю ночаў цяжар.
Пекла зьнішчэньня высь расьсякае —
сыплецца зь неба зораў жар.

Ды над тваімі палямі, барамі
ня гасьне полыск сілы жывой.
Надзею вітае пры ўвойсьцьнай браме
дух няўміручы — ён вобраз твой.

Дужэе сэрца, воля цьвярдзее —
хілых ня знае крыльляў размах...
Ня гасьне вера, жыве надзея
рвецца надзея ўва ўзьлётны шлях.

1950

## УСПАМІН

Зайсьці і не застаць анінікога дома,
вярнуцца анізчым — ці-ж гэта ня зьнікома?
Хоць побач дні-сябры — гадоў-вазёр кругі,
а ўсё-ткі па адным імкнуцца ў берагі.
Што сталася з табой, мой дружа адзінокі?
Мо гэтак, як і я, маркоты лічыш крокі?
Мо пад трамвайны звон у шуме гарадзкім
успомніў раптам ты аб самым дарагім?
Вось вечарэе ўжо. І месяц невясёлы
прыйшоў сюды адтуль, дзе сьлёзна плачуць долы.
Ён быў там сяньня ўдзень. Як зноў пачне сьвітаць —
о хоць-бы зь ім адным твой успамін застаць.

1952

## КАМЭНЕ *

Як згасьне дзень, не адыйду навекі,
не абміну надойсьцьнае пары.
Прыйду назад, дзе ўсьцяж гамоняць рэкі,
дзе ўтораць ім і нівы, і бары.

Наўскрай зямлі — я жыў і дыхаў імі,
чуў іхны грай над хваляй морскіх вод.

---

* Камэна ў старавечнай рымскай міталёгіі — німфа крыніцаў і вадаграяў, у пазьнейшым разуменьні — таксама муза. (Рэд.)

Сваймі былі яны паміж чужымі,
як для вясны — праменны сонца ўсход.

Над імі ў зьле, няволі вісьлі хмары —
і прадчуваў надойсьця вольны рэй.
Аб іх сьпяваў ля спадаў Ніягары
і ў тэй зямлі, якой плыве Мурэй.

Знаёміў іх з пахмурным Альбіёнам,
ад іх вітаў цьвяцістую Шампань.
І дыхаў дол глыбінным гучным звонам,
зь вячорных сноў абуджваючы рань.

У гушчарох зьняверлівае стомы
імкнуўся і парывы духу даць,
каб ён шугаў да зораў панад стромы
і ня сьхіляў у злыбедах пастаць.

О ты, мая адзіная Камэна,
на ўсіх шляхох нязьгінам дзён сьвяці!
Не адыйду... Наперайм крочыць зьмена:
я зь ёй і ў ёй — і ў песьнях, і ў жыцьці.

1959

Дарагому сябру Міколу — у 65 год жыцьця.

Яно прыйшло адтуль, дзе ўцеха ходзіць з горам, —
жыцьцё цярністае. Там шчырыя сябры —
шлюць гімны хараству неўтаймаваным хорам —
прасторы хлебныя, гульлівыя бары.

Яшчэ адзін парог. І зноўку сонца ўзыйдзе.
Адплыне ў нябыцьцё цяжар і крыўд, і мук.
Пачаты ўчора шлях у морак не адыйдзе,
бо поруч на яго ступае сяньня ўнук.

Ды будуць зноў цьвіцець сады і пахнуць хвоі,
пшаніцы і жыты да неба ўздымуць зрок.
Ні сыпкія пяскі, ні сьнежныя сувоі
назаўтра не зьмятуць унука мужны крок.

23. 10. 1976

## ПЕРАКЛАДЫ

### — з Р. М. Рыльке (зь нямецкае)

### ПЕСЬНЯ СТАТУІ

Хто так моцна, бязьмежна кахае мяне,
што гатовы на шлях нябыцьця?..
Той, хто дзеля мяне знойдзе сьмерць ў глыбіне, —
той каменнае сэрца зварушыць ўва мне,
той абудзіць мяне да жыцьця.

Я сумую, бо кроў ува мне ня вірліць:
маё цела — маўклівы камéнь.
Я чакаю жыцьця: бо так хараша жыць...
ці адважных няма, каб мяне аджывіць,
каб падаць абуджэньня прамень?

І калі прыйдзе час, што змагу я прыняць
ўсе найлепшыя скарбы быцьця. —
. . . . . . . . . . . . .
Зноў пачну сумаваць,
пра камéнь шкадаваць,
бо крывёю сваёй, што віном будзе граць,
не змагу [redacted] таго зь нетраў морскіх узьняць,
хто кахаў мяне больш ад жыцьця.

### ХЛОПЧЫК

(Маленькі ваяўнік)

Я так хачу падобным быць да тых,
што ў ночны час на хуткіх конях мкнуцца,
і на бягу вагні паходняў ўюцца,
як плоймы валасоў яскрава-залатых.
Наперадзе усіх хачу [redacted] быць,
як сьцяг разгорнуты, што ў выш лунае, —
мой шолам залаты ў вагнёх паходняй зьзяе.
І рад ваяўнікоў імчыць за мной,
іх шоламы, таксама як і мой,
тут прызрастыя, тут ізноў зазьзяюць,
тут шклом бліснуць, а тут ізноў зьнікаюць.
Каля мяне — трубач. І клічаць ён

нямую даль, труба яго зігціць,
змагарны гук над цемраю мігціць,
церазь якую мкнёмся мы, як сон:
дамы за намі валяцца на брук,
хіляцца вуліцы пад сілай нябывалай,
пляцы здаюцца ў міласьць нашых рук...
А коняй нашых бег гудзіць навалай.

## СУСЕД

Нябачная йскрыпка, што ўсьлед мне ідзеш?
І чый гэта сум неадступна нясеш
да суму маіх адзінотных гадзін?

Ці шмат іх сумуюць? Ці толькі адзін?
Ці мала у сьвеце ёсьць гэткіх людзей,
што ў хвалях шукалі зьдзяйсьненьня
надзей,
бо гук твой ня ўчулі ў віхуры зямной?
Чаму-ж ты ідзеш неадступна за мной?
Чаму я бываю сусед толькі тых,
што узбуджаюць у струнах тваіх,
што выказаць хочуць у ночнай цішы
нястрымныя жальбы самотнай душы?

1942

**— зь Леаніда Палтавы (з украінскае)**

## ХТО МЫ?

Апавітыя горам і славаю,
у ночы прадоннай чашы
залатымі рыбамі плаваюць,
нягаснучы, вокны нашы.

Мы сонца праводзім працаю
і працаю сустракаем.
І ўсё-такі наша нацыя
завецца йшчэ "Южным краем."

Хто-ж мы? Ахвяры паховінаў?
Узьнятыя ў небе рукі?
Ці новых часоў Бэтовэны,
што пішуць, ня чуючы гукаў?

Ці можа аж з гор Патагоніі
шматколернаю ценьню
нязмоўкныя нашы сымфоніі
далей павядуць пакаленьні?'

1947

## У БАЛЬНІЦЫ

Бязьмежны сьвет разгадвалі з запалам,
і веліч гораў трушчылі у пыл.
Патройвалі патугу аманалам,
калі сваіх не выстачала сіл.
А чалавек у сонечнай бальніцы
ляжыць на ложку ў болю, у журбе,
ляжыць адна з найбольшых таямніцаў,
якую рабска носім у сабе.
Ляжыць ня промень, ня руда, ня камень,
а сьвету і зямлі ўладар спакон.
Ды ваш, о, добрая сястра, ваш "аман"
ня ведаю, ці ўхіліць вечны сон.
Здабыта ўсё. І ёсьць усё ў бальніцы:
і шкло, і ціс, хвіранкі, і сьвятло.
Прабач, нябожа, —
нашу таямніцу
пазнаць нам часу навет ня было.

1955

**— з Адама Міцкевіча (з польскае)**

## ДА НЁМНА

Нёмне, рака айчыны! Дзе ёсьць тыя воды,
што іх яшчэ ў маленьсьцьве чэрпаў у далоні?
Што імі потым плаваў у дзікія тоні
неспакойнаму сэрцу шукаць прахалоды?

Тут Ляўра ў захапленьні з уласнае уроды
любіла зьбіраць краскі і аквечваць скроні;
той вобраз, люстраваны ў срэбнахвальнай лоні,
сьлязьмі ці раз муціў я — натхнёны заўсёды.

Нёмне, мой родны краю! Дзе-ж бедаў пагрозы,
і зь імі поўна шчасьця, нядолі так многа?
Дзе ўсьмешкі ўяў дзіцячых — ранку залатога?

Бурлівы ўзьлёт юнацкі і мройныя крозы?
Ляўра — уцеха й радасьць? Сябры дзе? Нікога...
Мінула ўсё... Чаму йшчэ зы мной мае сьлёзы?

1955

## — з Макса Дунна (з ангельскае) *

Скакаў я, пакуль дзьвюх ступнёў ня меў,
сьпяваў я — ня меў языка перад тым,
сьмяяўся, ня маючы двух вачэй,
кахаў, пакуль сэрцам ня быў маладым.

Я плаваў, пакуль ня меў дзьвюх рук,
трымаў адлегласьць у пальцах ног
яшчэ перад тым, як сусьвет пазнаў
і зьведаў дзікі прабуд у снох.

Шматлічных жыцьцяў зыбраў я плод,
пакуль ня ўступіў у гэты час.
Я знаў — без магілы, ня ўскопанай мне —
зьядае чарвяк толькі сьмерць якраз.

Морэлянд, 1973

* Макс Дунн радз. у Дубліне ў 1895 годзе, адукацыю атрымаў у Віндчэстэры, Сарбоне, Эдынбургу й Калюмбійскім унівэрсытэце. (Аўт.)

## ПЕРШЫ ГРОМ

Галасам моцным, ціха і важна
гром пакаціўся ўгары.
Луг адазваўся грому працяжна,
лес адгукнуўся стары.

Гай страсянуўся, дрыгнула поле,
долы той гук панясьлі;
ў гэтым раскаце чуецца воля,
чуецца радасьць зямлі.

У грукаце гэтым многа ёсьць сілы,
чуецца моц і прастор...
Першыя громы! Сэрцу вы мілы,
люб мне ваш сьмех паміж гор.

## УЛЕТКУ

Ласкава зірнула
зранку ў хату сонца
і зазьзяла ясным
бляскам на ваконцы.

У зялёны гай мы
пойдзем сёньня, дзеткі;
ягады ўжо ёсьць там,
і красуюць кветкі.

Там, паміж кустамі,
знойдзем мы суніцы;
ў лесе нас чакаюць
сьпелыя чарніцы.

Там іскрыцца срэбрам
рэчка на прасторы.
Запяём мы ў гаі
песьню дружным хорам.

Запяюць вясёла
разам з намі птушкі;
з намі загамоняць
і жучкі і мушкі.

1944

## СЬНЯЖЫНКІ

Пухнатыя сьняжынкі
лятаюць над зямлёй.
Зялёныя ялінкі
пасталі грамадой.

Там бельлю ўсё паслана,
дзе мох кудлаты рос.
Сягоньня вельмі рана
прачнуўся Дзед Мароз.

Пухнатыя сьняжынкі
лятаюць над зямлёй.
Пратопчам мы сьцяжынкі
вясёлай грамадой.

## ДЗЕД МАРОЗ

З дарагімі пакункамі
завітаў Дзед Мароз.
Шмат уцех з падарункамі
ён усім нам прынёс.

Над сьнягамі сыпучымі
дзеду стомы няма.
Маразамі траскучымі
ня спыняе зіма.

Дзед шляхоў многа ведае
і прыходзіць штагод,
ён сягоньня адведае
наш жывы карагод.

## ЯЛІНКА

Сягоньня ялінка наша
цуднейшая, чымся калі.
І Сьцёпка, і Юрка, і Саша —
мы ўсе да яе прыйшлі.

Яе нам прыгожа прыбралі
у чырвань, у белы сьнег.
І чуецца радасьць на залі —
і песьні, і звонкі сьмех.

Втаем мы Дзеда Мароза
з каханай айчыннай зямлі.
Нам сумныя дні — не пагроза,
у нéбыт яны адплылі.

## ЗАЙЧЫК

Зайчык мілы, зайчык шэры
будзе доўга, доўга жыць.
Дабразы́члівы бязь меры
дзед Мароз пры ім сядзіць.

Мае дзед частункаў скрынкі —
чакаляды, ліманад.
Частаваць каля ялінкі
ён і нас, і зайку рад.

Паза вокны, паза дзьверы —
навакол наш сьпеў чуваць.
Зайчык мілы, зайчык шэры
хоча з намі танцаваць.

1959

## ЗМАГАР АЙЧЫНЫ *)

Мой дзед ваякам быў.
У царскім войску
на Турка йшоў з адвагай змагара.
Змагаўся-ж ён не за свае палоскі,
а за "айчыну" й "бацюшку-цара".
І бацька мой змагар быў з даўным
гартам,
ішоў у бой з аддзеламі "Русі".
Што-ж ён здабыў?
Ад газаў на Карпатах
сваё здароўе й сілы падкасіў.
Цяпер змагар і я.
Але змагар айчыны,
ня царскай, а свае — Беларусі!
Змагар пары, што ў слаўныя бачыны
вялікай прышласьці упіша нас
усіх!

Шмат нас такіх!
Я веру:
мы здабудзем
Радзіме славу й волю на вякі.
Зірні, прыслухайся, крывіцкі
людзе, —
ідуць у бой Крывіцкія палкі!

Менск, 10. 3. 1944

---

*) Гэты верш павінен быць на б. 226, перад вершам «Добры дзень табе, сонечны Слуцак», але мы атрымалі ягоны тэкст, калі ўвесь набор ужо быў укладзены й перарабляць яго было-б занадта склада̀на.

Гуманізм

Праўдзіва нам стагоддзяў пыл страсаючы,
М. Багдановіч.

1. Францішак Скарына.



месце Вільні, у цішы ад бруку,
у шэрым замку, думна-самавітым,
ў пакоі сціплым, даўнінай спавітым,
я зь ім спаткаўся без размоў, без гуку.

Стагоддзяў пылу я страсаю з друку,
між літар бачу зрокам прагавітым,
як людзям простым, людзям паспалітым
са словам нёс ён праўду і навуку.

Зь бязьмежнай прорвы цёмнага зьмярканьня
падняў радзіму дух яго глыбінны...
Лістай балонкі мудрага чытаньня:

радкоў чырвоных краскі і галіны,
паўмесяц, сонца — як вянок адзіны,
як непагаснасьць вечнага сьвітаньня!

Аўтограф вершу “Францішак Скарына”.

* *
*

Хацелася-б мне вылаяцца ў вершы
на век дваццаты, на прадажны сьвет.
Салодкім словам сэрца ня суцешыш,
аглухла Муза, а паэта сам — асьлеп.
Гарыць зямля ў крыві — чын новы чалавека.
З агнём зьлілося сонца. Дым густы.
І курчыцца ў вагні ўвесь сьвет
з дваццатым векам,
ня бачна больш прыстойнасьці й красы.
Таму хацеў-бы вылаяцца ў вершы
на век дваццаты, на прадажны сьвет.
А ён гарматаў мовай кажа: — Першым
я мушу гаварыць, маўчыць паэт.

Пуйкуле, Лацьвія, 9. 8. 1944

* *
*

Мне твая спадабалася ўсьмешка
і пагляд непадманны вачэй.
І, здаецца, — былі мы на ўзьмежку
нашай дружбы. А жыць не лягчэй.

І ня стала лягчэй на душы мне:
быў узьмежак, мяжы — ня было.
Паранейшаму п — на чужыне,
што было — дык і тое сплыло.

Мне здавалася — будзем сябрамі,
хоць у думках пабудзем парой
на радзіме з палямі, з барамі,
зь небам сінім, з барвовай зарой.

Ну, а ты? Ты усім расказала,
расказала з таго ні зь сяго:
— Гэткіх тыпаў заўсёды я знала,
горшых, пэўна, няма за яго.

Мне-ж у вочы: — Дзіця — ня мужчына.
Што й казаць — я дзяцей ня люблю...

...Пасябрую з другою дзяўчынай,
на мяжу новай дружбы ступлю.

І бяз болю зыйду я з узьмежку
дружбы сяньняшняй — будзе лягчэй.
Пасябрую з другою усьмешкай,
зь непадманным паглядам вачэй.

Бэрлін, 25. 1. 1945

## МАЙМУ КАХАНЬНЮ

Шкада, я вам не зразумець
мае, для Вас чужое мовы...
Я ў Вашых буду лятуцець
абдымках палкіх без размовы.

Засну, і ў першым сьне да Вас
прыйду, і буду да сьвітаньня.
Няхай шуміць ля вокнаў вяз
пра нас дваіх і ... пра каханьне.

Прыйду, прыйду... Хай усяго
сказаць у словах ня зумею, —
маіх пачуцьцяў пал-агонь,
а пацалункі — джгала зьмея!

Сказаць Ich liebe ўмею я.
Люблю — маіх жаданьняў словам.
Sie meine — Вы мая, мая.
Скажу астатняе бяз мовы.

Прыйду, прыйду. Сугрэю Вас,
Вас абдыму, Вас расцалую.
Кахаю я ня першы раз.
Так моцна першы раз люблю я.

Кірхгайм, Аўстрыя, 12. 5. 1945

## ТЫСЯЧА ДЗЕВЯЦЬСОТ...

(Паводля найноўшае моды)

Прысьвячаецца Янку Юхнаўцу

Нямінучасьці — натхнёны
ход.
Крочыць Новы, няўнікнёны
год.

Час плыве, шле з дальных рэйдаў
блік,
піша ў небе белай крэйдай
лік.

Крэсьліць: тысяча і дзевяць
сот...
З пражытога ймкне у неведзь
стод.

Рэшту лікаў затуляе
ён,
а на першых свой стаўляе
плён.

Гэта— дзён мінулых выхрыст
"V", *
а на доле злы антыхрыст —
"гаў!"

"V" паказвае атомам
шлях,
на антыхрыста стагромам —
бах!..

---

* «V» — літара лацінскага альфабэту V, якая панямецку завецца «фаў» (так і вымаўляецца гэты знак V у гэтым вершы) ды была ўмоўным абазначэньнем нямецкае ракетнае зброі, ужыванае напрыканцы Другое сусьветнае вайны. (Рэд.)

І зьляцеў з маіх павекаў
сон.
Бачу: спомірснаму веку —
скон.

Вялікома йдзе ўва ўсеведзь
год,
Новы — тысяча і дзевяць
сот...

1946

## — з Тараса Шаўчэнкі (пераклад з украінскае)

Садок вішнёвы каля хаты,
хрушчы над вішнямі гудуць,
аратыя з плугамі йдуць,
сьпяваюць ідучы дзяўчаты,
а маткі на вячэру ждуць.

Сям'я вячэрае ля хаты;
зьвязда вячорная ўстае;
дачка вячэраць падае,
а маці вучыць — часу страта,
бо салавейка не дае.

Паклала маці каля хаты
маленькіх дзетачкаў сваіх,
сама заснула каля іх.
Заціхла ўсё... Ня сьпяць дзяўчаты,
ды салавейка не заціх.

1947

## ДОМ

Прысьвячаецца М. С.

Мой сябра, час настаў нам дом пабудаваць.
Так цяжка безь яго тужыць і бедаваць.
Хацелася-б, каб ён перасягнуў харомы,
і роднай хаты стыль сусьвету стаў вядомы.
Руплівай працы плён — наш будаваны дом —

вось гэты сьціплы верш, што рады жыць зь відном.
Пад вуравень пастаў страфу-александрыну
і нацягні пад шнур радкоў усю тузіну.
Паставіць кропку — цьвік забіць — ня варта ўмець,
павінен талент быць, натхненьне трэба мець.
І зьзяцьме ў доме ўсьцяж
прыйсьцьдзёньне дня — сьвітанак,
ягоны дах — назоў, твой стройны подпіс — ганак.

1951

* *
*

У гэты час, калі ўсясьвету зоры
мігаюць нам — у дол, у цішыню,
наш розум ёсьць уздымны і празорны
узносіць нас далёка ў вышыню.

Надыйдзе ноч — прастораў там вазёры;
і скажам так наступнаму мы дню:
вяртаемся да тых зямных крыніцаў —
там — толькі-ж там жыцьцём усім напіцца.

## УДЗЯЧНЫ ЎСІМ

Пясьняр, змагар, бядняк праз век,
быў перш за ўсё і чалавек.
У. Жылка

Удзячны ўсім за шчырасьць цёплых словаў,
за ваш узьлёт, так добра бачны мне.
Ад гарадоў узрушных, новых сёлаў
ракетай ён высока ў неба мкне.

Высока там — і зьдзейсьненьні, і мэты,
а нізка тут — тым зьдзейсьняньням пачын,
і над сьвятлом сучаснае плянэты
раджаецца плянэтаў заўтрых чын.

Я з вамі быў, і з вамі ўсьцяж я крочу,
жадаю ўзьняць вышэйшы лёту ўзмах.
Так нечут вам шчасьлівасьці прарочу,
хоць можа сам ня ўзьнёс вышэйшы гмах.

І можа сам, як чалавек, сьхіліўся,
ды ў вершах быў і шчырым ад душы.
Усьцяж быцьця шляхі перасякліся,
гамонкі шлях і шлях глухой цішы.

Не абміну і сяньня сьветлай веры
у тое, што заўсёды будзе жыць.
Прыхіліцца спачын, навекі шэры,
і ваш узьлёт жыцьця не перасьпіць.

## Я ЖЫЦЬ ХАЧУ

Я жыць хачу, хоць морак цёмных сіл
нясе загін зьняможанаму сьвету...
Ад сэрца і — крыві, ад пульсу жыл
адна мальба да рады ці савету:
дай волю нам, жаданую здавён, —
і мы мінём нячыстых д'яблаў сілы.
Трагедыя, калі мільлён... мільлён —
жыцьцё складуць заўчасна ў змрок магілы,
крыжовы шлях, цярніста-зьгінны шлях —
і валіцца на дол цярпеньня сьцяг.

## ЁН І ЯНА

Яна: "— Ты ёсьць найлепшы сябра мой
да самага жыцьця майго скананьня... —"
Адцьвітваў бэз у роспачы нямой,
ня ведаючы заўтрашняга раньня.
А ён: — "З табой, няхай канец вясьне,
пайду на зьгін сусьвету, каб ня зьгінуў... —"
І як было, і як было ў вакне
скажы —
жыцьцё цьвіце на самым рубяжы...

* *
*

Дабрыдзень беларускай хаце!
Чалом нашчадкам Крывічоў!
Дай Бог Табе, мой родны браце,
шчасьліва йсьці плячо ў плячо

з высокасьцяй тваіх ідэяў,
з адлукай ад клапот былых,
зы зьдзейсьненьнем усіх надзеяў,
з хутчэйшай блізкасьцяй да іх.

23. 2. 1952

## УСЬЦЯЖ

Памяці Уладзімера Аксючыца

Віхура зла за хмуры акіян
шпурнула нас, нібы ў прадоньне зьгіну.
Ды ты мінаў няўцехі і абман,
і палка так любіў сваю краіну.
Зямля вясны і сонца неба ўсьцяж
былі з табой, як-бы сябры, у згодзе.
Калега мой, найлепшы дружа наш,
ты зваў сябе, як найпрасьцей, "Валодзя"...
Спачыў навек ты на зямлі чужой...
Хай сьніцца ўсьцяж табе
край родны твой.

1966

## МАМЕ

(замiж вянка на магілу)

Мама, мама, мая дарагая,
ты глыбока ў магіле сьпіш.
Над зямлёю высока мігае
зырказьзяйны Паўдзённы Крыж.

Ува ўявах пад ім, як чад-бы,
Беларусь — лятуценьне і сон.

Ейных ткальняў дабротных скарбы
сьвет вітаюць з цудоўных красён.

Ты радзіла мяне ў Беларусі,
напаіла, карміла, дала
пры глухой ледзяной завірусе
нязьлічоныя пешчы цяпла.

Беларусь, Беларусь, сьнегавеі
прамінаюць, іскрыцца вясна.
У цьвяцістай пялёсткаў завеі
расьцьвітаньняў — ты зь імі красна!

Застаешся нястрачанай мамай,
акрыліўшы лятою мяне...
Не згаджуся з глыбокаю ямай
і ня буду зь ёй сябрам я, не!

Ня зьмірыся прыхільна ў згодзе
з чужаземнаю доляй цяжкой,
прападае спацешша майго дзе
і згасае сьвятлярны спакой.

Але ўсё-ж, як зямля прытуле,
мы пад ёю — адна сям'я.
Дарагая мая матуля,
залатая айчына мая!

Хай зырчэюць пад сонцам сьвітаньні —
імі кажны ў глыбінях сугрэт.
Прывітаньні табе, прывітаньні,
мама, мама, Твой сын
Альфрэд.

1967

* *
*

Ізноў я завітаў да Вашай хаты,
а ў ёй — анікагусенькі няма...
Адведзін келіх, сяньня непачаты,
наступны раз зазвоніць нездарма,
бо мы ня ведаем прыязьні страты —

не абмінаем блізкіх сьціхама.
Сустрэнемся, спаткаемся, пабачым
узьлёты думаў у вагні юначым.

27. 10. 1968

Паважанай Ларысе Геніюш,
у шасьцідзесяцігодзьдзе жыцьця —

Вялікія тамы зь няславай і шматслоўем
ня могуць замяніць нязмрочнае красы,
зь якой штачас, штадзень, заўсёды ў сэрцах ловім —
няхай найсьціплых два — айчыны галасы.

І зь "Невадам"... плывём у глыбы таямніцаў:
прадонны сьвету скарб і полымя зары.
Там няўстрыманы ўзьлёт да зораў — да крыніцаў —
сьвятла струмень, браты і сёстры, і сябры.

1970

## БЫВАЙЦЕ

Бывайце, радасьць і цяпло сустрэчы,
сябры і сёстры родныя, браты!
Уздымны пошуг зорнае ляты
нас не разлучыць з думкамі ўдалечы.

Разважны розум — не цяжар на плечы,
у ім нязгасна зьзяе Дзень Сьвяты —
ён абмінае шлях паўзбоч круты
да волі сьветлай зь цемры і галечы.

І мы сустрэнем зноўку, у мамэнт,
той час, што зьнішчыць не́пагадзь ушчэнт.
О, як прыемна па гадох даўжэзных

пабачыць чулых, дружных землякоў,
вярнуцца ў раньне досьвіткаў сунежных —
няма там путаў, зьдзеку і акоў.



Паэтава жонка, Ант. Адамовіч і кенгуру Гонкі.
Аўстралія, 1977 г. (фатаграфаваў Алесь Салавей).

# ДУХ ПРАЎДНЫ, ДУХУ ЗЛА НЕПАДУЛАДНЫ

Сцэнічны абраз у ваднэй дзеі

**Удзельнікі:**

Уступнае слова
Алесь
Мікола
Рыгор
Анатоль

Перад зачыненаю заслонаю зьяўляецца

УСТУПНАЕ СЛОВА:

Дабрыдзень вам, суродзічы на залі!
Дабрыдзень, госьці! Шанаваньне ўсім!
Гады плывуць, як бурных водаў хвалі,
адны — на спад, а іншыя — на ўздым.
У буйным росьцьвіце красы вясновай,
у пошугу крылатае ляты
зямля атульвае жыцьцё абновай,
а неба дорыць позірк залаты.
Збалелы-ж смутак для душы чульлівай
нясе пары узьлётнай нізкі спад.
Пад горкім плачам восені тужлівай
хаваецца ў туманах далягляд.
Хай не агортвае нас морак шэры!
Журбу адкінуўшы, у лепшы час,
у шчасьлівейшы дзень — нязгаснасьць веры
вось тут мы хочам паказаць для вас.
Хай над зямлёй лунае сьпеў суладны,
хай б'ецца ў ёй крыніц ажыўчы сок!..
"Дух праўдны, духу зла непадуладны" —
завецца так наш сьціплы абразок.

(Зьнікае, у гэты мамэнт адчыняецца заслона.)

Пакой, падобны да габінэту. Пісьмовы стол з грудамі кніжак. Наўкола колькі крэслаў. Пры стале сядзіць Алесь, нешта чытае.

АЛЕСЬ (устаючы, ходзячы):
Кхэ-кхэ (кашляе)...

А неба
на дол ківае пальцам, як сто год
таму назад. І сотні год усьцяж
зямлю ажыўчай сілай неба поіць
і сварыцца за грэшныя праступкі —
яна-ж ня хоча слухацца, ня хоча...
А я сябе пацешу звабнай казкай:
каўром зялёным слалася пад небам
зямля, і гэткаю была заўсёды,
як сёлета, вясна; у тых-жа хварбах
шырокім шляхам лета праставала
на сьветлы і здавольны супачынак;
і восень ува ўсіх сваіх калёрах
сьхілялася з паклонам над зямлёю;
зіма на шугавейных белых крылах
шумела ўзмахамі, на дол сядала,
адпачывала з важнаю задумай,
цираз ізноў узьняцца спрабавала,
махала крыламі — ізноў на дол
у стоме падала, а раптам сонца
яе тапіла ў рэках нястрыманых
і параю ўздымала да нябёсаў;
ізноў ішла раскутая вясна...
Калыша казка, спаць мяне ўкладае,
сьпяшаецца сказаць, пакуль ня позна:
яшчэ ніхто, ніхто, яшчэ ніколі
ня змог пад сонцам і пад небам бачыць
красы тае ў вясновых зыркіх хварбах,
у тых усьмешках летніх — у раскошы,
у тых васеньніх смутках маляўнічых,
у тэй зімовай белай сумятні —
тае красы, што ёсьць і што існуе —
няўлоўленай паглядам чалавека,
ня дадзенай яму яе ўлавіць.
І не пабачанай яна загіне,
і не пабачанай ідзе на зьгін.
Ідзе на зьгін. Заўжды ажыўчай сілай
паіла неба дол, але цяпер —
на дол зыходзіць зь неба д'ябал сьмерці,
народжаны зямным непаслухмянствам...

(чуваць стук у дзьверы)

Там стукаецца нехта...

(стук паўтараецца)

Калі ласка!

(Уваходзіць Мікола)

МІКОЛА:
Дабрыдзень, сябра мой Алесь!

АЛЕСЬ:
Дабрыдзень!

(Ціснуць рукі)

МІКОЛА:
Як маешся?

АЛЕСЬ:
Лепш ня пытай... Як ты?

МІКОЛА:
Я чуюся заўсёды вельмі добра,
бадзёры праз усё маё жыцьцё —
і радасьць агартае мае думы...
Я сьветлых дум прыяцелям жадаю
і навет ворагам... Бо вораг... Ён... Ну што?..
Ён сам зусім ня ведае, што робіць...
Ягоныя і сэрца і пачуцьці
аблытаныя чорным павучыньнем
шайтана-д'яблавай нячыстай сілы.
Калі-ж іскра сьвятла ў яго істоту,
іскра сьвятла ўпадзе — тады і ён
пачне шукаць збавеньня ад зьняверы.
Як знойдзе — ён пабачыць прабуджэньне
ад чаду, што сьляпіў, сушыў яго.
А як ня знойдзе, дык туды й дарога
яму адна — у цёмнае прадоньне.
Дух праўдны, духу зла непадуладны
ня ўкленчыць у пакоры перад ім...
Але вось ты... Чаму такі ты сумны?
Што сталася з табой?

АЛЕСЬ:
Сядай, Мікола.

(Сядаюць)

МІКОЛА:
Мне думалася — ты...

АЛЕСЬ:
О не, о не!
Лаўлю тваю я думку на паўслове —
ня ёсьць я рыцарам, ня ёсьць манахам,
ня ёсьць апосталам сьвятла, як ты...
Як лягу спаць — а мне зусім ня сьпіцца,
як толькі ўстану — месца не магу
знайсьці сабе, на сэрцы гэтак цяжка
і гэтак сумна на зямлі чужой,
што толькі бачу ўсё перад сабою —
пагібель сьвету бачу, больш нічога.

МІКОЛА (устае):
Ну, ты ўжо тут загнуў... І як так можна
сябе ў распачы мучыць і губіць?
Як можна працаваць і захапляцца
дарамі, данымі зямлёй і небам?
Як можна будаваць жыцьцё ў палоне
шчымлівай больсьці сэрца і душы?
О, гэта вельмі зьядлая хвароба!
А для яе так шмат агойных лекаў:
яны ў самой прываблівай прыродзе.
Вось раньне зыркае і сонца ўсход
цябе абуджвае, вядзе, натхняе.
Люстраным водбліскам мігаюць росы,
разнагалосы сьпеў на ўсе лады —
птушыны сьпеў палоніць навакольле.
О, як прыемна жыць на гэтым сьвеце!

АЛЕСЬ:
Прырода, птушкі, росы, ну яшчэ што?..

МІКОЛА:
А ці-ж бо не? І гэта там, дзе маеш
скажу тут проста, хлеб штадзённы свой
і ўсякага дастатку, што да хлеба.
Сам ведаеш — на сьвеце шмат людзей,
няволяй мучаных. Яны ня сум,
але і сіверны мароз і голад,

і зьдзек, і злыбяду перамагаюць —
і не скараюцца. Трымае іх
нязломнасьць духу, мужнасьць і адвага.
А тут? Што тут... Вось толькі трэба ўмець,
вось трэба ўмець у ўсім вакольным бачыць
ня тое, што і мучае й гняце,
а тое, што ўзварушвае і ўзносіць.

(Стук у дзьверы)

Бач, нехта завітаў да нас...

АЛЕСЬ:

Заходзьце!

(Уваходзяць Рыгор і Анатоль)

РЫГОР (да Алеся):
Дабрыдзень, дзядзька!

АЛЕСЬ:

Добры дзень!

АНАТОЛЬ:

Дабрыдзень!

МІКОЛА:
Дабрыдзень!

(Мікола і Алесь устаюць, вітаюцца)

Рады мы, што вы прыйшлі.

РЫГОР:
Прыйшлі адведаць дзядзьку мы — Алеся.
Як ён жыве, як маецца? Ён нам
знаёмы добра.

МІКОЛА:

Гэта проста скарб
на сьвеце мець сяброў такіх, якія
яшчэ не адракліся ад цябе.

АЛЕСЬ:
Я вельмі ўдзячны вам за вашу ўвагу

што да мяне. Якія весьці ў вас?

РЫГОР:
Я песьню вывучыў, яе жадаю,
калі мы ўсе зьбяромся, прасьпяваць,
калі мы ўсе, суродзічы, сям'ёю
зьбяромся дружнай — прасьпяваць для ўсіх,
я так зачараваны гэтай песьняй
на словы Багдановіча...

МІКОЛА (да публікі):
Увага!

(Мікола, Алесь і Анатоль сядаюць)

РЫГОР (сьпявае ведамы раманс на словы Максіма Багдановіча «Зорка Вэнэра ўзыйшла над зямлёю»).

МІКОЛА (як толькі Рыгор скончыў сьпяваць):
Цудоўна!

АЛЕСЬ:
Надзвычайна!

АНАТОЛЬ (устае):
А вось я
хацеў-бы зь вершам выступіць, як мы
зьбяромся разам дружнаю сям'ёю.

МІКОЛА:
Ня толькі песьню, а і верш мы любім.
Ты дэклямуй — мы слухаем уважна.

АНАТОЛЬ (дэклямуе):
Над зямлёю зьбіраюцца хмары,
грымна ймкне навальніца... *

АЛЕСЬ:
Цудоўна!

МІКОЛА (устаючы, да публікі):

---

* Верш надрукаваны ў зборніку «Сіла гневу» — б. 36-я (аўт.); гл. б. 89 гэтага выданьня — верш «Конадзень» (Рэд.).

Надзвычайна!

(да Анатоля):

Дык сядай,
будзь ласкаў, я-ж яшчэ сказаць тут нешта
на ўвеце маю.

(да Алеся):

Бачыш сам — няма
няўцехі сумаваць, або праймацца.
Цябе сябры твае не пакідаюць —
прыемна гэтак ведаць, адчуваць.
Бадзёрасьцяй і ўпэўненасьцяй вее
ад іх — прыхільных маладых людзей.

АЛЕСЬ:
Праняты гэтым я. Бязьмежна ўдзячны!
Перад сабою бачу родны сьвет
у хварбах вечных — сонечны і зорны.

МІКОЛА:
У сьвеце зорным і ў нязгаснай веры,
у сонечных іскрыстых парываньнях
варожасьць ня жыве паміж людзей.
Яны знаходзяць прыязьнь, зразуменьне.
Тады і сьвет, сам сьвет ня йдзе да зьгіну,
бо згода выратоўвае яго...
Лунае панад намі дух сьвяцісты,
імкне да ўчынкаў велічных, высокіх...

РЫГОР:
І гаспадар зямлі — сам чалавек —
так прагне панадземных далячыняў.

АНАТОЛЬ:
Яго вітаюць космасу прасторы.
І там, куды яшчэ ніхто ніколі
ня мог сягнуць — будуе ён масты
дарогаў ад зямлі, што лучаць зь небам...
Упоруч зь ім шугае маладосьць
крылатая, узьлётная высока.

АЛЕСЬ:
Я веру вам і вамі так натхнёны...

МІКОЛА:
Прыемна бачыць твой узрух, запал...

АЛЕСЬ:
Няма ў наўкольлі сілы паўстрымаць
неўтаймаваных парываньняў духу...
Дух праўдны, духу зла непадуладны,
вядзе да новых сьветаў, новых зор!

1946 - 1964

## ЗАЗЬЗЯЛА ПРАБУДЖАЛЬНАЯ ДЗЯНЬНІЦА

Сцэнка з трыма галасамі

ПЕРШЫ ГОЛАС:

Зазьзяла прабуджальная дзяньніца —
прачнёмся мы, нябыт агорне сны.
І будзем так няўстрашліва дзівіцца
у прыйсьце — дзень, што выплыў з даўніны.
Усплыў іскрыцца, блішча, не згасае.
Далёка з хмарамі заходні змрок.
Маланка сьвігавіцамі красае
сьціхоту, ёй асьвечваючы зрок.
Без хараства няма жыцьця на сьвеце.
Усюды там, дзе толькі хараство,
крышталем зор высока неба сьвеце
у сяньня — у прадвечнасьці раство.

ДРУГІ ГОЛАС:

Пад незгасальнасьцяй — узьвіў багаты
зь імкненьнямі быць вольным на зямлі,
каб у спакой найвыпешчанай хаты
дары цяпла няўсьцішліва плылі.

ТРЭЙЦІ ГОЛАС:

А вольным быць — ня быць рабом ніколі:
ні ў сьпёку, ні ў засьцюжаны мароз.
Змаганьне ўсьцяж ідзе на збройным полі
за волю — чар і скарб адвечных кроз.

ПЕРШЫ ГОЛАС:

Салодкая ў вабдымках наша ўява...
Няхай з адыйсьцем горкай злыбяды
яна красуецца, жыве, як ява
на долах, дзе расьцьвітваюць сады.

ДРУГІ ГОЛАС:

Узьнёслы сьвет бярозаў і таполяў,
каштанаў, хвояў і цьвяцістых ліп.

Нідзе ня знойдзеш найясьнейшых воляў,
якімі цешыцца сардэчны ўсхліп.

ТРЭЙЦІ ГОЛАС:

Айчынаю прачуласьць называем,
абтокам на зямлі ўсяпрыгаства.
Высьнёны рай заўсёды будзе раем,
цяплом пяшчотным для ўсяго людзтва.

ПЕРШЫ ГОЛАС:

Няхай жыве наўкольле маладосьці,
прывабнасьць няўміручае красы!
Ці чуеце? З усіх краінаў госьці
ёй дораць прывітаньняў галасы.

ДРУГІ ГОЛАС:

Яна прыгожая, яна — сьвятая,
крыніцаў звон, спакой суцішных стрэх.
Ня дрэмле морак, раніца сьвітае,
люструючы ў вазёрах звабны ўсьмех.

ТРЭЙЦІ ГОЛАС:

Бязьмежжа славы, слова і багацьця,
мільярдная ашчаднасьць скарбаў — дар.
Калі над ёй хаморыцца няшчасьце,
яна — зьгібеньню сьмерць, жыцьця ўладар.

ПЕРШЫ ГОЛАС:

Брыльлянтная сястра панадвысокай
ляты да неба — аж да самых зор.
Ня мірыцца з маўклівасьцяй бяссокай
шматмоўны, сонцавобразны спазор.
З узвышша зьнічыць зорка залатая,
нязгасная прывабнасьцяй усёй...
яна прыгожая, яна — сьвятая
на ўлоньні з жыцьцядайнаю красой.




Помнік над магілаю паэты ў Мэльбурне.

# БЕЛЫ СЬНЕГ

І сыплецца, сыплецца мяккая пацяруха зь неба... І, здаецца — ня неба над галавою, а — неабсяжны ток. Ходзіць па ім гаспадар руплівы — вецер, варушыць нязграбныя копы — хмары, глытае трушанку іхную ў жоран свой, круціць, варушыць у жорне й меле, і, папярхнуўшыся, сыпле — ня зерне — муку далоў...

Мука — буйная й нязвычайная. Кажны маленькі драбочак ейны — крышталь; пакуль даляціць да долу — мароз-валадар у шаць, у пушок прыбярэць яго. А колькі такіх драбочкаў? — пэўна, кропляў у моры вады ня менш і ня больш...

Сыплецца... сыплецца... сыплецца...

Белы сьнег.

Падае, падае... Мкнецца долу; на хаты, на дрэвы па́дае, на сьнежную бель. Бель — на бель...

Хаты — апошні прыпынак і месца, дзе быў спачын, засталіся ззаду. Наперадзе — вялікі гасьцінец, — шырокі шлях — стагадовыя бярозы па бакох. Дарогі — ні сьледу, ні знаку няма. Як бачна — колькі дзён не праяжджаў тут чалавек і ня ступала ягоная нага. Толькі бярозы — задумныя мроі — значаць шлях.

Цяжка рухацца гэтым шляхам, ісьці наперад. Цьвярды тор засыпаны глыбокім сьнегам. Ногі западаюць у глыб, топнуць у ёй. Нельга ступаць. Здаецца, не наперад рухаешся, а назад.

Цяжка, але трэба йсьці.

Ужо чацьверты дзень знаходзіцца ў цяжкой дарозе Алесь. Чацьверты дзень — дарога, чацьверты дзень — пехатой.

Толькі ўначы — адпачынак у жытле такім-сякім, што пры дарозе...

Алесю пашчасьціла вырвацца з чужацкіх мясьцінаў. Цяпер — шлях да радзімы.

І цяжкі, нялёгкі шлях. Чацьверты дзень усьцяж — сьнег і сьнег. Здаецца, неба сыпле яго з усіх засекаў, а мае іх гэтулькі, што і ня зьлічыш, і кажная жменя з кажнага засеку — кропля ў моры...

Замоўкне, адчуўшы стому, вецер — і кружацца ў лёгкай суладнасьці сьняжынкі, павольна й мякка кранаюцца да зямнога саяну. Выляціць, адпачыўшы, зь недалёкае лагчыны вецер ізноў — замітусяцца, заскачуць сьняжынкі, як і раней, заказычуць твар падарожніка, закруцяцца ў паземцы над долам. Замахаюць галінкамі бярозы, страсуць цяжар, а сьнег засыпае іх ізноў.

І ўсё сыплецца й сыплецца...

А йсьці нялёгка. Хацелася-б легчы ў пуховую пасьцелю, адпачыць. Няшмат — адну толькі часінку. Хай сьпявае тады свае дыфірамбы вецер. Калі супачыне трохі сэрца, вальней удыхнуць грудзі паветра, можна будзе прыслухацца да іх... Хай тады кружацца ў танцы пад іхныя гукі сьняжынкі, хай кружацца колькі хочуць; тады й можна будзе адчуць хараство іхнага лёту ў прасторы, іхнага быцьця сярод жывых і няжывых...

Аднак, не... Ні на адну часінку ня трэба спыняцца. Трэба йсьці.

Да любых мясьцінаў, да блізкай з маленства хаты няшмат засталося ўжо. Яшчэ колькі кілёмэтраў — і ўсё. Пакуль вечар — і дома. Таму — ісьці й ня спыняцца. Ісьці, ісьці...

Там, напэўна, і не чакаюць. Там уважаюць, напэўна, што ўжо даўно загінуў... Усё-ж ён не загінуў, ён жыве. Ён ніколі не забываўся на блізкую сэрцу зямлю, на родных сваіх і дарагіх. Ён разам зь імі жыў у мроях і ў мроях імкнуўся да іх...

І ад самага сэрца выліваюцца словы... Не, гэта ня словы; гэта — кроплі гарачай крыві, кроплі палымністага сэрца. Гэта — верш, складзены, напэўна, яшчэ раней. Вусны шэпчуць словы вершу:

Думы! Думы! І ўдзень, і ўначы
не давалі вы мне супакою,
там блукаючы, там жывучы,
дзе пакінуў я дом над ракою.
Нястрымана сягалі туды,
завірухі і холад міналі.
Праз парогаў чужых невады
вы крыніцай жывой працякалі...

А сьнег не перастае, і не перастае йсьці...

Ужо пачынае сутунець. Няўжо й запраўды сутункі? Да хаты-ж было недалёка. Да сутункаў трэ было быць там. А тут яшчэ — чужая зямля... Мо́жа гэта здаецца...

Але штораз — цямней і цямней. Запраўды сутунее. Нешта й ногі адмаўляюцца далей ісьці. А паблізу — ніводнае хаты, ніводнага жытла.

Зусім нечакана душыць кашаль. Балюча вырываецца з грудзей...

А дарога, нібы наўсуперак, яшчэ больш цяжкая. Сьнег — вышэй калена. Ніяк немагчыма йсьці.

Ужо амаль цёмна. Мацней дыхнуў вецер. Праясьняецца неба. Выглядвае зрэдку месяц — мосяжны чарапок.

І гэтак хочацца піць! Здаецца, каб хоць адзін глынок вады было ў гэтым чарапку...

Ды не дастаць яго рукой, не зачэрпнуць ім вады — каб і было адкуль, — не зачэрпнуць...

Напэўна, сумысьля вецер не адстае цяпер, прычапіўся, прыліп. Не адстае й не адстае:

— Алесь... Алесь... Супачні, супачні... На пасьце... пась-це-лі...

А ён яшчэ спрабуе йсьці. Ступіць два крокі — кашаль зноў спыняе яго, кружыцца галава. Ён хапаецца рукамі за паветра — не адчувае ў ім апоры і — па́дае... Напружваючы сілы, устае, спрабуе йсьці далей. Два крокі — і йзноў кашаль валіць з ног. Хапаючы надарванымі грудзямі паветра, падае...

А паблізу — ніводнае хаты, ніводнага жытла...

Закіданая сьнегам дарога. Наперадзе — ніводнага сьледу. Колькі дзён не праяжджаў чалавек, ня ступала ягоная нага...

Зноў зваліўся долу. Памкнуўся ўстаць — ня змог. Ня ўстаў...

Цяпер зусім добра. Цёпла, як у хаце. Ня страшна, што — мароз. Няхай сабе... Затое цёпла й добра. Толькі кашаль... Кашаль. Ня могуць грудзі ўдыхнуць паветра.

І раптам... Месяц адплыў нейдзе далёка, далёка; зьнік з вачэй, потым зноў наблізіўся.

"Няўжо, няўжо... гэта мой канец?.." мільгнула думка. І зноў кашаль.

Цёплы струменчык крыві лынуў з горла. А вусны, здаецца, нешта шэпчуць... Гэта ня вусны, гэта самі словы йдуць ад думак:

О, каханы, о любы мой краю!
Дай мне сілаў, жыцьцё мне вярні!
Я паблізу цябе паміраю
на парозе твае вясны...

...Неўзабаве пачалося сьвітаньне. На асьнежаным гасьцінцы, раськінуўшы рукі, ляжаў на сьпіне чалавек. Струменчыкі чырвонай крыві замерзьлі на шчацэ, на каўняры, на белым сьнезе...

Замоўкла сэрца. Заціхла дыханьне. Спыніліся думкі. Анямелі пачуцьці.

Памёр чалавек.

Белы сьнег... Чырвоная кроў...

10. 2. 1944

Ант. Адамовіч

# ЖЫЦЬЦЁ Й ПАЭТЫЧНАЯ СПАДЧЫНА АЛЕСЯ САЛАЎЯ

Мэмуарна-камэнтатыўныя ды крытычна-тлумачальныя нататкі рэдактара гэтага выданьня.*)

---

*) Гэтта даюцца адно нататкі найбольш агульнага характару. Насьвятленьне больш спэцыяльных мамэнтаў і дэтальнейшы агляд некаторых твораў, дзеля разросту памеру кнігі, давялося выдзяліць і даць асобным артыкулам пад загалоўкам «Мастак нятускнае красы» ў «Запісы» Беларускага Інстытуту Навукі й Мастацтва.



А. Салавей з унукамі й Ант. Адамовічам, 1977 г.

“Пей, як салавейка” — наказваў Янка Купала сваёй паэзіі - “жалейцы” ў эпіграфе да выданае ў 1908 г. першае кнігі гэтае паэзіі пад гэткім і загалоўкам “Жалейка”. Гэта стаяла ў поўнай згодзе з словаўжываньнем беларускае народнае мовы й вуснае народнае паэзіі, дзе прыраўнаньне да “салавейкі”, салаўя — высокая мера ацэны мастацтва пяюна-песьняра. І гэта ці не спрадвечная толькі традыцыя — у кажным разе, яшчэ ў “Слове аб палку Ігравым” да легендарнага паэта Баяна зварачаліся: “О Бояне, соловію стараго времене” — “О, Баяне, часінаў мінулых салавейка!” (у “перасьпеве” таго-ж Янкі Купалы, 1921 г.).

Ды наказваючы сваёй паэзіі раўнацца на тую высокую меру мастацтва, Купала тады аніяк ня чуўся яшчэ ў вапанаваньні тэй мераю, ня важыўся яшчэ сказаць пра самога сябе, паэту, як пра гэткага “салавейку”. І ў іншым вершы тае-ж свае “Жалейкі” 1908 г. Купала тлумачыўся: “Я не салавейка, што пяе так слаўна, а я толькі верабейка, ўзрошчаны над Гайнай...”

...А за трыццаць тры гады па Купалавай “Жалейцы” — прамежак часу, папулярна ўважаны за век аднаго людзкога пакаленьня — над тэй самай Купалавай — “верабейчынай” Гайнай дзевятнаццацігадовы асьпірант на нейкае месца ў чарадзе Купалавых наступнікаў-нашчадкаў, на ймя (тады) Альфрэд Радзюк — пачуў натхненьне да “паважнае працы” над паэтычным мастацтвам. Пазьней-жа, калі сталася магчыма (а часам нат і падказвалася матывамі асабістае бясьпекі ў вабставінах Другое сусьветнае вайны й нямецкае акупацыі Беларусі) традыцыйным для беларускае паэзіі звычаем пісаць вершы пад псэўданімамі (у перадваенных гадох, у вабставінах завойстранае савецкае “пільнасьці” на звычай гэты глядзелі вельмі коса, і ён зусім бадай быў зьвёўшыся), гэты Альфрэд Радзюк, выбіраючы сабе паэтычнае ймя-псэўданім ды перабраўшы колькі адменьнікаў, канчальна спыніўся на псэўданіме “Алесь Салавей” ды найбольш твораў і пакінуў нам пад ім. І была гэта толькі нармальная ў тым часе заяўка на высокі стандарт “паважнае працы” над паэтычным мастацтвам, а ня нейкая нясьціп-

лая прэтэньсійнасьць — наадварот, абвесьціцца тады нейкім “верабейкам” гучэла-б ужо прэтэньсійным, манерным прысьцiпленьнем. Пасьля ў сваёй аўтабіяграфіі гэты наш Алесь Салавей успамінаў: “Гэты час я ўважаю за пачатак свае паважнае працы. Памятаю, была вясна 1941 году. Зазелянелі дрэвы й лугі ля рэчкі Гайны на Лагойшчыне. Гэта натхніла мяне напісаць верш. I я напісаў санэт “Гайна” [1]).

Гэтак, на “чароўных берагох” Купалаўскае Гайны, у дні дзевятнаццатых угодкаў нарадзінаў Альфрэда Радзюка арадзіўся зь яго будучы Алесь Салавей, і ў народжаным ім таго самага дня санэце “Гайна” ўжо адбілася “паважная праца”, якое вымагала стварэньне “высокае красы” “стройнага санэтнага гмаху”, як казаў калісь Максім Багдановіч.

## Пачаткі біяграфіі

Аднак, не над тэй Купалаўскай Гайнай прыйшоў на сьвет і быў “узрошчаны” Альфрэд Радзюк — Алесь Салавей, дый ня быў той санэт ягоным вершам-пяршынцом. Із згаданае ўжо ягонае аўтабіяграфіі [2]) даведваемся, што месцам ягонага нараджэньня быў “пасёлак Крысава. Цяпер там ужо не пасёлак, а вялікая вёска. Месьціцца яна ля ракі Вусы, прытоку Нёмна, недалёка ад м. Койданава”. Гэтая родная паэту вёска Крысава й Вуса-рака згадваюцца й у аўтабіяграфічным даўжэйшым вершы “Радзіма”, напісаным яшчэ за тры гады да санэту “Гайна”, у 1938 г. [3]) А йшчэ за год перад гэтым натхненным хвала-

---

[1]) Санэт гэты ёсьць у гэтым нашым выданьні, знайсьці яго можна паводля «Альфабэтнага паказьніка» ў канцы выданьня — дзеля ашчаджаньня месца мы не падаём б. б. твораў Алеся Салаўя, зьмешчаных у гэтым выданьні — іх трэба шукаць паводля таго «Альфабэтнага паказьніка».

[2]) Гл. пазыцыю 77 «Бібліяграфіі» ў гэтым нашым выданьні.

[3]) Дарэчы, рака Вуса — ня менш, а мо йшчэ й больш «літаратурная», як тая Купалаўская Гайна: ля ейных берагоў нарадзіліся й Кандрат Крапіва — спасярод усіх, апошнімі гадамі менаваных «народнымі пісьменьнікамі» БССР адзін з найбольш годных гэтага тытулу (пэўна-ж, у вабставінах часу й месца ды даваных імі магчымасьцяў і дыктаваных мусаў), і Паўлюк Трус, кантактам з паэзіяй якога пазначаны першы друкаваны верш нашага паэты, і Пятро Глебка — адзін з пасьлейшых ягоных гідаў-настаўнікаў, і сучасная пісьменьніца Лідзія Арабей.

сьпевам першай, вузкой — "малой" радзіме [4]) маем сьветчаньне пра таго-ж парадку, ды яшчэ вышэйшага — найвышэйшага, папраўдзе, напружаньня — захапленьня нашага паэты й Радзімаю "вялікай", бацькаўшчынай, Беларусяй. Гэта верш "Ты", пачаты пісаньнем яшчэ ў 1937 г. ды паданы ўпяршыню ў друку ў 1945 г. пад загалоўкам "Мая Беларусь" у іншай крыху рэдакцыі, пасьля адкінутай паэтам. Ды ў вабедзьвюх рэдакцыях — выражэньне толькі парознаму варыяванага, але, як сказана ўжо, вышэйшага-найвышэйшага напружаньня й напалу нацыянальнага пачуцьця, "нацыянальнага эрасу" (а мо лепшдакладней — нацыянальна-патрыятычнага эрасу), любосьці да роднага, да бацькаўшчыны. І гэты нацыянальна-патрыятычны эрас, хоць не заўсёды ў такой канцэнтрацыі й кандэнсацыі, як тут, або, скажам, у пазьнейшых мініятурках, як "Не пакіну", і даўжэйшых рэчах — паэмах, як "На хуткіх крыльлях вольнага Пэгаса", "Сын" ды асабліва "Вянок санэтаў" — так ці йнакш вычуваецца, можна сказаць, у кажным вершы Алеся Салаўя. І гэта папраўдзе эмацыяльная й ідэйная дамінанта ягонае паэзіі, і яна ставіць Алеся Салаўя ў даўжэзны цуг, ад самога Франьцішка Скарыны, праз таго-ж Купалу, праз паплечных яму клясыкаў беларускае паэзіі Коласа, Багдановіча, Гаруна — аж па сучасных маладых і наймалодшых песьняроў беларускіх, ды ня вылучае яго, як і ўсіх пералічаных з гэтага цугу, наагул з найшырэйшых шароў усяго нашага народу. [5])

"Кароткі жыцьцяпіс" Алеся Салаўя пачынаецца гэткім паведамленьнем: "Мой дзед — былы парабак графа Чапскага; бацька Васіль — спачатку земляроб, потым — інтэлігент", а па падрабязным выкладзе гісторыі дзеда й бацькі ды паданьні датаў-гадоў бацькавага жанімства

[4]) Ёсьць у Салаўя й яшчэ вершы пра яе, як прыкладам, «Шылава гара», верш 1937 г., або «Вуса», верш 1938 г., а таксама разьдзелы 7-10 паэмы «На хуткіх крыльлях вольнага Пэгаса».

[5]) Абраз нацыянальна-патрыятычнага эрасу, выражанага ў нашай паэзіі пералічанымі ейнымі карыфэямі, ужо спрабавалася насьвятліць яшчэ ў часапісе «Сакавік», гл. у № 1 гэтага часапісу за 1947 г. артыкулы: Р. Склют — «Пад нацыянальным сьцягам», б. б. 51-57, К. Каліновец — «Бяз бацькаўшчыны — зь Беларусяй», б. б. 58-61, і ў № 1(2) за 1948 г. Р. Склют — «Ля вытокаў нацыянальнага», б. б. 40-42.

ды нараджэньня самога паэты: “Ажаніўся бацька мой у 1921-ым годзе. А 1-га траўня 1922 году ў тэй-жа вёсцы Крысава зьявіўся на сьвет і я” — паведамляецца й пра маці: “Маці мая была інтэлігентная, пісьменная жанчына, шмат увагі аддавала на выхаваньне”.

Дык, як бачым, наш Алесь Салавей з паходжаньня — інтэлігент ужо ў другім пакаленьні, як ім быў у нас Максім Багдановіч, ды ці ня другі ўсяго па ім сярод усіх нашых паэтаў, як правіла, інтэлігентаў першага пакаленьня, інтэлігентаў пераважна зь сялянаў-земляробаў. І калі й ня прызнаваць за сацыяльным паходжаньнем ванейкае наканоўнае, прадзначальнае ці вызначальнае вагі — ня прызнаюць-жа гэтага як-бы цяпер нат савецкія марксыстыя — нельга ўсё-ж ня бачыць тут пэўнае спрыяльнае перадумовы таго найцясьнейшага й найбліжэйшага кантакту Алеся Салаўя якраз з паэзіяй Максіма Багдановіча, кантакту, які хоць і не адразу, дзеля пэўных акалічнасьцяў часу, навязаўся й устанавіўся, але ўстанавіўшыся, не паслабляўся ўжо на ўсім далейшым цягу ягонага паэтычнага дый жыцьцёвага шляху. Пры нагодзе яшчэ можна тут дакінуць, што сялянскі быт, земляробская праца, як лёгка спасьцерагчы пры абеглым нат аглядзе Салаўёвае паэзіі, блізу зусім не закранаюцца ў ёй, прынамся (як і ў Багдановіча) не займаюць гэткага месца, як у пераважнай бальшыні нашых паэтаў аж дасюль, дый чужымі былі Алесю Салаўю ў ягоным жыцьці наагул. [6])

У 1923 г. сям'я перабралася з Крысава ў Койданава, дзе бацька працаваў у лясьніцтве, пасьля ён быў перамешчаны на гэткую-ж самую працу ў м. Самахвалавічы, а на пачатку 1928 г. у Чэрвенскі (б. Ігуманскі) павет, дзе працаваў да студзеня 1933 г. у савецкай гаспадарцы Наталеўск на становішчы дырэктара яе ды, вучачыся завочна, здабыў вышэйшую сельска-гаспадарскую асьвету. У Наталеўску, у 1929 г., калі нашаму паэту было 7 год, ён пайшоў вучыцца ў пачаткавую школу. У студзені 1933 г. сям'я перамясьцілася зноў у Койданаўскі павет, у саўгас Вялікія Навасёлкі, дзе бацька таксама займаў

[6]) У пары разьезду нашых эмігрантаў зь лягераў ДП у розныя краі Алесь Салавей у лісьце ад 5-га лютага 1948 г. пісаў аднаму са сваіх знаёмых яшчэ з працы ў м. Ільлі, які ўжо атаўбаваўся ў Брытаніі: «Хацелася-б толькі трапіць на працу паводля маіх сілаў, лепш у прамысловасьці, зь земляробствам я амаль не знаёмы».

становішча дырэктара. У Навасёлках будучы паэта ў травені таго-ж году скончыў пачаткавую школу, а ўвосень падаўся вучыцца ў 5-ю клясу Койданаўскае сярэдняе школы. Улетку 1934 г. сям'я перабралася настала ў Койданава, бацька нейкі час быў за загадчыка прыгараднае гаспадаркі Койданаўскага Райспажыўсаюзу, а тады — за загадчыка гандлёвага аддзелу. У гэтым часе, як выяўляецца далей, Алесь Салавей паставіў ужо й першыя крокі свае літаратурнае біяграфіі — падаём дакладную выпіску зь ягонага "Кароткага жыцьцяпісу" пра гэта:

Вершы [redacted] пачаў пісаць яшчэ змалку, з васьмёхгадовага ўзросту. Калі яшчэ не хадзіў у школу й меў каля 6-цёх гадоў, маці мне часта чытала дзіцячыя кнігі, растлумачвала сэнс прачытанага. І, памятаю, у мяне, маленькага, часам зьяўляліся думкі, што калі вырасту, дык абавязкава буду такім, як і той, хто піша гэткія цікавыя кнігі. Больш за ўсё цікавілі мяне дзіцячыя вершы. Будучы ў дашкольным веку, я шмат іх ведаў напамяць і часта прасіў матулю, каб яна перачытвала мне да таго часу, пакуль не запамятаю. Калі-ж пайшоў у школу [redacted] навучыўся чытаць і пісаць, тады паспрабаваў і сам «скласьці» вершык. Свае спробы [redacted] паказваў бацьком, але яны спачатку на гэта мала бралі ўвагі. Толькі, памятаю, увесну 1933 году бацькі зацікавіліся маймі вершамі, [redacted] за адзін навет пахвалілі. Выглядаў той вершык гэтак:

Наш Альфрэд будзе паэтам,
Будзе вершы ён пісаць,
Будзе знацца з усім сьветам,
Сьвет яго ўвесь будзе знаць!

Далей ішлі радкі пра тое, кім будзе мая сястрыца Аля (нарадзілася ў 1923 г.): далей — радкі пра маіх братоў Лявонку (нарадзіўся ў 1929 г.) і Уладзіка (нарадзіўся 13 сакавіка 1933 г., памёр 30 кастрычніка 1941 г. ад няшчаснага выпадку). І канчаўся верш наступнымі радкамі:

Ну, а мама й тата дома
Будуць жыць, адпачываць,
Мы, вядома, мы, вядома,
Будзем ім дапамагаць.

Пачуцьцё вершаванага памеру ў мяне выпрацавалася даволі рана. Ужо ў дзесяцігадовым узросьце я пісаў рытмічна вытрыманыя вершы.

Калі вучыўся ў шостай клясе, асьмеліўся паказаць адзін зь вершаў выкладчыцы літаратуры. Ён ёй спадабаўся. Мяне запісалі ў літаратурны гурток, пачалі зьмяшчаць вершы ў школьным рукапісным літаратурным часапісе. А ўжо ў 1937 годзе адзін зь вершаў я паслаў у друк.

Як шмат тут падобнага да пачаткаў літаратурных біяграфіяў іншых нашых паэтаў, у тым ліку й самых "клясыкаў" — Купалы, першы напісаны верш якога меў тойжа сямейны характар, як успамінала пасьля ягоная сястра (гл. "Такі ён быў". Успаміны пра Янку Купалу. Менск, 1975, б. б. 31-32), і Коласа, якога бацька пахваліў за першы напісаны верш навет рублём, а пасьля настаўнік па паказаным яму вершы падахвоціў маладога аўтара да ўзыходу на шлях паэты, як падавалася ў паэтавых аўтабіяграфіях. Дарэчы, як і Колас, наш паэта (праўда, у іншых абставінах) спрабаваў пісаць парасейску — пра гэта няма ў ягоным "Кароткім жыцьцяпісе", але ўдава паэтава падала нам у сваім лісьце (ад 14. 7. 1978 г.): "Спрабаваў пісаць і ў расейскай мове. Калі яму было 14 год, ён паслаў свой верш у расейскай мове ў "Пионерскую правду". У той час у гэтай газэце супрацоўнічаў С. Маршак (ведамы дзіцячы паэт-пісьменьнік, пазьней перакладчык санэтаў Шэксьпіра ў расейскую мову). Вось што напісаў С. Маршак яму: "Пиши по-белорусски! Только на этом языке ты сможешь хорошо писать, который ты знаешь от колыбели. Ты мыслишь по-белорусски, а пишешь по-русски, и мысли свои выражаешь несоответственно русскому языку". [7])

Відаць, паслухаўшыся гэтае рады, наш паэта паслаў у 1937 г. адзін зь вершаў у друк ужо беларускамоўны, спачатку на найніжэйшым узроўні — у койданаўскую раённую газэту "Ўдарнік Дзяржыншчыны", і верш той

---

[7]) У рукапіснай спадчыне Алеся Салаўя ёсьць пара вершаў парасейску, пісаных у часе эвакуацыі з Прыбалтыкі ў 1944 г. і адрасаваных, відаць, нейкаму спадарожніку ў гэтай эвакуацыі, зь якім даводзілася паразумявацца парасейску. Вершы гэтыя паказваюць, што тады Алесь Салавей валодаў расейскай вершаванай моваю бадай ня горш, як беларускай. Што Алесь Салавей спрабаваў пачынаць друкавацца парасейску — вялікага дзіва няма. Не забывай́мася, што ў школу пайшоў ён у 1929 г., значыцца, перад самым першым пагромам беларушчыны пад шыльдаю «разгрому беларускага контррэвалюцыйнага нацыянал-дэмакратызму», калі беларуская мова ўжо трапляла ў няласку, хоць школа яшчэ й заставалася беларускамоўнаю. У 1933-34 г. г. прайшла русыфікацыйная рэформа беларускага правапісу й граматыкі ды адбыўся другі пагром «нацдэмаўшчыны». А ў 1936 годзе, калі Алесю было 14 год і ён спрабаваў пісаць парасейску — пачаўся трэйці пагром.

хіба й зьявіўся там у чырвені таго-ж году — тэкст гэтага вершу "На сенажаці" паданы ў ягоным "Кароткім жыцьцяпісе" і ў нашым выданьні.

## Векапомны 1937 — выхад у друк і ў ... сіроцтва

1937 год, у якім зьявіўся першы друкаваны верш Алеся Салаўя, у далейшым зусім неспадзявана выпаў вельмі цяжкім і пакутным у ягоным жыцьці, дый ці толькі-ж у ягоным — гэта-ж быў год самага гарту партыйна-паліцыйнага тэрору, знанага пад мянушкаю "яжоўшчыны". У чырвені таго году зьявіўся той першы Салаўёў друкаваны верш, у тым самым часе была скончаная 7-я кляса школы, а ўжо "ў жніўні гэтага-ж году тагачаснымі ўладамі былі арыштаваныя бацькі", як адзначыў паэта ў сваім "Кароткім жыцьцяпісе". Удава паэтава падала крыху падрабязьней пра гэты балючы для паэты мамэнт — у лісьце ад 14. 7. 78 г.: "У 1937 г. бацькоў Алеся невядома за што арыштавала НКВД з канфіскацыяй маемасьці. Калі бацька хацеў пакінуць дзецям банкавую кніжку, у якой было 300 руб., напісаць даверанасьць, каб Алесь змог іх атрымаць, то яму не дазволілі, і банкавую кніжку канфіскавалі" — і ў лісьце ад 6. 12. 79 г.: "Страх, хранічны страх перад міліцыяй і другімі органамі бясьпечнасьці ў яго (Алеся) застаўся назаўсёды. Ён назаўсёды запамятаў тую ноч 1937 г., калі арыштавалі ягоных бацькоў. Уся брутальнасьць часта паўставала перад ягонымі вачыма".

Пра долю арыштаваных бацькоў Алесь Салавей найпазьнейшыя весткі падаў у лісьце ад 3. 4. 68 г.: "Бацька памёр ... у Сібіры. Мама вярнулася празь 10 год, хутка памерла ў Менску й пахаваная ў Вязані каля Фаніпаля ("Вязань-Фаніпаль саўгас" — гэтыя назовы некалі ўспаміналіся ў вадным вершы Кандрата Крапівы").

"У восьмай клясе Койданаўскае школы я вучыўся, ня маючы бацькоў", — піша Алесь Салавей далей у сваім "Кароткім жыцьцяпісе": — "Жыў у найгоршых варунках. На маім утрыманьні было яшчэ трое дзяцей: малодшыя два браты й сястра. Даводзілася дбаць аб хлебе ня толькі для сябе, але й для братоў і для сястры".

Ліст удавы паэтавае ад 14. 7. 78 г. дапаўняе: "Алесю было ўсяго 15 год... Дайжа блізкія родныя баяліся дапамагчы сіротам, каб не навесьці бяду на сябе. Зачастую

прыходзілася працаваць на раскопках торфу, выгружаць вугаль і інш. Запасаць дровы на зіму...”

Асіраценьне й цяжкія абставіны сіроцкага жыцьця ня спынілі аднак Алесевае цягі да паэзіі, да пісаньня вершаў, наадварот, мо яшчэ больш паддавалі яму жаданьня і нат жадобы да гэтага. Неяк не адбіваліся тыя абставіны й на прабіваньні ў друк ды нат у, сказаць-бы, рэзэрвуары беларускіх савецкіх пісьменьнікаў. У “Кароткім жыцьцяпісе” чытаем:

«Гэтым часам, пачынаючы з 1937 году, на балонках розных беларускіх выданьняў пачалі часта зьяўляцца мае вершы. Улетку 1938 году я быў выкліканы ў Менск на месячную канфэрэнцыю маладых пісьменьнікаў, якая склікалася былым праўленьнем Саюзу савецкіх пісьменьнікаў Беларусі... Пасьля канфэрэнцыі я не вярнуўся ў Койданава. У верасьні паступіў на вучобу ў Менскае пэдагагічнае вучылішча (былы пэдагагічны тэхнікум імя Усевалода Ігнатоўскага). Свае вершы паказваў старэйшым паэтам, уважліва выслухоўваў іхныя заўвагі. Калі ладзіліся літаратурныя вечары, спрабаваў і сам выступаць, выказваць свае думкі».

Сярод старэйшых за яго паэтаў, якім паказваў свае вершы Алесь, быў Пятро Глебка. Калі ў шэсьцьдзесятых гадох давялося сустрэцца зь ім у Нью Ёрку ды пазнаёміць яго з нашымі эміграцыйнымі выданьнямі, недаступнымі яму ў Менску, упаасобку зь літаратурным альманахам “Ля чужых берагоў”, Глебка зьвярнуў увагу на вершы Алеся Салаўя ў ім ды папытаўся, ці не Радзюк піша пад гэтым псэўданімам (магчыма, што ён ужо ведаў пра гэта, толькі хацеў яшчэ раз дапэўніцца), бо ён знаў гэтага маладога паэта-пачаткаўца зь перадваеннага часу, часта кансультаваў яго, у тым ліку й на курсах маладых паэтаў. На Глебкаву думку, Радзюк быў адным з найздальнейшых ды найпаважнейшых у стаўленьні да працы над вершам і над моваю сярод усіх да яго падобных.

Што да пэдагагічнага вучылішча, якое за старой памяцяй усё яшчэ звалі людзі тэхнікумам, дык, як успамінае В. Яцэвіч, што вучылася там разам з Алесем Салаўём, “ужо зь першага курсу ў 1938 г. ягоныя вершы зьяўляліся ў насьценнай газэце” (успаміны В. Яцэвіч у архіве БІНіМ, гл. пазыцыю 176 Бібліяграфіі ў гэтым нашым выданьні).

Але ў пэдагагічным вучылішчы-тэхнікуме Алесь Салавей правучыўся ўсяго няпоўныя два гады. У ягоным “Кароткім жыцьцяпісе” чытаем: “У пэдагагічным вучылішчы я вучыўся да 5-га лютага 1940 году, і ня скончыў-

шы яго з прычыны дрэнных жыцьцёвых абставінаў, выехаў у м. Лагойск на працу ў рэдакцыю раённае газэты, дзе й працаваў да 22-га чырвеня 1941 году, да пачатку вайны. Працаваў на становішчы заступніка адказнага рэдактара".

Пра сваю творчую працу ў гэтым часе Алесь Салавей у тым-жа "Кароткім жыцьцяпісе" пісаў: "Я вельмі шмат вымагаў ад сябе, стараўся ствырыць нешта выдатнае й нязвычайнае. А гэта не ўдавалася, не хапала сілаў. І ў выніку ўсяго гэтага, у канцы 1939 году кінуў пісаць зусім; накінуўся на кніжкі, вывучаў і чытаў клясыкаў расейскіх і эўрапейскіх. І неўзабаве зьіначыўся мой пагляд на літаратуру, перад маймі вачыма адчыніўся інакшы сьвет... Усё напісанае й надрукаванае да канца 1939 году я не ўважаю за паэзію. Гэта былі зусім слабыя й наіўныя літаратурныя спробы. Рукапісы тых спробаў я страціў у час ваенных падзеяў 1941 году.

У 1941 годзе я йзноў узяўся за пяро".

Мы ўжо ведаем пра гэты мамэнт, які паэта ўважаў за "пачатак свае паважнае працы", калі ён у травені 1941 г., адчуўшы запраўднае натхненьне, напісаў свой санэт "Гайна". Аднак пры спробе выдрукаваць гэты санэт у часапісе Алесь спаткаўся зь неспадзяваным, відаць, яму адказам — адмовай рэдакцыі часапісу (відаць, адзінага тады беларускага літаратурнага часапісу ў БССР "Полымя рэвалюцыі"): "Я напісаў санэт "Гайна". Паслаў яго ў рэдакцыю аднаго часапісу. І неўзабаве атрымаў адказ, што, маўляў, санэтаў цяпер ніхто ня піша. Даўныя формы даўно ўжо выкінутыя на сьметнік, і іх ніхто ня ўжывае. Я спачатку хацеў узяцца за іншы жанр, але прыгожасьць клясычных формаў, якія прадаўжаў спатыкаць у літаратуры, зачаравала й захапіла мяне. Парашыў — калі гэтак, дык тады я буду пісаць толькі сам для сябе й нікому напісанага не паказваць і нідзе ня друкаваць..."

Гэта было апошняе спатканьне-сутыкненьне Алеся Салаўя з рэальнасьцяй савецкага сацрэалізму, сустрэча зь ёю, сказаць-бы, на вышэйшым, апошнім перад найвышэйшай інстанцыяй цэнзуры ўзроўні г. зв. "рэдактуры", не прайшоўшы якое твор ня могісьці ў цэнзуру, а, значыцца, і ў друк. І, як бачым, сустрэча гэтая выклікала ў нашага паэты, як першую рэакцыю, памкненьне "ўзяцца за іншы жанр", але "зачараваньне й захапленьне прыгажосьцяй клясычных формаў" прывяло да другое рэакцыі — "пісаць толькі для сябе, нікому не паказваць, ні-

дзе ня друкаваць" — да гэтак частага ў пісьменьнікаў у савецкіх абставінах "пісаньня ў прыстолік, у шупляду". Але неўзабаве, у ходзе Другое сусьветнае вайны, што ўвайшла ў стадыю вайны нямецка-савецкае, давялося яму назаўсёды разьвітацца й з тымі абставінамі наагул. А вынашанае ў рэакцыі-супраціве да іх дачыненьне да паэтычнае творчасьці й ейных формаў у новых, несавецкіх абставінах адлілося ў дакладна сфармуляваны пад канец "Кароткага жыцьцяпісу" прынцып, прыняты за асноўны на далейшае ў тэй творчасьці ды нязьменна датрымваны аж да канца: "Мой самы галоўны прынцып — менш слоў, а больш думак. Я паважаю новае, імкнуся да яго, але ня зьбіраюся адкідаць ад сябе й старога, калі яно добрае й прыгожае. Правільна сказаў калісьці наш паэта Максім Багдановіч: "Як месяц зіхаціць адбітым сьветам, так зьзяюць вершы даўных форм красой!" Клясычныя формы — трыялет, санэт, актава ды інш. патрабуюць глыбокае думкі, дысцыпліны слова, вялікае культуры. Вось у гэтым іхная вечная вартасьць".

Пэўна-ж, гэта быў той самы прынцып, што й у цытаванага тут Максіма Багдановіча, і цесны кантакт з гэтым клясыкам нашае паэзіі таксама трываў аж да канца.

Пра сваё жыцьцё ў тых новых, несавецкіх абставінах Алесь Салавей у "Кароткім жыцьцяпісе" кажа вельмі лякнічна, падаючы адно даты, месцы й становішчы: "Зь 19-га кастрычніка 1941 году да 10 лютага 1942 году быў у Менску на журналісцкай працы ў рэдакцыі "Беларускай Газэты". Потым жыў у м. Ільлі, Вялейскае акругі. Працаваў там у адміністрацыі. Зь 9-га кастрычніка 1942 году жыву ў горадзе Рызе. Працую на становішчы заступніка рэдактара часапісу "Новы Шлях".

Тым-жа часам пададзеныя гэттака даты пазначаюць выразныя, хоць і ня надта працяглыя наагул, але вельмі напружаныя й напоўненыя ў вабставінах тых часоў ды папраўдзе аснавазакладныя этапы Салаўёвага жыцьця й творчасьці, якія найпрасьцей назваць паводле месцаў іхнага працяканьня: этап менскі, этап ільлінскі ды этап рыскі. І на гэтых этапах даводзіцца спыніцца грунтоўней.

## На "Менскім этапе"

Наколькі памятаецца, у рэдакцыю "Беларускае (тады яшчэ "Менскае") газэты" Альфрэда Радзюка прывёў

тагачасны сакратар рэдакцыі, і ён і застаўся памагаць гэтаму сакратару ў рыхтаваньні, афармоўваньні й дагляданьні друку чародных нумароў газэты (асабліва выдаванае пры асноўнай "Менскай газэце" сялянскае газэты "Голас вёскі"). Праца гэтая, пэўна-ж, ня была новаю для нядаўнага заступніка рэдактара хоць і раённае толькі, ды ўсё-ж друкаванае газэты, але зусім новымі, шмат у чым рэвэляцыйнымі й адукацыйнымі выявіліся шмат якія матар'ялы, што праходзілі цяпер празь ягоныя рукі. Матар'ялы гэтыя былі зусім адрозныя ад тых, зь якімі меў раней дачыненьне былы заступнік рэдактара савецкае газэты, і сталіся для яго матар'яламі для собскае адукацыі, навучаньня, якім ён перад тым займаўся завочна, ізноў-жа, на адрозных зусім матар'ялах, адначасна з тэй газэтнаю працаю ў Лагойску. І матар'ялы гэтыя ня проста праходзілі празь ягоныя рукі, а "прапрацоўваліся" зь цікавасьцяй і пільнасьцяй куды большай, як тыя матар'ялы "завочнага навучаньня". "Беларуская газэта" сталася запраўднаю — і не завочнаю, а навочнаю — школаю поўнага нацыянальнага ўсьведамленьня, нацыянальнае адукацыі для Алеся Салаўя. Тут ён найперш і ўпяршыню пазнаёміўся з запраўднай нацыянальнай гісторыяй Беларусі, што ў гадох ягонага школьнага вучэньня (ад 1930 г.) была зусім выэлімінаваная з праграмаў беларускіх савецкіх школаў, а адзіны падручнік гэтае гісторыі, ужываны ў тых школах у 20-х гадох — "Кароткі нарыс гісторыі Беларусі" праф. Усевалода Ігнатоўскага — зьнік з паліцаў усіх бібліятэкаў ды быў схаваны ў недаступныя простым сьмяротным "спэцфонды", ато й проста зьнішчаны зусім, яшчэ задоўга да самагубства (у 1931 г.) ягонага аўтара, што й дасюль застаецца не "рэгабілітаваным" у БССР. А ў "Менскай газэце", менш як за месяц па прыходзе ў яе на працу Алеся Салаўя, ад № 10 за 12 лютага 1941 г. пачаў друкавацца працягамі іншы, новы кароткі нарыс тае-ж гісторыі — "Крыўя - Беларусь у мінуласьці" д-ра Янкі Станкевіча (скончаны друкам у № 5(25) за 31 студзеня 1942 г., Беларуская Народная Самапомач у 1942 г. выдала яго асобнаю кніжкай).

Алесь Салавей старэнна "прапрацоўваў" гэты нарыс, засвойваючы зь яго ня толькі нязнаныя яму гістарычныя факты й ацэны іх з нацыянальна-незалежніцкага беларускага гледзішча, але нат і новыя для яго словы-тэрміны, як тэрмін ужо з самага загалоўку — "Крыўя", які

адзін толькі Салавей, апрача д-ра Янкі Станкевіча, пачаў ужываць і сам у друку (у вершах, што ўвайшлі ў ягоны першы зборнік "Мае песьні", выданы ў 1944 г.) [8])

А ў "Голасе вёскі", зь якім найбольш меў дачыненьня Алесь, ад № 2 за 3 лютага 1942 г. друкаваўся працягамі праз увесь 1942 й нат 1943 г. — куды даўжэйшы, хоць у падзагалоўку таксама "кароткі гістарычны нарыс" Язэпа Найдзюка "Беларусь учора й сяньня". І гэты нарыс пасьля выйшаў асобнаю кніжкаю, якая сталася аднэю зь нялічных неразлучных кнігаў-спадарожніцаў Алеся Салаўя. У тым-жа "Голасе вёскі", ад 13 сакавіка (№ 6) да 2 ліпеня 1942 (№ 21), друкавалася перапрацаваная сваяасаблівая катэхізмоўка нацыянальнае сьведамасьці, напісаная В. Ластоўскім яшчэ ў 1918 г. — "Што трэба ведаць кажнаму Беларусу". На ўсіх гэтых матар'ялах, ня кажучы ўжо пра паасобныя артыкулы, асабліва перадавыя, і ў "Менскай (Беларускай) газэце" й у "Голасе вёскі" й прaходзіў школу поўнае нацыянальнае сьведамасьці Алесь Салавей.

Ня менш, а як для паэты й пісьменьніка яшчэ больш важнаю была школа культуры беларускае мовы, якую ён пачаў праходзіць, працуючы ў "Беларускай газэце". Абедзьве газэты — і "Менская (Беларуская)" й "Голас вёскі" — ад самых пачаткаў свайго йснаваньня кіраваліся сьведамай і напорнай рупнасьцяй пра чысьціню й культуру мовы друкаваных у іх матар'ялаў. № 24(44) "Беларускае газэты" ад 15 красавіка 1942 г. быў прысьвечаны шырокаму тэарэтычнаму абгрунтавньню гэтае моўнае практыкі й палітыкі газэты, якая выясьнялася ўжо ў перадавіцы нумару "За чысьціню мовы" й далей у падаваных пад шапкаю "За культ і культуру роднае мовы" выказваньнях будаўнікоў і разбудоўнікоў таго культу й культуры, пачынаючы ад Франьцішка Багушэвіча й Альгерда Абуховіча па Язэпа Лёсіка й Вацлава Ластоўскага. Адтады-ж, спачатку пад таею-ж шапкаю — "За культ і культуру роднае мовы", а пасьля пад карацейшаю — "Культура мовы" — пачалі рэгулярна з нумару ў нумар зьмяшчацца ў "Беларускай газэце" нататкі пра паасобныя праблемы культуры мовы, канкрэтныя словы й звароты, і гэтая практыка пратрывала аж па восень 1943 г.

---

[8]) В. Ластоўскі, які першы выцягнуў гэты тэрмін ды пусьціў яго ў вабыходак, ужываў яго, а за Ластоўскім і ўсе іншыя ўжывалі, у форме «Крывія», прытым з націскам на «і», а не на «ы».

Алесь Салавей пільна сачыў гэтыя матар'ялы, і ў практыцы свае працы адразу-ж стаўся адным з найшчырэйшых энтузіястых справы культуры беларускае мовы. Гэткім зналі яго ўсе, хто стыкаўся зь ім у пазьнейшай ягонай працы ў друкаваных выданьнях, пачынаючы ад рыскага ілюстраванага часапісу "Новы Шлях", праз зальцбурскія бюлетэні "Зь беларускага жыцьця" й часапіс "Пагоня", і аж па перадачы беларускамоўнага этнічнага радыё ў Мэльбурне, у Аўстраліі, у вапошніх гадох і нат днёх ягонага жыцьця.

У "Менскай (Беларускай) газэце" й "Голасе вёскі" пачалі зьяўляцца й першыя ў непадсавецкім часе друкаваныя творы нашага паэты. Усе вершы, што друкаваліся ў гэтых газэтах, праходзілі праз рукі Натальлі Арсеньневае, што працавала ў рэдакцыі ад самых пачаткаў ды была першаю і галоўнаю паэтэсаю "Беларускае газэты". Алесь Салавей пры сваёй, як казаў калісь Максім Гарэцкі, "сацыяльнай нясьмеласьці" трымаўся ад яе здалёк, і даўжэйшы час ані перад ёй, ані наагул перад нікім іншым не здраджаў свайго, калі гэтак сказаць, паэцтва. У нас, нажаль, няма пад рукой ані "Менскае газэты", ані "Голасу вёскі" за 1941 г. (у ім выйшла 20 нумароў першае й 7 другога), дык з пэўнасьцяй нельга цьвердзіць, але наколькі памятаецца, як-бы ніякіх мастацкіх твораў нашага паэты там яшчэ ня было. Затое № 1(21) "Менскае газэты" ў 1942 г., датаваны 6-ым студзеня, адчыняўся ўжо ягоным вершам "З Новым Годам!" Верш быў пададзены адразу пад загалоўкам —"шапкаю" газэты на шырыні дзьвюх левых шпальтаў тлустым курсывам над рэдакцыйным перадавым навагодным артыкулам пад загалоўкам "1941-1942". Дык была гэта навагодная паэтычная перадавіца газэты. На роўні гэтага вершу, насупраць яго на скрайняй правай шпальце йшоў звычайным ужо курсывам верш, як мы сказалі, "першае й галоўнае паэтэсы" "Менскае газэты" Натальлі Арсеньневае "У навагодны вечар" (пазьнейшую рэдакцыю яго можна знайсьці ў ейным зборніку "Між берагамі", 1979 г. на б. 104) — дык, прынамся для гэтага нумару, "першым і галоўным паэтам" выступала ўжо не яна...

Верш "З Новым Годам!" ішоў пад псэўданімам "Максім Блакітны". Ён быў перадрукаваны ў навагодным № 1(8) газэты "Голас вёскі", а пад ім ішоў і яшчэ адзін верш таго самага аўтара — "Радасьць жыцьця", але ўжо пад іншым псэўданімам — "Ал. Салавей", што пасьля —

зь нескарачаным больш імём "Алесь" і стаўся, як кажуць, каронным ягоным псэўданімам, а тут, паводля ўсіх дадзеных, што тымчасам ёсьць у нас, зьявіўся ўпяршыню.

## У Ільлі

На пачатку лютага 1942 г. наш паэта зьвярнуўся да рэдакцыі, у якой працаваў, з просьбай дапамагчы яму перабрацца некуды на вёску, у былую Заходнюю Беларусь, на настаўніцкую працу, ці што, бо тут, у ваенным галодным Менску вельмі цяжка яму жыць на ягоныя заработкі — з аднаго боку, а з другога — хацелася-б паглядзець, як выглядаюць і жывуць простыя людзі Заходняе Беларусі, што блізу не паспыталі савеччыны. Пры дапамозе кантактаў рэдакцыі было выстаранае яму сьціраваньне настаўнікам у м. Ільлю, і 10-га лютага 1942 г. ён і пакінуў той ваенны галодны Менск і працу ў "Менскай газэце" й "Голасе вёскі". У Ільлі Алесю Салаўю не давялося працаваць настаўнікам, як гэта меркавалася — разам зь ім туды былі сьціраваныя яшчэ з пару настаўнікаў із стажам, месцаў на ўсіх ня было, а ў Алеся ня было-ж і ніякага таго "стажу"; з другога боку, вельмі патрабаваліся людзі для новае, беларускае адміністрацыі, і туды й узялі Алеся. Праца-ж у адміністрацыі была зусім не для Алеся. Пасьля ўжо, з эміграцыі, з Зальцбургу, ён пісаў у лісьце ад 23 чырвеня 1947 г. аднаму зь ільлінскіх сваіх знаёмых: "Пісаць вершы, выдаваць часапісы, газэту, а калі няма на гэта магчымасьці — рабіць валізкі, будаваць дом, дарогу, канал — творчая праца, і яна мне лепш падабаецца за працу бюракрата ў канцылярыі... Мяне цікавіў зусім іншы сьвет, ня тое жыцьцё, у якім я перабываў..."

І Алесь вельмі неўзабаве пачаў імкнуцца вырвацца з таго "няцікавага жыцьця", "працы бюракрата ў канцылярыі", якою, зрэшты, у Ільлі, пазнаўшы ў ім паэту ды наагул чалавека "зусім іншага сьвету", стараліся ня вельмі яго абцяжваць. Выкарыстоўваў магчымыя аказіі пад'ехаць у Менск на пару дзён, але вярнуцца назад на працу ў газэту жаданьня ня выказваў. Пры аказіях наведаваў таксама й некаторыя блізкія да Ільлі пункты — Ліду, Маладэчна, ня выключана, што й Вільню тады мог наведаць упяршыню ды там мог набыць на собскасьць Багдановічаў "Вянок", як гэта думае ягоная ўдава.

У часе пражываньня нашага паэты ў Ільлі ў "Беларус-

кай газэце" й у "Голасе вёскі" зьяўляліся вершы нашага паэты пад рознымі новымі псэўданімамі. Першым зьявіўся ў "Беларускай газэце" гумарыстычна-сатырычны верш "Лёс паэта", падпісаны псэўданімам "Не паэт", у якім апісваліся тыя перажываньні ягоныя ў галодным ваенным Менску, што выгналі яго ў Ільлю. Верш гэты падрабязна камэнтуецца ў нашым артыкуле "Мастак нятускнае красы", гэттака зазначым адно, што гэта папраўдзе найлепшы твор гумару й сатыры нашага паэты.

Але на самым канчатку свайго "Кароткага жыцьцяпісу" Алесь Салавей напісаў: "У 1942 годзе я спрабаваў пісаць гумарыстычныя вершы й апавяданьні на тэму дня. У гэных вершах і апавяданьнях я не дабіўся памысных вынікаў. Калі перачытваў іх нядаўна — мне стала сорамна за самога сябе. Усе рукапісы я зьнішчыў. Не хачу больш тых вершаў і апавяданьняў бачыць і аб іх успамінаць. Тым, хто ведае аб маім аўтарсьцьве гэных вершаў і апавяданьняў, буду заўсёды вельмі ўдзячны, калі яны гэтае веданьне пакінуць у таямніцы".

У гэтым нашым выданьні мы імкнуліся як мага рэспэктаваць усе ведамыя нам жаданьні нашага паэты, у тым ліку й гэтае. Але падвесьці сюды "Лёс паэта", не перадрукоўваць яго ды нат "пакінуць у таямніцы веданьне аб аўтарсьцьве яго" нам аніяк не ўяўлялася магчымым — у гэтым бо гумарыстычным творы паэта запраўды дайшоў "памысных вынікаў", і ніякага сораму свайму аўтару ён ня можа справіць, зусім наадварот. [9])

[9]) Не давялося нам палічыцца й з выразным жаданьнем Алеся Салаўя неяк дыстанцыявацца ад вершу ўжо ня гумарыстычнага ці сатырычнага, а зусім адваротнага — панэгірычнага характару, сказаць-бы, «оды правадыру», пісанае сваім часам на заказ (гл. у нашым выданьні б. 226, а таксама ў «Бібліяграфіі» пазыцыі 39 і 111). Пра гэроя тае оды Алесь пісаў у лісьце да аднаго сябра з працы ў Ільлі ад 3-га сакавіка 1948 г., «Нічога аб'ектыўнага сказаць не магу, бо маю да яго асабістыя антыпатыі». Аднак у часе друкаваньня таго вершу гэроя ягонага так ці йнакш мусіў падтрымаць і беларускі нацыянальны актыў на эміграцыі, не адзін аўтар вершу, фактычна ў дадзеным выпадку толькі выканавец заказу ад аднаго з тагачасных прадстаўнікоў таго актыву. Дый верш друкаваўся ды нат і паангельску падаваўся (хоць і з памылковай, на 10 год спозьненай датай, гл. пазыцыю 111 бібліяграфіі), і друкаваўся-ж пад подпісам «Алесь Салавей», а не пад іншым якім псэўданімам. А наверх на ўсё — з гледзішча паэтыкі (хоць і не паэзіі, шчырае паэзіі) верш напісаны, як кажуць, на ўзроўні.

Пасьля вершу "Лёс паэта" ў часе ільлінскага этапу жыцьця нашага паэты ў друку зьявілася яшчэ колькі, але ўжо негумарыстычных вершаў ягоных ("Маці сына чакае з вайны" й "Сьпі, мой родны" — у ліпені, чырвенем датаваныя, пад новым псэўданімам "Алесь Вясновы" — у "Голасе вёскі"; "За славу Радзімы" й "Кінь сваволіць пад вокнамі, вецер" — у жніўні, у "Беларускай газэце", пад іншым псэўданімам "А. Вясёлка"; "Беларусі" — у верасьні, ізноў у "Голасе вёскі" пад псэўданімам "Алесь Вясновы"; пад гэтым-жа псэўданімам у тым-жа "Голасе вёскі" зьявіўся йшчэ адзін верш — "Пад шэлесты лісьця" — у сьнежні, калі паэта быў ужо ў Рызе, але магчыма, што верш быў надасланы яшчэ зь Ільлі ды мо там і напісаны, і толькі залежаўся ў рэдакцыі). Усе гэтыя вершы — пэўны працяг тых першых выдрукаваных у несавецкім часе вершаў нашага паэты — "З Новым Годам" і "Радасьць жыцьця". Усе яны пазначаныя ў большай ці меншай меры наіўна-аптымістычнай, гэтак жорстка высьмеянай пасьлейшай гісторыяй, ня толькі верай, а проста й шчырай перакананасьцяй, натхнёнай спачатным ходам нямецка-савецкае вайны, што адразу прынесенае гэтым ходам зьняцьцё тэрарыстычнага савецкага панаваньня [10]) — гэта ўжо й ёсьць вызваленьне Беларусі наагул, ці прынамся неабарачальна адчыняе пэўную дарогу да гэткага вызваленьня ("нас шчасьце спатыкае, і мы будзем свабоднымі жыць" — верш "З Новым Годам", "жахі тыя ня прыйдуць ніколі!" — верш "Радасьць жыцьця", "Гэта-ж Краю прыйшло Прабуджэньне", "На тваёй занядбанай краіне не зазнае больш гора твой сын" — верш "Кінь сваволіць", "Час мінуў той. Цяпер будзе йначай" — верш "Беларусі". [11]) Адзін верш ("За славу Ра-

[10]) Як памятаем, тэрорам таго панаваньня быў асірочаны й асабіста наш паэта, бацькоў якога бяз дай прычыны арыштавалі, увязьнілі ды выслалі «яжоўцы», а бацька, паводля атрыманых тады першых вестак, і памёр недзе на выгнаньні, чым і быў выкліканы верш «Сьпі, мой родны» (крыху пасьля прыйшлі чуткі, быццам бацька памёр яшчэ ў Менскай турме, і гэтак падаў быў Алесь Салавей у сваім «Кароткім жыцьцяпісе», але ў цытаваным намі вышэй лісьце ад 3. 4. 68 г. ён пацьвярджаў ужо тыя першыя весткі, што «бацька памёр ня ў менскай турме, а ў Сібіры»).

[11]) Але-ж гэты наіўны аптымізм у большай ці меншай меры падзяляў тады й увесь беларускі нацыянальны актыў, рэдакцыя й супрацоўнікі «Менскае Газэты» й «Голасу вёскі» ў тым ліку: дума-

дзімы") канчаўся мала ня цытатаю з Багдановічавага вершу: "Пад сьцягам імклівай Крывіцкай Пагоні, браты-Крывічане, уперад на бой!" Але наіўны аптымізм уносіў свае карэктывы ў, сказаць-бы, трагічны аптымізм "Пагоні" Максіма Багдановіча, які, дарэчы, пісаў той свой верш таксама ў часе вайны, толькі Першае Сусьветнае ды да Менску, дзе жыў тады паэта, яшчэ не дабеглае. Гэтак, Багдановічаваму "за краіну радзімую жах" у Салаўя як-бы адпавядала ўжо зацытаванае намі "жахі тыя ня прыйдуць ніколі", Багдановічавы трагічна-патэтычныя радкі —

Хай пачуюць, як сэрца начамі
Аб радзімай старонцы баліць...

ды

Маці родная, Маці-Краіна!
Ня усьцішыцца гэтакі боль...

згукаліся ў вершы "Алеся Вясновага" "Беларусі" радкамі

За цябе маё сэрца балела,
дарагая мая Беларусь —

— ужо ў прошлым часе, бо-ж "час мінуў той" — дык, хіба, і боль мінуць мусіў...

На жахі, прытым крывавыя жахі, руіны й ахвяры вайны паэта наш, праўда, не забываўся ("гляньце — ходзяць па сьвеце калекі, і нямала няшчасных сірот" "на ўлоньні крывавых падзей" — верш "З Новым Годам", "навакола — руіны, руіны — кроў і боль незагоеных ран" — верш "Радасьць жыцьця", цэлы верш "Маці сына чакае з вайны"). Але ўсё гэта падавалася ў сьвятле таго-ж аптымізму ("часіна цяжкая, але кіньма, даволі тужыць" —

---

лася больш-менш усім, што горш-жа, як пад Саветамі, проста быць ня можа, дык і ня будзе, што «цяпер будзе йначай», а мо нат і лепш хоць у сім-тым хоць-бы для беларускае нацыянальнае справы, а з гледзішча яе — і для Беларусі наагул. Магчымасьці для гэтае справы, а, значыцца, і пэрспэктывы былі-ж адчыніўшыся адразу — беларуская мова, прынамся, атрымала адразу-ж статус адзінае афіцыйнае мясцовае мовы, прызнаванае за гэткую новым акупантам — толькі ў беларускай мове быў дапушчаны і друк і тэатр, і школьніцтва. Бесьперашкодна дэманстраваліся й адпаведна ўшаноўваліся нацыянальныя эмблемы — бел-чырвона-белы сьцяг, гімн «Мы выйдзем шчыльнымі радамі», гэрб Пагоні (чаго, між іншага, ня было на суседняй Украіне, і прыежджыя ды праежджыя Украінцы вельмі дзіваваліся з гэткага «нацыянальнага рэнэсансу» на Беларусі).

верш "З Новым Годам", "прыйдзе час — і загояцца раны", "у вагні, у крыві, у грымотах нараджаецца радасьць жыцьця" — верш "Радасьць жыцьця", "на пажарах, руінах крывавых кветку шчасьця Радзіма знайшла" — верш "Кінь сваволіць", "і пяшчотнае сонца засьвеціць на руінах старога жыцьця" — верш "Беларусі"). І толькі ў некаторых вершах, пісаных у Ільлі, але выдрукаваных пасьля, калі жыў паэта ўжо ў Рызе, назначаецца тут пэўны паварот, адварот ад наіўнага аптымізму. Гэтак, верш "Восень" (упяршыню выдрукаваны ў часапісе "Новы Шлях" № 9 за 1942 г., калі паэта працаваў ужо ў рэдакцыі гэтага часапісу, перадрукаваны ў першым зборніку паэты "Мае песьні" зь невялікімі папраўкамі) канчаецца хоць і аптымістычнай яшчэ надзеяй, што

перабудзем, зьнясём і нядобрае, злое і грознае,
прычакаем вясны, няўнікнёнай сяброўкі жыцьця,

але-ж збыцьцё гэтае надзеі адсунутае ўжо ў будучы час, тымчасам як у вершы "Сьпі, мой родны" цьвердзілася пра тую "няўнікнёную сяброўку жыцьця" як пра ўжо насталую: "Гэта-ж першая наша вясна!" А верш "Маладэчна" (у тым-жа зборніку) канчаецца й зусім, сказацьбы, "разьвянчаньнем" аптымізму:

Чую болесьць і ранаў тваіх.
І ня грэе «Мы зьнесьлі ня гэта,
прыйдзе час — дык загоім і іх»...

Нарэшце, верш "Пад шэлесты лісьця", выдрукаваны ў "Голасе вёскі" ў сьнежні 1942 г., калі паэта быў у Рызе, зусім у тон пачатку Багдановічавае "Пагоні" — "толькі ў сэрцы трывожным пачую" — і ў пачатку сваім і на канцы мае мэлянхалічнае "і сэрца ня знае спакою" — "ня ведае сэрца спакою", а гэта таму, што ў сэрцы тым ужо й жаль, і крыўда, і злосьць навет — на "злыдняў", "ворага", "нагальнікаў тлум", што "адплату прыносіць крывёю", ды над усім гэтым — зусім пэсымістычная ўжо зьнямога:

Ды сілаў няма, каб узьняцца увысь,
і голас мой там не пачуюць...
Ліецца на долы крывавая сьлізь,
і вораны сьмерць там вяшчуюць.

Ведама, за ўсім гэтым, як сказана, пэўным паваротам-адваротам ад выкліканага спачатным ходам нямецка-савецкае вайны наіўнага нацыянальна-патрыятычнага аптымізму сталі, выклікаючы іх, пэўныя павароты-ад-

вароты ў далейшым ходзе тае-ж вайны. Праўда, ваенны фронт, ці ня імклівей яшчэ за тую "старадаўную Пагоню", проста маланкава празігнуўшы празь Беларусь, пакаціўся ад яе далёка-далёка, і ніякія павароты-адвароты на ім, як той фатальны, што позна ўвосень 1942 г. зазначыўся пад Сталінградам, зусім ня вычуваліся, нат не прадчуваліся, проста навет ня было нічога ведама пра гэта тут тады. Затое ўжо ад вясны 1942 г. усё часьцейшыя ночныя наведзіны савецкіх самалётаў пачалі ськівдаць на беларускія лясы, сказаць-бы, двуногія бомбы савецкіх дывэрсійных парашутыстых, свайго роду "бомбы спавольненага дзеяньня", бяз чутных беспасярэдня выбухаў, закладаючы гэтак апорныя пункты нейкага нутранога фронту ў самым краі, пракуднейшага за той далёкі ад яго вонкавы ваенны фронт сваёй нявыцягнутасьцяй у вадну франтавую лінію, а пунктырнай расьсяроджанасьцяй, зь якое нат перапыністая лінія ня выцягвалася, але пункты тыя турбавалі партызанскімі налётамі на мірныя беларускія вёскі найперш і больш як на базы акупантаў, то адтуль, то адсюль, а з часам прост як адусюль. Гэта быў фронт савецкае правакацыйнае партызанкі, арганізоўванае тымі ськівнутымі парашутыстымі найперш з кадраў бязглузда-бешчалавечна трактаваных акупантамі савецкіх палонных. І гэта ўжо быў фронт ня гэтак савецка-нямецкае, як нейкае савецка-беларускае вайны, вайны найперш супраць Беларусі, у вадрознасьць ад таго вонкавага рэгулярнага фронту, што пракаціўся празь Беларусь, успрыйманы нашымі наіўнымі нацыянальна-патрыятычнымі аптымістымі як фронт вайны й за Беларусь. І Беларусі трэба было бараніцца, пачала паўставаць вайсковая збройная "Беларуская Самаахова", якой наш паэта прысьвяціў верш" За славу Радзімы", заклікаючы ў ім "братоў-Крывічанаў" ня дацца "ў крыўду бандыцкай навале ліхой", і пра тую-ж "бандыцкую навалу" іншымі толькі словамі — як пра "нагальнікаў тлум", што "адплату прыносіць крывёю" — кажацца й у перад гэтым закранутым намі вершы "Пад шэлесты лісьця".

Вершам "Пад шэлесты лісьця" як прыпячатвалася сэрыя наіўна аптымістычных нацыянальна-патрыятычных вершаў нашага паэты, што зьявіліся ў друку першымі ў непадсавецкім часе ягонага жыцьця, на менскім ды ільлінскім этапах гэтага жыцьця. Праўда, яшчэ адзінкавыя вершы гэтага роду былі напісаныя й выдрукаваныя пару

гадоў пасьля (як "Змагар айчыны", "Радаславу Астроўскаму"), але ў іх ня было ўжо ранейшае аптымістычнае перакананасьці, а толькі адно імкненьне выклікаць ці падтрымаць баёвы патрыятычна-аптымістычны настрой "крывіцкіх палкоў" паўсталае зь "Беларускае Самаахова" — "Беларускае Краёвае Абароны" (БКА), неўзабаве й выціснутае зусім з тэрыторыі Беларусі. [12])

Ад сваіх наіўна-аптымістычных нацыянальна-патрыятычных вершаў наш паэта нідзе й ніколі не адмаўляўся й не дыстанцыяваўся гэтак, як ад вершаў гумарыстычна-сатырычных. Але, з другога боку, і ня ўлучыў ніводнага зь іх у ніводзін із сваіх зборнікаў. А ў сваім "Кароткім жыцьцяпісе" й зусім правёў простую лінію паміж сваёй пастановай у 1941 г. "нікому напісанага не паказваць і нідзе ня друкаваць" ды мамэнтам, калі "толькі ў канцы 1942 г., знаходзячыся ў г. Рызе... паказаў колькі сваіх ранейшых і новых лірычных вершаў", гэтаю лініяю як-бы закасоўваючы ўсё напісанае, а галоўна — выдрукаванае ім ад 1941 г. да канца 1942 г. — значыцца, і ўсю ягоную друкаваную наіўна-аптымістычную нацыянальна-патрыятычную лірыку (у тым ліку-ж і верш "Радасьць жыцьця", выдрукаваны пад ягоным, ужо-ж "кароным" тады псэўданімам "Алесь Салавей"), як быццам-бы гэткае ніколі й ня было, ані ў друку, ані хіба й ў прыродзе, як кажуць, наагул...

## У Рызе — ў "Новым Шляху"

Неяк яшчэ ў сярэдзіне 1942 г. рэдакцыі "Беларускае Газэты" было афіцыйна даведзена да ведама, што ёсьць магчымасьць выдаваць беларускі ілюстраваны часапіс боль-менш двухтыднёвае пэрыядычнасьці. Рэдагаваўся-б і друкаваўся-б гэты часапіс у г. Рызе, дзе ёсьць адпаведныя тэхнічныя магчымасьці ды ўжо выдаюцца гэткія-ж

---

[12]) Бо быў-жа гэта час, калі пачаты ўвосень 1942 г. пад Сталінградам адварот вайны перасунуў вонкавы ейны фронт аж за Беларусь, а на нутраным, партызанскім фроньце прайшла тая савецка-беларуская вайна, у якую бешчалавечна-безаглядная ў сьцігаваньні сваіх мэтаў савецкая стратэгія й тактыка сваймі правакацыйнымі дзеяньнямі ўцягнула ды сьціравала супраць беларускага народу й акупанта, бязглузда-бешчалавечная рэакцыя якога на тую стратэгію й тактыку пашырылася крывавымі рэпрэсіямі й на правакаваны таксама гэты народ...

ілюстраваныя часапісы ў латыскай і расейскай мовах. Расейскамоўны часапіс зваўся "Новый путь", латыскі — адпаведна – "Яўнаіс цэльш" (Jaūnais celš), і беларускі меў-бы звацца таксама "Новы Шлях". Бальшыня матар'ялу, як тэксту, гэтак і ілюстрацыяў павінна была-б забясьпечвацца рэдакцыяй, частка давалася-б, "спушчалася"-б згары. Рэдакцыя й паштовая база выдавецтва была-б у Менску, пры выдавецтве й рэдакцыі "Беларускае Газэты" (адрыс гэтае апошняе — Менск, вул. Рагнеды (былая Рэвалюцыйная), дом 2, трэйці паверх, і ейны тэлефон 21-300 і падаваліся як адрыс і тэлефон выдавецтва "Новага Шляху" ў кажным ягоным нумары). Рэдакцыю "Беларускае газэты" прасілася рэкамэндаваць "свайго чалавека" на "адказнага за зьмест часапісу", яго пасларі-б жыць у Рызе й рэдагаваць-выпушчаць часапіс, супрацоўнікаў рэдакцыі можна й трэба было-б падабраць у паважнай беларускай калёніі ў Рызе. Паехаць на гэткага "адказнага" ў Рыгу выказаў жаданьне й быў рэкамэндаваны на гэтае становішча няштатны супрацоўнік рэдакцыі "Беларускае газэты" Ўладзімер Сядура, які й падпісваў гэты часапіс, спачатку як "адказны рэдактар", а ад № 4 - 1942 г. і да канца ягонага існаваньня — да № 10(46) за 1944 г. — як ягоны галоўны рэдактар. Неўзабаве ўдалося паслаць туды й нашага паэту, які, як падавалася ўжо ў нас зь ягонага "Кароткага жыцьцяпісу", і заняў становішча заступніка галоўнага рэдактара часапісу ад 9-га кастрычніка 1942 г.

Рэдакцыя "Новага Шляху" й склалася адразу зь ягонага адказнага ці галоўнага рэдактара ды заступніка гэтага рэдактара, нашага паэты. Як падаў у сваім лісьце ад 17-20 сьнежня 1979 г. той былы галоўны рэдактар, часапіс

рабілі мы з Салаўём, а пазьней і з частковай дапамогай Уладзімера Брылеўскага, які рабіў карэкту, і Сакала, які ламаў часапіс... Пасяліў я Алеся Салаўя ў кватэры Дзямідава, які да гэтага пасяліў мяне туды, бо сам увесь час адсутнічаў, настаўнічаючы ў Ілукстэншчыне, на поўначы Латгаліі, дзе за Немцамі, як і ў часы дэмакратычнай Лацьвіі, былі беларускія школы. Там-жа пазьней я пасяліў і Уладзімера Брылеўскага з жонкай... Але да іх мы доўга з Салаўём жылі там адны. У Рызе ўсе былі нам чужыя. Нам ніхто нічога не прадаваў на чорным рынку — на нас глядзелі як на чужую агентуру, бо мы не гаварылі палатыску. Жылі адно на харчовыя карткі, схуднелі, як жэрдкі. Але затое працавалася нам добра, падтрымвала сьведамасьць працы на дабро Бацькаўшчыны.

Гэтак выглядала тое вузкое, бліжэйшае асяродзьдзе, у якім давялося жыць нашаму паэту ў Рызе, і матар'яльныя абставіны ягонага жыцьця там. Найважнейшым хіба для нашага паэты было тое, што быў ён ужо як-ніяк, а заступнікам галоўнага рэдактара ды ўжо ня марнае савецкае раённае газэты, як калісь у Лагойску, а ілюстраванага двутыднёвіка. "Чорны рынак" усёдна быў не для яго, як і той "Сураскі" ў Менску, згаданы ім у вершы "Лёс паэта", а харчовыя карткі ў Рызе, як казалі людзі, што жылі там тады, усё-ж бывалі хоць крыху, а лепшыя, як у Менску. Ня немарасьціла больш і "праца бюракрата ў канцылярыі", як у Ільлі, праца была ўжо тая творчая, да якое наш паэта заўсёды гарэў. І ён акрыяў у поўным сэнсе слова, ягоная паэтычная натура магла свабодна раскрывацца. Уладз. Брылеўскі (гл. пазыцыю 170 "Бібліяграфіі") ці не найлепш з усіх успамінальнікаў пра нашага паэту схарактарызаваў яго, як чалавека й Беларуса, прытым, відавочна, у супаставе зь іншымі, паводля сваіх назіраньняў пры супольным жыцьці на аднэй кватэры й працы ў "Новым Шляху":

> У прыватным жыцьці быў Алесь Салавей чалавекам вельмі сьціплым, мяккага характару, крыху нясьмелым, але шчырым і сяброўскім, вельмі сантымэнтальным, крыштальна сумленным. Стараўся дапамагчы другому чалавеку ў бядзе. Быў гарачым, але ня крыклівым, беларускім патрыётам, без афэктацыі й дэклямаваньня аб сваім патрыятызьме. Ня любіў хвалькоў, гіпакрытаў, пустазвонаў, самалюбаў, эгаістых, людзей позы й таннага эфэкту, апанаваных маніяй вялікасьці.

Пэўна-ж, цытаваную вышэй фразу "ў Рызе ўсе былі нам чужыя" даводзіцца разумець у дачыненьні да асноўнага жыхарства гэнага гораду, а не да ягонае, вельмі паважнае, як згадвалася ўжо, беларускае калёніі. То-ж бо да гэтае калёніі належаў і сам стары, яшчэ бэнээраўскі вайсковы й грамадзкі беларускі дзеяч Мікола Дзямідаў, што прытуліў на сваёй кватэры нашых "новашляхаўцаў", гарачы энтузіясты (аж да сьлёзаў літаральна, да афэктацыі — гэтае ўжытае Брылеўскім слова прытном да яго прыстае) беларускае справы, які наўдачу ці так ужо "ўвесь час адсутнічаў" на тэй кватэры ды напэўна наяжджаў час-часом хоць накаротка дадому ды спатыкаўся зь імі. У блізкім кантакце быў "Новы Шлях" і з найвыдатнейшай асобай тае калёніі, таксама бэнээраўскім яшчэ дзеячом Канстантынам Езавітавам, артыкулы якога часам друкаваліся ў часапісе. Да рыскае беларускае ка-

лёніі належаў і ведамы мастак Пётра Міpановіч, якому наш паэта прысьвяціў верш "Мастак". Дый наагул уся беларуская калёнія Рыгі аніяк не магла быць чужой прыбылым у Рыгу "навашляхаўцам" і асабліва нашаму паэту. Быў у гэтай калёніі й у рэдакцыі "Новага Шляху" й адзін зь беларускіх паэтаў Лацьвіі, згаданы вышэй П. Сакол, "які ламаў часапіс".

Але наш Алесь Салавей хутка навязаў кантакты й вонках беларускае калёніі, найперш па лініі небеларускіх "Новых Шляхоў" — перш-наперш расейскамоўнага "Нового пути". Ён добра запрыязьніўся з расейскім крытыкам і паэтам Вячаславам Завалішынам, што займаў такое-ж становішча ў расейскім "Новым пути", як Алесь Салавей у беларускім "Новым Шляху". Праз Завалішына, сказаць-бы, успаў ён на добрае вока маладому, але ўжо выдатнаму латгальскаму пісьменьніку й паэту Аляксандру Анцану, які ўзначальваў з афіцыйнага боку ўсе тры "Новыя Шляхі", ці "пути, ці "цэльшы" й зь якім Завалішын быў у добрых сяброўскіх дачыненьнях. [13])

Анцан-жа быў душою свайго роду літіратурна-мастацкага салёну, які зьбіраўся штасерады на кватэры рыскае мастачкі Аляксандры Бяльцовае, родам зь беларускае Чарнігаўшчыны, ды патранаваўся таксама й Езавітавам. На гэтыя серады пачалі запрашаць і нашага паэту, ён чытаў на іх і свае вершы (яны, дарэчы, вельмі падабаліся гаспадыні кватэры, якая пасьля зрабіла вокладку й застаўныя балоны да першага Салаўёвага зборніка "Мае песьні") ды бываў там рэгулярна, як і некаторыя яшчэ працаўнікі рэдакцыі "Нового Пути" й латыскага часапісу (як латыская паэтка й пісьменьніца Люцыя Замайча; зь беларускага "Новага Шляху", апрача нашага паэты, бываў яшчэ П. Сакол).

Гэтак наш паэта апыніўся сярод людзей, зь якімі можна было кантактавацца як зь людзьмі літаратуры й мастацтва, ад якіх можна было вучыцца й пераймаць, дзяліцца зь імі сваймі творчымі спробамі. Сярод гэтых людзей трэба назваць адразу ягонага беспасярэдняга зьвер-

---

[13]) Аляксандар Анцан (Александрс Анцанс) нарадзіўся 8 сьнежня 1910 г. у Пецярбургу, трагічна загінуў 15 верасьня 1944 г. — як афіцыйна падавалася, у трамвайнай катастрофе, як падазравалася — ад рукі Гэстапа. Выдаў два зборнікі вершаў нацыянальна-патрыятычнае й пэйзажнае лірыкі: — «Шэпт ветру ў вазёрным краі» ды «Мой край і маё сэрца».

хніка на працы й кватэрнага падгаспадара, прынамся сужыхара, галоўнага рэдактара "Новага Шляху", які зрабіў яго сваім заступнікам зь як найшырэйшымі паўнамоцтвамі, перадаверыўшы яму блізу ўсю канкрэтную практычную працу над выданьнем і нат рэдагаваньнем (асабліва моўным, стылістычным) часапісу, перакладаньне й адаптаваньне спушчаных "згары" матар'ялаў, нашэньне ўсіх матар'ялаў на цэнзуру, пакінуўшы за сабою агульны нагляд і кіраўніцтва, рэпрэзэнтацыю, здабываньне беларускіх матар'ялаў (артыкулаў і ілюстрацыяў) збоку ды пісаньне собскіх папулярных артыкулаў на беларускія тэмы (гэтак прынамся ўспамінаў сам паэта пры нашай апошняй зь ім сустрэчы ў Аўстраліі, а пра сёе-тое з гэтага, пра дачыненьні з цэнзураю, прыкладам, падаў і той галоўны рэдактар у цытаваным ужо вышэй лісьце сваім ад 17-20 сьнежня 1979 г.). Шмат, бясспрэчна, дало нашаму паэту асабістае лучэньне зь ягоным галоўным рэдактарам ды згадваныя папулярныя артыкулы гэтага рэдактара на беларускія тэмы ў "Новым Шляху". Калі поўнае беларускае нацыянальнае ўсьведамленьне паэта здабыў яшчэ ў Менску, празь "Беларускую газэту", дык матар'ялы "Новага Шляху" як пяра ягонага галоўнага рэдактара, гэтак і іншых, асабліва К. Езавітава, сказацьбы, надбудоўвалі гэнае ўсьведамленьне асьведамленьнем з канкрэтнымі фактамі гісторыі Беларусі, беларускае нацыянальнае справы, беларускае літаратуры й мастацтва, што маглі яшчэ быць няведамымі яму з такіх матар'ялаў "Беларускае газэты" й "Голасу вёскі", як "Крыўя-Беларусь" ці "Беларусь учора й сяньня", пра якія мы згадвалі вышэй. Ня менш магла паслужыць гэтым і надзвычайна багатая бібліятэка К. Езавітава.

Гэтак у Рызе йшла далей пачатая яшчэ ў Менску, у рэдакцыі "Беларускае газэты", нацыянальная адукацыя нашага паэты. Ды ня толькі нацыянальная, але побач зь ёю пайшла й ягоная адукацыя агульная, асабліва ў галіне літаратуры.[14]) У цытаваным вышэй лісьце ад 17-20

---

[14]) Фармальная адукацыя Алеся Салаўя спынілася на няскончаным, крыху толькі працягнутым завочна вучэньні ў пэдагагічным тэхнікуме («вучылішчы»). Цьверджаньні ў некаторых успамінах, юбілейных нататках у ньюёркаўскай газэце «Беларус» пра тое, быццам скончыў ён нейкі факультэт журналістыкі Беларускага Дзяржаўнага Унівэрсытэту ў Менску — плод чыстае фантазіі: ня было-бо ўжо яму часу на гэткае сканчэньне, ані гэткага факультэту ў цэлай гісторыі Беларускага Дзяржаўнага Унівэрсытэту.

сьнежня 1979 г. наш карэспадэнт піша: "Акрамя рэдакцыйнае працы, я стаў уплываць на яго, каб падвысіць ягоную агульную культуру", і далей, у іншым месцы ліста, пішацца пра ськіраваньне ўвагі нашага паэты на пазнаньне "клясычнае сусьветнае спадчыны", "узораў заходня-эўрапейскае літаратуры ўсіх вякоў і народаў", у якіх "ён знаходзіў шмат чаго, што выклікала водгук у ягонай маладой, чулай да красы, душы. Гэта яшчэ больш рашчыніла перад ім пэрспэктывы ўзыходжаньня на вяршаліны агульначалавечай культуры. Наш Максім Багдановіч у гэтым сьвятле... набываў для яго значаньня ўзору, якому варта насьледаваць, і паэзію красы якога ён сьведама абраў сабе за паходню... Я сам тады яшчэ не ўяўляў, што ўсе дадзеныя мною яму кнігі будуць рабіць такі ўплыў і гэтак плённа паспрыяюць росквіту маладога паэты".

Ня менш хіба для кантакту нашага паэты з "агульнай культурай", "клясычнай сусьветнай спадчынай" ды "заходняэўрапейскай літаратурай усіх вякоў і народаў" дала ягоная лучнасьць із згадваным ужо латгальскім пісьменьнікам Аляксандрам Анцанам, носьбітам высокае "агульнае культуры", вялікім знаўцам і тае "спадчыны" й "літаратуры ўсіх вякоў і народаў" у ёй, а таксама зь іншымі спабытнікамі, добрым Салаўёвым словам кажучы, штосерадавых зборак у згаданым намі "літаратуна-мастацкім салёне". Вячаслаў Завалішын, вялікі знавец — напамяць — расейскае паэзіі — знаёміў нашага паэту з выдатнымі ўзорамі тае паэзіі, асабліва з гэткімі, што былі недаступныя ў савецкіх абставінах, як, прыкладам, вершы расстралянага яшчэ за Ленінам выдатнага расейскага лірыка Мікалая Гумілёва. [15])

## Першы зборнік і эвакуацыя паэты

На самым канцы Рыскае пары жыцьця й творчасьці нашага пэты быў выданы першы зборнік ягоных вершаў "Мае песьні", укладзены ў вялізарнай бальшыні зь вершатвораў тае пары, друкаваных у часапісе "Новы шлях", у рэдакцыі якога ён працаваў. Зборнік выйшаў пад псэў-

---

[15]) Вячаславу Завалішыну мы забавязаныя падаванымі тут весткамі пра Алеся Салаўя вонках беларускага асяродзьдзя ў Рызе, пра той «літаратурна-мастацкі салён», пра Аляксандра Анцана.

данімам “Алесь Салавей”, пад якім друкаваліся ўжо й усе лірычныя вершы паэтавы ў “Новым шляху”.[16]) У трох разьдзелах зборніка 67 лірычных вершаў, чацьверты, апошні разьдзел становіць першая даўжэйшая паэтава, таксама лірычная, паэма “На хуткіх крыльлях вольнага Пэгаса” — зборнік і меў падзагаловак “Зборнік лірыкі”. Дабраныя ў зборнік, Салаўёвы вершы выразна дэманструюць датрымваньне паэтам сфармуляванага ім у ягоным “Кароткім жыцьцяпісе” ягонага “самага галоўнага прынцыпу — менш словаў, а больш думак”, падзагаловак зборніка можна было-б працягнуць яшчэ на адно слова — “зборнік лірыкі думкі” — лірыкаю думкі ў ім калі ня выпаўненыя цалком, дык прасякнутыя ці апраўленыя ў бальшыні й вершы, прыродаапісальнае пераважна, лірыкі вобразу й нат вершы лірыкі каханьня, ня кажучы ўжо пра вершы нацыянальна-патрыятычнае лірыкі, якая ў ідэйным дачыненьні вядзе перад у зборніку. У згодзе з уведзеным у тое сфармуляваньне “самага галоўнага прынцыпу” сьцьверджаньнем, што “клясычныя формы — трыялет, санэт, актава ды інш. — патрабуюць глыбокае думкі”, складзеная ў зборніку й належная даніна гэным формам, найбольш — санэту, сваёй першай спробаю якога, як памятаем, датаваў паэта пачатак свае “паважнае працы”: у зборніку ня толькі 4 санэты сярод паасобных вершаў[17]), але й уся паэма “На хуткіх крыльлях вольнага Пэгаса” напісаная санэтамі як страфою, іх там цэлых 25[18]) — гэта першы й дасюль адзіны ў цэлай

[16]) Перад ад'ездам нашага паэты ў Рыгу была ў нас гаворка, у якой, між іншага, закрануў ён справу свайго псэўданіму. Ніводзін з ужытых ім псэўданімаў яго не задавальняў. Яму быў выказаны пагляд, што псэўданім «Алесь Салавей» быў з усіх найбольш для яго адпаведным — падаваліся аргумэнты ў духу тых разважаньняў, ад якіх пачаліся гэтыя нашыя рэдактарскія нататкі. Відаць, аргумэнтацыя падзеіла — адтады «Алесь Салавей», у кажным разе, ізноў зьявіўся ў друку ды пратрываў як адзіны псэўданім для лірычных вершаў аж да апошніх гадоў паэтавага жыцьця, калі йзноў зьявілася незадавальненьне ды пачаў практыкавацца новы псэўданім «Антон Дабрыдзень».

[17]) «Гайна», «Лідзкае замчышча», «Санэт» («Здаецца, ўрэшце я...»), «Сад».

[18]) Тымчасам як у Багдановіча, на якога паклікаўся наш паэта, у зборніку «Вянок» іх толькі 3, а ў цэлай Багдановічавай арыгінальнай творчасьці — усяго толькі 5.

беларускай паэзіі твор, напісаны санэтаваю страфою. Але дэталёвейшы разгляд і гэтае паэмы й усяго зборніка "Мае песьні" сталася магчымым даць адно ў нашым артыкуле "Мастак нятускнае красы".

Зборнік "Мае песьні" выйшаў з друку ў Рызе (хоць на вокладцы й быў паказаны Менск), калі ўся Беларусь ужо сталася йзноў падсавецкай ды савецкі наступ набліжаўся й да Рыгі, адкуль мусіў эвакуявацца й наш паэта, захапіўшы з сабою адно невялікую частку тыражу сьвежаадбітае кніжкі. Першая рэцэньзія на гэтую кніжку ў бэрлінскай газэце "Раніца" (№ 7(199) за нядзелю 10 верасьня 1944 г.) гэтак і пачыналася: "З самага полымя вайны ўдалося выхапіць зборнік вершаў нашага маладога паэта Алеся Салаўя "Мае песьні"... Рэцэньзія гэтая была загалоўленая "Песьні радасьці й мукі" ды, наколькі ведама, належала Хведару Ільляшэвічу, які схаваў сваё аўтарства пад іншымі ад ягоных ініцыялаў літарамі Ю. М. Неўзабаве ў другой бэрлінскай газэце "Беларускі работнік" (№ 40 за нядзелю 1-га кастрычніка 1944 г.), у рубрыцы "Сучасныя беларускія паэты" зьявіўся артыкул "Алесь Салавей", куды ўвайшла рэцэньзія з "Раніцы" зь невялічкімі зьменамі, папярэджаная выкладам Салаўёвае біяграфіі на аснове выкарыстанага й намі ягонага "Кароткага жыцьцяпісу". Артыкул быў падпісаны псэўданімам таго-ж Ільляшэвіча "Леанід Нічыпарук". І гэта была ўся крытыка, якую сустрэў першы зборнік нашага паэты ды, папраўдзе, блізу ўся больш-менш разгорнутая крытыка, якую наагул калі-небудзь мела ўся ягоная творчасьць на ўсім ейным працягу (у 1946 г. была зьявіўшыся яшчэ пара невялікіх рэцэньзіяў на ягоную паэмку "Зьвіняць званы Сьвятой Сафіі", і першая з гэтых рэцэньзіяў належала таму-ж Хведару Ільляшэвічу). Разгляд Ільляшэвічавае крытыкі зборніка "Мае песьні" дадзены таксама ў артыкуле "Мастак нятускнае красы".

Вершы Алеся Салаўя, напісаныя адразу па вершах зборніка, вельмі розьняцца ад вершаў зборніка, яны адлюстроўваюць новы, кароткі ў часе, але вельмі напружаны этап паэтавага жыцьця й творчасьці, які настаў па пэрыядзе Рыскім, найбольш адлюстраваным у зборніку — этап эвакуацыі паэты ў Нямеччыну, калі савецкая навала йзноў пракацілася празь беларускія землі ды падкочвалася ўжо й да Прыбалтыкі. Каля палавіны гэтых вершаў увайшло ў другі паэтаў зборнік, "Сіла гневу", выданы ў 1948 г., галоўна ў ягоны апошні разьдзел "Жы-

вому жыць, зьнішчэньню сьмерць", другая палавіна таксама прызначалася да гэтага разьдзелу ды пераважна пад ягонай "шапкаю" й друкавалася (ў часапісе "Пагоня" ў 1946г.). Каб уявіць сабе месца гэтых вершаў у творчасьці Алеся Салаўя ды іхны характар, трэба найперш прачытаць іх у тым храналягічным парадку, у якім яны пісаліся — раськіданыя пасьля ў зборніку "Сіла гневу" й вонках яго ў пэрыядычным друку, а дзеля гэтага ў розных месцах і ў нашым гэтым выданьні, яны гэтага ўяўленьня даць ня могуць. Вось гэты парадак: "Зямля ў вагні" (б. 116 нашага выданьня), "У жылах шчах крыві струмень" (б. 228) і толькі ў першых двух радкох зьменены варыянт гэтага вершу — "Крыніцы звонкае струмень" (б. 117), "Сустрэча, першая сустрэча" (б. 96), "Трамвай" (б. 229), "Ахвяраў прагне сьмерць" (б. 229), "Вароты ў няведамы сьвет" (б. 230), "Пусьціня" (б. 117), "Казка й сон", "Хацелася-б мне" (б. 253), "Дваццаты век" (б. 118), З таго сьвету" (б. 232), "Паклон" (б. 118), "Ужо тры дні" (б. 119), "Расцалаваў я алавік" (б. 232), "Лясы. Узгоркі. Паплавы" (б. 119), "Бывай, Гэдэмэстэ" (б. 233), "Сьмерць цэліла" (б. 234), "Стаўся ўсюды..." (б. 235), "Плыве вадаплаў" (б. 120), "У моры" (б. 235), "Нідзе не адступае" (б. 121) — усяго два дзесяткі вершаў, створаных на працягу каля трох месяцаў. Першае, што кідаецца ў вочы з падаваных паэтам пад бальшынёю гэтых вершаў месцаў іхнага стварэньня — гэта вельмі перапыністы й працяжлівы, з адваротамі наперад і назад шлях ягонае эвакуацыі, у часе якое гэтыя вершы пісаліся. Пад самым першым паказаным намі вершам — "Зямля ў вагні" — пастаўленая дата 27 чырвеня 1944 г. — таго дня адбываўся ў Менску зьезд, названы Другім Усебеларускім Кангрэсам, на які прыбыў з Рыгі разам зь іншымі рыскімі Беларусамі й наш паэта. Але трапіць зь Менску назад у Рыгу тым самым шляхом, якім прыбылося ў Менск, ужо выявілася немагчымым нашаму паэту, і ён мусіў разам зь іншымі дэлегатамі Кангрэсу ды наагул нацыянальнымі беларускімі актывістымі эвакуявацца ў кірунку на Беласток і Кэнігсбэрг з кароткімі спынкамі ў вабодвых месцах. З Кэнігсбэргу паэта, адлучыўшыся ад нярыжанаў, пачаў прабірацца ў Рыгу, дзе якраз дабягаў да канца друк ягонага зборніка "Мае песьні", і паводля цытаваных вышэй успамінаў Ул. Брылеўскага, 30 ліпеня падпісаў яму там гатовую ўжо кніжку гэтага зборніка ды пакінуў Рыгу недзе ў жніўні. Па кароткіх спынках

у Пуйкуле й Руйене яшчэ ў Лацьвіі давялося кіраваца нашаму паэту ў Эстонію, на тэрыторыі якой былі ў яго спынкі ў Масяру, Гэдэмэстэ (відаць, найдаўжэйшая), Таліне, адкуль — праз усю Эстонію назад у Лацьвію, у Лібаву, і нарэшце адтуль — Балтыцкім морам — у Бэрлін.

Што да самых вершаў, пісаных на гэтым шляху, дык кідаецца адразу-ж у вочы пранізанасьць усіх іх адным матывам — матывам сьмерці: гэта як-бы натуральна складзеная-зьнізаная свайго роду нізка "вершаў сьмерці", пэўная цэласьць, пасьля толькі разьнізаная-раськіданая паэтам (падобна, як раськідаў свае натурална складваныя нізкі вершаў 1918 г. Янка Купала [19]). Прачытаўшы вершы гэтае нізкі ў паданым вышэй парадку, ужо можна скласьці сабе агульнае ўражаньне пра паэтавы перажываньні ў часе завілага й пакутлівага шляху паэтавае эвакуацыі, больш таго — перажыць разам зь ім усе перагасы таго шляху. Дэталёвы агляд гэтых "вершаў сьмерці" даецца ў нашым артыкуле "Мастак нятускнае красы".

## Ад эвакуацыі — да "дыпізацыі"

Прыбыўшы ў Бэрлін ці не найпазьней за ўсіх эвакуяваных зь Беларусі дзеля апісаных намі затрымаў з эвакуацыяй у Лацьвіі й Эстоніі, паэта наш не адразу мог уладкавацца на нейкай працы, каб мець права на прыпіс у гэтым горадзе ды атрыманьне прадуктовых картак. Пагражала пэрспэктыва йсьці на працу звычайным работнікам у прамысловасьці, і баржджэй за ўсё ня ў Бэрліне, або залічыцца ў Беларускую Краёвую Абарону ды быць пасланым некуды на фронт. Але Беларуская Цэнтральная Рада, якая ўжо атаўбавалася ў Бэрліне, узяла паэту за бібліятэкара, і ўдзячнасьцяй за гэта першым чынам і тлумачыцца выкананьне паэтам заказу на панэгірычны верш у гонар Прэзыдэнта гэтае Рады, пра які ўжо казалася вышэй.

У Бэрліне былі напісаныя вершы "Гэроям бацькаўшчыны", "Fröhliche Weinachten", "Мая Беларусь", "Я толькі зь ёй пайшоў у сьвет", "Мне твая спадабалася ўсьмешка", "Так і сталася: тую, другую". У Бэрліне паэта пазнаёміўся з сваёю будучаю жонкаю. Але затрымацца

[19]) Пра гэта гл. на б. 28 кнігі Anthony Adamovich. Opposition to Sovietization in Belorussian Literature (1917-1957), дзе на наступных б. б. 28-33 гэтыя нізкі й разглядаюцца.

надоўга ў Бэрліне не давялося, і сюды бо падкочвалася ўжо ваенная навала з Усходу, і трэба было выбірацца некуды адсюль, што было тады ня гэтак проста й лёгка. Урэшце ўдалося-ткі, разам зь некаторымі яшчэ Беларусамі (у ліку іх была й будучая паэтава жонка) дастаць пропуск на выезд маршрутам на Прагу-Вену-Брэгенц, і ў лютым 1945 г. усе й вырушылі гэтым маршрутам у Прагу, дзе паэта спыніўся на колькі дзён ды, між іншага, спаткаўся з паэткай Ларысай Геніюш, але надаўжэй не затрымаўся ды пакіраваўся ў Вену. Венаю пазначана яшчэ менш вершаў, як Бэрлінам: усяго два — "Случчанка" (як-бы дубэльт бэрлінскага вершу "Fröhliche Weinachten") і "З агню вар'яцкага" (далёкі водгук ці рэцыдыў "вершаў сьмерці"). І Вена сталася прытулкам на яшчэ карацейшы час, як Бэрлін...

Падарожжа ў Вену з Бэрліну ня было больш эвакуацыяй. Калі ў Бэрліне паэта яшчэ працаваў у беларускай установе, эвакуяванай зь Беларусі — у Беларускай Цэнтральнай Радзе — дык пакідаючы гэты горад і гэтае месца працы, ён ужо ставаўся зусім чалавекам бязь месца, тым, што крыху пасьлей дастала дакладны ангельскі назоў Displaced Person, скарочана DP, у вымове "дыпі" (па-беларуску звычайна перакладаецца як "перамешчаная асоба", але ангельскае displaced значыць не "перамешчаны", не перакінуты ці перасаджаны з аднаго месца ў другое, а сказаць-бы — высаджаны зь месца наагул, не "перамешчаны", а "вымешчаны", калі-б было ў нас гэткае слова). Дык пасьля Бэрліну эвакуацыя паэты перайшла ў, калі гэтак сказаць, "дыпізацыю"...

Ваенны фронт набліжаўся й да Вены, і то з двух бакоў — з аднаго боку наступала савецкае войска, а з другога — амэрыканскае. Ратункам для нашых людзей магло быць, зразумела, падавацца насустрач Амэрыканцам, але рабіць гэта можна было ўжо толькі пехатой. У кампаніі з А. Яцэвічам (ведамым як паэта пад псэўданімам Алесь Змагар), з жонкаю якога наш паэта некалі вучыўся ў Менску ў тэхнікуме (ейныя ўспаміны пра тую пару цытаваліся намі вышэй), нагледзеўшы й "пазычыўшы" невялікі вазок на рэчы, пакіраваліся на Зальцбург. На гэтым цяжкім шляху спаткаў наш паэта свой 23-ці год нарадзінаў 1 травеня 1945 г., і пра гэта пакінуў нам тым днём датаваны верш "Дваццаць тры", напісаны, як кажуць, на тэй-жа хвалі, што й бэрлінскі верш "Fröhliche Weinachten" ды венскі "Случчанка". Падарожжа крыху

палягчэла, калі ручыла прыстаць да маладой пары Украінцаў з Галіччыны, якія былі "пазычыўшы" ўжо не вазок, а цэлую даўгую арбу, запрэжаную валамі, да якое дачапілі свой "пазычаны" вазок нашыя Беларусы, самі ўладкаваўшыся зусім "папанску" на тэй арбе. Гэтак нашыя паяжджане й ехалі на валох у кірунку на Зальцбург, аж пакуль не наехалі на іх Амэрыканцы каля мястэчка Кірхгайм. У гэтым мястэчку Амэрыканцы асялілі ўсю кампанію, пацясьніўшы ў вадным доме гаспадароў-Аўстрыякаў. Тут нашыя й пражылі да глыбокае восені 1945 г. Зрабіўшы вывед адтуль у Зальцбург, знайшлі там ужо зарганізаваны ўкраінскі лягер ДыПі "Ленарказэрнэ", у якім апынілася й колькі Беларусаў, у тым ліку паэта Уладзімер Дудзіцкі й Аляксей Грыцук, які быў там навет за квартэрмайстра й дзякуючы якому й нашыя кірхгаймаўцы дасталі таксама кватэры ў гэтым лягеры ды перабраліся туды. Гэтак і наш паэта дастаў ужо афіцыйны тытул дыпі, фактычна належны яму яшчэ пасьля Бэрліну — гэтак афармілася ягоная "дыпізацыя" ды пачаліся часы дыпіўскага лягернага жыцьця.

## У Зальцбургу

У Зальцбургу, у 1945 г. паэта наш і ажаніўся. Ягоная жонка, зь якой пазнаёміўся ён, як ужо згадвалася, яшчэ ў Бэрліне ды якая ў кампаніі зь Яцэвічамі дзяліла зь ім ўсё "дыпізацыйнае" падарожжа, у сваіх лістох (паводля вестак зь ейных лістоў і апісанае вышэй тое падарожжа) схарактарызавала нам дыпіўска-лягерныя зальцбурскія гады паэты: "Гэтыя гады ў Зальбургу былі самапладатворныя. Ён пазнаёміўся там з украінскімі паэтамі й пісьменьнікамі. Напісаў шмат вершаў" (ліст ад 6. 12. 79) і падрабязьней у другім, пазьнейшым лісьце (ад 30. 6. 1980 г.):

У 1946 г. нарадзіўся першы сын Міхась. Алесь быў бязьмежна рады, што мае нашчадка сына. Але калі ў 1947 г. нарадзілася дачка Ганна, ягоная радасьць замянілася на смутак. Матар'яльна абставіны тады для нас былі вельмі цяжкімі. Унраўскія пачкі даваліся вельмі кароткі час. Хутка ўсіх у лягерах пасадзілі на аўстрыйскія прадуктовыя карткі, якія былі ў той час вельмі мізэрнымі. І ўсе павінны былі працаваць. Пісьменьнікі залічаліся да вольнай прафэсіі, а таму не падлягалі гэтаму закону. Гэта выкарыстаў Алесь. Для яго гэты час быў найбольш пладатворным. Тут ён закончыў даўно задуманыя вершы й паэмы. Пісаў новыя. Будучы адарваным

ад беларускіх асяродкаў у Нямеччыне, ён падтрымліваў сувязь карэспандэнцыяй, што забірала шмат часу. Ня было таго дня, каб ня прыходзіла два-тры лісты. Тут-жа ў яго нарадзілася думка напісаць раман у дзьвюх частках пад загалоўкам «Пад нагамі гарыць зямля». Мелася адлюстраваць падзеі й жыцьцё на Беларусі, пачынаючы ад Кастрычніцкай рэвалюцыі аж да Другой сусьветнай вайны [redacted] у вайну. У другой-жа частцы — падзеі й жыцьцё сваіх гэрояў пераважна на чужыне. Для гэтага зьбіраў матар'ял. Па прыезьдзе ў Аўстралію гэтую задуму адклаў да гадоў, калі ня трэба будзе думаць аб заробку на хлеб штадзённы (калі пойдзе на пэньсію[20]).

Характарыстыка зальцбурскіх гадоў як "самапладатворных" для паэты тут зусім адпаведная[21]), а згадка пра знаёмства з украінскімі паэтамі й пісьменьнікамі патрабуе разгортаньня дзеля важнасьці гэтага знаёмства для паэтавае творчасьці. У Зальцбургу апыніліся тады колькі ўкраінскіх паэтаў, у тым ліку й вэтэран украінскае паэзіі яшчэ з дваццатых гадоў, паэта-нэаклясык Юры Клэн (Бурггард), але наш паэта найбольш зблізіўся з Барысом Александравам (Олександрів) ды Ігарам Качуроўскім. Украінскія калегі пачалі перакладаць Салаўёвыя творы (гл. у Бібліяграфіі пазыцыі 113, 114 116, 117, 118, 120, 122), з часам самі апанавалі беларускую мову гэтак, што маглі ў ёй нат пісаць вершы, таксама як і наш паэта апанаваў мову ўкраінскую, гэтаксама мог пісаць вершы ў ёй ды выступаць публічна паўкраінску. Цікавы прыклад гэткага, сказаць-бы, абмену мовамі — абмен узаем-

20) Ад пачатку непадсавецкае пары свайго жыцьця Алесь Салавей спрабаваў свае сілы, апрача вершаў, і ў мастацкай прозе ды пакінуў колькі апавяданьняў (гл. «Бібліяграфію», пазыцыі 75, 76, 79, 82). Нажаль, дзеля шмат якіх прычынаў, пераважна тэхнічных, мы маглі падаць у гэтым выданьні адно Салаўёвы вершы, а з прозы — адно толькі апавяданьне «Белы сьнег», у тэксьце якога ёсьць і вершаваныя фрагмэнты, прыпісваныя ягонаму гэрою, паэту Алесю (вобраз выразна аўтабіяграфічны, толькі ў сфантазіяванай сюжэтнай сытуацыі), а самы празаічны тэкст можа даць чытачу ўяўленьне й пра мастацкую прозу Салаўя наагул.

21) Зусім падобна характарызаваў зальцбурскія часы й сп. Мікола Ганько, які гэнымі часамі быў у блізкіх сяброўскіх дачыненьнях з паэтам. У сваіх успамінах «Я памятаю» (гл. «Бібліяграфію», пазыцыя 177) ён піша: «Пакольні я магу сяньня меркаваць, тая пара ў жыцьці Алеся Салаўя была аднэй з найбольш творчых. Штонекалькі дзён меў я нагоду знаёміцца з новым вершам паэты».

ымі пародыямі паэтаў у 1948 г. Б. Александрыў ды І. Качуроўскі першыя напісалі на нашага А. Салаўя гэткую пародыю пабеларуску, прытым без аніводнае памылкі (гл. у Бібліяграфіі пазыцыю 150):

АЛЕКСАНДРЫНА

Так пачынаецца мая александрына:
Якая прыгажосьць — цяжарная дзяўчына!
Яечка круглае ўдае сабой зусім,
Як гадаваны грыб, дзіцё ўсё сьпее ў ім.
Яна ня ведае, хто бацькам ёсьць дзіцяці,
Але аб гэтым ёй зусім ня трэба знаці.
Я й сам ня ведаю запраўднага з бацькоў.
Ці я яго зрабіў, ці сябра мой Сяднёў?

Б. Олександрыў
І. Качуроўскі

Зальцбург, 31. 7. 1948

Нажаль, тэкстаў Салаўёвых пародыяў на ягоных украінскіх калегаў, напісаных паўкраінску ў вадказ на іхную пародыю, тымчасам знайсьці не ўдалося, сп. Качуроўскі, які на нашу просьбу ласкава прыслаў свой камэнтар да гэтага выпадку (падаецца поўнасьцяй з нашымі камэнтарамі ў артыкуле "Мастак нятускнае красы"), захаваў у памяці адно канец пародыі нашага паэты на Б. Александрава:

...Тільки очі лукаво примружить
І зі швабом тікае за ріг.
О мій Ігоре, любий мій друже,
Вже нікуди немае доріг...

Як тлумачыць у сваім камэнтары сп. Качуроўскі, у пародыі на Салаўя меўся на ўвеце найперш "нахіл Алеся да кананізаваных строфаў", значыцца, да таго, што сам Алесь зваў "клясычнымі формамі вершу", як завуць гэта часта неспэцыялістыя ў паэтыцы [22]) — нахіл гэны й парадыяваўся выбранай для пародыі формай-страфой "александрыны". "Александрыны" наш паэта пачаў пісаць якраз у зальцбурскіх сваіх гадох, і ў тых-жа гадох узяўся ён ізноў складаць даніну й іншым, практыкаваным ім ужо раней "клясычным формам", найперш санэтам, ад пісаньня якіх зусім быў адыйшоўшы ў часе свае эва-

22) Спэцыялістыя ўжываюць дакладнейшых прыметнікаў — «цьвярдыя», або «кананічныя», сп. Качуроўскі — найдакладнейшага дзеяпрыметніка «кананізаваныя».

куацыі й “вершаў сьмерці”, а яшчэ больш — актавам, якіх дагэтуль быў напісаўшы ўсяго адну [23]). Гэтак пародыя ўкраінскіх калегаў паэтавых зварачае нашую ўвагу на тое, што ў зальцбурскай пары паэтавага жыцьця аднавілася ў яго сувязь-цягласьць з папярэднімі ягонымі творчымі пэрыядамі, зусім блізу парваная ў пару эвакуацыі й “вершаў сьмерці”.

Але яшчэ раней нат за аднаўленьне творчасьці кананічных формаў пачало аднаўляцца ў нашага паэты й пісаньне вершаў-мініятураў, пачатае, як і пісаньне санэтаў, яшчэ ў падсавецкай пары, нат раней за пісаньне санэтаў, ды таксама перапыненае ў пары эвакуацыі й “вершаў сьмерці” [24]), а з другога, супрацьлежнага боку — праца над даўжэйшымі вешатворамі — паэмамі. Першая з гэткіх мініятураў — “Вянкі” — датаваная яшчэ 1945 г. (хоць у друку зьявілася толькі ў 1948 г.), пасьля яна сталася ўступам да зборніка “Вянкі”, задуманага й пачатага ўкладаньнем у Зальцбургу як зборнік мініятураў найперш. У зборнік гэты ўвайшло яшчэ 10 мініятураў, датаваных 1945 годам, 4 датаваныя 1946 і 4 — 1947, значыцца, разам каля 20 мініятураў, напісаных паэтам у зальцбурскіх гадох.

Яшчэ больш аднаўленьня цягласьці з даэвакуацыйнай паэтавай творчасьцяй і з зборнікам “Мае песьні” было ў працы паэтавай над даўжэйшымі вершатворамі — паэмамі. Першым з гэтых вершатвораў была паэма “Домік у Менску”, пачатая яшчэ ў 1944 г. па зьмешчанай у зборніку “Мае песьні” апошнім разьдзелам першай Салаўёвай паэме “На хуткіх крыльлях вольнага Пэгаса”, а

---

[23]) Гэта верш 1943 г. «Ноч топіцца ў сьнягох...», зьмешчаны ў зборніку «Мае песьні». У зальцбурскіх гадох 1947-48 было напісана 12 актаваў (зьмешчаныя першымі вершамі ў разьдзеле III зборніка «Несьмяротнасьць»), 8 санэтаў (першыя ў разьдзеле I таго-ж зборніка) і 6 александрынаў (першыя 5 вершаў і верш 9-ты ў разьдзеле II таго-ж зборніка) — колькасьці гэтае, наверх на яшчэ большую колькасьць напісаных кананічнымі строфамі вершатвораў зборніка «Мае песьні», зь якім, пэўна-ж, былі знаёмыя Салаўёвы калегі, ужо было зусім досыць ім, каб спасьцерагчы ды спарадыяваць «нахіл Алеся да кананізаваных строфаў».

[24]) Сярод «вершаў сьмерці» была толькі адна мініятура-васьмірадкоўка «Пусьціня... Пусьціня... Пусьціня», але яна была напісаная ў Рызе, дзе можа паэту чулася яшчэ атмасфэра пісаных там мініятураў зборніка «Мае песьні».

скончаная ўжо ў 1945 г. ды выдрукаваная ў 1948 г. У васнове гэтае найдаўжэйшае з Салаўёвых паэмаў — цалком цытаваны ў ёй (разьдзельчыкам 6-ым) такога-ж загалоўку верш Масея Сяднёва. Верш той зьявіўся ў друку ўпяршыню ў № 3 за 1944 г. часапісу "Новы шлях"[25]), і нашаму паэту, які працаваў у рэдакцыі таго часапісу, быў, пэўна-ж, знаны яшчэ й перад друкам. Гэта адзін зь лепшых вершаў асабовае лірыкі Сяднёва, і лірызм гэтага вершу выпаў нагэтулькі пранікл і вым і прыцягальным, што выклікаў ня толькі паралелю ў паэме А. Салаўя пад тым-жа загалоўкам, але й адэкватны музычны суправод у раманьсе другога Алеся — кампазытара Карповіча.

У паэме "Домік у Менску" паэта наш ня толькі дае сваю паралелю да аднайменнага вершу Сяднёва, калі гэтак сказаць, паралелізуе яго, ягоныя асноўныя вобразы "доміка ў Менску" ды жыхаркі ягонае — "яе" (на ймя ўвабодвух паэтаў не называнае), але разам з гэтай паралелізацыяй і ўздымае, калі-б можна было так сказаць — эскалюе гэтыя вобразы ў кірунку да вобразаў сымбалічных, прытым выразнага нацыянальна-патрыятычнага сэнсу. У сваім вершы "Домік у Менску" Сяднёў ня выходзіў за межы асабовае лірыкі ды нат не назначаў якіх-небудзь магчымасьцяў успрыймаць ды інтэрпрэтаваць вобразы вершу ў нейкім, як кажуць, пераносным, неасабовым ці надасабовым пляне як вобразы алегарычныя ці сымбалічныя. Тым-жа часам у Салаўёвай паэме ўжо ад першых-жа разьдзельчыкаў "домік у Менску" — "маленькі дом над Сьвіслачай ракой"[26]) падаецца як "частка цэлага харому", "харому-дому", які ўсё

---

[25]) Там ён зьявіўся пад загалоўкам «Домік у Менску», пад гэткім-жа дакладна загалоўкам перадрукаваны й у зборніку Сяднёва «У акіяне ночы» (Мюнхэн-Нью-Ёрк, 1947, б. 14), але ў самым апошнім ягоным зборы твораў «Патушаныя зоры» (Нью-Ёрк-Мюнхэн, 1975 г.), прост веры не даючы сваім вачом, чытаем ужо «ў Мінску», а ня ў Менску, і ўсюды ў тым зборы — каля дзесятку разоў — «Мінск», і няма ўжо нідзе Менску... Як разумець гэтае, дзіву й жалюгоднае «мінскапаклонства» ў васобы, якая жыве вонках дзеяньня савецкіх законаў?

[26]) Фактычна, «маленькі дом» больш пабеларуску «дамок», а ня «домік», але-ж загаловак узядзены ў іншага паэты, дык яму тая небеларускасьць і належыць. У сваім тэксьце паэмы паэта наш нідзе й ня ўжывае гэтага загалоўкавага слова «домік», а толькі «маленькі дом».

больш успрыймаецца як вобраз самога паэтавага краю, прычым самы "маленькі дом" стаецца для паэты "цяпер — бы сам харом, нібы... дом самога дому" — стаецца фактычна сымбалем паэтавага краю. А ўжо нат прост у моц гэткае, калі-б можна было так сказаць, нацыянальна-патрыятычнае эскаляцыі вобразу "маленькага дому" да вобразу "дому-харому", да сымбалю краю — і вобраз жыхаркі таго "маленькага дому", вобраз "яе" ўздымаецца да вобразу самое жыхаркі-насельніцы краю, самое нацыі, "яна" стаецца фактычна сымбалем нацыі. Але дэтальны разгляд паэмы ды насьвятленьне "паралелізацыі" ды "эскаляцыі" вобразаў ў ёй дадзены ў нашым артыкуле "Мастак нятускнае красы".

Пасьля паэмы "Домік у Менску", у Зальцбургу ў 1946 годзе была напісаная ды коштам аўтара, "запраўдным" (не ратататарным, як бальшыня беларускіх выданьняў вонках Беларусі тады) друкам, асобнай кніжыцай выданая наступная паэма Алеся Салаўя — "Зьвіняць званы Сьвятой Сафіі". Адразу-ж па сваім зьяўленьні паэма гэтая няўважлівымі, засьлепленымі забушавалым якраз у тым мамэньце нутраным змаганьнем у беларускай дыпіўскалягернай грамадзе чытачамі была ўблытаная ў тое змаганьне, належна не ацэненая, а часам і проста адкіданая нат бяз чытаньня тэксту. Але з часам, калі змаганьне тое, у якім наш паэта заставаўся на становішчы запраўды "недалучанага" да ніводнага з антаганістычных змагарскіх станаў, пачало ўлягацца, паэма, дзякуючы свайму нацыянальна-гэраічнаму патасу ды гучнаму, найвыразьней, а папраўдзе й найлепш бадай у цэлай Салаўёвай паэзіі інструмэнтаванаму вершу, заваявала агульнае вялікае прызнаньне ў чытачоў ды цешыцца ім дагэтуль. Падрабязьней пра гэтую паэму — у артыкуле "Мастак нятускнае красы".

У Зальцбургу была напісаная яшчэ адна паэма — "Сын" — у 1947 г., у друку зьявілася ўпяршыню ў 1949 годзе.[27]) "Сын" паэмы — гэта найперш "сын айчыны" — формула патрыятычнага дачыненьня між чалавекам і ягоным родным краем, знаная яшчэ старавечным Рымлянам — і ўся паэма фактычна становіць дыялёг між "сынам айчыны" ды "айчынаю". Адчыняецца гэты дыя-

---

[27]) У № 5 часапісу «Шыпшына» за 1947 г., на б. 56, было падана, што Алесь Салавей «працуе над гістарычнай паэмай пра Грунвальд», але ніякіх сьлядоў тае працы нідзе няма.

лёг, пасьля лірычнага звароту да айчыны з адзначэньнем ейнага пакутнага стану ў капцюрох "працемрай шчорненага гамана", які "красу растурзвае злачынна", сьцьверджаньнем тае місіі, да выконваньня якое,як дадзенае самой айчынай, пачуваецца пакліканым ейны сын: "Здабыць сьвятло, разьвеяць зман ты здому выправіла сына". Пра гэткую місію Беларуса вонках бацькаўшчыны як пасланца, высокім словам "амбасадара" Беларусі шырака пачынаў пісаць у тым часе наш эміграцыйны друк, і паэта тут, сказаць-бы, трапляў у тон агульнаму настрою эміграцыі, чым у вялікай меры тлумачыцца й зацікаўленьне ў ягонай паэме з боку таго друку, на шпальтах якога яна перадрукоўвалася больш як які іншы паэтаў твор (аж 4 разы — гл. пазыцыю 55 "Бібліяграфіі"). Пра паэму "Сын" падрабязьней таксама ў артыкуле "Мастак нятускнае красы".

У Зальцбургу паэта наш уклаў свой другі зборнік вершаў "Сіла гневу", і часапіс "Сакавік" выдаў яго ў 1948 г. Выданьне было аплачанае тагачаснай валютай у Нямеччыне — амэрыканскімі цыгарэтамі, валюты тае аднак ня стала, каб даць заставіцы для кажнага разьдзелу кніжкі, і яны даюцца толькі цяпер у нашым выданьні. У зборнік увайшлі галоўна вершы, напісаныя пасьля вершаў першага паэтавага зборніка "Мае песьні", але да іх былі дабраныя яшчэ й некаторыя вершы папярэдніх гадоў, ад 1937 г. пачынаючы, што ня трапілі ў першы зборнік, як нясугучныя яму, так што ў другім зборніку зьмясьціліся выбраныя вершы цэлае дзесяцігодкі, 1937 - 1947 г.г. Другі зборнік паэтаў стаўся апошнім зборнікам, выданым за ягоным жыцьцём, асобныя вершы зь яго нам ужо даводзілася згадваць, але ўся ягоная цэласьць, і ўпаасобку некаторыя вершы, нязгадваныя, дый згадваныя намі патрабуюць грунтоўных камэнтароў, і камэнтары гэтыя даюцца ў нашым артыкуле "Мастак нятускнае красы".

## З Аўстрыі — у Аўстралію

Зборнік "Сіла гневу" й паэма "Сын" замыкаюць сабою Зальцбурскі, паводля стану лягерны, "дыпіўскі" пэрыяд творчасьці Алеся Салаўя. Рэдка хто гэтак плённа выкарыстаў для творчае працы дармовы, сказаць-бы, час гэтае пары, як наш паэта. А час-жа гэты быў, хоць і дармовы, але й вельмі нэрвовы, асабліва напачатку, калі разгорталася кампанія прымусовае рэпатрыяцыі дыпіў-

цаў. Выкліканая гэтай кампаніяй паніка сярод іх, праўда, не памінула зусім і нашага паэту: як і шмат іншых, ён зьмяніў, як выявілася з часам, без асаблівае патрэбы сваё запраўднае ймя-прозьвішча Альфрэд Радзюк на Альбэрт Кадняк, і гэты, сказаць-бы, цывільны псэўданім, наверх на псэўданімы паэтычныя, узаконіўся як афіцыйнае ймя-прозьвішча для яго, ягонае жонкі, цяпер удавы, ды іхных нашчадкаў з мужчынскае лініі. Аднак, апрача гэтага, паніка тая не адбілася на паэтавым жыцьці й творсьцьве, як ня ўзьдзеіла на яго й лягернае міждыпіўскае змаганьне, у якім ён заняў становішча запраўды "недалучанага", тымчасам як шмат каму гэта каштавала й часу й нэрваў. Апрача паэтычнае творчасьці, вялікую даніну нёс Алесь і нацыянальнай грамадзкай працы, бяручы дзейны ўдзел у выдаваньні беларускіх дыпіўскіх часапісаў у Зальцбургу — інфармацыйнага бюлетэню "Зь беларускага жыцьця" (як успамінае Мікола Ганько, "душой часапісу быў Алесь Салавей") і літаратурнага пэрыёдыку "Пагоня", выступаючы разам з украінскімі калегамі й асобна на літаратурных вечарох, вядучы заняткі зь дзецьмі ў лягерных школках, шырака лістуючыся з суродзічамі-дыпіўцамі, аб чым мы падавалі ўжо сьветчаньне ягонае ўдавы.

Аднак, у 1949 г. лягерна-дыпіўская пара прыйшла да свайго канца, перад лягернікамі было пастаўленае пытаньне эміграцыі з Эўропы на сталае жыцьцё недзе за акіянам — у Амэрыцы ці ў Аўстраліі. "Прыйшоў час, — успамінае паэтава ўдава ў лісьце ад 6. 12 79 г., — што трэба было думаць, куды падацца, якую краіну выбраць на пастаяннае жыцьцё. Як і шмат іншых, Алеся цікавіла Аўстралія. Падалі паперы на дазвол на ўезд у Амэрыку й Аўстралію. Здаліся на лёс. Куды дазвол прыдзе першы. Першы атрымалі ў Аўстралію. Тут мы й апынуліся" — і ў другім месцы таго-ж ліста — у Зальцбургу, піша ўдава, "яшчэ жылі надзеяй, спадзяваліся на лепшае. Дый жылі-ж на тым-жа самым кантынэньце, што й наша Бацькаўшчына. Зусім цяжэй зрабілася, калі мы выэмігравалі ў Аўстралію. Спачатку вабіў Паўдзённы Крыж, новае неба, потым і гэта перастала вабіць. Матар'яльна было куды лягчэй, як у Аўстрыі, але былі другія праблемы. Галоўная зь іх — дах над галавой. Наняць кватэру ў тыя часы зь дзецьмі было амаль немагчыма. У нас-жа ўжо ў Аўстраліі ў 1950 г. нарадзіўся другі сын — Юра. Трое дзяцей, адно зь іх глуханямое... Па сканчэньні

двухгадовага кантракту, які адбывалі ў Адэляйдзе, мы пераехалі ў горад Мэльбурн. Сябры дапамаглі пабудаваць частку дому (два пакоі). Далей будавалі самі, нанялі майстра, і Алесь дапамагаў... Будавалі па меры магчымасьці зробленых грошай... Ашчаджаючы кажны грош, куплялася толькі самае неабходнае. Дужа мала было часу на пісаньне вершаў. Дый муза вельмі рэдка наведвала яго. Пазьней было болей свабоднага часу на пісаньне вершаў, дый працу можна было на лягчэйшую зь пяром у руцэ зьмяніць. Але ён прызвычаіўся на хвабрыцы, здабыў фах, не хацеў мяняць"...

Падарозе ў Аўстралію ды першыя тры гады там, у 1949-1952 г.г. дачыненьні паэтавы з музаю яшчэ былі з большага гэткімі, як і ў Зальцбургу, знаходзіўся неяк і час на пісаньне вершаў. 1949-ым годам, годам пярэбараў за акіян, датавана ў паэтавай спадчыне 17 вершаў. У першых двух гадох у Аўстраліі лік гэты, праўда, рэзка апаў — да 6-ох усяго ў 1950 г., да 8-ох у 1951 г. Затое ў 1952 годзе ён яшчэ разчэй узьняўся, перасягаючы й лік 1949 году — да 28-ёх. Але, выпаўшы гэткім плённым для паэтавае творчасьці, 1952 год стаўся й апошнім у гэтым дачыненьні. З наступнага трохгодзьдзя 1953-1955 г.г. не знаходзім у паэтавай спадчыне ніводнага датаванага гэнымі гадамі вершу. У наступных гадох па 1976 маем адно ў некаторых ня больш як па адным вершатворы на год: у 1956, 59, 64, 66, 67, 68, 69, 70, 76, а з гадоў 1954-55, 1957-58, 60-63, 1965, 1970-75 і па 1976 годзе няма аніводнага радка...

Падарозе ў Аўстралію ды першыя тры гады там паэта ў далейшым аддаваў ня толькі асноўную, але й блізу выключную даніну вершам кананічных формаў — санэтам, александрынам, актавам — як гэта назіралася ў яго й апошнімі параю гадоў у Зальцбургу. У 1949 г. напісана 6 санэтаў, 4 александрыны, 7 актаваў, у 1950 — ніводнага санэту, 1 александрына, 4 актавы, у 1951 — 1 санэт, 4 александрыны, 3 актавы, у 1952 — 10 санэтаў, па 8 александрынаў і актаваў. Зь вершаў некананічных формаў маем толькі датаваны 1950 г. уступ да паэмы "Надзея" (сама паэма гэтак і ня была напісаная — ніводнае паэмы ў Аўстраліі паэта наагул не напісаў) і датаваную 1952 г. прысьвечаную некаму (але каму — не пададзена) мініятуру "Дабрыдзень беларускай хаце". Гэтак за ўвесь час 1949-1952 г.г. напісаў паэта 58 вершаў (зь іх па 17 санэтаў і александрынаў, 22 актавы), тымчасам як па

1952 годзе напісана (прынамся, перахавана ў паэтавай спадчыне) усяго 8 вершаў...[28])

Блізу ўсе паэтавы вершы 1949 году так ці йнакш зьвязаныя з эміграцыяй за акіян (за выняткам адзінкавых толькі, як, скажам, александрынаў "Сярод чароўных ніў" ці "Сьвятая"). Тут найперш знаходзім паэтавы роздумы ў часе рыхтаваньня да эміграцыі за акіян (як у санэтах "Заранка ўсходу", "За", "Празь неспагаду", у александрыне "Зірні" — усе яны, відаць, напісаныя яшчэ перад адплывам за акіян), а далей — у часе самога акіянскага падарожжа ў Аўстралію (у санэтах "Узьвіў", "Надойсьце", "На ціхі бераг", у александрыне "Звон", а найбольш у актавах "За порт Саід", "Перад вясной", "Надойсьце дня", "Узбудам хваль", "Акіян", "За годам год", "Паўдзённы Крыж"). Першыя аўстралійскія ўжо паэтавы перажываньні, настроі й думы адлюстраваліся ў вершах 1950-51 г.г., гэткіх, як александрыны "Паляndдын", "Надзямным", актавы "Ў новы сьвет", "У цішыні". Зь іх на актаву "Ў новы сьвет" была добра зьвернутая ўвага ў нашым эміграцыйным друку й у артыкуле "Справа нацыянальна-грамадзкага значэньня" ў ньюёркаўскай газэце "Беларус", № 7(23) ад 13 сьнежня 1952 году Я. М-кі пісаў: "І калі Алесь Салавей кажа, што "свае душы зьняменьню не аддам" — дык мы зь ім у ягонай паэтычнай наважанасьці. Але-ж і ён, які вымушана пайшоў у сьвет зь "вялікай сілай гневу" да тых, "што Беларусь тваю расьпялі" — у вадным з сваіх цудоўных

[28]) У цытаваным намі лісьце ад 6. 12. 79 г. паэтава ўдава пісала, што Алесь «лёгка пісаў вершы пры якой-небудзь аказіі за сталом, пры бяседзе, ці то на дзень нарадзінаў, ці на вясельлі... Вершы фармаваліся адразу ў ягонай галаве. Пісаў гумарыстычныя, часам сатырычныя. Але гэтыя вершы ён ня лічыў мастацтвам, а таму нідзе ня друкаваў. Нічога не засталося ад іх — усё зьнішчыў... Калі-б можна было сабраць усё тое, што ён напісаў, то атрымалася-б немалая кніжка. Ён пакідаў і друкаваў толькі тое, што на ягоную думку было добра напісана» — і ў лісьце ад 2. 6. 80 г.: «Над вершамі Алесь працаваў шмат. Задуманы верш ён выношваў у галаве перад тым, як палажыць на паперу. Потым ён старэнна адшліфоўваў яго. Праўда, ён пісаў шмат вершаў адразу, як кажуць, «на хаду», але ён ня лічыў іх за мастацтва. Нажаль, такія вершы болей падабаліся масам, але іх ён нідзе ня друкаваў і ў канцы зьнішчыў». Гэтыя сьветчаньні паэтавае ўдавы трэба браць на ўвагу пры колькаснай ацэне ягонае паэтычнае спадчыны.

вершаў піша: (тут цытавалася поўнасьцяй актава "У новы сьвет". А. А.). Мара, сьвет паэтызаваных пачуцьцяў пакліканыя заступіць утрачаную, але жывую ў душы, рэчаіснасьць нацыянальнага". Пра Салаўёвы вершы першых эміграцыйных гадоў таксама выказаўся ў кантэксьце разгляду творчасьці беларускіх эміграцыйных паэтаў і пісьменьнікаў аўтар уступнога артыкулу да альманаху твораў гэтых паэтаў і пісьменьнікаў "Ля чужых берагоў" (Мюнхэн, 1955, выдавецтва Бацькаўшчыны, б. 9) [29]) Ст. Станкевіч: "Спляценьне двух кантраставых пачуцьцяў, выкліканае ўяўленьнем адменнай чужыны з аднаго боку й далёкай Бацькаўшчыны — з другога вельмі мастацкую канкрэтызацыю знайшло ў словах Салаўя: "О, Афрыка! Крывіччынай была-б ты, каб Нёмнам быў твой паўнаводны Ніл" ("Перад вясной")". Па гэтых абеглых выказваньнях Я. М-кага й Ст. Станкевіча творчасьць нашага паэты больш наагул ніколі дасюль не закранalася ў нашым друку й крытыцы.

Першую рэакцыю пэтаву на паўсталую перад ім, лягернікам-дыпістым, неадхільную пэрспэктыву эміграцыі за акіян можна бачыць у першым датаваным 1949 г. санэце "Заранка ўсходу": "Ці адчуваеш? Вёсны адшумелі з пары, калі мы вольнымі арламі шугалі ў высі... чайкі адляцелі. Ці новых стрэнеш перад берагамі нязнаных сьветаў? Дзесьці за марамі ці ты спачынеш?" І адказ на гэтыя пытаньні дае паэту "заранка ўсходу", яна "на ўзьлётных крылах будзіць насалоду — у ёй сьвітальнавелічнае штосьці: жыцьцё няўхільна хіліцца да сьхілу, але ня зьляжа ў цёмную магілу жывы адвеку подых маладосьці". І з гэтым апошнім пераканаеньнем, што "ня зьляжа ў цёмную магілу жывы адвеку подых маладосьці" — словы гэтыя як нельга трапней высечаныя на надмагільным камені над месцам паэтавага апошняга й вечнага прыпынку, які знайшоў ён за акіянам — з гэтым пераканаеньнем ішоў паэта ў гэтак ненамысна, як бачылі мы зь сьветчаньня ягонае ўдавы, выпалым яму жыцьці ў Аўстраліі.

Трэба спыніцца крыху на яшчэ адным вершы 1949 г. — на актаве "За Порт Саід". Рэч у тым, што ў тэксьце гэтага вершу ёсьць паданыя ў двукосьсях расейскія вы-

[29]) У гэтым альманаху, на б. б. 109-129, быў дадзены вялікі дабор Салаўёвых вершаў з заплянаваных ім кнігаў «Вянкі» (10 вершаў і паэма «Сын») і «Несьмяротнасьць» (37 вершаў).

разы — “цветов и льда”, “арапчята”, “не кинул им ты на ходу плоды?” Гэта алюзіі да вершаў расейскага паэты Мікалая Гумілёва, з творчасьцяй якога нашага паэту, як мы падавалі вышэй на сваім месцы, пазнаёміў яшчэ ў Рызе ягоны калега, расейскі крытык і паэта Вячаслаў Завалішын. У 1947 г. Вяч. Завалішын пачаў выдаваць у Рэгенсбургу, у Нямеччыне, творы Гумілёва ды першы том гэтага выданьня прыслаў нашаму паэту, які ўзяў з сабой у сваё заакіянскае падарожжа гэтую кніжку, з двума вершамі ў якой і зьвязаныя алюзіі ў нашага паэты. [30]) Кантакт з паэзіяй Гумілёва ў вершы “За Порт Саід” — адзіны ў цэлай творчасьці Алеся Салаўя з творчасьцяй гэтага расейскага паэты, дый кантакт гэты тут неарганічны, вонкавы, сказаць-бы адмоўны, на базе кантрасту між перажываньнямі паэты расейскага й нашага [31]): калі паэта расейскі, пабуджаны больш удаванай, як шчырай рамантычнай “прагай вандраваньняў”, як пра тое зазначаў Завалішын, зьведваў тыя самыя морскія шляхі, што й наш паэта, але на люксусовым пасажырскім акіянскім пераплаве, дзе былі “на палубе красные розы и лёд”, дык паэту нашага як “зьмешчаную асобу”, “ДыПі”, гнаў гэнымі шляхамі мус-лёс на сказаць-бы, таксама “дыпізаваным” былым вайсковым транспартэры, дзе “на пострапе сьцягой, даўно пачатай, бітмо людзей вязе пакут сьляды”, і няма ў гэтых падарожнікаў-пакутнікаў ані “цветов и льда”, ані гэных “плодов”, каб кінуць “на ходу” нейкім “арапчатам”: “з ласункамі ня борздкі бяздомны шлях бязьлітасны і жорсткі...”

Агляд іншых вершаў нашага паэты, напісаных у 1949-1952 г.г., даецца ў артыкуле “Мастак нятускнае красы”.

У 1952 г. паэта скончыў укладаньне двух новых сваіх зборнікаў, “Вянкі” й “Несьмяротнасьць”, пачатае яшчэ ў Зальцбургу. Аж за 25 год, у лісьце ад 6. 3. 1977 г паэта пісаў пра гэтыя зборнікі: “У зборнік “Вянкі” ўвайшлі

---

[30]) Николай Гумилев. Собрание сочинений в четырех томах. Стихотворения. Том первый. Под редакцией и со вступлением Вяч. Завалишина. Регенсбург 1947; выраз «цветов и льда» — алюзія да радка: «А на палубе — красные розы и лед» зь вершу «Красное море» на б. 114; «арапчата», «не кинул им ты на ходу плоды» — алюзіі да радкоў: «Мы кидаем плоды на ходу арапчатам» зь вершу «Суэцкий канал» на б. 126.

[31]) Захаваньнем расейскае мовы падчыркваецца ўся неарганічнасьць, вонкавасьць, адмоўнасьць, кантраставасьць кантакту.

вершы, пісаныя ў той самы час, калі пісаліся вершы да зборнікаў "Мае песьні" й "Сіла гневу", але паводля сваёй тэматыкі й формы пакідаліся да іншага зборніка з трыма вянкамі санэтаў (1947) [32]), адгэтуль і назоў кнігі — "Вянкі". Цяпер два ненадрукаваныя да гэтага часу зборнікі (значыцца, "Вянкі" й "Несьмяротнасьць" А. А.) плянуюцца да выданьня аднэй кнігай пад назовам "Нятускная краса" разам з пазьней напісанымі вершамі". Пляну гэтаму аднак не давялося ўжыцьцёвіцца, і толькі ў нашым гэтым выданьні ўсяе магчымае для зыбраньня й друку вершавое спадчыны Салаўёвае, якому мы далі плянаваны паэтам для кнігі з двух зборнікаў "Вянкі" й "Несьмяротнасьць" загаловак "Нятускная краса", знайшлі друк у заплянаваным аўтарам складзе й гэтыя зборнікі ў якасьці асобных разьдзелаў.

Адзін час, калі паэта зьбіраўся выдаць зборнікі "Вянкі" й "Несьмяротнасьць" аднэй кнігаю пад загалоўкам "Нятускная краса", ён плянаваў па сярэдзіне між імі зьмясьціць колькі сваіх пазьнейшых вершаў і большы вершатвор, які ён назваў "сцэнічным абразом у ваднэй дзеі — "Дух праўдны, духу зла непадуладны", пазьней зьявіўся ў яго іншы плян — выдзяліць гэты абраз з пазьнейшым творам "Зазьзяла прабуджальная дзяньніца", названым ім "сцэнкаю з тыма галасамі", у васобны разьдзел сцэнічных абразоў, што й зроблена ў нашым выданьні.

Абраз "Дух праўдны, духу зла непадуладны", як відаць з паэтавага ліставаньня з рэдактарам і выдаўцом часапісу "Шыпшына" Ю. Віцьбічам, пачаў паэта пісаць яшчэ ў 1946 г. ды прызначаў для таго часапісу. У 1964 г. абраз гэты быў пастаўлены на сцэне з удзелам самога

---

[32]) Як ведама, з трох вянкоў санэтаў захаваўся адзін — «Вянок першы», які ўпяршыню ў друку зьявіўся ў № 5-6 часапісу «Конадні» за 1958 г. адным з двух, першых у гісторыі вянкоў санэтаў у беларускай мове — побач зь вянком санэтаў Міхася Кавыля «Цяжкія думы» (у нашым выданьні Салаўёў «Вянок першы» дадзены пад загалоўкам проста «Вянок санэтаў»). У савецкай беларускай літаратуры першы вянок санэтаў зьявіўся адно сем год пасьля — у 1965 г. (вянок санэтаў Ніла Гілевіча «Нарач», упяршыню ў № 8 часапісу «Беларусь», пасьля перадрукаваны ў Гілевічавым зборніку «Празовы», 1967 г.). Пра вянкі санэтаў Міхася Кавыля, нашага Алеся Салаўя ды Ніла Гілевіча, ды наагул пра санэты нашага паэты падрабязьней у артыкуле «Мастак нятускнае красы».

аўтара, але тэкст яго ў друку зьяўляецца ўпяршыню толькі ў нашым выданьні. У вабразе гэтым маем дыялёг між галоўным гэроем Алесем (вобраз аўтабіяграфічны, пачынаючы ўжо ад самога ймя), настроеным вельмі мінорна, нат пэсымістычна, ды ягоным сябрам Міколам, які спрабуе разважыць ягоны пэсымізм сваім нацыянальна-патрыятычным аптымізмам. Міколу падтрымваюць маладыя наведвальнікі Алеся, Рыгор і Анатоль, што прыносяць з сабою той "живы адвеку подых маладосьці", на які, як памятаем, пачаў арыентавацца наш паэта перад выездам сваім на эміграцыю (Анатоль і гаворыць пра "маладосьць крылатую, узьлётную"). Пра абраз "Дух праўдны, духу зла непадуладны" будзе больш у артыкуле "Мастак нятускнае красы".

Другі твор разьдзелу "сцэнічных абразоў" — "Зазьзяла прабуджальная дзяньніца" — хоць і падзагалоўлены паэтам (і ня зусім, сказаць-бы адразу ў дужках, уразумельна) як "сцэнка з трыма галасамі" — у існасьці не падыходзіць сваім жанрам да гэтага разьдзелу — жанрава гэта барждзжэй кантата на тры галасы. Але ўсім сваім тонам гэта як-бы працяг папярэдняга твору "Дух праўдны, духу зла непадуладны" — ці дадатак да яго — таксама працяты тым-жа "жывым адвеку подыхам маладосьці": "Няхай жыве наўкольле маладосьці, прывабнасьць няўміручае красы!" — гукае ў кульмінацыйным пункце яго "Першы голас". У вадным сваім лісьце, ад 3. 7. 1977, паэта даў, як заўсёды ў яго, вельмі стродкую (хоць гэтым разам можа й ня гэтак ужо застродкую) ацэну гэтага твору: "Ці выкарыстоўваўся верш "Зазьзяла прабуджальная дзяньніца"? Мізэрнае "сочинение", горшае за ранейшыя, таму й падпісанае "Антон Дабрыдзень". Гэтым новым, апошнім сваім псэўданімам паэта меўся падпісваць і плянаваныя свае пераклады з аўстралійскіх паэтаў, ім падпісаны адзіны зь ведамых нам гэткіх перакладаў з Макса Дуна, а таксама й арыгінальныя вершы "Усьцяж" (1966 г.) і "Ізноў я завітаў да вашай хаты" (1969 г.). Выглядае, што гэты новы псэўданім прызначаўся паэтам для мізэрных "сочинений", горшых за ранейшыя". Магчыма, што першым падпісаным ім творам і была "Зазьзяла прабуджальная дзяньніца" (твор гэты застаўся недатаваным), і таксама магчыма, што навеяны ён "сцэнічным абразом" "Дух праўдны, духу зла непадуладны", у якім нам бачыўся папярэдні яму твор, ды які пачынаецца гэтым вітальным словам "Дабрыдзень",

прычым яно паўтараецца ў далейшым тэксьце колькі разоў пры ўваходах новых дзейных асобаў (у сцэнічных творах гэткія ўваходы звычайна завуцца "зьявамі", але сцэнічнага гэтага тэрміну паэта ня ўжывае ды наагул не выдзяляе ніяк гэных уваходаў у тэксьце, таксама як ня ўжывае й звычайнага сцэнічнага тэрміну "дзейныя асобы", замяніўшы яго сваім абазначэньнем "удзельнікі"). Пра падпісаныя гэтым псэўданімам вершы нам няма нічога больш сказаць тут — на іх пашыраецца тая-ж, зацытаваная намі з паэтавага ліста ацэна, хоць можа й для іх яна ўсё-ж застродкая.

## Апошнія спатканьні

Апошні раз мы спаткаліся з паэтам у першых днёх новага 1977 году на першай сустрэчы Беларусаў Аўстраліі — выпала вітаць іх ад Беларусаў Амэрыкі. Цэлыя трыццаць тры гады — час, агульна ўважаны за век аднаго людзкога пакаленьня — прамінулі ад нашых апошніх спатканьняў у Эўропе, у Бэрліне ў 1944 годзе. Як ня сталіся тыя эўрапейскія спатканьні апошнімі ў нашым жыцьці, гэтак не спадзявалася, каб апошнім выпала й гэтае аўстралійскае. І паэта пасьля яго ў лісьце ад 3. 7. 1977 г. пісаў: "Гэта-ж мала не паўгоду ад таго часу, калі мы апошні (дай, Божа, не апошні!) раз бачыліся" — і дзяліўся меркаваньнямі аб сваіх, як казаў ён, "выбарах, ці выбраньні ў сьвет" — у нашую Амэрыку й у Эўропу, што абяцала новыя нашыя спатканьні.

І вось, прамінула яшчэ з паўгоду — усяго разам крышку больш за год ад нашага аўстралійскага спатканьня — і такая нечаканая, неспадзяваная, бы пярун зь яснага неба, як кажуць у нас — вестка: 22 студзеня 1978 году ў часе купаньня ў моры ад атаку сэрца памёр Алесь Салавей, 26 студзеня пахаваны на беларускіх могілках у Мэльбурне...

І тут устрыбнула ў памяці адно з нашых апошніх эўрапейскіх спатканьняў...

... У 1931 г. на экраны Савецкага Саюзу выйшаў першы савецкі гукавы фільм "Пуцёўка ў жыцьцё". Была ў ім песьня пра бяспрытульніка-сірату й салаўя, якая адразу-ж набыла вялізарную папулярнасьць, праз усе 30-я гады зьвінела па Савецкім Саюзе, канкуруючы зь песьнямі з пасьлейшых гукавых фільмаў, дый нат сяньня яшчэ ня ў забыцьці. З паходжаньня быў гэта адзін з

твораў песьневага фальклёру, які з часам перайшоў у г. зв. блатны фальклёр, і ў фільме тым у вэрсіі гэтага апошняга быў укладзены ў вусны бяспрытульніка, гэтага масавага прадукту савецкага жыцьця яшчэ з часоў грамадзянскае вайны, якім папаўняліся "блатныя" кадры.

На адным спатканьні з паэтам у Бэрліне, пры слабенькім нямецкім ваенным піве па няменш памыйным "штамгерыхце" ўзгаварыліся нек і пра гэтую песьню ды зачапіліся за псэўданім Алеся Салаўя. "Так, гэта-ж мая песьня, — сказаў Алесь, — можа гэта зь яе й той "Салавей" да мяне прыляцеў". І тут-жа, узяўшы алавік, на аплачаным ужо рахунку пачаў запісваць роблены экспромтам, на што ўжо й тады, як і пасьля, быў ён мэт, пераклад найбольш пашыраных словаў тае песьні. Памяць захавала гэты пераклад, здаецца, без асаблівых стратаў ці перакрутаў (перахоўваліся-ж у ёй і большыя, вялікія кавалкі гэткіх рэчаў, як няпушчаныя сваім часам у друк Жылкаў "Тэстамэнт" або Дубоўкаў "камбайн" "Штурмуйце будучыні аванпосты", якія адтуль трапілі ў несавецкую ўжо, "нялітаваную", як кажуць цяпер, прэсу, а пасьля, калі зьявіліся й у "літаваным" друку аўтэнтыкі твораў, пры зьверы зь імі выявіліся вельмі дакладнымі копіямі). Вось гэты пераклад:

У садку, пры даліне —
так пяяў салавей!
А я хлопчык-сіраціна
забыты́ праз людзей.
Забыты́, занядбаны
ад юначых гадоў,
я застаўся сіратою,
долі ■ не знайшоў.
Ах, памру я, памру я
на чужой чужыне́,
і ніхто і ня знацьме,
дзе ўхавалі мяне.
І ня знацьме й ня трапіць
да магілкі мае,
толькі можа на прадвесьні
салавей прапяе...

Але-ж, была гэта Алесева песьня, песьня ягонага саветагвалтам пакалечанага жыцьця, мадзеньня перш у сіроцтве, а пад канец і "на чужой чужыне́"...

... Не далётваюць нашыя салаўі ў вырай да гэтае чужое чужыны, накрайсьветнае Аўстраліі. І сваіх птушак-

салаўёў таксама няма там — ня спраўдзілася тая песьня. І яшчэ ня спраўдзілася — ды ўжо на лепшае — яна: знаюць пра паэтаву магілу ўсе, хто толькі хоча й можа знаць, і трапляюць да яе — адведваюць суродзічы зблізку й здалёку.

І стаіць над магілаю помнік, і на ім паэтавы словы: “Але ня зьляжа ў цёмную магілу жывы адвеку подых маладосьці”. Так пяяў наш салавей — наш Алесь Салавей.

І яшчэ адным помнікам яму хай будзе гэтая кніжка. Няхай дыхае зь яе “жывы адвеку подых маладосьці”.

Так пяяў Салавей.




15. 11. 1947

Вельмі паважаны сябра!

Цяпер я жыву ў іншым месьце, і адрас мой зьмяніўся. Ліст Ваш трапіў да мяне з вялікім спазьненьнем.

Маімі суседзямі былі раней украінцы, а цяпер — латышы й літоўцы. Мая сям'я — адзіная беларуская сям'я ва ўсім шматлюдным лягеры... Наогул беларусаў у Аўстрыі засталося цяпер вельмі й вельмі мала. Каб і выдаваў я дзесь „Пагоню" і каб сыпаліся зь неба грошы на гэнае выданьне, усёроўна няма сэнсу: каму чытаць? А выдаваць толькі для таго, каб выдаваць — шкада часу й паперы.

Навіны ў мяне рыхтуюцца — сумныя й нецікавыя. Паранейшаму не магу выехаць са сваімі нашчадкамі навет туды, куды не магу выехаць. Дырэктары сьвету не

Ліст А. Салаўя з Зальцбургу, 1947 г.

# БІБЛІЯГРАФІЯ ТВОРАЎ АЛЕСЯ САЛАЎЯ Й ЛІТАРАТУРЫ ПРА ЯГО ДЫ ЯГОНУЮ ТВОРЧАСЬЦЬ

**Апрацавала Зора Кіпель**

У бібліяграфіі падаюцца друкаваныя зборнікі Алеся Салаўя, вязанкі вершаў ды паасобныя вершы, што друкаваліся ў пэрыядычным друку, але не ўвайшлі ў зборнікі. У нашым выданьні вершы гэтыя зьмешчаныя ў разьдзеле "Вершы друкаваныя ня ў зборніках". У бібліяграфіі пададзеныя таксама мастацкая проза, фэльетоны, артыкулы паэты ды вершы, нідзе дагэтуль ня друкаваныя (у нашым выданьні гэткія вершы зьмешчаныя ў разьдзеле " З рукапіснае спадчыны"). Пераклады вершаў, вершы пакладзеныя на музыку ды ліставаньне Алеся Салаўя завяршаюць разьдзел бібліяграфіі творчасьці паэты. У васобным разьдзеле падаюцца артыкулы, рэцэньзіі ды ўспаміны пра Алеся Салаўя.

## ТВОРЫ АЛЕСЯ САЛАЎЯ

### ПАЭЗІЯ

1. **На сенажаці.** («Не ўставай так рана»). Першы друкаваны верш паэты. (Ударнік Дзяржыншчыны, Койданаўская раённая газэта, чырвень 1937). Тэкст і інфармацыя з аўтабіяграфіі А. Салаўя (гл. ніжэй пазыцыю 77). У нашым выданьні тэкст вершу выдрукаваны на б.211.

2. **Вецер буй-вецер.** (Полымя Рэвалюцыі, Менск, № 2, 1938, б. 117). Верш гэты, як і ўсе раньнія вершы паэты, паданыя тут пад наступнымі нумарамі 3-11, падпісаны запраўдным імём і прозьвішчам Альфрэд Радзюк.

3. **Як пасьпее, пажаўцее...** (Чырвоная Зьмена, Менск, № 111, 1938, б. 3).

4. **Ты паслухай мяне...** (Літаратура і Мастацтва, Менск, № 48, 1938, б. 4)

5. **Шчасьце.** (Чырвоная Зьмена, № 167, 1938, б. 4)

6. **То ня сокал раным рана...** (Зьвязда, Менск, № 241, 1938, б. 3)

7. **Узойдзе ранак срэбна на лугу.** (Полымя Рэвалюцыі, № 10, 1938, б. 110)

8. **Цырульнік.** (Полымя Рэвалюцыі, № 4, 1939, б. 60)

9. **Я цябе палюбіў.** (Тамсама)

10. **Дума пра Тараса.** 125-годзьдзе з дня нараджэньня Т. Г. Шэўчэнка. (Літаратура і Мастацтва, 11 траўня 1939, б. 1)

11. **У лесе.** Дзіцячы верш. (Іскры Ільіча, Менск, № 6, чэрвень 1939, б. 7).

12. **З Новым Годам!** (Менская Газэта, № 1(21), 6 студзеня 1942; Голас Вёскі, Менск, № 1(8), 16 студзеня 1942). Падпісаны псэўданімам Максім Блакітны.

13. **Радасьць жыцьця.** (Голас Вёскі, Менск, №1(8), 16 студзеня 1942). Першы ведамы верш, падпісаны псэўданімам Ал. Салавей.

14. **Лёс паэта.** (Беларуская Газэта, Менск, № 31(51), 10 траўня 1942). Верш-сатыра, падпісана «Не паэта».

15. **Маці сына чакае з вайны.** (Голас Вёскі, № 24(31), 24 ліпеня 1942). Падпісаны псэўданімам Алесь Вясновы.

16. **Сьпі, мой родны.** Замiж вянка на няведамую магілу майго бацькі, які загінуў на далёкай поўначы ў ссылцы. (Голас Вёскі, № 25(32), 31 ліпеня 1942). Падпісаны псэўданімам Алесь Вясновы.

17. **За славу радзімы.** Да арганізацыі Беларускага Корпусу Самааховы. (Беларуская Газэта, № 59(79), 16 жніўня 1942). Падпісаны псэўданімам А. Вясёлка.

18. **Кінь сваволіць пад вокнамі, вецер.** Прысьвячаю роднаму брату. (Тамсама, пад тым самым псэўданімам).

19. **Беларусі.** (Голас Вёскі, № 32(39), 18 верасьня 1942). Падпісаны псэўданімам Алесь Вясновы.

20. **Не пакіну.** (Новы Шлях, Рыга, № 10, 1942, б. 11; Беларускі Работнік, Бэрлін, № 18, 1944)

21. **Пад шэлесты лісьця.** (Голас Вёскі, № 46(53), 24 сьнежня 1942. Падпісаны псэўданімам Алесь Вясновы.

22. **Ён ідзе.** (Новы Шлях, № 1(13), 1943, б. 13)

23. **Драбніцы. Пэнтамэтры. Афарызмы. Эпіграмы.** (Беларуская Газэта, № 26(144), 4 красавіка 1943). Да зборніка «Мае песьні». **Эпіграмы** не ўвайшлі ў зборнік. У нашым выданьні на б. 222.

24. **Два трыялеты.** (Беларускі Работнік, №10, 29 жніўня 1943). Трыялет **«Мой бел-чырвона-белы сьцяг»** не ўвайшоў у зборнік «Мае

песьні». У нашым выданьні на б. 222.

25. **На хуткіх крыльлях вольнага Пэгаса.** Паэма. (Новы Шлях, 1943, № 23(35), б. 15 і 24(36), б. 22). З партрэтам і аўтографам паэты.

26. **Песьні.** Прысьвячаецца М. Забэйду Суміцкаму. (Новы Шлях, № 24(36), 1943, б. 18).

27. **МАЕ ПЕСЬНІ.** Зборнік лірыкі. Менск, Выд. Падручнікаў і Літаратуры для Моладзі, 1944. 96 б. Першы зборнік паэты. Вершы з пэрыяду 1941-1944 гадоў і паэма 1943 году «На хуткіх крыльлях вольнага Пэгаса». У нашым выданьні на б. б. 1-48.

28. **Лірычныя вершы.** Вязанка, 10 вершаў. (Новы Шлях, № 1(37), студзень 1944, б. 15. Да зборніка «Мае песьні».

29. **Новыя вершы.** Вязанка, 12 вершаў. (Новы Шлях, № 4(40), люты 1944, б. 15). Да зборнікаў «Мае песьні» і «Вянкі». Вершы: **«Нямала меў, нямала маю я сяброў», «Акрастыхі», «Лісты пішу табе» і «Мой сьціплы ложак»** не ўвайшлі ў зборнікі. У нашым выданьні на б. б. 223 і 239.

30. **Культура — азнака вышэй усяго.** Уладзімеру Глыбіннаму. (Новы Шлях, № 6(42), сакавік 1944).

31. **Змагар айчыны.** (Беларуская Газэта, № 23(243), 29 сакавіка 1944). У нашым выданьні на б. 250.

32. **Добры дзень табе, сонечны Слуцак!** (Газэта Случчыны, № 15(57), 13 красавіка 1944). Верш, прысьвечаны першаму вялікаму літаратурнаму вечару ў Слуцку 2-га красавіка 1944 г.

33. **Першы гром. Летам.** (Новы Шлях, № 7(43), красавік 1944, б. 14). Адмысловы дзіцячы выпуск. У нашым выданьні верш **«Летам»** зьмешчаны пад загалоўкам **«Улетку»** на б. 247.

34. **Жыў быў у Койднаве Радзюк Альфрэд.** (Новы Шлях, № 8(44), красавік 1944). У нашым выданьні падаецца з папраўкамі, зробленымі самым аўтарам — пад загалоўкам **«У Койданаве жыў Радзюк Альфрэд»,** б. 224.

35. **Ізноў я нарадзінаў дзень спаткаў.** (Новы Шлях, № 9(45), травень 1944, б. 12)

36. **Лісты на ветры.** (Новы Шлях, № 10(46), травень 1944, б. 12)

37. **У моры.** (Раніца, Бэрлін, № 43(205), 22 кастрычніка 1944)

38. **Ахвяраў прагне сьмерць.** (Беларускі Работнік, № 45, 5 лістапада 1944; Пагоня, Зальцбург, № 3, 1946)

**39.** **Радаславу Астроўскаму.** («У час пахмурнай непагоды»). (Раніца, № 45(207), 5 лістапада 1944). Верш напісаны на адмысловую просьбу кіраўніка Адзелу Культуры БЦР з нагоды дня нарадзінаў Р. Астроўскага.

**40.** **У жылах шчах крыві струмень.** (Беларускі Работнік, № 46, 12 лістапада 1944)

**41.** **Мая Беларусь.** («І лясы, і лугі, і блакітныя нівы»). (Раніца, № 2(222), 7 студзеня 1945). У зборніку «Сіла Гневу» зьмешчаная іншая рэдакцыя гэтага вершу пад загалоўкам **«Ты»**. У нашым выданьні гл. б. б. 71 і 225.

**42.** **ЗЬВІНЯЦЬ ЗВАНЫ СЬВЯТОЙ САФІІ.** Зальцбург, Выд. Аўтара, 1946. 7 б. Паэма прысьвечаная Юрку Віцьбічу. Перадрук у газэце «Беларускі Эмігрант», № 3, 1948, б. 9-10. У нашым выданьні на б. 59-63.

**43.** **Гамоніць даўняй праўды звон.** Паэма (Пагоня, Зальцбург, № 2, красавік 1946, б. 8-10)

**44.** **З таго сьвету.** («О, людзі! Паглядзеце на мяне»). (Шыпшына, Міхельсдорф, № 1, 1946, б. 6; Пагоня, № 3, 1946, б. 9-10)

**45.** **З кнігі «Сіла Гневу».** Вязанка, 9 вершаў. (Пагоня, № 3, чырвень-ліпень 1946). Вершы: **«Трамвай — даўжэзная, танклявая труна»**, **«Ахвяраў прагне сьмерць»**, **«О людзі»**, **«Бывай Гэдэмэстэ»** у кнігу «Сіла Гневу» не ўвайшлі. У нашым выданьні на б. б. 229, 232, 233.

**46.** **З кнігі «Сіла Гневу».** Вязанка, 12 вершаў. (Пагоня, № 4, люты 1946, б. 16-22). Наступныя вершы не ўвайшлі ў кнігу «Сіла Гневу»: **«Вароты ў няведамы сьвет»**, **«Казка й сон»**, **«Расцалаваў я алавік»**, **«Сьмерць цэліла ў грудзі кап'ём»**, **«Стаўся ўсюды госьцем выпадковым»** і **«Тры вадаплавы адплылі»**. Пяць першых вершаў у нашым выданьні на бб. 226, 231, 232, 234, 235.

**47.** **У дзень нарадзінаў.** («Ідзе насустрач дваццаць пяты год»). Шыпшына, № 3, 1946, б. 17-18; Зь беларускага жыцьця, Зальцбург, № 3, 18 траўня 1946; Шыпшына, № 5, 1947, б. 17.

**48.** **Так і сталася: тую другую.** (Шыпшына, № 5, 1947, б. 17-18)

**49.** **СІЛА ГНЕВУ.** Лірыка, 1937-1947. Остэргофэн, Сакавік, 1948. 96 б. Зборнік вершаў.

**50.** **Букет.** Вязанка, 14 вершаў. (Сакавік, Остэргофэн, № 1(2), 1948, б. 10-12)

**51.** **Домік у Менску.** Паэма. (Сакавік, № 2(3), 1948, б. 2-4)

52. **Нятускная краса**. Вязанка, 7 вершаў. (Сакавік, № 2(3), 1948, б. 1. Да зборнікаў «Вянкі» й «Несьмяротнасьць».

53. **Гуманізм. («Францішак Скарына», «Васіль Цяпінскі», «Сымон Будны»)** і два іншыя вершы. (Шыпшына, № 6, 1948, б. 2-4). Да зборніка «Сіла Гневу».

54. **Актавы.** Вязанка, 8 вершаў. (Шыпшына, № 7, 1948, б. 4-5). Да зборніка «Несьмяротнасьць». Верш **«Нішто»** ў нашым выданьні йдзе пад зьмененым самым аўтарам загалоўкам **«Нішчым»**.

55. **Сын.** Паэма. (Наперад, № 18, сакавік 1949, б. 4-7; Баявая Ускалось, Нямеччына, № 1, ліпень 1949; Бацькаўшчына, Мюнхэн, № 33-34 (164-165), 30 жніўня 1953; Ля чужых берагоў, альманах, Мюнхэн, 1955, б. б. 113-116).

56. **Надзея.** (Уступ да паэмы). (Бацькаўшчына, Мюнхэн, № 21(100), 25 траўня 1952; Баявая Ускалось, № 10, 1970, б. 10)

57. **Як зноў пачне сьвітаць.** (З кнігі «Несьмяротнасьць»). Вязанка, 5 вершаў. (Беларускі Эмігрант, Таронта, № 7(45), ліпень 1952). Верш **«Успамін»** не ўвайшоў у «Несьмяротнасьць». У нашым выданьні на б. 241.

58. **У новы сьвет.** (З кнігі «Несьмяротнасьць»). 4 вершы. (Бацькаўшчына, № 31(110), 3 жніўня 1952)

59. **Ад шумных рэк.** (З кнігі «Несьмяротнасьць»). Вязанка 5 вершаў. (Бацькаўшчына, № 42(121) 19 кастрычніка 1952)

60. **За Порт Саід.** (З кнігі «Несьмяротнасьць»). Вязанка, 5 вершаў. (Бацькаўшчына, № 1-2(132-133), 7 студзеня 1953)

61. **Туды, дзе ўзьлёт.** (З кнігі «Вянкі», 1937-1947). Вязанка, 10 вершаў. (Бацькаўшчына, № 41-42(172-173), 25 кастрычніка 1953)

62. **Не завітаеш да Мадагаскару.** (З кнігі «Несьмяротнасьць», 1947-1952). 3 вершы й паэма **«Сын»** (Бацькаўшчына, № 33-34(164-165), 30 жніўня, 1953)

63. **За Афрыкай зь пяскамі залатымі.** (З кнігі «Несьмяротнасьць»). Вязанка, 14 вершаў. (Бацькаўшчына, № 4-5(186-187), 31 студзеня 1954)

64. **З кнігі «Несьмяротнасьць».** 4 вершы. (Бацькаўшчына, № 8-9 (190-191), 28 лютага 1954)

65. **Санэты. («Узьвіў», «Надойсьце», «Ліст»).** З кнігі «Несьмяротнасьць». (Конадні, Нью Ёрк, № 2, 1954, б. 27-28)

66. **З кнігі «Несьмяротнасьць».** Вязанка, 9 вершаў. (Конадні, № 4, 1955, б. 3-5)

67. **З кнігі «Вянкі»** (1937-1947). **З кнігі «Несьмяротнасьць»** (1949-1952). Выбраныя вершы. («Ля чужых берагоў». Альманах твораў беларускіх эміграцыйных паэтаў і пісьменьнікаў. Мюнхэн, Выд. «Бацькаўшчына», 1955, б. 109-130)

68. **Зьнічы.** Вязанка, 5 вершаў з кнігі «Несьмяротнасьць». (Бацькаўшчына, № 11-12(345-346), 25 сакавіка, 1957)

69. **Вянок першы.** Вянок санэтаў. (Конадні, № 5-6, 1958, б. 12-18)

70. **Для нашых дзетак. («Сьняжынкі», Дзед Мароз», «Ялінка», «Зайчык»).** (Бацькаўшчына, № 1-2(437-438), Праваслаўныя Каляды 1959). У нашым выданьні на б. 248-249.

71. **І ў песьнях і ў жыцьці.** Вязанка, 6 вершаў з кнігі «Несьмяротнасьць». (Бацькаўшчына, № 11-12(447-448), 25 сакавіка 1959). Верш **«Камэнэ»** не ўвайшоў у «Несьмяротнасьць». У нашым выданьні на б. 241.

72. **Зазьзяла прабуджальная дзяньніца.** (Сцэнка з трыма галасамі). (Баявая Ускалось, Торонта, № 10, 1970, б. 11-13). Пісаная ў Аўстраліі. Падпісана Антон Дабрыдзень. У нашым выданьні на б. б. 273-274.

73. **Дарагому сябру Міколу на 65 год жыцьця.** («Яно прыйшло адтуль»). (Беларус, Нью Ёрк, № 163, лістапад 1970). Верш прысьвечаны Міколу Скабею. У нашым выданьні на б. 242.

74. **Памяці Ліды Н.** («Любіла красы паўніню»). (Беларус, № 200, 1973; № 205, травень 1974). Эпітаф на надмагільны помнік Ліды Нікан. У нашым выданьні на б. 240.

## МАСТАЦКАЯ ПРОЗА, ФЭЛЬЕТОНЫ Й АРТЫКУЛЫ.

75. **«Шчасьлівае маленства».** Апавяданьне. (Менская Газэта, № 4 (24), 20 студзеня 1942). Падпісанае псэўданімам Тодар Быльнюк.

76. **Белы сьнег.** Апавяданьне. (Новы Шлях, № 3(39), люты 1944, б. 7; Пагоня, № 4, лістапад 1946, б. 28-30; Беларускі Эмігрант, № 10-11(32-33), 25 сьнежня 1950). Падпісана С. Алесь.

77. **Karotki žyćciapis.** (Žyćciapisy našych pieśniaroŭ i piśmieńnikaŭ). (Biełaruski Hołas, Vilnia, № 13(109), 31 sakavika 1944)

78. **Пад п'яную руку.** Верш-сатыра, пісаная ў Рызе ў траўні 1944. Распаўсюджвалася ў машынапіснай форме.

**79. Чужы.** (Пагоня, № 3, чырвень-ліпень 1946, б. 20-22). Апавяданьне, падпісанае псэўданімам Тамара Залеская.

**80. Ліст у рэдакцыю.** (Шыпшына, № 4, 1947, б. 40-41). У справе «забароны» распаўсюджваць паэму «Зьвіняць званы Сьвятой Сафіі». Ліст быў прызначаны для парыскае газэты «Беларускія Навіны», але выдрукаваны ў часопісе «Шыпшына» з рэдакцыйнымі зьменамі й пропускамі бяз згоды на гэта аўтара, які пратэставаў супраць гэтага ў лісьце да рэдактара Ю. Віцьбіча ад 9-га чырвеня 1947.

**81. Наш «вучоны.** Прысьвячаецца ведамаму «доктару», «інжынеру» й «прафэсару». Верш-сатыра напісаная ў верасьні 1942. Хадзіла ў машынапіснай форме. Выдрукаваная бяз згоды аўтара ў газэце «Беларуская Воля», Гарміш-Партэнкірхэн, № 11(12), 4 чэрвеня 1948, б. 7-8, чым аўтар абураўся ў лісьце да Ю. Віцьбіча ад 8 лістапада 1948 г.

**82. Маналёг сабакі.** Фэльетон. (Бацькаўшчына, № 20-21(202-203), 30 траўня 1954). Падпісаны псэўданімам Тамара Залеская.

**83. Сорак дзён.** (Успамін над сьвежай магілай). Беларус, № 200, сакавік 1973. У памяць Ліды Нікан. Тамсама верш **«Памяці Ліды Н.»** Гл. 74. Падпісаны ініцыяламі А. С.

**84. Пад небам Паўдзённага Крыжу** — сяброўскія сустрэчы Беларусаў. (Беларус, № 204, верасень 1974). Мастацкі рэпартаж пра спатканьні-маёўкі Беларусаў Аўстраліі. Падпісаны Антон Дабрыдзень.

## З РУКАПІСНАЕ СПАДЧЫНЫ

**85. Куда плывем? Скажи мой друг, куда?** Верш пісаны парасейску на параплаве Мітава-Шлок, 28 ліпеня 1944 г. Рукапіс у архіве Беларускага Інстытуту Навукі й Мастацтва (БІНіМ).

**86. Хацелася-б мне вылаяцца ў вершы.** Верш пісаны 9 жніўня 1944 г. у Пуйкуле, Лацьвія. Копія рукапісу ў архіве БІНіМ.

**87. Шумит, шумит угрюмая тоска.** Верш пісаны парасейску ў Гэдэмэстэ, Эстонія, 29 жніўня 1944 г. Нідзе не друкаваўся. Рукапіс у архіве БІНіМ.

**88. Мне твая спадабалася ўсьмешка.** Верш пісаны 25 студзеня 1945 г. у Бэрліне. Рукапіс у архіве БІНіМ.

**89. Майму каханьню.** («Шкада, а вам не зразумець»). Верш пісаны 12 траўня 1945 г. Рукапіс у архіве БІНіМ.

**90. Тысяча дзевяцьсот.** (Паводля найноўшае моды). («Нямінучасьці — натхнёны»). Верш пісаны ў 1946 годзе для гумарыстычнага часапісу. Рукапіс у архіве БІНіМ.

**91. Employ.** («Ня жыцьцё, а пекла»). Верш пісаны ў Аўстрыі ў 1946 г. Нідзе не друкаваўся. Рукапіс (нячытэльны) у архіве БІНіМ.

**92. Дом.** («Мой сябра, час настаў нам дом пабудаваць»). Верш пісаны ў 1951 г. Рукапіс у архіве БІНіМ.

**93. У гэты час, калі ўсясьвету зоры.** Рукапіс у архіве БІНіМ.

**94. Удзячны ўсім.** Рукапіс у архіве БІНіМ.

**95. Я жыць хачу.** Рукапіс у архіве БІНіМ.

**96. Ён і яна.** («Яна: — Ты ёсьць найлепшы сябра мой»). Рукапіс у архіве БІНіМ.

**97. Дабрыдзень беларускай хаце.** Верш пісаны 23 лютага 1952 г. Падпісаны ініцыяламі А. С. Рукапіс у Беларускай Бібліятэцы й Музэі імя Ф. Скарыны ў Лёндане.

**98. Усьцяж.** (Памяці Уладзімера Аксючыца). Пісаны ў 1966 г., падпісаны Антон Дабрыдзень. Рукапіс у архіве БІНіМ.

**99. Маме.** (Заміж вянка на магілу). 1967. Рукапіс у архіве БІНіМ.

**100. Ізноў я завітаў да вашай хаты.** Верш пісаны 27 кастрычніка 1969 г. Падпісаны Антон Дабрыдзень. Рукапіс у Беларускай Бібліятэцы й Музэі імя Ф. Скарыны ў Лёндане.

**101. Паважанай Ларысе Геніюш** — у шасьцідзесяцігодзьдзе жыцьця. («Вялікія тамы»). 1970. Верш упяршыню чытаны 29 сакавіка 1970 г. на сьвяткаваньні Сакавіковых угодкаў у Мэльбурне, Аўстралія. Рукапіс у архіве БІНіМ.

**102. Бывайце.** («Бывайце, радасьць і цяпло сустрэчы»). Рукапіс у архіве БІНіМ.

**103. Дух праўдны, духу зла непадуладны.** Сцэнічны абраз у ваднэй дзеі. Пісаны ў 1946 годзе. Быў пастаўлены на сьвяткаваньні 25 Сакавіка ў Мэльбурне 5 красавіка 1964 г. Аўтар быў рэжысэрам і актарам у галоўнай ролі. У нашым выданьні на б. б. 265-272.

## ВЕРШЫ, ПЕРАКЛАДЗЕНЫЯ АЛЕСЕМ САЛАУЁМ

**104. Рылькэ, Р. М. Восень. Сьвятая. Песьня статуі. Хлопчык. Сусед.** Вершы перакладзеныя зь нямецкай мовы. (Наш Шлях, Рыга, № 5, 1942, б. 22). У нашым выданьні на б. б. 197, 191, 243, 244.

**105. Шаўчэнка, Тарас. Садок вішнёвы каля хаты.** Верш 1847 г., перакладзены Алесем Салаўём у 1947 г. Нідзе раней не друкаваўся. Рукапіс у архіве БІНіМ.

**106. Палтава, Леанід. Хто мы?** (Шыпшына, № 5, 1947, б. 48)

**107. Палтава, Леанід. У бальніцы.** (Конадні, № 3, 1955, б. 47)

**108. Міцкевіч, Адам. Да Нёмна.** (Конадні, № 4, 1955, б. 52). Пераклад датаваны 1948 г.

**109. Дунн, Макс. Скакаў я, пакуль дзьвюх ступнёў ня меў.** З ангельскае мовы пераклаў Антон Дабрыдзень. (Беларуская Моладзь, Год 3, № 4(38), 1975, б. 8-9). Тамсама пададзены ангельскі тэкст гэтага вершу ды ліст Алеся Салаўя да «Беларускае Моладзі».

## ТВОРЫ АЛЕСЯ САЛАУЯ ПЕРАКЛАДЗЕНЫЯ У ІНШЫЯ МОВЫ

**У ангельскую мову.**

**110. The Dawn breakes over Sluck. (Над Слуцкам днее).** Translated from Byelorussian by Vera Rich. (Sonnetarium. A chaptbook of sonnets. London, Manifold Poetry Quarterly, 1962, p. 31; Byelorussian Youth, Brooklyn, № 20, 1963, p. 5)

**111. To Radaslav Ostrowski. (Радаславу Астроўскаму).** Kalush, V. In the service of the people. London, Abjednańnie. 1964, p. 67). Дата пад вершам тут памылковая — 1954, бо беларускі тэкст выдрукаваны ў газэце Р«аніца» ў 1944 г. (гл. вышэй пазыцыю 39 ў нашай бібліяграфіі)

**У польскую мову.**

**112. Droga Krzyżowa. (Крыжовы шлях).** Пераклад Zofii Bohdanowiczowej. (Głos Konfederacji, London, № 13, 1955, s. 2)

**У ўкраінскую мову.**

**113. Дзвін. (Звон).** З білоруського поэта О. Солов'я. (Олександрів, Б. Мої дні. Лірика, Зальцбург, 1946, б. 68-70; Нові Дні, Зальцбург, Великдень 1946, б. 7)

**114. Білий сніг. (Белы сьнег).** Пер. Б. Олександрів, (Нові Дні, Зальцбург, № §(31), 1946, б. 2-4)

**115. Гудуть, дзвенять Софії дзвони (Зьвіняць званы Сьвятой Сафіі).** З білоруського переклав Анатоль Галан. (Літаври, Зальцбург, № 1, 1947, б. 25-26)

**116. Ялинка. (Ялінка).** Переклав з білоруської мови Б. Олександрів. (Наш Шлях, Зальцбург, № 1(19), 1947, б. 5; Нові Дні, № 12, січень 1951, б. 1)

**117. Навікі. (Навекі).** Переклад Б. Олександрова. (Наш Шлях, Зальцбург, № 6(26), 1947, б. 8)

**118. Шукаюча мати. (Смутлівая маці).** Переклад з білоруської мови Б. Олександрова. (Нові Дні, № 1, лютий 1950, б. 21). Таксама невялічкая нататка пра А. Салаўя.

**119. Океан. (Акіян).** Вільний переклад з білоруської Леоніда Полтави. (Сучасна Україна, Мюнхен, № 23, 1952)

**120. Зажурена мати. (Смутлівая маці).** З А. Салав'я. (Олександрів, Борис. Туга за сонцем. Поезії, 1945-1965. У разьдзеле «З чужих пісень». Нью Йорк-Торонто, «Слово», 1965, б. 77-78; на б. 115 кароткая даведка пра А. Салаўя)

**121. Засмучена мати. (Смутлівая маці).** З білоруської переклав ДМ. Чуб. (Вільна Думка, № 32(1519), 1979, б.5; Новий Обрій, Мельбурн, № 6, 1980, б. 61. Гэтаксама невялічкая біяграфічная нататка.

**122. Стався всюди гостем випадковим. (Стаўся ўсюды госьцем выпадковым).** Пераклаў Ігар Качуровский 6 траўня 1980 г. Нідзе не друкаваўся. Тэкст знаходзіцца ў архівах БІНіМ.

## ВЕРШЫ АЛЕСЯ САЛАУЯ ПАКЛАДЗЕНЫЯ НА МУЗЫКУ

**123. То ня сокал.** Вайсковая маршавая песьня. Музыка Міколы Равенскага. Напісаная ў 1944 г. у Бэрліне. (Інфармацыя ўзятая з кнігі «За дзяржаўную незалежнасьць Беларусі». Дакумэнты БЦР, Лёндан, 1960, б. 156-157)

**124. Сінявокая мая.** Вайсковая маршавая песьня. Музыка Міколы Шчаглова. Напісаная ў 1944 г. у Бэрліне. (Тамсама)

**125. Малітва.** («Божа Вялікі, паслухай маленьне»). Музыка І Паўлава. (Зь Беларускага Жыцьця, Зальцбург, № 7, 16 чырвеня 1946, б. 2-4). Тэкст і ноты.

**126. Раса.** Музыка Ксавэрыя Барысаўца. Для мяшанага хору з салістым (сапрана) і акампанімэнтам фартапіяна. 1952. Упяршыню была выкананая мяшаным хорам у Саўт Рывэры, ЗША, ў 1953 г.

**127. Сумная згадка.** Музыка Міколы Куліковіча. (Куліковіч, М. Беларускі песенны зборнік. Кліўлянд, 1960, б. 136). Музыка да вершу «Сумнаю згадкаю сталася ты», напісаная для хору бяз музычнага

акампанімэнту.

Алесь Салавей гэтаксама пераклаў словы папулярнае расейскае песьні «Сэрца маці» ды амэрыканскай калядкі «Дзын-Бам-Бом» на мэлёдыю «Джынгэл Бэлс».

## ЛІСТАВАНЬНЕ

**128. Лісты Алеся Салаўя да Юркі Віцьбіча.** 28 лістоў з пэрыяду ад 31 студзеня 1947 г. да 13 красавіка 1952 г. Усе лісты, апрача апошняга, пісаныя з Зальцбургу, Аўстрыя. Апошні — з Сэйнт Албанс, Аўстралія. Лісты пераважна літаратурнага зьместу. Паэта выказваецца як пра свае творы, гэтак і пра творы іншых аўтараў. Арыгіналы лістоў у архіве Беларускага Інстытуту Навукі й Мастацтва (БІНіМ).

**129. Лісты Алеся Салаўя да Міколы Ганька.** 6 лістоў з пэрыяду ад 11 студзеня 1949 да 4 красавіка 1950 г., пісаныя з Зальцбургу, ды з Адэляйды й Вудсайду, Аўстралія. Лісты агульнага зьместу: праблемы эміграцыйныя, падзяка за прысланыя газэты ды д. т. п. Арыгіналы лістоў у прыватным архіве сп. М. Ганька.

**130. Ліст Алеся Салаўя да Уладзімера Глыбіннага.** Адзін з знойдзеных лістоў, ад 24 студзеня 1965 г. з Мэльбурну, Аўстралія. Падзяка за прысланую кнігу. Літаратурна-крытычныя разважаньні.

**131. Лісты Алеся Салаўя да Аляксея Грыцука.** 6 лістоў з пэрыяду ад 19 красавіка 1948 г. да 1 сакавіка 1949 г., пісаныя з Зальцбургу. Лісты сяброўскія, агульнага зьместу. Шмат пра пытаньні эміграцыі, няпэўнасьць жыцьця ў ДП лягерах. Арыгіналы ў прыватным архіве сп-ні Вольгі Грыцук.

**132. Лісты Алеся Салаўя да Аляксандра Лашука.** 10 лістоў з пэрыяду ад 23 чырвеня 1947 да 21 сакавіка 1950 г. з Зальцбургу й Адэляйды. Лісты агульнага зьместу. Пра выдавецкую працу, пра беларускіх дзеячоў. Пазьней пра жыцьцё ў Аўстраліі. Арыгіналы ў прыватным архіве сп. А. Лашука.

**133. Лісты Алеся Салаўя да Аляксандра Міцкевіча.** 6 лістоў з пэрыяду ад 10 верасьня 1946 да 27 сакавіка 1949 г. з Зальцбургу. Пра грамадзкія справы. Арыгіналы ў прыватным архіве сп. А. Міцкевіча.

**134. Лісты Алеся Салаўя да Міколы Панькова.** 4 лісты з пэрыяду ад траўня да 3 сьнежаня 1946 г. з Зальцбургу. Лісты агульнага зьместу пра грамадзкія справы й грамадзкіх дзеячоў, пра часапіс «Пагоня». Арыгіналы ў архіве Беларускай Інфармацыйнай Службы.

**135. Дваццаць лістоў Алеся Салаўя да Міколы Скабея.** Лісты з пэрыяду ад 27 чырвеня 1949 г. да 20 чырвеня 1950 г. З Мэльбурну,

Адэляйды, Вудсайду й Рэнмарку, Аўстралія. Лісты агульнага зьместу. Пра працу, абставіны жыцьця, пра сям'ю, пра знаёмых. Арыгіналы ў Беларускай Бібліятэцы Францішка Скарыны ў Лёндане.

**136. Лісты Алеся Салаўя да Вітаўта Тумаша.** 13 лістоў з пэрыяду ад 4 лістапада 1946 да 19 траўня 1948 г. з Зальцбургу. Лісты пра рэдагаваньне часапісу «Пагоня», пра паэму «Зьвіняць званы Сьвятой Сафіі», пра беларускае грамадзкае жыцьцё ў Аўстрыі, праблемы эміграваньня. Арыгіналы ў архіве БІНіМ.

**137. Лісты Алеся Салаўя да Ант. Адамовіча.** Неўстаноўленая колькасьць лістоў у неўпарадкаваным прыватным архіве адрасата, задэкляраваным-затэстамэнтаваным Беларускаму Інстытуту Навукі й Мастацтва.

## АРТЫКУЛЫ, РЭЦЭНЬЗІІ, УСПАМІНЫ ПРА А. САЛАУЯ Й ЯГОНУЮ ТВОРЧАСЬЦЬ

**138. Новая заваёва паэзіі.** (Новы Шлях, № 21(33), лістапад 1943, б. 2). Нататка аб паэме «На хуткіх крыльлях вольнага Пэгаса» Алеся Салаўя.

**139. Кніга лірыкі.** (Новы Шлях, 4(40), люты 1944, б. 2) Нататка пра скончэньне паэтам кнігі лірыкі «Мае песьні».

**140. А. Салавей падрыхтаваў да друку зборнік вершаў «Мае песьні».** Нататка (Беларускі Работнік, № 12, 19 сакавіка 1944)

**141. Dubovič, Andrej. Życciapisy našych pieśniaroŭ i piśmieńnikaŭ.** (Biełaruski Hołas, № 13(109), 31 sakavika 1944). Кароткае выказваньне пра Алеся Салаўя перад ягоным «Кароткім жыцьцяпісам» (гл. вышэй пазыцыю 77 у нашай бібліяграфіі).

**142. Ю.М. Песьні «радасьці і мукі».** (Раніца, № 37(199), 10 верасьня 1944). Рэцэньзія на зборнік «Мае песьні».

**143. Нічыпарук, Леанід. Алесь Салавей.** (Сучасныя беларускія паэты). (Беларускі Работнік, № 40, 1 кастрычніка 1944). Агляд жыцьця й творчасьці паэты.

**144. Олександрів, Б. Поети Білорусії** (Володимир Дудзіцкий та Олесь Соловей). (Нові Дні, Зальцбург, № 8(22), 1945, б. 3). Кароткая інфармацыя пра творчасьць А. Салаўя.

**145. Бароўскі, А. Выступленьне двух паэтаў.** (Зь Беларускага Жыцьця, Зальцбург, № 23, 5 кастрычніка, 1946, б. 4). Аб выступе А. Салаўя й украінскага паэты Б. Александрава ў Зальцбургу перад беларускай і ўкраінскай аўдыторыяй з новымі вершамі.

**146. Выступленьні нашага паэта.** (Зь Беларускага Жыцьця, № 24, 12 кастрычніка 1946). Выступленьні А. Салаўя із сваімі вершамі ў ДП лягерах Ангельскае зоны Аўстрыі.

**147. Зьвіняць званы Сьвятой Сафіі.** А. Салавей. (Шляхам Жыцьця, № 2(14), 28 лютага 1947, б. 10). Рэцэньзія на паэму.

**148. М. Г. Алесь Салавей «Зьвіняць званы Сьвятой Сафіі».** (Сакавік, № 1, 1947, б. 69-71). Рэцэньзія на паэму.

**149. Верасень, А. Паэтычная стылістыка.** Міхэльсдорф, Крыніца, 1947. Прыклады зь вершаў Алеся Салаўя: б. 37, зь вершу «Раса, раса» — прыклады эпітэтаў; б. 67 зь вершу «Гэроям Бацькаўшчыны» — прыклад сынэкдахі; б. 119 зь вершу «І не дарма сваю мы кроў пральлём» — прыклад палісындэтону; б. 120-121 зь вершаў «І заплакалі сумныя далі» і «Зямля мая» — прыклады паралелізму.

**150. Качуровський, І. і Олександрів, Б. Александрына.** Пародыя. Алесь Салавей. Зальцбург 31 ліпеня 1948. Пародыя на Алеся Салаўя двух украінскіх паэтаў, сяброў А. Салаўя з Зальцбургскага пэрыяду, напісаная пабеларуску. Рукапіс у архіве БІНіМ, тэкст паданы ў нататках рэдактара да нашага выданьня, б. 315

**151. К. Міхась. Эпіграма на А. Салаўя.** (Шыпшына, № 8, 1950, б. 27)

**152. Літаратурны вечар у Мэльбурне.** (Бацькаўшчына, № 43(122), 26 кастрычніка 1952. Выступ А. Салаўя на беларуска-украінскім літаратурным вечары 21 верасьня 1952 г. зь вершамі «Калевала», «Агонь», «Смутлівая маці», «Сын», «Малітва», ды новым вершам «Надзея».

**153. Маханеўскі, А. Зь беларускага жыцьця ў Мэльбурне.** (Бацькаўшчына, № 30 (109), 20 ліпеня 1952). На адзначэньні 10-ых угодкаў сьмерці Я. Купалы 29 чырвеня 1952 г. у Мэльбурне А. Салавей прачытаў рэфэрат на тэму дня.

**154. Літаратурны вечар Алеся Салаўя.** (Беларус, № 16(22), 27 лістапада 1952). Хроніка пра беларуска-украінскі літаратурны вечар у Мэльбурне. А. Салавей прачытаў свае вершы.

**155. Я. М-кі. Справа нацыянальна-грамадзкага значаньня** (Беларус, № 17(23), 13 сьнежаня 1952). Нацыянальныя мамэнты ў паэзіі А. Салаўя ды іншых беларускіх эміграцыйных літаратараў.

**156. Станкевіч, Ст. Аб беларускай літаратуры на эміграцыі** (У кнізе «Ля чужых берагоў». Мюнхэн, 1955, б. 7-10; Бацькаўшчына, № 47-48 (277-278), 27 лістапада 1955). Камэнтуецца творчасьць А. Салаўя побач зь іншымі паэтамі.

157. **Прысутны. Сьвяткаваньне Сакавіковых урачыстасьцяў у Мэльбурне, Аўстралія** (Бацькаўшчына, № 16(350), Вялікдзень 1957). Пасьля рэфэрату паэты Алесь Салавей прадэклямаваў выняткі із свайго апошняга твору «Вянкі».

158. **Змагар, Алесь. Алесю Салаўю.** (Прыйсьце, Саўт Рывэр, № 1, 1958, б. 36; Змагар, А. «Да згоды». Вершы. Кліўлянд; Баявая Ускалось, 1962, б. 37). Верш прысьвечаны А. Салаўю, напісаны ў Кірхгайме, Аўстрыя, 7 траўня 1945 г.

159. **Маханеўскі, А. 25 сакавік у Вікторыі.** (Бацькаўшчына, № 18 (454), Праваслаўны Вялікдзень 1959). 5-га красавіка была пастаўленая камэдыя «Зьбянтэжаны Саўка». Рэжысэрам быў А. Кадняк (А. Салавей).

160. **Змагар, Алесь. Вызвольныя шляхі.** Кліўленд, 1965. На б. 11 і 15 цытуюцца вершы Алеся Салаўя.

161. **Качуровський, Ігор. Строфіка**. Мюнхен, Інститут Літератури ім'я Михайла Ореста, 1967. На б. 189 цытуецца верш А. Салаўя «Нявердаў зрадай катаваны» як прыклад актавільлі; на б. 291 вершы ў перакладзе Б. Олександрова «Відірвали, схопили» і «Маяк терпіння», як прыклады гэтэрамэтрычнага катрэну (рознапамернае чатырохрадоўкі з двума радкамі аднолькавага памеру і двума іншых розных памераў).

162. **У. Б.** (Брылеўскі, Ул.) **Сьвятой памяці Алеся Салаўя.** (Беларуская Думка, № 21-22, 1977-1978, б. 31-32). Нэкралёг з партрэтам і два вершы «Чорны крук закракаў на ўсё горла» і «Конадзень».

163. **Чуб, Дмитро. Помер поет Алесь Салавей.** (Вільна Думка, Сыднэй, № 8(1444), 19 лютага 1978). Нататка-ўспамін пра А. Салаўя з прычыны ягонае сьмерці.

164. **Калодка, А. Сьвятой памяці Алесь Салавей.** (Беларус, № 251, сакавік 1978). Нэкралёг з партрэтам.

165. **К-а, А. Украінская газэта пра сьмерць Алеся Салаўя.** (Тамсама).

166. **Нитченко, Д. В Австралії помер поет Алесь Салавей.** (Нові Дні, Торонто, № 337, березень 1978, б. 33).

167. **Памёр Алесь Салавей.** (Беларускі Голас, Таронта, № 265, травень 1978). Кароткі нэкралёг.

168 **Кадняк, Зінаіда. Біяграфія Алеся Салаўя і Ўспаміны пра яго** ўдавы паэты, напісаныя ў Мэльбурне, Аўстралія, 14 ліпеня 1978 г. Рукапіс у архіве БІНіМ.

169. **Альбэрт Кадняк (Алесь Салавей).** Нэкралёг. (Божым Шляхам,

№ 150, 1979, б. 45). Пад агульным загалоўкам «Адыйшлі навекі».

170. **Брылеўскі, Уладзімер. На ўгодкі сьмерці Алеся Салаўя.** (Беларус, № 263, сакавік 1979). Успаміны з супольнага жыцьця аўтара з Алесем Салаўём у Рызе, у 1944 г.

171. **К-а, А. Дзень паэзіі Алеся Салаўя** (Альфрэда Радзюка-Кадняка). (Беларус, № 263, сакавік 1979). Дзень паэзіі наладжаны Беларускім Цэнтральным Камітэтам у Вікторыі, Аўстралія, з нагоды пасьвячэньня помніка А. Салаўю.

172. **Змагар, Алесь. Успаміны з супольнага жыцьця ў Аўстрыі ў 1945-1946 г.** Успаміны напісаныя 7 кастрычніка 1979 г. Арыгінал у архіве БІНіМ.

173. **Глыбінны, Уладзімер. Успаміны з жыцьця й творчасьці паэты ў Рызе ў 1942-1944 г.** у лісьце да Ант. Адамовіча ад 17-20 сьнежаня 1977 г. Арыгінал у архіве БІНіМ.

174. **Калодка, А. На ўгодкі сьмерці Алеся Салаўя.** (Беларус, № 274, люты 1980). Кароткі агляд жыцьця й творчасьці А. Салаўя.

175. **Грыцук, Вольга. Успаміны з жыцьця й выдавецкае дзейнасьці Алеся Салаўя ў Зальцбургу, Аўстрыя ў 1945-1946 г.** Успаміны напісаныя 29 лютага 1980 г. Арыгінал у архіве БІНіМ.

176. **Яцэвіч, Валя. Успаміны пра Алеся Салаўя з часоў студэнцкага жыцьця ў Менску ў Беларускім Пэдагагічным Вучылішчы ў 1938-1940 г.** Успаміны напісаныя ў Кліўленьдзе, 22 сакавіка 1980 г. Арыгінал у архіве БІНіМ.

177. **Ганько, Мікола. Я памятаю...** Успаміны пра Алеся Салаўя з пэрыяду супольнага жыцьця й працы ў Зальцбургу ад восені 1945 да пачатку 1948 г. Датаваныя 24 сакавіком 1980 г., Таронта, Канада. Арыгінал у архіве БІНіМ.

# ІЛЮСТРАЦЫІ

VIII Алесь Салавей, фота семдзесятых гадоў.

2 Вокладка зборніка «Мае песьні», 1944 г.
Рысавала Аляксандра Бяльцова.

60 Алесь Салавей, фота 1944 г., Вільня.

66 Вокладка зборніка «Сіла гневу», 1948 г.
Рысаваў Рыгор Леўчук.

128 Партрэт Алеся Салаўя. Маляваў Пётра Міргановіч, алей.
Рыга, 1943 г.

154 Фотапартрэт А. Салаўя з зборніка «Мае песьні», 1944 г.

168 Фота Алеся Салаўя з 1936 г. (у веку 15 гадоў).

174 Алесь Салавей з унукамі. Мэльбурн, 1977 г.

210 Аўтограф вершу «Мая сталіца».

252 Аўтограф вершу «Францішак Скарына».

264 Паэтава жонка, Ант. Адамовіч і кенгуру Гонкі.
Аўстралія, 1977 г. (фатаграфаваў Алесь Салавей).

276 Помнік над магілай Алеся Салаўя.
Мэльбурн, беларускі могільнік на Фаўкнэры.

282 А. Салавей з унукамі й Ант. Адамовічам.
Аўстралія, 1977 г. (фатаграфавала паэтава жонка).

332 Ліст А. Салаўя з Зальцбургу, 1947 г.

## АЛЬФАБЭТНЫ ПАКАЗЬНІК

«...А неба» . . . 113
«А прайшоў я ці мала дарог у сьвеце» . . . 137
«А ўсё-ж мы вернемся дахаты, у вайчыну» . . . 125
«Аб табе успамін — найвышэйшая ўцеха» . . . 142
«Аблокаў плач — мая туга» . . . 98
«Агні ўзьбярэжныя пагасьлі за вадою» . . . 194
«Агонь гарыць. І цемры лонь» . . . 31
«Ад зыркіх промняў» . . . 76
Ад шумных рэк («Ад шумных рэк і ад вазёраў») . . . 200
«Адарвалі, схапілі, сілком павялі» . . . 81
Адзіноцтва («Пазбаўлены ўсяго») . . . 189
«Адыйдзе ноч. І акіяну хвалі» . . . 203
Акіян («Шумі, шумі, мой ветразь паслухмяны») . . . 203
Акрастыхі («Няхай чужыны», «Лісты пішу») . . . 239
Alea jacta est! . . . 85
«Александрыйскі верш» . . . 189
Альпы («З усіх бакоў пасталі вы, як сьцены») . . . 199
«Апавітыя горам і славаю» . . . 244
Апэлес і Аляксандар Македонскі («Вялікі мастак Апэлес») . . 33
Ардэнаносцам («Вам прышпілілі ордэн той-жа самы») . . . 177
«Ахвяраў прагне сьмерць» . . . 229
Афарызмы («Як не дастаць рукою сонца») . . . 26

Беларусі («Тут нядаўна йшчэ гора шалела») . . . 218
«Беларусь, дарагая краіна» . . . 212
Белы сьнег (апавяданьне) . . . 277
Белы сьнег. («Ты зьнёс вайну») . . . 205
Бітва («Войскі, на месца адно») . . . 33
«Божа вялікі, паслухай маленьне» . . . 227
«Будзе дачушка у нас — ціха шаптала» . . . 140
Букет («У раскошы цьвіцеў») . . . 94
«Бунтуе воды акіян грымотны» . . . 180
«Бывай, Гэдэмэстэ, бывай» . . . 233
«Бывай здароў, знаёмы кут» . . . 25
Бывайце («Бывайце, радасьць і цяпло сустрэчы») . . . 261
«Быў гэткі ён: усіх дурнымі» . . . 222

Бэз («Там, за сьцяною, прывітаў заранку») . . . . . . . . 95
«Бядой прыгноблены твой стан» . . . . . . . . . . . . . 169
«Бязьмежны сьвет разгадвалі з запалам» . . . . . . . . . 245

Вам («Прастую праз жыцьцё») . . . . . . . . . . . . . 109
«Вам прышпілілі ордэн той-жа самы» . . . . . . . . . . . 177
Вам хочацца («Вам хочацца раскошаў») . . . . . . . . . 205
«Вароты ў няведамы сьвет» . . . . . . . . . . . . . . . 230
Васіль Цяпінскі. («Дзьвіны шырокай») . . . . . . . . . . 75
Вільня («Пазалаціў сутункі зьзяньнем») . . . . . . . . . . 76
«Віцела, маўчала, забытая ўсімі» . . . . . . . . . . . . 27
Вітай («Вітай прыход сяўбы чаканае») . . . . . . . . . . 14
«Вітаньне, космасу прастор!» . . . . . . . . . . . . . . 61
Вітаньне Случчыне («Слуцак блізка...») . . . . . . . . . 78
«Віхура зла за хмуры акіян» . . . . . . . . . . . . . . 257
Воддаль («Прачнешся воддаль зь першым «ку-ка-рэ-ку») . . 182
«Войскі, на месца адно імкнучыся» . . . . . . . . . . . 33
Восенскія тэрцыны («Прыпол свой раньне») . . . . . . . 33
Восень («Каля хаты мае дрэвы летнія») . . . . . . . . . 25
Восень («Спадару Божа, час настаў») . . . . . . . . . . 197
«Вочы твае — васількі» . . . . . . . . . . . . . . . . 122
Вуса («Вуса... Успамінаў здаволены ўсьміх») . . . . . . . 94
«Выйдзі паслухай — гучаць галасьлівыя медныя трубы» . . . 74
«Вялікі ён, праўдзівы й няпраўдзівы» . . . . . . . . . . 101
«Вялікі мастак Апэлес» . . . . . . . . . . . . . . . . 33
«Вялікія тамы зь нясдавай» . . . . . . . . . . . . . . 261
«Вянкі, табе вянкі» . . . . . . . . . . . . . . . . . . 129
Вянок санэтаў («Мае найлепшыя дары — вянкі») . . . . . . 144
«Вясна, вясна! У сінім небе» . . . . . . . . . . . . . 13

Gloria mundi (Вялікі ён, праўдзівы й няпраўдзівы») . . . . 101

Гайна («Ну вось — і нарадзінаў маіх дзень«) . . . . . . . 8
«Гамоніць даўнай праўды звон» . . . . . . . . . . . . . 83
«Глянь, дружа мой» . . . . . . . . . . . . . . . . . . 18
«Голасам моцным ціха і важна« . . . . . . . . . . . . 247
Гуманізм 1. Франьцішак Скарына («У месьце Вільні») . . . 75
Гуманізм 2. Васіль Цяпінскі («Дзьвіны шырокай») . . . . . 75
Гуманізм 3. Сымон Будны («Ад зыркіх промняў») . . . . . 76
Гэкзамэтры («Цяжка ў хадзе дасягнуць») . . . . . . . . . 30
Гэроям Бацькаўшчыны («Прыйшоў у край чужы») . . . . . 78

«Да жыцьця ад пагібелі крочу» . . . . . . . . . . . . . 124
Да Нёмна («Нёмне, рака айчыны») . . . . . . . . . . . . 245

«Да сонцаў ясных» . . . . . 180
«Да шчасьця шлях ня быў адчынены» . . . . . 141
«Дабрывечар, Зара! З каляднае ялінкі» . . . . . 196
«Дабрыдзень беларускай хаце» . . . . . 259
«Дабрыдзень, мая зарніца» . . . . . 138
«Даволі спаць. Адчыніш вейкі» . . . . . 96
«Далёка ад зямлі прадзедавых загонаў» . . . . . 190
«Далёка жаль і ‘плач твой аб старонцы’» . . . . . 207
«Далёка няўцеха разьвітаньня» . . . . . 139
«Дарэмна вы на глыбах крыгалому» . . . . . 199
«Дваццаты век. А ён... Хіба маўчыць паэт?» . . . . . 118
Дваццаць тры («Мне сяньня роўна, роўна дваццаць тры») . . . 124
«Дзе-ж тая радасьць — той дар адзіны» . . . . . 136
Дзед Мароз («З дарагімі пакункамі») . . . . . 248
Дзеці («За тынам — сад») . . . . . 9
«Дзьвіны шырокай буйныя глыбіны» . . . . . 75
«Дзяўчынка! Хіба я іначай» . . . . . 131
«Добры дзень табе, сонечны Слуцак» . . . . . 226
Дождж («І кроплі дробныя — сьпярша адна, другая») . . . . 42
Дом («Мой сябра, час настаў») . . . . . 255
Домік у Менску («Цьвіці, вясна мая, цьвіці») . . . . . 155
Драбніцы («Сонца ўсходзіць пазьней») . . . . . 27
«Дрэвы лісьце да сонейка туляць» . . . . . 216
«Думкі сьледам — як рой» . . . . . 105
Дух праўдны, духу зла не непадуладны . . . . . 265

Ён і яна («Яна: « — Ты ёсьць найлепшы сябра мой») . . . . . 258
Ён ідзе («О, год стары») . . . . . 222
«Ён салодкі цяпер» . . . . . 135

Жадаю Вам . . . . . 208
«Жывым мы робім няжывое» . . . . . 27
Жыць («На ейнае зьяўленьне») . . . . . 126

«З агню вар'яцкага, зь пякельнай цямрыні» . . . . . 123
З Вамі («Кажуць, што можна жыцьцё перакроіць») . . . . 10
«З дарагімі пакункамі» . . . . . 248
«З мройнай задумай моўкне бор» . . . . . 109
З Новым Годам («З Новым годам, браты-Крывічане!») . . . . 211
«З табою разам быў. Гайна... Крозы...» . . . . . 139
З таго сьвету («О, людзі! Паглядзеце на мяне») . . . . . 232
«З трыбунных высяў прамаўлялі ўчора» . . . . . 183
«З усіх бакоў паўсталі вы, як сьцены» . . . . . 199
«З халоднай поўначы прыймі» . . . . . 77

«З часоў славутых даўнае пары» . . . . . . . . . . . . . . . 9
За («За цёмна-сінім, за Чырвоным Морам») . . . . . . . . . 179
За годам год («Адыйдзе ноч. І акіяну хвалі») . . . . . . . 203
За Порт Саід («За Порт Саід ты вырушыў») . . . . . . . . 201
«За працай мастака ■ засьпяю» . . . . . . . . . . . . . 17
За славу радзімы («Наш край рабавалі») . . . . . . . . . . 220
«За тынам — сад» . . . . . . . . . . . . . . . . . . 9
«За цёмна-сінім, за Чырвоным Морам» . . . . . . . . . . 179
«Зазьзяла неба, дол змаўкае ў сьне» . . . . . . . . . . . 110
Зазьзяла прабуджальная дзяньніца . . . . . . . . . . . . 273
«Зайсьці і не застаць анінікога дома» . . . . . . . . . . 241
Зайчык («Зайчык мілы, зайчык шэры») . . . . . . . . . . 249
Зара («Дабрывечар, Зара!») . . . . . . . . . . . . . . 196
Заранка ўсходу («Ці адчуваеш? Вёсны адшумелі») . . . . . 179
«Зацьвіцела вясна навакола» . . . . . . . . . . . . . . 14
Звон («Пад сьпёкай сонца») . . . . . . . . . . . . . . 192
Згода («Салодкіх песьняў аб свабодзе») . . . . . . . . . . 186
«Здаецца, ўрэшце я знайшоў спакой» . . . . . . . . . . . 16
«Зіма. Мароз. Пагодны дзень» . . . . . . . . . . . . . 11
Зірні («Я не хачу сустрэць за цёмным акіянам») . . . . . . 191
«Зірнула сонца ў маю хату» . . . . . . . . . . . . . . 12
Змагар айчыны («Мой дзед ваякам быў») . . . . . . . . . 250
Змагаром народу («Хай ваша слова») . . . . . . . . . . . 184
«Змоўклі вясёлыя песьні застольныя» . . . . . . . . . . . 132
«Знарок, ці не, але чыясь нага» . . . . . . . . . . . . . 30
«Зноў далёка я, зноў безь цябе» . . . . . . . . . . . . . 41
Зоры («Прыслухайся: да высяў клічуць зоры») . . . . . . . 205
«Зусім нішчым. Сухі пясок пустыні» . . . . . . . . . . . 199
«Зы сьвету ў сьвет ідзеш» . . . . . . . . . . . . . . . 201
«Зь дзядоў і прадзедаў» . . . . . . . . . . . . . . . . 193
«Зьбівае з ног разьюшаная сьцюжа» . . . . . . . . . . . . 200
Зьвіняць званы Сьвятой Сафіі («Вітаньне, космасу прастор») . . 61
Зьнічы («Малым дзічком ты быў у маладосьці») . . . . . . . 206
«Зямля мая — абсяг вялікіх скарбаў» . . . . . . . . . . . 3
Зямля ў вагні («Зямля ў вагні. Гарачыня») . . . . . . . . . 116

«І вецер скавыча, і б'ецца вада» . . . . . . . . . . . . . 235
«І заплакалі сумныя далі» . . . . . . . . . . . . . . . 34
«І кроплі дробныя» . . . . . . . . . . . . . . . . . . 42
«І круціцца гісторыі ўсё кола» . . . . . . . . . . . . . 207
«І лясы, і лугі, і блакітныя нівы» (Мая Беларусь) . . . . . . 225
«І лясы, і лугі, і блакітныя нівы» (Ты) . . . . . . . . . . 71
«І прашчуры сьхілялі тут галовы» . . . . . . . . . . . . 76
«І сем гадоў таму назад» . . . . . . . . . . . . . . . . 93

І сонцу, і вясьне («Ня зрада гэта, не») . . . . . . . . . . . . 190
І хмурны пас радзее («На Shafberg узыйдзі») . . . . . . . . 192
«Ідзе насустрач дваццаць пяты год» . . . . . . . . . . . . 237
Ідзеш, плывеш («Зы сьвету ў сьвет ідзеш») . . . . . . . . . 201
«Іду сьцяжынкаю, дрымотаю спавіты» . . . . . . . . . . . 8
«Ізноў крануўся эшалён» . . . . . . . . . . . . . . . . . 118
«Ізноў ■ завітаў да Вашай хаты» . . . . . . . . . . . . . 260
«Ізноў ■ нарадзінаў дзень спаткаў» . . . . . . . . . . . . 236
Імкніся ўсьцяж («Імкніся ўсьцяж на зьніч») . . . . . . . . . 208

Каб сказалі («Узыйшоў на прастор») . . . . . . . . . . . 115
«Кажуць, што можна жыцьцё перакроіць» . . . . . . . . . . 10
Казка й сон («Што Азія мне і Эўропа») . . . . . . . . . . 231
«Калі звычайную, хай просьценькую рэч» . . . . . . . . . . 44
«Калі мінеш сьцямнелы ў сьпёцы Адэн» . . . . . . . . . . 202
«Каля хаты мае дрэвы летнія ўборы асыпалі» . . . . . . . . 25
Каляды («Зіма. Мароз. Пагодны дзень») . . . . . . . . . . 11
«Каму сказаць пра ўцеху ці пра мукі» . . . . . . . . . . . 201
Камэне («Як згасьне дзень, не адыйду навекі») . . . . . . . 241
Кінь сваволіць пад вокнамі вецер («Ноч разьвесіла») . . . . 220
Кітай («Далёка жаль і ‘плач твой аб старонцы’») . . . . . . 207
«Клён шапацеў на сьцямнелым двары» . . . . . . . . . . . 135
«Клубочак-брацік бегае зь лётачкай-сястрыцай» . . . . . . . 141
Кола («І круціцца гісторыі ўсё кола») . . . . . . . . . . . 207
Конадзень («Над зямлёю зьбіраюцца хмары») . . . . . . . . 89
Крывічы («Старэтных вечаў водгалас пасьцежны») . . . . . . 178
Крыжовы шлях («Нарадзіўся Ты — з Табою...») . . . . . . . 79
«Крыніцы звонкае струмень» . . . . . . . . . . . . . . . 117
«Культура — азнака вышэй усяго» . . . . . . . . . . . . . 223

«Ласкава зірнула» . . . . . . . . . . . . . . . . . . . 247
«Лёгкай рукою на шыбах узоры мароз вытыкае» . . . . . . . 43
Лёс («Ні над вазёрнай гладзяй ціхай») . . . . . . . . . . . 186
Лёс паэта («Эх, ну й жыцьцё») . . . . . . . . . . . . . . 213
Лідзкае замчышча («З часоў славутых даўнае пары») . . . . 9
Ліпавы цьвет («Мяккі дзень студзенскі») . . . . . . . . . . 44
Ліст («На сьнежных землях поўначы») . . . . . . . . . . . 185
Ліст да крытыка («Мой крытык каханы!») . . . . . . . . . . 34
Лісты на ветры («Пустыя выгукі — лісты на ветры») . . . . . 228
«Лісты пішу табе» . . . . . . . . . . . . . . . . . . . 239
«Любіла красы паўніню» . . . . . . . . . . . . . . . . . 240
Ля Войстрай Брамы («І прашчуры сьхілялі тут галовы») . . . 76
«Лясы. Узгоркі. Паплавы» . . . . . . . . . . . . . . . . 119

«Мае найлепшыя дары — вянкі» . . . . 144
Майму каханьню («Шкада, і Вам не зразумець») . . . . 254
Максіму Багдановічу («Нечакана парвецца жыцьцё») . . . . 18
Мала («Спытаюцца ў цябе трыбуны масаў») . . . . 187
Маладэчна («Я заўсёды знаёмых сустрэчных») . . . . 26
Маленства («Пад бельлю дрэвы маўчаць») . . . . 106
Малітва («Божа Вялікі, паслухай маленьне») . . . . 227
Малітва («Як боль свой выказаць») . . . . 80
«Малітвы небу на паперы» . . . . 94
«Малым дзічком ты быў у маладосьці» . . . . 206
Маме («Мама, мама, мая дарагая») . . . . 259
Мастак («За працай мастака я засьпяю») . . . . 17
«Маўчы, мой верш!» . . . . 198
«Маці. Зь ёю — дзіця.» . . . . 45
«Маці сына чакае з вайны» . . . . 217
Мая Беларусь («І лясы, і лугі») . . . . 225
Мая сталіца («З халоднай поўначы прыймі») . . . . 77
«Мінаю заміны. Нічога» . . . . 95
«Мінаюць дваццаць першыя угодкі» . . . . 49
«Мінаюць дні. Прайшла вясна» . . . . 140
«Мінулы дзень, далёкі час!» . . . . 72
«Мне адно прыйшло жаданьне» . . . . 19
«Мне і ў цемру не забыцца» . . . . 134
Мне помніцца студзенскі вечар . . . . 39
«Мне сяньня роўна, роўна дваццаць тры» . . . . 124
«Мне твая спадабалася ўсьмешка» . . . . 253
«Мой бел-чырвона-белы сьцяг» . . . . 222
«Мой крытык каханы» . . . . 34
«Мой сьціплы ложак» . . . . 239
«Мой сябра, час настаў» . . . . 255
Мора («Улетку хлапчуком бываў і часта ў полі») . . . . 15
«Мораку шэрань разьліў вечар ля хаты маёй» . . . . 44
Муза («Мораку шэрань разліў вечар») . . . . 44
Мурашкі («Знарок, ці не, але чыясь нага») . . . . 30
«Мяккі дзень студзенскі сыпле» . . . . 44
«Мяне не ўспамінаеш — сяньня я далёкі» . . . . 133

«На беспрасьветным нашым бездарожжы» . . . . 176
«На высьпе пустэльнай згасае шчасьце» . . . . 240
«На ейнае зьяўленьне — яскравую зарніцу» . . . . 126
На магіле («Ці у ваднэй чужой бываў мясьціне») . . . . 29
На сенажаці («Не ўставай так рана») . . . . 211
«На сьнежных землях поўначы халоднай» . . . . 185
На хуткіх крыльлях вольнага Пэгаса. («Мінаюць 21-ыя угодкі») 49

